4/2006



# ПОЛЫМЯ

**«Быць упэўненымі ў заўтрашнім дні»**
Інтэрв'ю з старшынёю Камчарнобыля
**Уладзімірам Цалко**

**Уладзімір Гніламёдаў**
**Вяртанне. Сямейная хроніка**

**Уладзімір Марук**
**Рагнед Малахоўскі**
**Уладзімір Шпадарук**
**Сяргей Рабчун**
Вершы

**Іван Шамякін**
**З Дзённікаў**

**Серафім Андраюк**
**Эпічнасць, народжаная трагічным вопытам жыцця**

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

* * *

Кут мой забыты, безабаронна
Зорыш пагаслых крыніц вачыма.
Некаму ты —
Ачужэлая зона,
Сэрцу майму ты да скону —
Радзіма!

Сэрца пачула грознае ліха.
Ззяе крывёю спуднае ранне.
Спяць у магілах прадзеды ціха.
Горыч атруты...
Холад выгнання...

Долю зямную гнеўна караю, —
Век мой абраў тут сейбішча болю!
Тут, на абсягах роднага краю,
Кінуўшы смуту шчодраму полю.



# ПОЛЫМЯ

**4**

**(918)**

**2006**

**красавік**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ**
**І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ**
**ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2006**

# ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

# БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫМІ Ў ЗАЎТРАШНІМ ДНІ



**Чарнобыльскай атамнай катастрофе дваццаць год... Дваццаць апрамененых вёснаў, летаў, восеней і зім перажыла наша зямля. Уступіла ў звонкагалосае юнацтва паслячарнобыльскае пакаленне. І яго крокамі Чарнобыль перакінуў свой злавесны ядзерны мост з XX у XXI стагоддзе. Многім яшчэ пакаленням беларусаў прайсці па ім і жыць абачліва-асцярожна, каб разміnуцца з прамянёвай пагрозай нябачных радыенуклідаў.**

**Вось ужо два дзесяткі гадоў і наша краіна робіць усё магчымае, каб лакалізаваць, звесці да мінімуму наступствы атамнай катастрофы: з бюджэту штогод выдзяляюцца значныя сродкі на сучасную агратэхніку, на аздараўленне насельніцтва, пабудаваны і будуюцца новыя пасёлкі для перасяленцаў, нястомна вядуцца навуковыя распрацоўкі па мінімізацыі радыеактыўнага ўздзеяння. Сапраўдным штабам, дзе штодня віруе патрэбная і карысная для грамадства праца, з'яўляецца Камітэт па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. У гэтай установе не толькі адсочваецца постчарнобыльская сітуацыя, але і каардынуецца ўвесь рух гаспадарчых клопатаў, у тым ліку і клопатаў пра чалавечыя лёсы.**

**Сягоння для гутаркі аб тым, што ўжо зроблена і што яшчэ належыць зрабіць, каб чарнобыльская пагроза засталася з часам у гісторыі, рэдакцыя часопіса «Полымя» запрасіла старшыню Камчарнобыля Уладзіміра Рыгоравіча ЦАЛКО.**

— *Паважаны Уладзімір Рыгоравіч, у мінулым годзе завяршылася выкананне трэцяй Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на ЧАЭС. На яе рэалізацыю ў 2001—2005 гадах з рэспубліканскага бюджэту выдаткавана звыш 1 трыльёна 900 мільярдаў рублёў, у тым ліку ў 2005 годзе — каля 570 мільярдаў рублёў. Якімі рэальнымі справамі адзначаны яе галоўныя вынікі?*

— Для пераадолення негатыўных эканамічных, экалагічных, медыцынскіх і сацыяльна-псіхалагічных вынікаў чарнобыльскай аварыі па гэ-

тай праграме ў Беларусі зроблена нямала. Праблема перасялення жыхароў рэспублікі з найбольш забруджаных радыяцыяй населеных пунктаў у асноўным вырашана. Усяго перасела 137,7 тысячы чалавек. У пасёлках і кампактных месцах пражывання перасяленцаў пабудаваны школы і дзіцячыя ўстановы, бальніцы, паліклінікі, звыш 1,9 тысячы кватэр. Пракладзена 115 кіламетраў газаправода і газавых сетак. «Блакітнае паліва» прыйшло больш чым у 13,3 тысячы жылых дамоў.

З укараненнем новых тэхналогій удалося забяспечыць у грамадскім сектары вытворчасць нарматыўна чыстых прадуктаў харчавання. Паступленне радыенуклідаў у прадукцыю зніжана больш чым у 10—12 разоў. У параўнанні з 2000 годам у грамадскім сектары вытворчасць малака з перавышэннем дапушчальнага ўтрымання цэзію-137 знізілася ў 4 разы, а вяртанне жывёлы з мясакамбінатаў зменшылася ў 3,2 раза.

Зладжана дзейнічае сістэма сацыяльнай абароны ўсіх катэгорый пацярпелых, асабліва інвалідаў з прычыны чарнобыльскай катастрофы. Сёння гэта больш як 11 тысяч чалавек, з якіх 1320 — дзеці і падлеткі. Штогод праходзяць аздараўленне 311,2 тысячы чалавек, з якіх 258,5 тысячы дзяцей. Дзяржава аказвае значную сацыяльную падтрымку: бясплатнае харчаванне сёння атрымліваюць 203,3 тысячы навучэнцаў. Дыспансерызацыяй ахоплена ўсё пацярпелае насельніцтва — больш за 1,3 мільёна чалавек. У чарнобыльскіх раёнах вырашана кадравая праблема ў сферах медыцыны і адукацыі. Правядзенне рэгулярных медыцынскіх аглядаў, лячэння і аздараўлення дазволіла палепшыць паказчыкі здароўя жыхароў пацярпелых раёнаў. У сельскагаспадарчы абарот вернута 14,6 тысячы гектараў зямель, выведзеных раней.

Хацелася б больш падрабязна спыніцца на асноўных выніках рэалізацыі трэцяй дзяржаўнай праграмы.

Так, у сферы капітальнага будаўніцтва ў 2001—2005 гадах на фінансаванне аб'ектаў, узвядзенне якіх было запланавана за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, выдзеленых на рэалізацыю дзяржаўнай праграмы, было пералічана 260,5 мільярда рублёў, у тым ліку ў 2005 годзе — 69,99 мільярда. Уведзены ў эксплуатацыю ўсе запланаваныя аб'екты.

Сёння паспяхова выконваецца Праграма газіфікацыі індывідуальных жылых дамоў у забруджаных радыенуклідамі раёнах на 2005—2007 гады. Згодна з ёй за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту і інавацыйнага фонду Міністэрствам энергетыкі ў 2005 годзе газіфікавана 3166 жылых дамоў. Гэтай праграмай прадугледжваюцца будаўніцтва газавых сетак нізкага і сярэдняга ціску агульнай працягласцю больш за 300 кіламетраў і газіфікацыя каля 12 тысяч жылых дамоў.

Адным з асноўных напрамкаў чарнобыльскай дзяржаўнай праграмы (гэта адлюстравана і ў аб'ёмах фінансавання — больш як 30 працэнтаў ад мэтавых мерапрыемстваў) з'яўлялася правядзенне мерапрыемстваў па радыяцыйнай абароне насельніцтва. Сярод іх забеспячэнне функцыянавання сістэмы радыяцыйнага кантролю і маніторынгу, працяг работ па дэзактывацыі сацыяльна значных аб'ектаў і захаванні ў магільніку населеных пунктаў, людзі з якіх адселены, а таксама ажыццяўленне мерапрыемстваў па ўтрыманні зон адчужэння і адсялення, у тым ліку сістэмы захаванняў у магільніках радыеактыўных адходаў.

*— Важнейшай задачай з'яўляецца забеспячэнне вытворчасці нарматыўна чыстых харчовых прадуктаў, харчовай сыравіны і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі. Як гэта вырашаецца на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях?*

— Адпаведна з планамі фінансавання ў 2001—2005 гадах на правядзенне ахоўных мерапрыемстваў на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях у сельскагаспадарчую вытворчасць было накіравана 288,1 мільярда рублёў. Гэта дазволіла забяспечыць выкананне заданняў на ўзроўні папярэдніх гадоў. У выніку за мінулую пяцігодку ў забруджаныя радыяцыяй гаспадаркі пастаўлена 520 тысяч тон дзеючага рэчыва фосфарных і калійных удабрэнняў, пры гэтым у 2005 годзе ў поўным аб'ёме забяспечана пастаўка не толькі асноўных, але і дадатковых доз. Вапнаванне кіслых глеб праведзена на плошчы 228 тысяч гектараў. У адпаведнасці з планамі ажыццёўлена пастаўка гербіцыдаў для апрацоўкі пасеваў буракоў на 19,6 тысячы гектараў, у тым ліку ў 2005 годзе — на плошчы 4,1 тысячы гектараў. Можна сказаць, што заданні па гэтым важнейшым напрамку выкананы на ўсе 100 працэнтаў.

Акрамя таго, на плошчы 37,8 тысячы гектараў створаны культурныя кармавыя ўгоддзі для жывёлы (100 працэнтаў планавых заданняў). Гэтая ахоўная мера разам з работамі па доглядзе за пашамі і дастаўкай у «праблемныя» населеныя пункты камбікорму з цэзійзвязваючым сарбентам дазволіла істотна знізіць колькасць населеных пунктаў (з 325 у 2001 да 121 у 2005 годзе), у якіх на працягу года была зафіксавана проба з утрыманнем радыенуклідаў звыш дапушчальнага ўзроўню 100 Бк/л.

У 2002 годзе пачата выкананне праграм пераспецыялізацыі гаспадарак Гомельскай і Магілёўскай абласцей. У цяперашні час для іх рэалізацыі выдзелена 34,3 мільярда рублёў. У 19 гаспадарак, якія працуюць па праграмах пераспецыялізацыі, пастаўлена 17 збожжаўборачных камбайнаў, 23 трактары, значная колькасць іншай тэхнікі і абсталявання. Туды ж паступілі элітнае насенне збожжавых і бульбы, ветэрынарныя прэпараты, сродкі аховы раслін, звыш паўтары тысячы галоў пародзістай мясной і малочнай жывёлы. Вынікі працы гэтых гаспадарак неаднаразова абмяркоўваліся на пасяджэннях калегіі камітэта, дакладваліся кіраўніцтву краіны і былі высока ацэнены. Цяпер мы атрымалі дазвол працягваць дзейнасць у гэтым напрамку ў 2006—2007 гадах, а вопыт эфектыўнага вырашэння задач рэабілітацыі забруджаных тэрыторый праз пераспецыялізацыю гаспадарак і вытворчых комплексаў, якія знаходзяцца там, пакладзены ў аснову адпаведнага раздзела Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 2006—2010 гады.

Шмат зроблена для рэалізацыі праекта МАГАТЭ «Рэабілітацыя тэрыторый, забруджаных у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Дзеля гэтага забяспечана стварэнне на Хойніцкім сыраробным камбінаце цэха па вытворчасці высакаякаснай мукі ў мэтах стымулявання павышэння эфектыўнасці ахоўных мер і мінімізацыі вытворчасці збожжа, непрыдатнага для харчовых мэт з прычыны павышанага ўтрымання стронцыю-90. Каб атрымаць максімальную эканамічную аддачу ад такога збожжа, у населеным пункце Стралічава Хойніцкага раёна ў межах праграмы пераспецыялізацыі ажыццяўляецца рэканструкцыя спіртзавода, якая будзе завершана ў 2006 годзе. У Магілёўскай вобласці таксама распрацавана і рэалізавана сістэма мер, заснаваных на рэструктурызацыі пасяўных плошчаў і павышэнні тэхналагічнай дысцыпліны. Сёння ўжо бачны яе добрыя вынікі. Значная заслуга ў гэтым Магілёўскага філіяла Інстытута радыялогіі і адпаведнага ўпраўлення аблвыканкама.

Такім чынам, праведзеныя ахоўныя мерапрыемствы дазволілі падтрымліваць у грамадскім сектары дасягнуты ўзровень вытворчасці нарматыўна чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі.

*— Для мінімізацыі ўтрымання радыенуклідаў у прадукцыі сельскім гаспадаркам даводзіцца вырашаць шмат неадкладных праблем.*

— Адносна найбольш адчувальнай пазіцыі — атрымання чыстага малака ў прыватным сектары — павінна няўхільна выконвацца патрабаванне, каб работы, выкананыя не ў адпаведнасці з Палажэннем аб стварэнні паш, без прагнозных ацэнак утрымання радыенуклідаў у травастоі, не аплачваліся. У Гомельскай вобласці неабходна рэалізаваць праграму стварэння культурных кармавых угоддзяў для жывёлы ў «крытычных» па стронцыю-90 населеных пунктах. Для гэтага, пры неабходнасці, патрэбна выдзеліць лепшыя ворныя ўгоддзі.

Ва ўсе населеныя пункты, дзе на ўласных падвор'ях яшчэ атрымліваюць малако з перавышэннем дапушчальных узроўняў утрымання радыенуклідаў, у 2005 годзе пастаўлена 1,4 тысячы тон камбікорму з цэзійзвязваючай дабаўкай. Для забеспячэння вытворчасці нарматыўна чыстага малака ў асабістых гаспадарках створаны культурныя кармавыя ўгоддзі на плошчы 5,3 тысячы гектараў для жывёлы насельніцтва на суму амаль 3 мільярды рублёў, а таксама ажыццёўлена падкормка азотнымі ўдабрэннямі ўжо дзеючых культурных паш на плошчы 13,3 тысячы гектараў.

Павінна павысіцца адказнасць за правядзенне непасрэдна ў гаспадарках прыжыццёвай дазіметрыі жывёлы. Тым больш што ветэрынарныя лабараторыі забяспечаны адпаведнымі сучаснымі прыборамі. Асаблівай увагі патрабуе рэалізацыя праграм пераспецыялізацыі, якія знаходзяцца на кантролі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

У комплексе работ па радыяцыйнай абароне пацярпелага насельніцтва адным з важнейшых з'яўляецца правядзенне радыяцыйнага кантролю сыравіны і прадукцыі, а таксама радыеэкалагічнага маніторынгу прыроднага асяроддзя. Гэтыя віды работы выконваюцца падраздзяленнямі радыяцыйнага кантролю адпаведных міністэрстваў.

Працягваецца пастаўка радыеметрычных прыбораў для замены тых, якія выходзяць са строю ў сувязі з доўгім тэрмінам эксплуатацыі. Завершана аснашчэнне камбінатаў хлебапрадуктаў гама-бэта-спектрометрамі для кантролю ўтрымання стронцыю-90 у збожжы. У адпаведнасці з рашэннем 3-й Рэспубліканскай нарады па праблемах атрымання нарматыўна чыстага малака ў прыватным сектары ў Брэсцкім, Гомельскім і Магілёўскім абласных цэнтрах гігіены і эпідэміялогіі створаны рэзервовыя фонды радыеметрычных прыбораў.

У межах праекта тэхнічнага супрацоўніцтва з МАГАТЭ ў рэспубліканскае спецыялізаванае унітарнае прадпрыемства «Палессе» і Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік завезены тэхнічныя сродкі і ўстаноўка «СІЧ». На базе Гомельскай абласной ветэрынарнай лабараторыі пачала функцыянаваць служба дыягностыкі захворванняў жывёлы. Ствараецца сучасная лабараторыя радыяцыйных вымярэнняў у запаведніку, якая павінна адпавядаць усім патрабаванням для вывучэння паводзін радыенуклідаў (цэзію, стронцыю, плутонію, амерыцыю) у навакольным асяроддзі.

У той жа час неабходна паскорыць зацвярджэнне новай рэдакцыі Палажэння аб кантролі радыеактыўнага забруджання. Для вырашэння праблемы радыехімічнага вызначэння ўтрымання стронцыю патрэбна ажыццявіць пастаўку ўстановак малога фону (УМФ-2000) у сістэму Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

*— Карта нашай Беларусі сягоння ўжо не звыклы зялёны лісток. Рудымі плямінамі пазначаны сляды радыеактыўных выкідаў. Ці ўдакладняюцца карты радыеактыўнага забруджання тэрыторыі Беларусі?*

— Перыядычна друкаваліся карты радыяцыйнага становішча тэрыторый Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Падрыхтавана і апублікавана абноўленая рэдакцыя Зборніка метадычных, нарматыўных і арганізацыйна-метадычных дакументаў у галіне радыяцыйнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. У цяперашні час распрацоўваецца новая рэдакцыя гэтага зборніка. Падрыхтаваны і прыняты дзве пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, якімі зацвярджаецца Пералік населеных пунктаў і аб'ектаў, што знаходзяцца ў зонах радыеактыўнага забруджання.

*— Забруджаныя радыяцыяй тэрыторыі, зоны адчужэння і адсялення — гэтыя словы падаўна ўвайшлі ў наш лексічны ўжытак. Што сёння адбываецца там?*

— З 2001 па 2005 год прадпрыемствамі «Палессе» і «Радон» выканаы значны аб'ём спецыяльных работ па дэзактывацыі, утылізацыі і захаванні ў магільнікі радыеактыўных адходаў. Так, на адселеных тэрыторыях і ў рэабілітаваных населеных пунктах захавана ў магільнікі 2223 падвор'і і 152 вытворчыя пабудовы. Выканана дэзактывацыя тэрыторый 119 сацыяльна значных аб'ектаў, 36 аб'ектаў народнай гаспадаркі агульнай плошчай 250,7 тысячы квадратных метраў. Ачышчаны 173 вентыляцыйныя ўстаноўкі прамысловых прадпрыемстваў Гомельскай вобласці плошчай 38,2 тысячы квадратных метраў.

У цяперашні час ажыццяўляюцца ахова адселеных тэрыторый, недапушчэнне незаконнага знаходжання на іх грамадзян, прадухіленне несанкцыянаванага выкарыстання зямель, прафілактычныя мерапрыемствы па зніжэнні пажарнай небяспекі, упарадкаванне могілак, рамонт помнікаў.

Трэба адзначыць, што тэрыторыі зон адчужэння і адсялення яшчэ доўгі час будуць прыцягальнымі для розных парушальнікаў. У гэтым пераконвае аналіз парушэнняў, выяўленых пры правядзенні сумесных рэйдаў спецыялістаў адміністрацыі зон адчужэння і адсялення і работнікаў міністэрстваў, Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, Дзяржаўнай інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету, органаў унутраных спраў. У апошнія пяць гадоў праведзена 3558 сумесных рэйдаў, падчас якіх толькі ў 2005 годзе было затрымана 815 парушальнікаў. За гэты час зафіксавана 216 выпадкаў пажараў, у выніку якіх загінула 6 чалавек і знішчана больш за 2,3 тысячы гектараў лесу, каля 6,6 тысячы гектараў сухой расліннасці.

Да гэтай пары не ўдаецца выкараніць незаконнае выкарыстанне гаспадаркамі адчужаных зямель. Толькі за мінулыя пяць гадоў выяўлена 56 такіх выпадкаў. Выстаўлены штрафныя санкцыі, але парушэнні з году ў год паўтараюцца.

У 2005 годзе спецыялістамі адміністрацыі зон адчужэння і адсялення сумесна з супрацоўнікамі органаў унутраных спраў за несанкцыянаванае пранікненне, браканьерства, вываз маёмасці і іншыя проціpraўныя дзеянні складзена 2140 пратаколаў, у тым ліку за браканьерства — 124. Сума штрафаў за ўсе віды правапарушэнняў за пяць гадоў дасягнула 17,8 мільёна рублёў.

*— Які ўклад у справу рэабілітацыі зроблены беларускай навукай?*

— У выніку навуковых даследаванняў праблем рэабілітацыі забруджаных радыенуклідамі тэрыторый у 2001—2005 гадах у гаспадарчую практыку ўкаранёны прыёмы вядзення лугапашавай гаспадаркі і апрацоўкі сельскагаспадарчых культур на забруджаных тэрыторыях. Распрацаваны рэкамендацыі па нармаванні радыенуклідаў у рацыёнах сельскагаспадарчай жывёлы, тэхналогіі адкорму на канчатковым этапе буйной рагатай жывёлы для атрымання прадукцыі ў адпаведнасці з устаноўленымі нарматы-

вамі ўтрымання радыенуклідаў і методыка прыжыццёвай дазіметрыі буйной рагатай жывёлы.

Акрамя таго, распрацаваны, зацверджаны і шырока выкарыстоўваюцца ў практычнай дзейнасці Рэкамендацыі па вядзенні аграпрамысловай вытворчасці ва ўмовах радыеактыўнага забруджання зямель Рэспублікі Беларусь, Канцэпцыя рэабілітацыі насельніцтва і тэрыторый, пацярпелых у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, і іншыя важныя дакументы.

На аснове абагульнення пэўных звестак і вопыту вучонымі створаны новыя падыходы да вядзення земляробства і жывёлагадоўлі ў гаспадарках, найбольш забруджаных радыенуклідамі. Так, у групе «крытычных» гаспадарак аптымізацыя размяшчэння па палях і ўчастках збожжавых культур дазволіла знізіць аб'ёмы вытворчасці харчовага збожжа з перавышэннем дапушчальных узроўняў утрымання радыенуклідаў стронцыю ў прадуктах харчавання (РДУ-99) у 10 разоў. Сёння распрацоўваюцца метадычныя ўказанні аб мэтазгоднасці ўводу зямель запасу ў сельскагаспадарчае выкарыстанне.

*— Што робіцца нашымі вучонымі, каб чалавек пачуваў сябе больш бяспечна?*

— На створанай рэпернай сетцы вядуцца штогадовыя комплексныя маніторынгавыя даследаванні радыяцыйна-экалагічнага стану глеб, водных сістэм, паветранага асяроддзя, расліннага і жывёльнага свету. Праведзена рэканструкцыя пасляаварыйнай карціны забруджання. Вызначаны асноўныя заканамернасці размеркавання, назапашання і міграцыі радыенуклідаў цэзію, стронцыю, трансуранавых элементаў у экасістэмах. Распрацаваны і ўкаранёны сістэмы лесакарыстання ў зонах радыеактыўнага забруджання, якія забяспечылі вытворчасць нарматыўна чыстай драўніны і вырабаў з яе для ўнутранага і знешняга рынку.

Рэалізуецца план асваення навукова-тэхнічнай прадукцыі, створанай у межах праграм «Радыеэкалогія» і «Радыяцыйная бяспека». Выраблены прыборы пастаўляюцца на экспарт, выкарыстоўваюцца як імпартазамяшчальная прадукцыя. Выпушчана каля шасці з паловай тысяч прыбораў 30 назваў, агульным коштам больш шасці з паловай мільёна долараў ЗША, што ўжо акупіла выдаткі на правядзенне навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ.

*— Адным з важных клопатаў з'яўляецца ахова здароўя насельніцтва. За два дзесяцігоддзі склаліся значныя напрацоўкі ў гэтым кірунку. Што робіцца менавіта сягоння?*

— Створана Канцэпцыя арганізацыі медыцынскага забеспячэння насельніцтва. Асновай праекта з'яўляецца абмежаванне катэгорый, якія знаходзяцца пад медыцынскім наглядам па дозавым прынцыпе, з выдзяленнем груп павышанай радыяцыйнай рызыкі ў мэтах аптымізацыі правядзення дыспансерызацыі, павышэння яе эфектыўнасці, зніжэння выдаткаў. Падрыхтаваны уніфікаваныя пратаколы аказання медыцынскай дапамогі даросламу насельніцтву і дзецям, а таксама асобам, апрамененым радыенуклідамі ёду ў перыяд развіцця ў мацярынскім улонні, пратакол псіхалагічнай рэабілітацыі ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў катастрофы з захворваннямі сардэчна-сасудзістай сістэмы.

Новыя метады лячэння хворых на рак шчытападобнай залозы дазволілі скараціць частату рэцыдываў да 3,2 працэнта. Прымяненне радыеёдатэрапіі да хворых з аддаленымі метастазамі рака шчытападобнай залозы прыводзіць у 55,5 працэнта выпадкаў да рэмісіі і зніжае лятальнасць да 0,9 працэнта. Для ўсіх пацярпелых рэгіёнаў рэспублікі разлічаны дозы на шчытападобную залозу і дозы, назапашаныя за пасляаварыйны перыяд.

— *У прэсе рэгулярна адзначаецца, што ў маштабах чалавецтва чарнобыльскі боль прытупляецца, траціцца ў розгаласе іншых катастроф. Аднак мы ведаем і тое, што наша нацыянальная бяда не выпадае з поля зроку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый...*

— У апошні час міжнароднае чарнобыльскае супрацоўніцтва атрымала новы імпульс. Гэта адбылося ў 2002 годзе, калі місіяй ААН быў падрыхтаваны даклад «Гуманітарныя наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС: стратэгія рэабілітацыі». Упершыню былі дадзены рэкамендацыі аб змяненні прыярытэтаў міжнароднага чарнобыльскага супрацоўніцтва, пераходзе ад аказання надзвычайнай гуманітарнай дапамогі да доўгачасовага працэсу садзейнічання комплекснай рэабілітацыі ўмоў пражывання ў пацярпелых раёнах.

Прадастаўленне Сусветным банкам пазыкі на пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы адкрывае новы этап супрацоўніцтва ў гэтай галіне, пераход ад бязвыплатнай дапамогі да праектаў крэдытавання. Чарнобыльская праблематыка ўключана ў праграмы супрацоўніцтва з асноўнымі міжнароднымі арганізацыямі сістэмы ААН.

Арганізавана ўзаемадзеянне з урадавымі і няўрадавымі арганізацыямі Швейцарыі, Італіі, Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі, Ірландыі. Увесь гэты час аказвае нам дапамогу і Японія. У выніку ў рэспубліку за 2001—2005 гады паступіла гуманітарнай і міжнароднай тэхнічнай дапамогі на суму больш як 400 мільёнаў долараў ЗША. Акрамя таго, штогод выязджаюць на аздараўленне ў 26 замежных краін да 50 тысяч дзяцей, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы.

У межах двухбаковага супрацоўніцтва ажыццяўляецца рэалізацыя пагадненняў паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Кітайскай Народнай Рэспублікі аб прадастаўленні бязвыплатнай дапамогі агульным памерам каля 6 мільёнаў долараў ЗША. Камчарнобылем за апошнія пяць гадоў рэалізавана міжнародных праектаў і праграм больш як на 21 мільён долараў ЗША.

Важным інструментам для стварэння ўмоў, спрыяльных для развіцця міжнароднага супрацоўніцтва, з'яўляюцца чарнобыльскія рэзалюцыі, якія прымаюцца Генеральнай Асамблеяй ААН. Прызнаннем актуальнасці пастаўленых праблем стала сааўтарства 69 дзяржаў пры распрацоўцы рэзалюцыі па Чарнобылю, прынятай 14 лістапада 2005 года на пленарным пасяджэнні 60-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

У гэтым дакуменце ўдалося замацаваць падтрымку Генеральнай Асамблеяй ААН ініцыятыў трох найбольш пацярпелых краін па правядзенні ў 2006 годзе міжнародных мерапрыемстваў, прысвечаных дваццатай гадавіне чарнобыльскай катастрофы.

Новым элементам пастанаўляльнай часткі рэзалюцыі з'яўляецца адабрэнне намаганняў Беларусі па рэалізацыі міжнароднай праграмы «Супрацоўніцтва для рэабілітацыі» (CORE).

У рэзалюцыі падтрымліваецца рашэнне Савета Кіраўнікоў Дзяржаў СНД аб'явіць 26 красавіка Міжнародным днём памяці ахвяр радыяцыйных аварый і катастроф у дзяржавах — удзельніцах Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

2006 год — год дваццатай гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, год пачатку рэалізацыі чарговай пяцігадовай Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы. Гэтым абумоўліваецца ўзрастанне ўвагі міжнароднага супольніцтва да чарнобыльскай праблематыкі. Задачы Кам-

чарнобыля — забяспечыць сусветную грамадскасць аб'ектыўнай інфармацыяй пра наступствы катастрофы і праблемы, якія патрабуюць вырашэння; прапанаваць напрамкі ўзаемадзеяння, якія адпавядаюць як мэтам беларускай дзяржавы ў галіне пераадолення вынікаў катастрофы, так і інтарэсам патэнцыяльных арганізацый і краін-донараў. У дасягненні гэтага не малая роля адводзіцца і Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 20-й гадавіне катастрофы, якая пройдзе ў Беларусі 19—21 красавіка 2006 года.

*— Чарнобыльская катастрофа кранулася жахотным крылом лёсу трох братніх народаў — беларускага, украінскага і рускага. Беларусь і Расія аб'ядналіся ў Саюзную дзяржаву. Як паспрыяла гэта агульным намаганням па ліквідацыі чарнобыльскіх наступстваў?*

— У мінулым годзе паспяхова завяршылася выкананне Праграмы сумеснай дзейнасці па пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў межах Саюзнай дзяржавы на 2002—2005 гады. З Саюзнага бюджэту было выдаткавана і асвоена 509,6 мільёна расійскіх рублёў. У межах гэтай праграмы пабудаваны і абсталяваны завод медыцынскіх прэпаратаў у г. Скідалі, дзе на аснове высокаачышчаных амінакіслот арганізавана вытворчасць гатовых лекавых форм магутнасцю 200 мільёнаў таблетак і 50 мільёнаў капсул у год. Унесены значны ўклад у будаўніцтва і аснашчэнне самым сучасным медыцынскім абсталяваннем спецыялізаванага радыялагічнага дыспансера ў г. Гомелі — Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра радыяцыйнай медыцыны і экалогіі чалавека.

Для папярэджання ёдадэфіцытных захворванняў у грамадзян, якія жывуць на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях, распрацаваны і ўкаранёны тэхналогіі вытворчасці харчовай прадукцыі, абагачанай ёдам. Вучонымі дзвюх краін сумесна распрацаваны шэраг тэхналогій, нарматыўных дакументаў, камп'ютэрных баз даных, накіраваных на пераадоленне вынікаў катастрофы. Уведзены ў дзеянне Беларуска-расійскі інфармацыйны цэнтр. Створаны адзіны беларуска-расійскі банк даных па асноўных аспектах чарнобыльскай катастрофы.

Саюзная праграма, як і папярэдняя, была накіравана на фарміраванне і рэалізацыю адзінай палітыкі дзвюх дзяржаў па вырашэнні чарнобыльскіх праблем. У ходзе яе выканання вырашаліся задачы, якія дапаўнялі нацыянальныя праграмы і патрабавалі аб'яднання намаганняў дзвюх дзяржаў. Мы спадзяёмся, што ў бліжэйшы час пытанне пра новую сумесную праграму вырашыцца станоўча. Праект такой праграмы ўзгоднены ў Рэспубліцы Беларусь і разглядаецца Урадам Расійскай Федэрацыі.

*— Пастаянным клопатам з'яўляецца адукацыя насельніцтва па пытаннях радыялагічнай бяспекі.*

— Камчарнобыль сумесна з зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання і арганізацыямі праводзіць значную работу па арганізацыі сістэмы інфармавання і асветы насельніцтва, выданні і распаўсюджанні інфармацыйных матэрыялаў па чарнобыльскай тэматыцы, актыўным выкарыстанні электронных і перыядычных сродкаў масавай інфармацыі.

Удасканаленню інфармацыйнай работы ў многім садзейнічае Канцэпцыя інфармавання, распрацаваная з удзелам міністэрстваў і ведамстваў, аблвыканкамаў, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. На яе аснове ўдалося вырашыць праблему паэтапнага збору і аналізу галіновай інфармацыі з вызначэннем функцый кожнага ўдзельніка ў агульным працэсе інфармавання. У выніку работа Камчарнобыля са сродкамі масавай інфармацыі набыла сістэмны характар.

У адпаведнасці з планам мерапрыемстваў па ажыццяўленні інфармацыйнай работы з насельніцтвам у пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы раёнах Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей створана 21 пастаянна дзеючая экспазіцыя «Пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы». На раённым узроўні прыярытэтнай з'яўляецца непасрэдная работа з насельніцтвам: правядзенне інфармацыйных мерапрыемстваў (лекцый, гутарак і інш.), публікацыя ў абласных і раённых сродках масавай інфармацыі тэматычных матэрыялаў па праблемах чарнобыльскай катастрофы.

— *Чарнобыльскі боль асабліва гучна выяўляецца ў зваротах нашых людзей да органаў улады. Ці ўсё належнае робіцца на месцах або, як бывае ў нас часта, перакладаецца на плечы вышэйстаячых структур?*

— Сапраўды, многія звароты ініцыяваны непрадуманымі ўчынкамі мясцовых улад. Так, у 2004 годзе 59 зваротаў паступіла ў сувязі з неабгрунтаванымі дзеяннямі некаторых камунальных службаў на месцах у адносінах да асоб, якія карыстаюцца льготамі, прадугледжанымі пунктам 15 артыкула 18 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Значная колькасць зваротаў паступіла ад удзельнікаў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі ў сувязі з устанаўленнем новых правіл набыцця білетаў на чыгуначны транспарт прыгарадных зносін.

Асаблівае месца адводзіцца ўдасканаленню работы са зваротамі грамадзян, рэалізацыі Дэкрэта Кіраўніка дзяржавы ад 14 студзеня 2005 года № 2 «Аб удасканаленні работы з насельніцтвам» і іншых заканадаўчых актаў.

Такія падыходы тлумачацца сацыяльнай накіраванасцю практычна ўсёй дзейнасці Камчарнобыля, у чый адрас за 2001—2005 гады паступіла 3280 зваротаў грамадзян, у тым ліку на асабістым прыёме ў кіраўніцтва пабыло 438 чалавек.

Усе гэтыя гады праводзілася работа, накіраваная на павышэнне прафесійнай падрыхтоўкі спецыялістаў рэгіянальных органаў дзяржаўнага кіравання, якія займаюцца пытаннямі сацыяльнай абароны грамадзян. Толькі ў 2005 годзе навучальныя мерапрыемствы праведзены ў Чэрыкаўскім, Краснапольскім, Калінкавіцкім, Касцюковіцкім і Гомельскім раёнах. Падрыхтаваны і выдадзены зборнік «Пытанні сацыяльнай абароны грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Аднак факт прыросту колькасці зваротаў гаворыць пра неабходнасць актывізацыі работы аддзелаў прававой, сацыяльнай і медыцынскай абароны з мясцовымі органамі ўлады.

Тэма ажыццяўлення работы са зваротамі грамадзян павінна стаць, вобразна кажучы, «дзяжурнай» пры правядзенні штогадовых інфармацыйна-метадычных семінараў з запрашэннем намеснікаў старшынь абласных і раённых Саветаў дэпутатаў, кіраўнікоў рэгіянальнай ідэалагічнай вертыкалі, рэдактараў абласных і раённых газет. Гэты напрамак работы з насельніцтвам неабходна ўдасканальваць. Давядзецца прыкласці немалыя намаганні, каб арганізаваць дзейнасць міжведамаснай камісіі па прынцыпе «аднаго акна».

— *У мэтах выканання даручэння Урада аб замацаванні сельскагаспадарчых прадпрыемстваў за міністэрствамі і ведамствамі Камчарнобыль праводзіць і немалую шэфскую работу. Якія яе вынікі?*

— За апошнія паўтара года шэфскай работы ўкладзена 2,4 мільярда рублёў у развіццё сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Чырвоны баец» Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці. Гэта дазволіла гаспадарцы дасягнуць сур'ёзнага прагрэсу ў нарошчванні вытворчага патэнцыялу, дасягненні адпаведнага ўзроўню рэнтабельнасці жывёлагадоўлі.

Фактычна рэанімаваная гаспадарка сёння валодае ўзноўленым комплексам на пяць тысяч галоў свіней, неабходнымі ўмовамі для самазабеспячэння кармамі. Калі ў пачатку 2004 года ў кааператыве працавала нямногім больш за восемдзесят чалавек, то сёння колькасць працуючых звыш двухсот чалавек.

Немалы ўдзел у добраўпарадкаванні пасёлка Завайць прынялі спецыялізаванае прадпрыемства «Палессе» і Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Сёння там завяршаюцца работы па стварэнні аграгарадка. І хоць не ўсё задуманае з-за дэфіцыту сродкаў удалося ажыццявіць, агульны вынік зробленага ўсяляе ўпэўненасць, што ў хуткай будучыні СВК «Чырвоны баец» пад кіраўніцтвам Аляксандра Францавіча Адаменкі ні ў чыёй дапамозе патрэбы мець не будзе.

На нашых вачах паспяхова рэалізуюцца галіновыя праграмы навядзення парадку на зямлі, павышэння эфектыўнасці выкарыстання асноўных фондаў, аховы працы і іншыя. На іх выкананне ў сістэме Камчарнобыля было выдаткавана больш за 2,7 мільярда рублёў, з якіх 28 працэнтаў склалі ўласныя сродкі прадпрыемстваў.

Што датычыцца працы падначаленых камітэту арганізацый, то ўсе яны ў асноўным працуюць рытмічна. Разам з тым пакуль не апраўдвае нашых чаканняў самая маладая з іх — навукова-вытворчае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Белінвесткамплект», створанае ў 2003 годзе для распрацоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі на ўзвядзенне будынкаў і збудаванняў на пацярпелых тэрыторыях, ажыццяўлення тэхнічнага нагляду ў будаўніцтве, нарыхтоўкі і перапрацоўкі драўніны. Працэс станаўлення прадпрыемства завершаны. У канцы 2005 года яго фінансавае становішча заўважна палепшылася, што дае нам права чакаць ад «Белінвесткамплекта» станоўчых вынікаў.

Больш эфектыўнай і дынамічнай павінна стаць дзейнасць Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Нядаўна прызначаны дырэктар запаведніка Кудан Пётр Міхайлавіч, спадзяёмся, здолее мабілізаваць калектыў на плённую работу, дасягненне значных вынікаў працы.

*— Рэгулярным стала наведванне пацярпелых раёнаў Кіраўніком дзяржавы Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам у красавіцкія дні. Інспектуецца зробленае, даюцца новыя даручэнні...*

— Па ўжо ўсталяванай традыцыі штогод у красавіку Прэзідэнт наведвае забруджаныя рэгіёны. Ён сустракаецца з людзьмі, цікавіцца іх патрэбамі і клопатамі. Па выніках такіх паездак складаюцца пратакольныя даручэнні, у ходзе выканання якіх прымаюцца канкрэтныя меры або рашэнні па паляпшэнні сітуацыі.

У прыватнасці, Камчарнобылем на падставе даручэнняў Прэзідэнта за апошнія пяць гадоў набыты 42 аўтобусы на суму звыш паўтара мільярда рублёў для падвозу ў школы дзяцей у раёнах Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей. У раёнах радыеактыўнага забруджання ў 2004—2005 гадах пабудавана 217 кватэр для замацавання кадраў урачоў, настаўнікаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Набыта 390 адзінак сельскагаспадарчай тэхнікі на суму 2 мільярды 949 мільёнаў рублёў для гаспадарак, размешчаных у зоне наступнага адсялення.

У адпаведнасці з даручэннямі Кіраўніка дзяржавы ў 2001—2005 гадах поўнасцю рэфармавана «чарнобыльская» навука. У Гомелі сканцэнтраваны ўсе галаўныя арганізацыі па навуковым забеспячэнні мерапрыемстваў па пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Узбуйнена тэматыка

навуковых работ. Істотна зменены механізмы арганізацыі даследаванняў з акцэнтам на павышэнне іх эфектыўнасці і практычную аддачу.

Прадмет асаблівага клопату Кіраўніка краіны — здароўе дзяцей і падлеткаў, якія жывуць у пацярпелых раёнах. Поўнасцю забяспечана ўвядзенне аб'ектаў, будаўніцтва якіх было запланавана ў адпаведнасці з прэзідэнцкай праграмай «Дзеці Беларусі» (падпраграма «Дзеці Чарнобыля»). У яе межах усе пастаўленыя задачы рэалізаваны.

Працягваецца будаўніцтва Буда-Кашалёўскай цэнтральнай раённай бальніцы, аб якой мясцовыя жыхары прасілі Аляксандра Рыгоравіча. Такім чынам, ні адна з праблем, якія хвалююць людзей, што жывуць на забруджаных тэрыторыях, не засталася без увагі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Вялікую ўвагу Кіраўнік дзяржавы ўдзяляе рэалізацыі чарнобыльскага заканадаўства, вырашэнню праблем прававой, сацыяльнай і медыцынскай аховы пацярпелых людзей і своечасоваму выкананню ў поўным аб'ёме Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Па даручэнні Прэзідэнта распрацавана цэласная канцэпцыя пераадолення наступстваў катастрофы, якой прадугледжваецца канцэнтрацыя фінансаў, што выдзяляюцца на гэтыя мэты, на прыярытэтных напрамках.

— *Чацвёртая дзяржаўная праграма адобрана. Якія новыя задачы пастаўлены перад Камчарнобылем?*

— Прыярытэтамі чарговай, чацвёртай Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, разлічанай на 2006—2010 гады, з'яўляюцца аднаўленне здароўя і паляпшэнне якасці жыцця пацярпелага насельніцтва, рэабілітацыя тэрыторый. Для выканання гэтых мэт дзяржава выдзяляе ў прагнозных цэнах 2006 года 3 трыльёны 174 мільярды рублёў — з рэспубліканскага і 160,8 мільярда рублёў — з мясцовых бюджэтаў.

Сёння, праз дваццаць гадоў пасля чарнобыльскай аварыі, можна сцвярджаць, што жыццё ў забруджаных раёнах стабільна паляпшаецца. Тым не менш да гэтага часу на 20 працэнтах тэрыторыі Беларусі, якая забруджана радыенуклідамі, жыве больш як 1,3 мільёна чалавек. Каля 1,1 мільёна гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў патрабуюць пастаяннай увагі для вытворчасці нарматыўна чыстых прадуктаў харчавання.

Застаецца нявырашанай праблема атрымання чыстай прадукцыі ў прыватным сектары. Маштабы радыеактыўнага забруджання значныя, і меры па абароне насельніцтва і тэрыторый павінны насіць доўгачасовы і комплексны характар. Вырашэнне гэтых задач патрабуе дзяржаўнага планавага і сістэмнага падыходу, што і адлюстравалася ў прыняцці новай Дзяржаўнай праграмы на 2006—2010 гады, у аснову якой пакладзены вопыт па рэалізацыі папярэдняй чарнобыльскай праграмы.

Новай праграмай прадугледжваецца экалагічная і сацыяльна эканамічная рэабілітацыя забруджаных радыенуклідамі тэрыторый. Зыходзячы з гэтага, у ёй закладзены комплекс першачарговых мер, накіраваных на ўдасканаленне заканадаўчай і нарматыўнай прававой базы па мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы, у тым ліку ў мэтах стварэння льготных эканамічных умоў развіцця пацярпелых тэрыторый і замацавання спецыялістаў жыццёва важных галін.

Ставіцца задача эфектыўнага выкарыстання сродкаў, выдзеленых на капітальнае будаўніцтва, з накіраваннем іх у першую чаргу на добраўпарадкаванне забруджаных радыяцыяй тэрыторый, будаўніцтва жылля і да-

лейшую пераспецыялізацыю сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Патрэбна газіфікаваць усе населеныя пункты і індывідуальныя жылыя дамы ў зоне забруджання цэзіем-137 звыш 5 кюры на квадратны кіламетр і там, дзе доза апрамянення больш 1 мілізіверта ў год (гэта больш як 8,5 тысячы жылых дамоў), для чаго неабходна ўвесці ў дзеянне 463 кіламетры газаразмеркавальных сетак.

Запланавана забеспячэнне пацярпелага насельніцтва якаснай пітной вадой пры дапамозе будаўніцтва крыніц водаспажывання, развіцця 150 кіламетраў водаправодных сетак. Ну і, вядома, — добраўпарадкаванне забруджаных радыенуклідамі тэрыторый, дзе неабходна пабудаваць дашкольныя ўстановы, бальніцы, школы, а таксама іншыя сацыяльна-культурныя аб'екты. Будзе завершана рэканструкцыя і пашырэнне дзіцячых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў, што дазволіць праводзіць поўны комплекс лячэбна-дыягнастычных, вучэбна-выхаваўчых і сацыяльна-псіхалагічных мер.

Дзяржава бярэ на сябе абавязацельства гарантаваць атрыманне нарматыўна чыстай прадукцыі на забруджаных радыенуклідамі землях як у грамадскім, так і ў прыватным сектарах вытворчасці. Дасягненне гэтага плануецца праз рэалізацыю мэтавых мерапрыемстваў праграмы. Новыя ўмовы яе выканання звязаны са змяненнем падыходаў да фарміравання і фінансавання розных мерапрыемстваў. Гэта патрабуе ўзмацнення ролі Камчарнобыля як каардынуючага органа. Патрэбна будзе забяспечваць больш цеснае ўзаемадзеянне з галіновымі і тэрытарыяльнымі органамі дзяржаўнага кіравання.

У якасці асноўнай, першачарговай задачы па арганізацыі рэалізацыі мерапрыемстваў дзяржаўнай праграмы павінна стаць правядзенне поўнага кантролю за эфектыўным, абгрунтаваным выдзяленнем сродкаў і іх мэтавым расходаваннем. Недапушчальна зніжэнне кантролю за выкананнем устаноўленых тэрмінаў увядзення ў эксплуатацыю сацыяльна значных аб'ектаў і заданняў па змяншэнні іх кошту.

Наперадзе шмат працы. Толькі з рэалізацыяй усяго комплексу праграмных заданняў мы зможам забяспечыць надзейную сацыяльную і медыцынскую абарону насельніцтва, ажыццявіць мерапрыемствы па аздараўленні пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы людзей, адрадзіць забруджаныя радыенуклідамі землі. У гэтым заключаецца самая галоўная сутнасць нашай стратэгіі. Дзяржава нясе адказнасць за лёсы тысяч і тысяч людзей, у тым ліку дзяцей, будучыня якіх у многім залежыць ад мер, прынятых адпаведнымі органамі дзяржаўнага кіравання і рэалізаваных на месцах. Людзі, якія тут жывуць, павінны быць упэўненымі ў заўтрашнім дні. І наша задача, абавязак, калі хочаце, зрабіць усё магчымае для гэтага.

***Інтэрв'ю і пераклад з рускай М. Міхайлава.***





**Уладзімір МАРУК**

# «У ЧАС ХАРАСТВА І ПЯШЧОТЫ»

* * *

Аціх і ляжу ў мурагу
І ўсе непрасветлыя крыўды
Забыць назаўсёды змагу,
Каб сам хоць настолькі пажыў бы.

Ды вось выпаўзае з травы
Слімак,
        пра якога забыўся,
І думаю:
        «Добра, жывы,
А нехта яшчэ не ўрадзіўся».

* * *

Мне падабаецца твой
        здзеклівы пранонс,
Які звініць усё сухое лета,
Як самы-самы выспелы авёс,
Як нешта з непрыветных пракаветаў.

І слухаю,
        і ведаю,
                што я
Магу заўсёды сніць
        і голас гэты,
Хоць ты яшчэ не самая свая,
Як толькі што спатоленае лета.

---

***Марук Уладзімір Антонавіч*** *нарадзіўся 6 студзеня 1954 года ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1972) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1980). Працаваў у газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у выдавецтвах «Юнацтва», «Белфакс», «Мастацкая літаратура». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».*

*Аўтар кніг паэзіі «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне», «Інкрустацыя голасам» і інш.*

* * *

На ўскрайку літасці не тухнуць ліхтары,
Хоць ты вазьмі —
ды ўпотай патушы...
І думаеш —
які ты ўсё ж стары,
Калі ўжо ёсць сумнівіна ў душы,

Што немагчыма стаць пад ліхтаром
І з ім сустрэць паўночнае святло...
Ды самы першы нечаканы гром
Патушыць ліхтары,
нібы назло.

* * *

Як хочаце ведаць,
што я літасцівы,
Дык болей блазнуйце,
а потым блюзнерце...
Я выйду пад бацькавы смачныя слівы —
І ўсё, што вы можаце,
здолею сцерці

З лісточка малога,
дзе змесціцца гэта —
Кранальнае, кплівае, недарагое —
З лісточка,
што, можа,
не ўспомніць паэта,
Але не забудзе,
як зведаў ізгоя.

* * *

У спратах,
дзе хаваюцца вятры,
У сховах,
дзе марнуюцца завеі,
Былі і блазнюкі,
і святары,
Ды кожны пахаваў свае спадзевы,

Бо як ты ні блазнуй
і ні прароч,
Якія ні ўяўляй на свеце дзеі, —
Не хочаш, —
пойдзеш з родных воч
Туды,
дзе ўсе вятры і ўсе завеі.

* * *

Гулялі і волаты ў цацкі,
Даўно ўжо,
да нашага часу.
У песнях і ў дзеда,
і ў бацькі
Я ўчуў гэтых цацак акрасу.

Ды нельга да іх дакрануцца,
Які ты ні ўвішны ды хвацкі...
Пара ўжо і сёння прачнуцца...
Ні волатаў...
І ні бацькі...

* * *

Зноў гайдаюцца дрэвы ад ветру
і страху,
І крумкач сваё сола
на дрэве пракрумкаў, —
Што не можа ніхто
і за брата — на плаху,
Хоць яна й не на яве,
а толькі ў прыдумках.

Крумкача б ды на плаху...
А як гэта — птаха,
Ды пад гэтакім ветрам,
што пер'е развее...
Застаецца ў прымроях крывавая
плаха,
Што скараць анікога да смерці
не ўмее.

* * *

Гэта рана ці позна —
хто знае,
Калі ты на мяне не глядзіш?..
Пад нагамі чагосьці шукае
Нелюбімая шэрая мыш.

Ну,
пабегай са мною,
дзівота,
Я сягоння лагодны,
бы ў сне,
Мне не жыць,
а нажыцца ахвота,
Покуль гэта жыццё не міне.

* * *

Занядаўнія словы ёсць
У самлелым сэрцы і ў роце,
Ды на іх нарастае злосць,
Што здабытая
ў потным поце.

А падумаеш,
Божа мой,
Ну, сябе нацкуеш на словы, —
Будзеш ім
ні чужы,
ні свой,
А на новыя —
не гатовы.

* * *

Асірацелыя грыбы
І сёння просяцца пад ногі,
І неяк лёгка ад нудзьбы,
Нібыта выспаўся з дарогі.

Ну хоць адзін яшчэ грыбок
Мне пападзіся ў пералеску, —
І зразумею,
што́ я змог,
Ды аніколі не ўваскрэсну.

* * *

У затоцы вада цяплее,
Як і ўвесь гэты ясны дзень,
Адплывае мая лілея
Ўсё далей і далей —
у цень.

Абыду ўсю наўкол затоку
Між бярозак малых і ялін,
Ды ўсё роўна — не з ёй,
а збоку,
Дзе не я вось такі адзін.

* * *

На могілках вецер аднекуль,
Адкуль —
не магу зразумець, —
Ці з тога,
мінулага,
веку,
Ці з тога,
што трэба прыймець?

Адкуль ён у гэтым мястэчку,
Дзе ўсе бы зазвычай жылі?..
Зайду ў недаспелую грэчку
З падумкай —
нашто і калі?..

* * *

Вызвярацца можна і коткай,
І апрыклаю кавялой,
Плыць у памяці побач з лодкай
І з саломінкай самай малой.

Вызвярацца можна і морам,
Што цячэ па тваёй душы,
А яшчэ —
невылечным горам,
Што і морам
не патушыць.

* * *

Лясныя пахі ў паднябессі.
І з хмарак падае трава.
Хоць ты вазьмі ды не ўваскрэсні,
Каб не балела галава

Ад гэтых воблакаў травяных,
Што ў ногі падаюць з высі, —
А потым
іх жывыя раны
Усё жыццё
насі,
насі...

* * *

Узляцець хацеў бы,
як сноп,
У бацькоўскім старым гумне,
Каб не чуць,
як дапахне кроп
Пры гумне,
пры самай сцяне.

Ходзяць побач са мной снапы,
Кроп вярэдзіць ля іх душу...
Каб і быў,
не дай Бог,
сляпы,
Я пабыць іх пры мне папрашу.

* * *

Пахне ў бэзе чамусьці язмінам,
І таму не магу зразумець,
Між якіх пастаяў я галінак,
На якую паквапіўся квець,

Дзе забыўся,
як пахнуць наўкола
Дрэвы спеўныя і трава...
Там адзіная птушка сола
Праспявала чамусьці як два.

* * *

За маленькаю люлькаю
ложак стаіць,
У якім я штодня засынаю,
Каб не мог ад былога
нічога ўтаіць,
І таго,
пра каго і не знаю.

Ну а люлька
заўжды
на сярдзітых вачах,
Як прачнуся,
смяецца-рагоча,
І яе прыцягальныя радасць і жах
Уцякаць з майго сэрца не хочуць.

* * *

Ліся, ліся,
чужая сляза
З майго трохі слязлівага вока, —
Я ж заўсёды
камусьці казаў,
Што чыёсьці жыццё недалёка.

І збылося —
чужога зашмат,
А свайго —
хоць ізноў нарадзіся...
Ды сваё,
чым чужое,
наўзгад
Свеціць болей
з завоблачных высяў.

* * *

Ну і вішні,
даспелыя вішні!..
І сяджу я на хісткім версе,
Хоць не самы, мабыць, увішны,
Ды, бабуля з дзедам,
паверце:

Я хацеў як вышэй залезці,
Каб ніхто не агледзеў лішні, —
Што я самых смачных на свеце
Паспытаць захацеў
вашых вішняў.

* * *

Папіць вады,
і выпіць чарку,
І перайсці ўпагляд раку,
Каб не адчуць з вясёлым сварку,
А сум павесці за раку,

Каб гэта ўсё ў дзіравай лодцы
Са мной не доўга,
а плыло
Насустрач самай смелай плотцы,
Дзе прытамілася вясло.

* * *

Дуднула дудка,
а ў дудзе
Нячутныя пачуў я крокі,
Што нехта зведаны ідзе
Не абыякі — адзінокі.

Нясе красу, сякеру, спеў —
Я не магу да іх кранацца...
І добры ж чалавек паспеў,
Каб я надумаў з ім спаткацца.

* * *

У мудрай вадзе я нідзе не купаўся,
У сумнай вадзе я купаўся заўсёды,
Але ні адной ні другой не цураўся,
Як самай апошняй жыццёвай выроды.

І ў кожнай вадзе, у якую б
ні лазіў,
Вярталася мудрасць,
ды сум заставаўся.
І гэтым не іх,
а сябе я абразіў,
Што з іх ціхаплыннасці
спрэчнай
набраўся.

* * *

У полі яшчэ не вечар,
Але — неспадобны дзень.
Яшчэ казыруюць вецер
І чыйсьці імклівы цень,

Прыбраны, як вечар зможа,
Як дзень перад ім прыбраў,
Каб стаў перад ласкай Божай,
Пакуль аніхто не ўкраў.

* * *

Уцякаюць з-за лесу ўзлескі,
Як з-пад лёсу ўцякае лес.
Вытанчоныя неба фрэскі
Адцяняе ранішні бэз.

І выходзіць жанчына з бэзу
І спяшае да крэўных бяроз,
На якія ніяк не ўзлезу,
Бо малы я, да іх не дарос.

* * *

Тры вінаградзіны ў талерцы,
І перад імі — ты адзін,
Як пры найгоршай паняверцы
Найлюбшы сын.

Глядзіш на іх, як бы не верыш,
Глядзіш,
глядзіш,
глядзіш,
глядзіш...
І раптам —
грукаюцца ў дзверы,
Каго не бачыў і не сніш.

* * *

Цень мой гэтак чамусьці змок,
Як вунь тое сухое дрэва.
Разумею — усё незнарок:
Нахапілася раптам залева.

І пайшлі па маіх слядах
І не крыўда, не злосць, не помста,
А звычайны юначы страх,
Дзе ўсё звыкла і вельмі проста.

* * *

Увойдзеш у бор, а ў бары
Забудзеш на сціплыя мроі, —
Навокал адны мысляры —
Ужо пракаветныя хвоі.

І ўсё, што прымроіў ці знаў
Да самай апошняй няўдачы,
Мой бор, як і я, ўспамінаў
Сваім непрыхованым плачам.

* * *

Над самаю верхняю
вежай
Сівыя аблокі плылі,
А нехта ўсё сцежыў ды сцежыў,
Каб людзі пад вежай жылі.

* * *

Калі мы выходзілі з чоўна
На самыя раннія росы,
Свяціла святлейшая поўня
На самыя светлыя косы.

І поўня паглядвала з
чоўна
Маленькаю кропляй гаркоты...
А зорак было незлічона —
У час хараства і пяшчоты.





**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ВЯРТАННЕ

***(Сямейная хроніка ў духу барока)***

## Частка першая[1]

### VIII

Вясну 1923 года чакалі з асаблівай нецярплівасцю. Яна, быццам ведаючы пра гэта, і сама спяшалася, каб падтрымаць людзей і абудзіць у іх надзею. Ужо ў лютым, на Стрэчанне, у паветры стаяў свежы пах расталага снегу, а ў пачатку сакавіка ўстанавілася мяккая адліга, ачысцілася ад хмараў неба. Марац укусіць за палец — гаварылі тут, але ўжо ў сакавіку набрынялі сокам бярозы, зацвіла сасна, адорваючы наваколле смалістым пахам, і людзі забыліся пра мароз.

Цяжкай аказалася першая зіма пасля вяртання з Расіі. Людзі бедавалі, а найбольш — хто вярнуўся з бежанства. Умовы жыцця былі жахлівыя. Паліць не было чым. Галадалі. У хлеб дамешвалі пілавінне, дробныя трэскі, альховую кару, мох. Вядома, горкім, як палын, атрымлівалася печыва, але, што зробіш, даводзілася есці. Елі жмыхі, вотруб'е. Кожны шукаў нейкае выйсце. Хто мог — дзічыну лавілі, рыбу, але пажывіцца ўдавалася рэдка.

Фёкла спакваля асвойвалася на новым месцы. Паставіла на стол швейную машынку — Zinger, якую прывезла з Расіі. Маладзіца ўмела шыць, і людзі пацягнуліся да новай швачкі. Лявон добра ведаў моцны характар жонкі, яна не здавалася ліхім абставінам. Кужалям пашанцавала, што была карова, невядома, ці дажылі б без яе да вясны. Даіла звычайна Фёкла. Вільготнай белай шматай старанна выцірала вымя і бралася за цыцку. Малочны струмень гулка ўдараў аб дно даёнкі і ліўся па яе сценках. Ланька — жывёліна спакойная. Гаспадыня ўвесь час гаворыць ёй нешта, і Ланька, мяркуючы па ўсім, разумее яе. Давала яна літры дватры ў дзень, пакуль не запусцілася, а дзесьці пасля Калядаў нарадзілася цялятка — бычок.

Вася сядзеў у хаце, бо не было ў што абуцца.

— Гэтую зіму сядзі дома, а на наступную дзеравяшкі справім, — паабяцаў Лявон.

Пра боты хлопчык і не марыў — хаця б дзеравяшкі!

---

[1] Працяг. Пачатак у № 3, 2006 г.

І вось нарэшце надышла вясна. Вястункі вясны — сініцы. Яны першыя заскакалі па галінках чаромхі, што расла праз дарогу ад Кужалёў. Заблішчэлі на сонцы, загаманілі вясёлыя ручаі. У пачатку красавіка па лясах, над залежамі апалага лісця, высыпалі пралескі — белыя і блакітныя, як неба. На дрэвах праклюнуліся рудаватыя пупышкі, а знізу зазелянела трава. Ляцелі з выраю птушкі. Зямля раскрывалася насустрач вясне. З прырэчных мясцін, сажалак і затопленых вадой балацявін даносілася квактанне прыгрэтых сонцам жаб, якія ажно стагналі, вітаючы перамены ў прыродзе.

Пачыналіся веснавыя клопаты, блізкія і зразумелыя. Хутчэй хочацца разуцца, памацаць цёплую зямельку, луг босымі нагамі.

— Тато, давайце шпакоўню змайструем! — прапанаваў пасынак, які таксама павесялеў, выбегшы з хаты на веснавы прастор.

Яны збілі з дошак невялічкую шпакоўню, прымацавалі яе да тонкай жэрдкі і паднялі над грушай, што стаяла за хлевушком у агародзе. У гасцінна прапанаваную кватэру, не марудзячы, пасяліліся гаманкія жыхары, ладзячы кожнай раніцы вясёлыя спевы і птушыную валтузню.

І яшчэ адну добрую справу зрабілі разам: у агародзе, за хатай, пасадзілі дзве дзікія грушкі, маючы на мэце праз год прышчапіць да іх добрыя садовыя атожылкі.

Насцярожана прабівалі зямлю расточкі збажыны, пасеянай восенню. Настаў час араць пад яравое поле. З насеннем абяцаў дапамагчы дзядзька Хведар. Тое-сёе з агароднага насення дала яго жонка Уляна. Пад агарод яшчэ дзяды адвялі добрую мясціну — за хатай, бліжэй да рэчкі. Ранняй вясной, перад тым, як араць, агародная зямля шчодра ўгнойвалася.

Потым Лявон араў, баранаваў, рабілі з Фёклай грады. Паміж градаў — глыбокія барозны, стоячы ў якіх зручней палоць, скідаць у іх пустазелле. Фёкла ўмела садзіць агарод і хацела мець рознае варыва: і боб, і гарох, і буракі, і моркву, і гарбузы, і капусту. Але да новага ўраджаю было яшчэ далёка, і трэба было мужна пераносіць цяжкасці і нястачу. У маі многія прускаўцы пераходзілі на баршчэўнік, лебяду, крапіву. У ліхую гадзіну чаго толькі не даводзілася спажываць...

У Кужалёў было малако, трохі бульбы і жыта, якое малолі ў жорнах і страшэнна эканомілі. Пяклі праснакі з рознымі дамешкамі.

— Каб пару парасят... — марыў Лявон.

— А чым мы будзем іх карміць? — трывожыліся Фёкла з Фядорай.

— Лета пракорміць! Зелля заўсёды можна назбіраць.

Зноў выручыў дзядзька Хведар — у яго якраз апарасілася свіння. З грашыма дзядзька абяцаў пачакаць.

Да хлява прыбудавалі невялічкі катух, у якім пачалі гадавацца парасяты.

* * *

Увесну ў ваколіцах Прускі з'явілася мноства жабракоў, нахлынулі яны неяк раптам, адразу, ды і ў нялёгкі час. Каго толькі не было сярод іх! І сляпыя, і крывыя, і бязногія, і бязрукія. Калекі і сіроты, абчэпленыя кашалямі і торбамі. Цэлымі днямі, з канца ў канец вёскі, хадзілі гэтыя гаротнікі, забруджаныя і змарнелыя, многія з хлопчыкамі-павадырамі. Пабіраліся. Чым горш выглядаў чалавек, які прасіў міласціну, тым, зразумела, большае спачуванне выклікаў да сябе. Некаторыя выдавалі сябе за пагарэльцаў. Напэўна, такімі яны і былі, бо заможны гаспадар жабраваць не пойдзе.

Аднойчы, шыючы на сваёй машынцы, Фёкла праз акно заўважыла сляпога з павадыром, што спыніліся каля веснічак. Сляпы круціў галавою, выварочваў невідучыя бельмы і цягнуў нейкую дужа жаласную песню. Доўгая белая барада развявалася на ветры.

— Пабіраюцца! — нахілілася да акна Фядора, якая сядзела побач з Фёклай, вучылася шыць.

— Падарэце калеку! — пачулася з-за акна. — Можа, хоць варыўца сырога.

Фядора вынесла кавалак хлеба.

— Помяни мя, Господи, егда приидеши во царствие свое... — падзякаваў сляпы, памацаўшы хлеб. — Эх, каб сала! — дадаў ён упалым голасам.

Фядора, аддаўшы хлеб, вярнулася ў хату.

— Ой, Фяклуша! — дзівілася яна. — Дала яму хлеба скібку, ён памацаў і кажа: «Каб сала!»

— Чаго захацеў. Сала. Дзе ж яго ўзяць? — уздыхнула Фёкла. — Хай ідуць з Богам.

У хату зайшоў Лявон з ахапкам дроў, асцярожна паклаў іх каля печы, каб не патрывожыць квактуху, што сядзела ў кошыку ў падпечку. Азірнуўся на маладзенькага катка, які ўладкаваўся пад лаўкай і ўсё цёр лапкай пыску — як бы запрашаючы кагосьці ў госці. І сапраўды неўзабаве ў весніцы зайшоў чалавечак няпэўнага ўзросту, кароткай, да каленяў, белай світцы і шапцы-бравэрцы. З-пад світкі віднеліся боты з да бляску наблiскучымi халявамі. Па абутку Лявон здалёк пазнаў Кузёмку. Толькі ён гэтак выглянцоўваў боты.

— Кузёмка! — пазнала і Фядора. — Боты яго! Ой, людкове!

— Заходзь, Кузёмка, госцем будзеш, — прывітаў падарожнага Лявон, калі той адчыніў дзверы і пераступіў парог.

Госць паважна зняў шапку, перахрысціўся, зірнуўшы ў кут, і ўзрадавана засмяяўся сваёй адначасова хітраватай і прыдуркаватай усмешкай, адкрыўшы шырокую шчыліну паміж пярэдніх зубоў.

— Аднака! — сказаў ён. — Добры дзень у хату!

— Добры дзень.

Лявон глянуў на шырокую лысіну, якая ўтварылася на Кузёмкавай галаве. Што ж, столькі часу прайшло...

— Пазнаёце?

— Дзіва што!

Госць зірнуў на Фёклу.

— О-о! У вас яшчэ адна прыгажуня!..

— Гэта жонка мая, Фёкла.

— Ажаніўся? — малайчына. А я ўсё адзін.

— Ходзіш усё?

— Хаджу.

— І не надаесць? — падзівілася Фядора.

— Вы ж ведаеце, — зноў усміхнуўся Кузёмка, — не магу я на адным месцы жыць, мне свет паглядзець трэба. Сумна на адным месцы, — ён пачухаў за вухам, — пажывеш — пра другое думаеш: а як там?

Лявон рады быў прыходу даўняга знаёмага, якога калісьці прывячаў, любіў слухаць дзед Кірыла.

— Сядай бліжэй да стала!

Госць так і зрабіў: не распранаючы світкі, падсеў да стала.

— Світку здымай!

— Не, я не надоўга.

— Ты б кіслага малака наліла, Фёкла! — сказаў Лявон і паглядзеў на Кузёмку: — На скаромнае выбачай.

— Цяпер пост! — азваўся той. — Можа б, супу якога? Люблю гарачае, каб у лыжцы кіпела.

На абед у Фёклы якраз быў суп са шчаўя — гарачы, не трэба было і падаграваць. Наліла госцю поўную міску, адрэзала лусту хлеба. Кузёмка — прагаладалы з дарогі — дзьмухаў на лыжку, еў і хваліў, распытваў пра бежанства.

— Доўга ж вы, аднака, там былі — болей як шэсць гадоў! Амаль сем!

— Дадому цягнула ўвесь час, — прызнаўся Лявон.

— А Кірыла дзе?

— У дарозе памёр, яшчэ як туды ехалі.

— Царства яму нябеснае — добры быў чалавек.

— І мамка наша там засталася пахаванай, і Тоня, — уздыхнула Фядора.

— І Тоня ?! Нацярпеліся! — паспачуваў Кузёмка. — Але добра, што вярнуліся. Што ні кажы — бацькаўшчына. Але ўлада ўжо іншая — палякі.

— Але, — пагадзіўся Лявон.

— Усё адбылося так, як Зекііль казаў, патлумачыў Кузёмка, успомніўшы Пісанне. Ён па-ранейшаму схільны быў гаварыць загадкамі і прыпавесцямі — так, што не адразу і зразумееш. Пра Пісанне, гэта значыць пра Біблію, згадваў часта і ахвотна. — Усё змянілася — і царствы, і людзі, і нtypeравы. І думаю я, на гэтым не скончыцца.

У яго заставалася ўсё тая дзіўная сумесь разважлівасці і містыкі, вымыслу і рэальнасці. Высербаўшы з міскі суп і даеўшы хлеб, ён распачаў новую тэму:

— Мы, беларусы, пасярэдзіне жывем — паміж усходам і захадам. То да аднаго прылягаем, то да другога. Лёс такі! Цяпер вось пад Польшчаю апынуліся. Нарутовіч, казалі, дужа шкадаваў і ўкраінцаў, і нас, беларусаў, дык забілі, беднага. Чулі?

— Чулі, — кіўнуў гаспадар.

— Робіцца абы-што! Вунь у Вайской войт забраў у старой бабы, удавы, спадніцу, у якой тая ў царкву хадзіла. Хіба гэта добра?

Усе ўздыхнулі.

— Улады цяпер не цырымоняцца, — тут Кузёмка зрабіў паўзу, — але з імі не цырымоняцца таксама. Даюць прыкурыць!

— Раней такога не было, — пагадзіўся Лявон.

— Таму вось і расце супраціў! — Кузёмка падняў галаву, далонню прыгладзіў рэдкія валасы каля вушэй і на патыліцы. — Людзі ёсць! Вунь на Палессі ваяводзе, кажуць, нагавіцы спусцілі ды папружкай, папружкай, як блазна. Пайшоў у Варшаву, сморкаючыся...

— Не можа таго быць! — не паверыў Лявон.

Кузёмка азірнуўся па баках, голас яго знізіўся да шэпту, а зрэнкі расшырыліся:

— А ў Львове, кажуць, хацелі забіць нават самога Пілсудскага![1]

— Няўжо?

— Я лгаць не буду...

Усе на нейкі момант змоўклі, здзіўленыя навіной.

— У нас тут свае падзеі, — сказаў Лявон.

[1] 25 лістапада 1921 года член Украінскай вайсковай арганізацыі Сцяпан Федак у Львове здзейсніў замах на маршала Ю. Пілсудскага.

— А што такое?

— У пастарунку нядаўна сядзеў.

— Эх, каб на цябе донэрвэтэр! — ад нечаканасці Кузёмка прыгадаў раптам нямецкую мову. — Аднака!..

— Мы ўсе за яго вельмі перажывалі! — азвалася Фядора. — Забралі — і ўсё!

— Ну і як? — Кузёмка павярнуўся да Лявона. — Цяжка было?

— Непрыемна.

— Начаваць я ў вас буду! — аб'явіў раптам госць з такім выглядам, як бы рабіў гаспадарам нешта вельмі прыемнае ці нават хацеў ашчасліваць.

Начлег яму адвялі ў хляве на вышках, дзе была яшчэ Пракопава салома і куды можна было падняцца па лесвіцы з двара.

— Убогі! — паспачувала Кузёмку Фёкла, калі той пайшоў спаць.

Лявон занёс яму на вышкі старую коўдру, якую прывезлі яшчэ з бежанства, і падарожны лёг.

— Не горш будзе, як Падгурскаму на пярыне! — пажартаваў гаспадар, жадаючы яму добрай ночы.

...На раніцу начлежнік расказваў, што ноччу прачнуўся ад чыіхсьці крокаў. Хтосьці хадзіў вакол хлява. Вочы Кузёмкі пасля сну крыху нагнаіліся, і ён працёр іх пальцамі.

— Можа, гэта табе толькі здалося? Прымроілася, можа?

— Ты, Лявоне, павінен завесці сабаку.

— Прызнацца, я і сам пра гэта думаў.

Пасядзеўшы крыху ў Кужалёў, госць сабраўся ў дарогу. Гаспадар, мусіць, дзеля ветлівасці, паспрабаваў яго ўтрымаць:

— Пабыў бы яшчэ трохі.

— Не, мне мусова ісці!

— Ты б, Кузёмка, кажухі шыць навучыўся! — параіў Лявон. — Добрая справа і заробак неблагі. У адным месцы пабудзеш, у другім...

— А што? Толькі нажніцы трэба добрыя, іголку ды нітак суравых!

— Перш чым новыя шыць, трэба старыя латаць навучыцца! — разважліва зазначыла Фёкла. У яе словах жарт.

Кузёмка не стаў ёй пярэчыць, развітаўся з усімі і выйшаў з хаты.

— Абочынны чалавек, — зноў сказала Фёкла, калі Кузёмка пайшоў. У Запалонным гэтак гаварылі пра дзівакоў, падобных да Кузёмкі.

Лявон быў з ёю не згодны: «Дарога ў кожнага свая, і чалавек павінен па ёй ісці. Кожны звязаны са сваім лёсам».

## IX

З вясны пайшоў Вася сталым пастушком — пасвіць Ланьку. Пасада досыць адказная.

— Давай, як казаў некалі дзед твой Ілья Аляксандравіч, упярод і з песнямі! — па-добраму пажартаваў з пасынка Лявон, успомніўшы Запалоннае і сумны лёс самога Ільі Аляксандравіча.

У Прусцы грамадскага пастуха наймалі толькі на авечак, а на кароў у кожнай сям'і быў свой.

Будзіла маці.

— Уставай, сынок, хопіць спаць! Ужо сонейка ўзышло, дзень пачынаецца, ды які цудоўны. Птушкі спяваюць — чуеш? А бусел ужо даўно клякоча на гняздзе! Пчолкі мёд збіраюць...

Вася не адразу, але ўставаў, пацягваўся, бег на двор. На пачатку ўсё, што яго акружала, здавалася яму чужым. Усё лета пастух недасыпаў і не ведаў пра выхадныя, але чалавек да ўсяго прывыкае, прывык і Вася да пастушковай долі. Зрэшты, не такой ужо і «беспрасветнай» яна была. Для пастуха і паблажкі існавалі: можна было і адпачыць, і на раку схадзіць пакупацца.

Вопратка яго складалася з саматканых штонікаў і кашулі. У руцэ — пуга. Ланька — карова спакойная, але часам і яна забрыдала ў веснавую рунь ці на сенажаць. Раней Вася ў такіх выпадках крычаў, зваў Фёклу: «Мамо! Мамо! Ланька ў шкоду пайшла!». Гамон, які таксама пасвіў кароў, смяяўся і казаў сваім гугнявым голасам: «Эй-э, Вася, Фёкла далёка — не пачуе. Ты на Ланьку крычы: «Куды ты! Вярніся, каб на цябе чэрці! Ды дагані і — кіем па спіне!».

Пастуху, аказваецца, таксама тое-сёе трэба ведаць. З раніцы зябка. Снуюцца дымкі над стрэхамі хат. Маці ўжо выгнала з хлява Ланьку. З тоўстых лапухоў і прыдарожнай травы скочваюцца буйныя кроплі халоднай расы. Халодная, але пякучая! Раса адмочыць і адбеліць хоць як закарэлыя ногі. Каровы спыняюцца каля платоў, каб на хаду ўрваць шматок-другі травы, пакуль падыдзе пастух, які цягнецца недзе ззаду. У кішэні маленькі акрайчык хлеба, які дала маці.

— Што, халадно? — смяецца Гамон.

Самому Гамону таксама халадно. Кажушок на ім — усё бачыў, пасечаны дажджом і снегам. Ногі босыя, як і ў Васі. Пяты ссохлыя і парэпаныя. Апошнім часам зноў прыклеілася да яго мянушка Май. Цяжка было з харчамі, і Гамон увесь час паўтараў: «Галоўнае — мая дачакацца». Таму і празвалі яго Маем. А ў Прусцы так: прылепяць якую-небудзь мянушку — як прышыюць. Навек. Яшчэ і дзецям застанецца. Гамон падрадзіўся пасвіць суседскіх кароў. Сваёй каровы ў яго не было, і, каб прыдбаць уласную, ён узяў у Міхаля Шведа цяля да трэцяга цяляці, гэта значыць пазычыў да таго часу, пакуль цяля не стане цёлкай, а потым каровай з трыма цялятамі. Дамовіліся, што, калі карова аціліцца трэці раз, то з апошнім цялём вяртаецца Міхалю, а ў Гамона застаюцца дзве цялушкі. Як бы і выгадна.

— Станавіся во на камень, ён трымае, браце, цяпло яшчэ ад учарашняга! — параіў Гамон свайму напарніку.

Вася стаў на камень — гэта быў даволі вялікі валун, — і сапраўды нагам стала цяплей. Прыгналі сваіх цялушак Мішка Галёнка і Васеў равеснік Сяргей Сталетнік — хударлявы хлапчук, вясёлы і ўзбуджана-непаседлівы, Сцяпана Каленіка сын. Хвядзюшка Шпунт прыгнаў Пахолкаву карову, бо сваёй не было. Хвядзюшка — нізкарослы, худы, бледны. Рос пры маці, бацька не вярнуўся з вайны. Харчаваўся бульбай ды капуснымі храпкамі.

Хлопцы выглядаюць, як грыбы: у кожнага на галаве шырокая кепка, мясцовага крою, ажно вушы закрывае. Мішку, які быў з бацькамі і братам Мікітам у Расіі, Гамон параіў:

— Ты пад шапку палку засунь, будзёнаўцам будзеш! Каб тапоршчылася!

Але ў Мішкі свая галава на плячах:

— Не, дзядзьку, калі паліцыянты дазнаюцца, у пастарунак забяруць.

Хадзіў за кароваю і яшчэ адзін пастушок — Хрысан Гальяш. Хрысан старэйшы за Васю на шэсць год, але пасуць кароў разам і ходзяць разам. Каб надта дружыць — то не, не дружаць. Гальяш меў мянушку Паздзей і быў

высокай думкі пра сябе. Па ягоным твары заўсёды блукае нейкая прытоеная ўсмешка.

Каровы пасвіліся ў гурце і таксама мелі свае мянушкі: Кветка, Красуля, Рабая, Пярэстая, Лыса, Ланька... Галёнка назваў сваю — Роза. Прыгожая кароўка — пярэстай масці, з кароткімі, вострымі рагамі. Яна шумна дыхала, пастаянна матляла галавой, азіралася па баках, чагосьці шукала. З вясны каровы дужаліся паміж сабой — слабейшыя саступалі мацнейшым, і тут усталёўвалася права моцнага. Праўда, па назіраннях пастухоў, у той хаце, дзе парадак і дастатак, — там і скаціна спакайнейшая. Але ў каго цяпер дастатак?

— Мішка, твая Роза ў шкоду пайшла! — падаў сігнал Сяргей Сталетнік.

— Бачыш, якая яна! Не хоча трымацца гурту! — паспачуваў Мішку другі пастух — брат Міхаля Тупчыка Фёдар.

Роза — надта збродлівая карова. Унадзілася ў жыта і бяжыць так, што не пераняць. Хоць гвалт крычы. І сапраўды, карова ўжо падыходзіла да загона, на якім красавала маладое жыта, шукала спажыву больш смачную і сакавіцейшую. Мішка з крыкам пабег яе пераймаць. Васева Ланька з зайздрасцю паглядзела ім услед, шумна ўздыхнула і неспакойна матлянула галавой.

— Ланька, куды лезеш? — насцярожыўся Вася, баючыся, што тая, як і Роза, зробіць патраву.

— Васыль, тваёй цёлцы трэба ярмо, — сказаў Фёдар, — палюе яна ў цябе.

— Да быка хоча, — растлумачыў Гамон. — Скажы айчыму, каб адвёў, а то спакою не дасць.

Сонца паднімалася ўсё вышэй. Пачынала прыпякаць.

— Хлопцы, адпусціце мяне дадому, — папрасіўся Гамон, пачухаўшы за вухам. — Мне мусова да Матроны трэба, а то злавацца будзе...

— Ну што, хлопцы, адпусцім чалавека? — усміхнуўся Фёдар. — Яму да Матроны трэба.

— Адпусцім! — згадзіўся Хрысан, астатнія маўчалі.

— Ідзі! — махнуў рукой Фёдар.

— Не жонка, а Герад, — скардзіўся Гамон. Герадам прускаўцы называлі біблейскага цара Ірада, які славіўся сваёй жорсткасцю і ўладным характарам.

— Ну што, дзядзьку, паснедаем? — прапанаваў Сяргей Сталетнік і дастаў з кайстры бутэльку з малаком, заткнутую драўляным коркам.

Пастухі селі ў круг, але елі звычайна кожны сваё, не дзяліліся, стараліся не паказваць, хто што есць. Фёдар, як патрыярх, у цэнтры, хрумсціць сваім сухаром. Яму ўжо недзе пад дзевяноста, а ўсе зубы цэлыя і белыя — як часнок. На галаве — шапка-аблавушка, адна і тая ж і зімой, і летам. Каля носа праступаюць маршчыны. Вочы — глыбока запалыя, але ўсмешлівыя.

— Васыль, я твайго айчыма некалі ад ваўка выратаваў, — успомніў Фёдар. Гісторыя гэта была вельмі даўняя, але Фёдару запомнілася, бо і ён, і Лявон, як-ніяк, рызыкавалі. Вася ўважліва слухаў.

— А што, воўк бы яго з'еў? — дапытваўся Хрысан.

— Не з'еў, але з'еў бы, каб не я.

Усе добра ведалі, што воўка трэба асцерагацца.

Падсілкаваўшыся, Фёдар зрабіў з жытняй сцяблінкі дудку-піскаўку, як тут казалі, — і зайграў. Пастушкі заслухаліся. Умеў стары музыка іграць. Свісцеў, дудзеў, Васю здалося, нібы плакаў, набіраў у лёгкія паветра і зноў свісцеў. Піскаўка — ніякі не інструмент — у яго руках вытварала цуд. Як,

здавалася, і хапала на такое чалавека! Пастушкі следам за ім таксама рабілі з жытняга сцябла піскаўкі і дудзелі на розныя лады.

Калі цень ад сонца скараціўся да двух крокаў, жывёлку пагналі дадому, на абед. Гаспадары ў гэты час даілі кароў. Па абедзе выганялі ізноў, у другі раз. Пасля таго як Лявон звадзіў Ланьку да Маркавага быка (бык у Марка Замагільнага славіўся на ўсю акругу), яна стала паводзіць сябе спакайней. У спёку не было паратунку ад аваднёў. Гезы (так тут называлі аваднёў) з'явіліся ў сярэдзіне чэрвеня, калі пачало красаваць жыта. Фёдар, які шмат ведаў з свайго пастухоўскага вопыту, растлумачыў іх паходжанне наступным чынам:

— Бог сабраў гэты гнюс — камароў розных, гезаў, мух, сляпнёў, гадаў ды ўсё іншае — у гаршчок і даў чалавеку, каб у рацэ ўтапіў. Той — панёс і, відаць, бы такі і ўтапіў, каб не сустрэў чорта. Чорт аказаўся вельмі цікаўны. «А што ты нясеш?» — пытаецца. «Гаршчок». «А развяжы ды дай паглядзець, што тамака такое». Чалавек развязаў, а адтуль!.. Папаўзла і паляцела ўсялякая поскудзь. Хоць Бог абярнуў таго чалавека ў бусла ды загадаў яму збіраць гадаў ды жаб, але ён ужо не мог даць рады, бо гнюс і ўсялякая поскудзь разышліся па ўсім свеце. З тае пары чорт і камандуе гэтаю поскуддзю дый пасылае яе на людзей і на жывёл. Вось і даводзіцца аганяцца.

Падобныя тлумачэнні не ва ўсім пераконвалі, але былі цікавымі.

Пастухоўства — гэта свайго роду школа жыцця. Пастух мае магчымасць наглядаць за тым, што дзеецца ў прыродзе: за птушкамі, звярамі, усялякай раслiннасцю. Столькі ягад у кустах, асабліва маліны — ужо даспелай, густа-чырвонай, амаль фіялетавай! Яна і смачная, і спажыўная. У кусты хадзілі па чарзе, набіралі поўныя шапкі ягад. Вася не адставаў ад калегаў, трымаўся разам.

— Давай на ножыкі паб'емся! Паглядзім, чый лепшы... — прапанаваў сябрам Мішка Галёнка.

— У каго сталь цвярдзейшая... — заўсміхаўся Фёдар.

Вася не меў ножыка і толькі назіраў, як гулялі Мішка з Хрысанам: адзін падстаўляў лязо, другі біў па ім сваім ножыкам. Праіграў Хрысан: яго складны ножык — цыганчык — атрымаў аж тры шчарбіны. Хрысан за гэта мусіў тры разы запыняць Галёнкаву Розу, калі тая кіравалася куды-небудзь у шкоду.

— Давайце ў пастарунак згуляем! — прапанаваў самалюбівы Паздзей, які хацеў хоць у чым-небудзь выйграць.

— Давайце! — падхапілі астатнія.

— А пшадоўнікам хто будзе? — запытаў малады Апанас Шпунт, які надта любіў гэтую гульню.

У Прусцы, як і ўсюды, дзеці любілі пераймаць асобныя моманты з жыцця дарослых, і тое, што прускаўскія мужчыны пабывалі ў паліцэйскім пастарунку, не засталося па-за ўвагаю. Пшадоўнікам вызваўся быць сам Паздзей. Ён паставіў сябрукоў у рад і пад канвоем правёў іх вакол дзядзькі Фёдара, які з цікавасцю назіраў за іх гульнёй. Потым пачаўся допыт:

— Якія песні спяваеце? Бальшавіцкія? Кацапскія? — размахваў кулакамі Хрысан. Сяргей Сталетнік паціскаў плячыма. Арцём Каленік пасмейваўся.

— Бальшавікі! — крычаў на іх Хрысан, робячы націск на прадапошнім складзе, як бы ён сам быў паліцыянтам.

Вядома, гэта была ўсяго толькі гульня. А яшчэ гулялі ў «пікара», у «свінку», у «чыжыка»...

Вася меншы за ўсіх і яму больш за ўсіх даставалася. У адносінах і жартах падлеткаў часам прысутнічала і жорсткасць. Для такога ўзросту гэта не дзіўна. Аднойчы Вася заснуў, і хлопцы яму, соннаму, вымазалі твар сажай. Потым прыгадвалі гэты выпадак і смяяліся. А другім разам, калі яны купаліся ў Лосьне, ён выйшаў з вады апошнім і, паспешліва апранаючы сарочку, убачыў, што рукаў завязаны моцным вузлом. Давялося развязваць зубамі. Чакаючы на беразе, хлопцы не проста завязалі яму рукаў, але і памачылі вузел у вадзе. Даводзілася цярпець. Дробныя непрыемнасці і жарты — з кім яны ні здараюцца!

А ўвогуле было вельмі цікава. Кожны падлетак хацеў быць у пастухоўскім гурце, але не кожны гаспадар меў карову. Яшчэ адзін Васін равеснік, Ляксандар Гальяш, казаў сябру:

— Вось нашы купяць карову, тады разам будзем пасвіць!

Вася згодна ківаў галавой.

Пад вечар статак вяртаўся дадому. І за сталом Вася ўжо не лічыўся лішнім, адчуваў, што есць хлеб, здабыты ўласнаю працай. Фёкла радавалася: сынава ўсмешка стала больш шырокай і адкрытай, ды і сам ён зрабіўся весялейшы. Аднак не да ўсяго ён змог прывыкнуць у гэтай далёкай старане, як называла Пруску маці.

— Сынок, чаго ты такі кіслы сёння? — спытала аднойчы Фёкла, калі ён прыгнаў у Ланьку.

— Мамо, чаму гэта яны называюць мяне як старога — Васыль і Васыль? Ты ж мне кажаш: ВАСЯ.

— Тут, сынок, так прынята. Звычка такая. Нічога дрэннага ў гэтым няма.

Вася сумна ўздыхаў, не надта, мусіць, задаволены матчынымі тлумачэннямі.

Маці паставіла на стол вячэру, усміхнулася.

— Ты не зважай. ВАСЯ — гэта па-нашаму, — дадала яна, абняла сына і прытуліла да грудзей. Па яе шчацэ пакацілася драбнюткая слязінка.

Адзін за другім цягнуліся дні. Лета ўваходзіла ў свой зеніт. Выпадалі частыя дажджы, але шкоды ад іх не было: пасля дажджу свяціла сонца і буяла зеляніна. Жыта ўжо адкрасавала і цяпер налівала колас. І ў полі хораша, і ў лесе, і на ўзлессі. Вецер гулліва шапацеў бярозавым лісцем, як бы пра нешта дамаўляўся. Безліч кветак: браткі, лясныя васількі, канюшына, крываўнік, шчаўе...

Добры, непаўторны час!

Неяк пастушкі гулялі ў каменьчыкі. Пяць каменьчыкаў трэба сабраць у кулаку, падкінуць уверх і злавіць тыльным бокам далоні, потым зноў падкінуць і злавіць у жменю. Затым раскінуць па разасланай на зямлі адзежыне і зноў сабраць у кулак. Гульня, што і казаць, патрабуе пэўнага спрыту.

— А мне бацька гармонік купіць! — пахваліўся Мішка Галёнкаў.

— Так ужо і купіць! — не паверыў Вася. — А дзе ён грошы возьме?

— Возьме! А вось твой не купіць!

— Чаму? — упалым голасам запытаў Вася. Відаць было, што ён пакрыўдзіўся.

— Бо ён айчым, — здзекліва ўсміхнуўся Хрысан.

І Мішкавы, і Хрысанавы словы балюча адгукнуліся ў хлапечай душы, Вася змоўк, нічога не адказаўшы сябрам.

Па сенажаці паміж каровамі важна паходжвалі буслы, выглядаючы спажыву.

— У вас там, у Расіі, такіх прыгожых птушак няма! — не адставаў Мішка.

Гэтыя яго словы чамусьці зноў кранулі хлопца за жывое. У іншым выпадку ён, магчыма, і не звярнуў бы на іх увагі, а цяпер не сцярпеў.

— Няпраўда! У нас яшчэ лепшыя ёсць! — запярэчыў ён.

— Расеец! — сказаў Паздзей.

— Ну і што?

— Кацап!

Гэта была ўжо абраза. Паміж пастушкамі наспявала бойка, але Вася кінуў гуляць у каменьчыкі і адышоўся ад кампаніі. У душу закрадваліся маркота і горыч.

Вечарам Вася прыгнаў карову дадому і паскардзіўся, што хлопцы кажуць на яго «расеец» і «кацап».

— Не звяртай увагі, ты тут ні пры чым, — супакоіў яго Лявон, — гэта часам людзей з таго боку, адкуль мы прыехалі, з Расіі, называюць так.

«А можа, і так, — разважаў пасынак, — пэўна ж так! Усё ж такі кругом людзі неблагія, добрыя. Узяць хаця б таго ж дзядзьку Фёдара...» І сапраўды, з дзядзькам Фёдарам у яго самыя найлепшыя адносіны. Навучыў ён Васю свістаць — працяжна і залівіста, як павінны ўмець свістаць пастухі. Паказаў, як плесці з лазы кошыкі, вязаць венікі. Калі пагнаць гурт у Бабіцкую Бярэзіну, дык там добры венік можна звязаць.

Хлопец прывыкаў і прывучваўся да ўсяго...

* * *

Тут, на новым месцы, сярод чужых, Фёкла таксама прывыкала да абставін. Яна адчула большую залежнасць ад мужа. Разам з тым ведала, што Лявон любіць яе. Жыццё не песціла, але жанчыны, як вядома, да ўсяго прывыкаюць, калі да іх адносяцца з ласкай.

Фёкла вяла гаспадарку і абшывала вёску. Прыходзілі людзі з просьбамі — то выкрай, то пашый. Фёкла — чалавек вясёлы, адкрыты і душэўны — хутка сыходзілася з людзьмі і нікому не адмаўляла ў дапамозе. У цэлым жыццё мянялася да лепшага.

## X

Памаленьку пачалі абжывацца — папраўлілі клуню, перасыпалі хлеў і, самае незвычайнае, пабудавалі невялічкую лазню. Расія, здавалася б, ужо прывучыла прускаўцаў да лазні, але, вярнуўшыся на радзіму, яны зноў пачалі мыцца ў начоўках або ў балеі. Так ужо ад продкаў павялося: летам мыліся ў рацэ, зімой — у начоўках, балеях, цабэрках.

Пабудаваць лазню ўпрасіла Фёкла. Лявон згадзіўся: жанчыне, якую кахаеш, трэба служыць.

З бярвеннямі выручыў Міхаль Швед, у якога яны былі ў запасе: нацягаў з панскага лесу за час безуладдзя. Выбралі месца. Адразу за агародам пачынаўся мурожны поплаў, за ім альшына і Пліса. Лазню пабудавалі бліжэй да Плісы, каб было адкуль ваду насіць, а часам, пасля добрай пары, і ў халоднай хвалі астудзіцца не блага. Дапамагалі дзядзька Хведар і стары сябар Цімоша Хлябіч — Трахімаў брат. Сталая мянушка Цімошы — Сярун. Замацавалася за ім даўно. Ён, як звычайна, шмат гаварыў пра палітыку.

— Скамарох[1] ходзіць са сваімі хлопцамі, — пад сакрэтам паведаміў ён Хведару. — Газеты з сабой носіць і чытаць дае.

Хведар пра гэта, як аказалася, ужо чуў. Прадстаўнікі Скамароха (так быццам бы называўся камандзір партызанскага атрада, які дзейнічаў у ваколіцах Белавежскай пушчы) наведвалі і Свішчова, дзе на хутары жыў Хведар, і спрабавалі вербаваць прыхільнікаў.

— Ён за тое, каб аўтаномію нам далі, каб самім жыць, — дадаў Цімоша.

— А ці дадуць? Самому жыць добра! — згадзіўся Хведар. — Як на хутары. Сам сабе гаспадар.

У Цімошы было многа навін:

— Цяпер, кажуць, і ў Германіі рэвалюцыя. І ў нашым Берасці неспакойна.

— А я чуў, што ў Варшаве на сейме нейкі Тарашкевіч выступаў і надта паноў крыў!

— Мусіць, і ў нас да гэтага ж ідзе...

— Не, — пасміхнуўся Хведар, — з нашымі людзьмі піва не зварыш.

Працавалі з адпачынкамі. Зруб зладзілі хутка, наслалі столь і падлогу, нацягнулі дашчаты дах. Сама лазня невялікая — таму і работы не так шмат. Выглядала яна досыць утульна. Сцены прыгожа жаўцелі ад сасновай смалы. Унутры ўсё прыбрана, памыты палок і лаўкі. Пасля таго як скончылі будаўніцтва і паставілі каменку, дзядзька Хведар, як звычайна, засяшаўся дадому.

— Не. Давай спачатку папарымся! — затрымаў яго Цімоша.

Нацягалі з Плісы вады, накалолі дроў, распалілі каменку, якая к таму часу паспела ўжо добра падсохнуць. Распрануліся ў прылазніку. Прынеслі падрыхтаваныя бярозавыя венікі, якія адразу ж ткнулі ў вядзерца з гарачай вадой, каб запарыліся. Венікі мяккія, сакавітыя, пасля Тройцы вязалі. Лявон лінуў на распаленую каменку поўную кварту вады, і адтуль шуганула пара. Мужчыны сарамліва расселіся на палку. Дзядзька Хведар — нават не зняўшы падштанікаў.

— Здымай падштанікі! — вучыў яго Цімоша, які ведаў толк у лазні, — у сібірскай, як ён казаў, бо ў 1911 годзе дабіраўся праз усю Сібір з Уладзівастока дадому.

Дзядзька Хведар паслухаў яго і зняў.

— О, цяплей стала! — пажартаваў ён.

— Я ж казаў! — адгукнуўся Цімоша.

Да дарослых прыстроіўся і Вася, які памагаў у будаўніцтве і вязаў венікі.

Лявон яшчэ раз лінуў на каменку — тая ажно зашыпела. Пад столлю заклубіліся цэлыя хмары пары. Апусціўшыся, яна ахутала і мужчын.

— Ты, Лявоне, не жартуй, — занепакоіўся Хведар.

Але той і не збіраўся жартаваць, рабіў усё з веданнем справы. Хутка парыльшчыкі пачалі пацець. Намоклі і пацямнелі ад вільгаці матузкі нацельных крыжыкаў, што матляліся на шыях.

— Калі з носа сорак кропель поту зваліцца, тады і парыцца можна, — патлумачыў Цімоша, — сібіракі так кажуць.

Лявон дастаў з вядра распараны венік.

— Ну, дзядзьку, давайце я вас! — узмахнуў ён венікам.

Хведар замахаў рукамі:

— Не, я так абмыюся! Без гэтага...

---

[1] Скамарох (Герман Шыманюк) — кіраўнік падпольнага рэвалюцыйнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1921—1923 гадах.

— Чаму?

— Баюся, каб сэрца не выскачыла.

— Дарэмна...

— Давай я цябе! — прапанаваў свае паслугі Цімоша.

Лявон лёг на палок, падставіў пад венік спіну, і Цімоша пачаў парыць. Не сказаць, каб ён вельмі ўмеў гэта рабіць, але стараўся. Пышны, набраклы гарачай вільгаццю венік ёмка прылягаў да цела, раскідваючы вакол парыльшчыкаў веер вадзяных пырскаў і цэлыя аблокі густой пары.

— Хвашчы! Хвашчы! — падахвочваў разамлелы Лявон.

Потым, астудзіўшы халоднай вадою цела, ужо ён парыў Цімошу. Той крактаў, войкаў і крычаў, некалькі разоў выбягаў у прылазнік, каб крышку аддыхацца. Дайшла чарга і да Васі: Цімоша ашчадна агладзіў малога венікам, пахваліў за цярплівасць.

Крыху спалоханы гэтай незвычайнай працэдурай, дзядзька Хведар шчыра дзівіўся, раскрыўшы рот і матляючы галавой.

Потым мыліся. Вада пахла бярозавым лісцем. Выціраліся ручнікамі, якія падрыхтавала Фёкла, надзелі чыстую бялізну, апранулі верхнюю вопратку. З лазні выйшлі распараныя, румяныя, памаладзелыя. Размякла, перастала свярбець цела.

— У лазні, брат, вялікі сэнс! — сказаў Цімоша, заходзячы ў хату.

Лявону здалося, што ён памаладзеў гадоў на дзесяць. Знікла стома, цела стала лёгкім і пругкім.

Фёкла збольшага сабрала стол (дзядзька Хведар, дзякуй яму, і на гэты раз прывёз кавалак сала) і паставіла самавар, сказаўшы:

— А мы прывезлі і забылі пра яго.

У Лявона знайшлося і па кілішку самагонкі.

— Вася пераседзеў усіх, — пахваліў ён пасынка і наліў яму палавіну кілішка. — Затраві рубака!

«Затравіць рубака» — па-мясцоваму, па-прускаўскаму, азначае «замарыць чарвячка».

Вася выпіў з нейкай дарослай саліднасцю.

— І не скрывіўся! — пахваліў дзядзька Хведар. Маці пагразіла пальцам.

Хутка з самавара заструменіўся сіні дымок, а яшчэ праз хвіліну ён ускіпеў, пырхнуўшы парай у столь. Фёкла запарыла чай, разліла па шклянках, даліла кіпеню і накрыла чайнік белым ручнічком.

Забегла суседка Хомчыха з бляшаным шуфлікам — каб пазычыць жару падпаліць у печы. Босая. Усе прывыклі да таго, што Хомчыха не прызнавала абутку, якога ў яе па беднасці і па звычцы ніколі і не было.

— Сядай піць чай! — запрасіла яе Фёкла. — Гэта пальзіцельна!

Жанчына з ахвотаю прысела на лаўку, узяла пададзеную гаспадыняй шклянку гарачага чаю.

— Ну як жыццё, суседка? — пацікавіўся Цімоша.

Тая не прамінула паскардзіцца:

— Дрэнна! Запалак няма.

— Каб толькі запалак! — пасміхнуўся Цімоша. — Штрафамі даймаюць, халера на іх!

— Ой, даймаюць! — пагадзіўся Хведар, таксама ашчаперыўшы сваімі вузлаватымі пальцамі шклянку з чаем.

— Пустазелле ля хаты — штраф, — пачаў лічыць, загінаючы пальцы, Цімоша, — не абгарадзіўся плотам — штраф, няма на возе шыльды — таксама штраф!..

Хведар адпіў, крыху папярхнуўшыся, чаю і сказаў:

— У нас, у Свішчове, войт сабак прымушае на прывязі трымаць, курэй не выпускаць з куратніка, замыкаць студні, вуліцы падмятаць...

— Калодзеж замыкаць? — не паверыла Хомчыха. — Што яму — вады шкада?

— Парадку патрабуе, каб нейкай заразы не завялося, — патлумачыў Лявон, які да гэтага маўчаў.

— Ну, Тарашкевіч ім дасць парадак! — зноў азваўся Хведар.

— А хто ж гэта? — заварушылася цікаўная Хомчыха.

— Адкуль ён — я не ведаю. З-пад Вільні, мусіць. У сейм яго выбралі, на выбарах, што былі...

Мужчыны, дапіўшы чай, паставілі шклянкі на стол. Гаспадыня зноў стала налівачь, прыгаворваючы: «Гэта пальзіцельна!»

— З мяне дастаткова, — узмаліўся Хведар.

У вачах у гаспадыні заіскрыліся вясёлыя смяшынкі.

— Дзядзя Федзя! — звярнулася яна да госця. — А ты пакладзі яе на бок, вось так! — і Фёкла палажыла шкляну бокам на сподачак. — Гэта значыць, што чалавек напіўся, сыты. Гэтак у нас у Расіі робяць.

— Ну, я гэтага не ведаў, — паціснуў плячыма і заўсміхаўся Хведар.

Пасля чаю з гасцей паліўся пот.

— Нават аднаго самавара не выпілі, а ўжо ўпацелі, — смеючыся, сказала гаспадыня.

Адведаўшы пляменнікавай гасціннасці, дзядзька Хведар паехаў дадому. Цімоша таксама пайшоў у свой канец вуліцы.

З лазні чуліся галасы — гэта жынчыны сцёбалі сябе венікамі...

Назаўтра, у нядзелю, Кужалі пайшлі ў царкву. Набажэнства вёў айцец Мардарый. Ранейшы бацюшка — айцец Глеб — так і не вярнуўся з бежанства.

— Нешта наша абіцель слаба пасешчаема, — трывожыўся, кажучы пропаведзь, айцец Мардарый. — Людзі вяртаюцца на свае селішчы, памнажаюцца, а колькасць прыхажан, сапраўдных раўніцяляў царквы, на жаль, не расце.

Прыхаджане маўчалі.

— Бежанцы, мусіць, новага духу набраліся, — незадаволена круціў галавой святар і моршчыў свой сухі і бледны твар.

— У нас звон слабы, не чуюць, — паспрабаваў вытлумачыць сітуацыю Амброжый Пац, які стаяў паперадзе.

Стары звон — гэта ведалі ўсе — сцягнулі немцы, якія цягнулі ўсё, нават мерцвякоў даставалі з магіл.

— Біла нейкае — яно сапраўднага гуку не дае, — падтрымаў брата Якаў, калі, пасля завяршэння службы, людзі выходзілі з царквы. — У навакольных вёсках і не чутно...

«Біла» гэтае з чыгуначнай рэйкі зрабіў Пракоп Пахолак.

— Ты так не кажы, — пакрыўдзіўся ён, — а паспрабуй зрабі лепшае.

— Стары звон быў надта сільны. Бывала, раве, як звер, — умяшаўся ў гаворку дзяк Дзіядот Садоўскі, які неадменна займаў сваё месца ў царкве пры розных святарах.

Мужчыны шкрэблі патыліцы: дзе ж ты такі возьмеш? Даўно ўжо, мусіць, яго на снарады пераплавілі...

З царквы Кужалі вярнуліся на абед, хоць абедаць, па праўдзе кажучы, не было і чым: крыху хлеба і малако.

— Нічога! Вот закіпяцім самавар — будзе весялей! — падбадзёрыла сямейнікаў Фёкла.

— Фядоро! — пачулася з-за акна. — Ты мяне чуеш?

Фядора пасміхнулася і павесялела. Гэта быў яе хлопец — Іван з Выгнанкі, з якім яна пазнаёмілася яшчэ ўзімку.

— Эй! — зноў паклікаў Іван. — Фядоро!

Дзяўчына ўскінула на галаву белую ў сіні гарошак хустачку і выбегла з хаты. Варка прыліпла да акна.

— Дзяўчат пара замуж выдаваць, — напомніла Фёкла.

Лявон і сам пра гэта добра ведаў. Ён любіў сясцёр, асабліва чамусьці Фядору, і нават злавіў сябе на думцы, што раўнуе яе да Івана, які і па гадах быў не маладзей за яго.

— Мусіць, браць будзе, — азвалася Варка, не адрываючыся ад акна. — Паглядны!

— На ўбранне трэба грошы ды і пасаг... — зноў напомніла Фёкла.

Лявон нічога не адказаў, хоць і сам пастаянна думаў пра лёс сясцёр. Неяк яно будзе.

* * *

У касавіцу назапасілі сена. Ніяк не маглі дачакацца жніва. На пачатку жніўня, пад раніцу, Лявон колькі разоў выходзіў у поле паслухаць, як у мяккай ранішняй цішыні спее, наліваецца і цвярдзее жытні колас. Ой, якая гэта прыгожая пара! Цьмянеюць і гаснуць зоркі, хаваючыся ў зіхоткіх промнях ранішняга сонца. Там-сям падаюць галасы світальныя птушкі, рыхтуючыся да дзённых клопатаў. Белаватае сонца робіць сваю работу, павольна ўздымаючыся на даляглядзе.

Там, адкуль яно ўзыходзіла, знаходзілася Расія. Пра Расію ён думаў часта. Як там цяпер тое Запалоннае? Знаёмыя ж засталіся, радня. Міша Касякін, Чудайкін, Домна, Андрушка... Прыгадалася перажытае ў бежанстве. Лявон ціха ўздыхнуў. Ці вартыя людзі гэтага цудоўнага свету, у якім нарадзіліся, гэтага сонца, прыроды?

Але летняя раніца заўсёды падымала настрой, і дадому ён прыходзіў бадзёры і ўраўнаважаны. Сядаў снедаць, пасля браўся за работу.

Зажынаць, як звычайна, пачалі ў суботу. У вёсцы мала хто і застаўся — усе ў полі. Кужалі выйшлі ўсёй сям'ёй, апроч Васі, які пасвіў Ланьку. Узялі з сабой хлеба, крыху солі, торбу варанага гароху, вады.

Свеціць і грэе сонца. Прыемна ўбіраць у сябе гэты гарачы сок сонечных праменняў. Лявон доўга трымаў у руках касу, да нечага прыслухоўваючыся. На мяжы рос палын, і над ім у нейкім напружана-запаволеным рытме кружылася пчала. «Няўжо ў палына ёсць мёд? — падумаў ён. — Відаць, ёсць, слодыч, мусіць, ёсць ва ўсім...» Прыслухаўся да гудзення пчалы, але яна заспяшалася далей, і гудзенне змоўкла. Яго змяніў ціхі звон. Гэта, не інакш, звінелі самі каласы, кранаючыся адзін аднаго пры ціхай хвалі ветрыку. «Зараз я павалю вас на дол, — зноў падумаў ён, сціскаючы ў руках літоўку. — Стаялі, спелі, варушыліся, жылі — і вось... прыходзіць канец. І я, сявец, стаў касцом. Сяўцом — касцом — канцом...» — і ён махнуў літоўкай.

«Ж-жык! Ж-жык! Ж-жык!..» — пачала сваю бязлітасную песню каса.

Прайшоўшы дзесятак-другі крокаў, ён уваткнуў касcё ў зямлю і паказаў Фёкле і Фядоры з Варкай, як вязаць снапы. У Запалонным снапы не вязалі — скошаную пшаніцу складвалі ў скірды і тут жа малацілі. Таму

вязаць снапы Фёкла вучылася ўпершыню, Фядора з Варкай дапамагалі. Павязаўшы скошанае жыта, жанчыны ўзяліся за сярпы. Жалі чыста. Зжатае клалі на перавяслы, рыхтавалі снапы. Свежая пожня востра калола ногі, але ніхто гэтага не заўважаў.

Шчыравала і Фёкла. Пунсавела сярод жыта яе чырвоная хустка, завязаная «па-руску» — вакол галавы, з вузлом над ілбом. Пасмы цёмных валасоў кучаравіліся ад спёкі і прыліпалі да ўспатнелага лба. Сонца пякло неміласэрна — ні меры ў яго не было, ні стомы. Хацелася піць. Па чарзе кідалі работу, ішлі піць квас. Квас у жніво — незаменная рэч.

— Давайце адпачнем! — прапанаваў Лявон сваім жанчынам, рукавом сарочкі выціраючы з твару пот. — Фяклуша, ідзі адпачні! — крыкнуў жонцы.

— Дзяўчаты-ы! — падхапіла тая, махнуўшы залоўкам рукой. — Аддахнём! Цішэй едзеш — далей будзеш! Хадзіце сюды!

Сонца паднялося высока. Вырашылі, што час ўжо і самім падмацавацца. Была якраз пара палуднаваць. Дзяўчаты разаслалі палатняны абрус, паставілі ежу. Паабедалі вараным гарохам, хлебам з соллю, запілі квасам. Іржышча прыемна пахла прывялым палыном і свежай саломай.

— А пожня, Лёня, пахне таксама, як і ў нас, — у Расіі, — нібы ўзрадавалася Фёкла, удыхнуўшы водар пожні.

— Салома — і тут, і там, — пасміхнуўся Лявон, — толькі ў вас пшанічная.

— У нас пшанічны край...

На захадзе, на самым гарызонце можна было ўбачыць далёкія кропачкі, над якімі віўся дымок. Гэта ішоў поезд, накіроўваючыся з Брэста ў Высокае праз Лышчыцы.

Перапынак на абед канчаўся. Калі ўсе падмацаваліся, Фядора згарнула абрус з рэшткамі ежы. Варка нарвала букет рамонкаў з валошкамі, што раслі на мяжы.

«Не была б то дзяўчына — кветкі збірае», — падумаў Лявон, а ўголас сказаў:

— Пара за работу. Летнім днём трэба даражыць!

Касец павінен накасіць у дзень не менш, як дзесяць коп. Гэта не мала, калі палічыць, што ў адной капе шэсцьдзесят снапоў. Пад нагамі трашчала пожня, прадказваючы непагоду.

— Дождж будзе! — занепакоіўся Лявон, спыніўшы махаць касой.

— Адкуль ты ведаеш? — здзівілася Фёкла.

— Расы няма з раніцы. Чуеш, як трашчыць пожня?

Трэба было ставіць снапы ў ляшкі (так тут называлі мэндлікі), каб не змачыў дождж, і Кужалі жвава пачалі зносіць снапы. Лявон успомніў дзеда Кірылу: «Ставіць снапы трэба не надта шчыльна — каб знізу прадуха была». Пакуль ладзілі першыя ляшкі, з поўдня, з таго боку, дзе знаходзіўся Пацаў фальварак Альбярцін, паказалася некалькі хмарак. Кужалі заўважылі іх толькі тады, калі яны сталі насупраць сонца і зліліся ў адну хмару, якая пагрозліва навісла над наваколлем. Спачатку хмара выглядала сівой, потым стала чырванець і нарэшце зрабілася крывава-бурачковай. Пярун ударыў з такім пошчакам, што Кужалі захрысціліся і палезлі хавацца ў ляшку пад снапы. Хлынуў дождж. Услед за першымі буйнымі кроплямі раптам палілося як з вядра. Лявон пазіраў праз шчыліну паміж снапамі, але скрозь палатно дажджу нічога нельга было ўгледзець. На суседнім Хомчышыным загоне расла бульба, і відаць было, як бульбу несла з поля разам з зямлёй. Дождж ліў бесперастанку — адкуль толькі і бралася столькі вады. Валам круціліся густыя хмары і палівалі прус-

каўскае поле. Так працягвалася з гадзіну. Потым дождж перастаў і ад Камянца да Высокага недзе на паўнеба вымахала раскошна-квяцістая, шматкаляровая вясёлка.

Кужалі вылезлі са свайго сховішча і прыслухаліся. Пасля навальніцы дзіўнай паказалася песня жаўранка, які паспеў падняцца ўвысь і звінеў на ўсё наваколле. Пожня стаяла ўся ў лужынах з цёплай, празрыстай вадой. Заставалася чакаць, пакуль жыта абсохне і зноў можна будзе пачаць працу. Падзьмуў вецярок, але жыта не надта хацела сохнуць, і Кужалі пайшлі дадому.

Назаўтра зноў былі на полі. Лявон узяўся за касу, за ім ішла Фёкла — вязала жыта ў доўгія і цяжкія снапы. Фядора з Варкай завіхаліся з сярпамі. І так — некалькі дзён падрад. Кожнага дня вечарам на захадзе, недзе над Высокім, завісала вялікае, распаранае за дзень сонца. Скончыўшы з дзённымі клопатамі, Кужалі, як і ўсе прускаўцы, вярталіся дадому — вячэраць і адпачываць. Але не толькі. Чакалі яшчэ справы па гаспадарцы: трэба было падаіць карову, накарміць курэй і свіней. Дзеля гэтага Фядора з Варкай вярталіся крыху раней. Прачыналіся з усходам сонца. На зыходзе жніва Лявон пачаў звозіць снапы ў клуню. Пад калёсамі нагружанага воза ў глыбокіх каляінах пакорліва хрусцеў дарожны пясок. Цяжкія снапы наліўнога даспелага збожжа запаўнялі клуню да самых стропаў.

Жытняя частка касавіцы заканчвалася. Пасля жыта быў нейкі прамежак часу перад тым, як брацца за ярыну. У многіх прускаўцаў даўно ўжо скончылася мука, і ім не цярпелася пакаштаваць хлеба з зерня новага ўраджаю. З-за вёскі, з заклуння ўжо плыў гул Аляксеевага млына. Лявон таксама вырашыў намалаціць які мяшок і змалоць. Аднаму малаціць нудна, але што зробіш — пасынак яшчэ не падрос. Ветракі, жорны, вадзяныя млыны немцы ў мінулую вайну паўсюль знішчалі, каб забраць у насельніцтва як мага больш збожжа. Аляксееваму ветраку пашанцавала, ён выстаяў. Млын пакрывіўся ад часу, але выглядаў трывала. Зруб ці цокаль, як называў яго гаспадар, быў складзены з часаных і пасаджаных на мох бярвенняў, абапёртых на падмурак. Насаджаныя на вал магутныя крылы ветрака нібы даставалі неба. Шырокая з тоўстых дошак лесвіца вяла ўверх, да той клеці, дзе знаходзіліся жорны. Камень для жорнаў Аляксей прывёз аднекуль з Белавежскай пушчы. Там былі людзі, якія «вылівалі» такія камяні з тоўчанага крэменю.

Аляксей браў за пуд збожжа восем грошаў. Гэта недарага. У жорнах той пуд жыта паўдня трэба было круціць. Млын, пачынаючы з канца жніўня, гудзеў дзень і ноч: ішоў і крупадзёр, і пыталь; у паветры стаяў белы мучны пыл.

Лявона сустрэў абсыпаны мукой Аляксей, які як гаспадар немітусліва кіраваў усім гэтым мукамольным працэсам. Лявонаў мяшок, не марудзячы, усцягнулі наверх і высыпалі ў кораб. З мяшка жыта атрымалася амаль столькі ж мукі.

Хлеб расчынялі ў дзежцы: у ваду дадавалі пару літраў хлебнага квасу, сыпалі крыху мукі і размешвалі. Калі на другі дзень рошчына ўгрэецца (дзежку накрывалі кажухом) і забушуе, дадавалі мукі, а калі мукі не было, то варанай тоўчанай бульбы, і мясілі. Падышоўшае цеста клалі на лапату, засланую капуснымі ці кляновымі лістамі, рабілі буханкі і садзілі ў напаленую печ. Добры хлеб пёкся і на лісцях аеру, хрэну, але Фёкла ад усяго гэтага адмовілася — Пракоп зрабіў для яе, як у Расіі, бляшаныя формы.

Так — надзейней. Фёкла пякла хлеб не часцей, як раз у два тыдні — расчыняла, закасвала рукавы, мясіла цеста. Вымесіць цеста нялёгка. Патрэбны і ўменне, і сіла. Печ ужо напалена, бляшаныя формы змазаны тлушчам, каб хлеб не падгараў, затым можна раскладаць у іх цеста і ставіць на шырокую лаву, а затым і ў печ. Рабіць гэта трэба хутка, каб печ не астыла, каб хлеб добра прапёкся. І вымаць трэба своечасова, каб не падгарэў. І вось нарэшце вялікія прамавугольныя буханкі ляжаць на лаве — стынуць. Можна каштаваць. У хлеб замест вады Фёкла дабаўляла малочную сыроватку, таму ён такі смачны. Гэта было яе сакрэтам. Лявон хваліў — хлеб атрымліваўся, як сыр.

Удаўся хлеб і на гэты раз.

— Маладзец! — сказаў Лявон, калі селі вячэраць. — Смачны!

— А я думала, што пахвалы ад цябе не дачакаешся, — пажартавала Фёкла.

Загнаўшы ў хлеў Ланьку, прыбег Вася:

— Я ўжо прагаладаўся.

— Зараз насыплю табе баршчу, — Фёкла сказала «насыплю» — так гаварылі ў Запалонным.

Васю свежы хлеб таксама спадабаўся, і ён умінаў яго з ахвотай.

— Баршчу пяць лыжак хлябай, а хлеба адкусі толькі раз! — строга заўважыла яму маці.

## XI

Летам і пад восень прускаўцам даводзілася адрабляць шарваркі. Гэта былі большай часткай дарожныя работы, абавязковыя, як і падаткі. Капалі прыдарожныя канавы, засыпалі калдобіны, вазілі каменне і складалі яго крушнямі ўздоўж Камянецкага гасцінца. На затравелых узбочынах нямала было параскідана такіх крушняў.

На гэты раз Лявон таксама рабіў пры напраўе дарогі, каля Бабіцкай гары, — вазіў каменне. Норма — дваццаць вазоў на гаспадарку, у каго меўся конь. Пад вечар, перад тым як паесці, возчыкі распалілі вогнішча. Лявон паставіў Гуза наводдаль, пачапіў яму на галаву торбу з сечкай і падышоў да вогнішча, паўзіраўся ў агонь. Есці не стаў, вырашыў ехаць дадому. Ад Бабіцкай гары да Прускі шлях недалёкі, але пакуль прыехаў, распрог каня і паставіў у хлеў, сцямнела. Час быў ужо і вячэраць. Ён памыў рукі, выцер ручніком і заўважыў, як за вокнамі, у вечаровым сутонні, прасунулася чыясьці постаць. Ціха скрыпнулі дзверы, чалавек зайшоў у сені, і там як бы спыніўся, аціх. «Клямку, відаць, шукае, — падумаў Лявон, — чужы хтосьці, ці што? Можа, Вася?» Пасынка ў хаце не было — бавіў недзе час з сябрукамі. Лявон падняўся з-за стала і адчыніў дзверы ў сені. Перад ім, у прыцемках, стаяў незнаёмы. Вышэй сярэдняга росту — Лявон глядзеў на яго знізу ўверх. Апрануты ў адзенне, якое насілі мясцовыя сяляне: світка, боты, кашуля з пакамечаным каўнерыкам. З-пад густых броваў глядзелі ўважлівыя вочы. Колеру не разабраць — цёмна. Пад носам чарнелі вусы. Штосьці ў яго абліччы здалося знаёмым.

— Ты?

— Я.

— Заходзь.

Гэта быў Кляновік Андрэй. Лявону ўспомніўся камянецкі пастарунак і словы пшадоўніка: «Нядаўна да цябе прыходзіў чалавек. Хто ён?» Як бы

ведаў што, пшадоўнік той. Госць пераступіў парог і правёў вачыма па вокнах. Гаспадар зразумеў яго позірк і зашмаргнуў на вокнах фіранкі, запаліў святло. Госць зняў шапку, распрануў світку і сеў на лаўку, правёў рукой па лбе, які быў падобны на квадрат.

— Ну, як жывеш, дружа? Трэба, думаю, наведаць старога прыяцеля.

— І правільна зрабіў! — адказаў гаспадар. — Працуем, як мулы. У Амерыцы, у фермера, помню, былі такія конікі...

Госць азірнуўся па баках.

— Небагата жывеш...

— Адкуль яму, багаццю, узяцца? Толькі-толькі на ногі становімся...

— Але нічога, у хаце жывеш. Многія, хто вярнуўся, у зямлянках жывуць, а ў цябе хата ды яшчэ пасярэдзіне вёскі.

— Наша хата, дзякуй Богу, засталася...

— Так-так, — Кляновік прыгладзіў рукою пышныя, хоць ужо і не такія цёмныя, якімі яны былі ў яго ў Амерыцы, валасы на галаве.

— Нічога! Неяк яно будзе.

— А я, брат, пасля той нашай сустрэчы ў Цвяткове яшчэ і на поўдні пабываў. Так што ты на Волгу паглядзеў, а я на Чорнае мора.

Пра тое, як і чаму ён апынуўся на поўдні, Кляновік нічога не сказаў. А пра гаспадарку няёмка было распытваць.

— Фяклуша, давай вячэраць — госць у нас!

— Мінутачку, — пачулася з кухні. Гаспадыня ўжо даўно затапіла печ.

— Жонка? — Кляновік паглядзеў на Лявона.

— Жонка, — кіўнуў той і выцягнуў з-пад падлогі бутэльку гарэлкі.

Госць засмяяўся:

— У падполлі гарэлку трымаеш?

— Трымаю, можа, думаю, добры чалавек завітае ў госці?

— Свая?

— Свая, — Лявон працёр бутэльку анучай, — у мяне дзядзька спецыяліст.

— За самагонку, я чуў, караюць.

— Караюць, але казённая даражэй. Два злоты!

Гаспадар паставіў бутэльку на стол. Гарэлка хораша глядзелася, закрашаная вішнёвым сокам. Гэта ўжо прускаўская традыцыя — каб «закрасіць». Фёкла прынесла з каморы міску квашаных гуркоў, сказала «добры вечар!» і паставіла гуркі на стол.

— А от і Фёкла! — узрадаваўся Лявон.

— Андрэй, — прадставіўся незнаёмы.

— Ой, Фяклуша, гэта ж ён нас у Цвяткове выратаваў! Каб не ён, то невядома, што было б... — пачаў тлумачыць Лявон.

Гаспадыня падала госцю руку.

— У салуне пазнаёміліся, — засмяяўся Кляновік, падняўшыся з лаўкі і паціскаючы гаспадыні руку, — у Амерыцы.

— Фяклуша ў мяне руская, з Самарскай губерні. У бежанстве з ёю пабраліся.

— І абвянчацца не паспелі, — уставіла слова Фёкла і зачырванелася.

— Было б каханне — і без вянчання можна жыць! — зноў пасміхнуўся госць. — Галоўнае, каб падабалася, каб блізкасць была.

— Давай вып'ем за сустрэчу! — прапанаваў Лявон. Налілі крыху і Фёкле. Усе разам чокнуліся кілішкамі і выпілі.

Кляновік выпіў і пакрывіў губы. Паставіўшы кілішак на стол, пакруціў галавой:

— Алкаголю я, брат, не ўжываю. Хіба што — за сустрэчу...

Пасля чаркі Лявон крэкнуў, адкусіў кавалак гурка, пажаваў, паглядзеў на сябра:

— У Амерыцы ты, здаецца, не грэбаваў напоямі...

Лявонаў напамінак пра Амерыку не спарадзіў у Кляновіка нейкіх асабліва радасных успамінаў:

— Дык тож Амэрыка, ды і калі тое было! — махнуў ён рукой.

Лявон зноў наліў па чарцы:

— Абысь мы жылі — як кажуць палякі.

— Ты ўжо і па-польску ўмееш? — падкалоў яго сябар, тоячы ўсмешку і прыгладжваючы вусы.

— Трохі ўмею. За Буг ездзіў, за насеннем, калі сеяць трэба было...

Фёкла прынесла патэльню і паставіла на стол.

— Самагонка ды яечня — гэта, яснае дзела, не блага! — ухмыльнуўся госць.

— Гэта ў гонар госця! — сказала Фёкла і выйшла на кухню.

— Пакаштуй! — запрашаў гаспадар. — Ацані! — у яго словах адчуваўся гумар і жарт.

— Смелая ў цябе жонка.

— Руская.

— Шмат рускіх слоў, — як бы пацвердзіў Кляновік і дадаў, быццам бы нешта ўспомніўшы: — Расія — вялікая. Польшча — гэта мізер, а Расія — прастор, работы шмат, едзь куды зажадаецца.

Крыху памаўчаўшы, госць памяняў тэму гаворкі:

— За гаспадарку вырашыў узяцца?

— Якая там гаспадарка! На маёй гаспадарцы надта не разгонішся... А вакол усё панскае. У лес не паткніся — панскі. Прагон для скаціны — праз панскае поле; як толькі карова крыху ўбок адышла — парабкі пераймаюць і гоняць у двор. За шкоду — адрабляй. А падаткаў колькі даводзіцца плаціць! А штрафаў! Шарваркі адрабляем — толькі што вярнуўся. Каменне вазілі... — Лявон памаўчаў, цяжка ўздыхнуў і дадаў: — Але што зробіш — мы сялянскі народ, мы да зямлі прыкутыя...

Ён не сказаў пра тое, што напачатку была надзея, што новая польская дзяржава дасць сялянам зямлю. Але гэтага не здарылася, і надзея знікла.

— Лявоне, трэба затаіць пачуцці! — па Кляновікавых сківіцах забегалі жалезныя жалвакі. — Нічога! Хутка ўсё пераменіцца!

Кляновік напомніў пра тое, пра што Лявон ужо даўно і пакутліва думаў: «Пераменіцца-то пераменіцца, але каб да лепшага. Каб не так, як у Расіі».

Гаспадар зноў наліў у кілішкі.

— Пачакай! Пачнецца хутчэй за ўсё ў Польшчы... — ціха, але шматабяцаюча сказаў Кляновік. — Ну, за нашу справу! — ён стукнуў сваім кілішкам аб Лявонаў, і яны выпілі.

Пачалі закусваць. Кляновік еў так, як бы не адчуваў ад яды смаку, як бы яго штосьці надта непакоіла.

— Ад удзелу ў шарварках трэба ўстрымацца! — як бы між іншым параіў ён. — Не плаціце падаткаў! Секвестратар часта бывае?

— Бывае. Хто-хто, а секвестратар не абмінае.

— А вы кіпеню заварыце чыгун. Калі з'явіцца — у вочы яму, гаду. Парэвалюцыйнаму трэба! Каб баяліся!

— Мы спрабавалі адпор даць, ды назаўтра ж у пастарунку апынуліся, у Высокім.

— Ну і што?

— Выпусцілі. Настрашылі і выпусцілі.

— Яны, яснае дзела, самі баяцца, бо праўда ж на вашым баку! Змагацца трэба!

Лявон слухаў сябра, а потым раптам нечакана для самога сябе сказаў:

— Па праўдзе кажучы, я б цяпер вярнуўся ў Амэрыку!

— Патрэбен ты Амэрыцы з адной рукой!..

Кляновік казаў праўду: сапраўды, ніхто яго такога ў Амерыцы не чакаў.

— Лявон, не бядуй! Прыйдзе час, і тут не будзе ні паноў, ні папоў, ні памешчыкаў! — Кляновік суцяшаў ва ўласцівай яму манеры, ні то жартам, ні то ўсур'ёз.

Фёкла паставіла на стол самавар. З кухні, прыадчыніўшы дзверы, заглянуў Вася.

— Гэта — Вася, пасынак мой.

Хлапец засаромеўся і знік за дзвярыма.

— Ён будзе шчаслівейшы ад нас, — сказаў Кляновік, дастаў з кішэні гадзіннік, глянуў: ужо позна!

Начаваць госць згадзіўся не ў хаце, а на вышках на сене. Там яму гаспадар і паслаў.

Кляновік адчуваў стомленасць, але сон не ішоў. Пахла падвялым самасадам, які, відаць, вісеў недзе ў цемнаце. Чутно, як на вуліцы шумела вярба і працягла скрыпеў калодзежны журавель. Нібы клікаў кагосьці. Знізу, нешта жуючы, чмыхаў ноздрамі конь. Праз шчыліны ў шчыце сачыўся начны холад.

Думкі Кляновіка былі далёкія ад таго, што адбывалася зараз вакол яго. Ён успомніў «Рэвалюцыйны катэхізіс», які даў яму хтосьці з таварышаў у Маскве яшчэ да рэвалюцыі, калі яго накіроўвалі ў Амерыку. «Революционер — человек обреченный, — гаварылася ў ім. — У него нет ни своих интересов, ни дел, ни чувств, ни привязанностей, ни собственности, ни даже имени... Чувства должны быть задавлены в нем единою холодною страстью революционного дела...» Калі ён гэта прачытаў, страшэнна закалацілася сэрца. Як напісана! Словы якія! Ён зразумеў тое, пра што здагадваўся і раней: ён не такі, як усе, ён незвычайны, ён рэвалюцыянер. Хто ж гэта яму даў тую тоненькую, на гектографе надрукаваную брашурку? Краснашчокаў? Мусіць, ён. Цяперашні старшыня Саўнаркома Далёкаўсходняй рэспублікі. Высока сягнуў! З Амерыкі некалі разам вярталіся — на тым, як рассохлая бочка, параходзе. Рызыкавалі, але абышлося. Пазаймалі цяпер хлопцы адказныя пасты. Малайцы! Мусіць, і ў вус не дзьмуць. А ў яго, Кляновіка, іншы лёс. Цяпер ён ужо не Кляновік, а Ляховіч, Андрэй Ляховіч. Нелегальная галава...

Ён уздыхнуў, нацягнуў на плечы кажух. «Эх, каб яшчэ пад бок каго», — падумаў і сам здзівіўся гэтай думцы, здзівіўся, што, нягледзячы ні на што, прырода бярэ сваё. Сярод яго сяброў і знаёмых былі, вядома, і жанчыны. І нават вельмі прыгожыя. Усіх і не прыгадаеш. Шмат ён сустракаў іх за сваё жыццё — і ў Расіі, і ў Амерыцы, і ў грамадзянскую, і цяпер тут, у Польшчы. Жанчыны, у глыбіні душы лічыў ён, як зелле, што расце пад кожным плотам. Не сакрэт, што ў інтарэсах рэвалюцыйнай мэтазгоднасці партыя мае права ўмешвацца ў інтымнае жыццё. Зрэшты, гэта вядома даўно. А як жа інакш? Свой выбар паміж жанчынай і справай ён раз і назаўсёды зрабіў на карысць апошняй. Што датычыцца прыгожа-

га полу, то бліжэй да сэрца туліў ён вобраз мужнай жанчыны ў чырвонай касынцы і скураной тужурцы, парывістай і дынамічнай у рухах і пачуццях. Надзейная сяброўка, таварыш па барацьбе. Такіх шмат было і ў Маскве, і па ўсёй новай Расіі. Былі такія і тут, толькі не ў чырвоных касынках і не ў скураных тужурках. Але, прыйдзе час, — так апрануцца жанчыны і тут! Іх ён прызнаваў найбольш блізкімі, з імі дзяліў таямніцы і цяжкасці падпольнай работы і дарункі інтымнай блізкасці. Трэба было не ўпускаць момант! І пра калег ведаў: многія проста распуснікі. Да жанчын-таварышаў па партыі ставіліся, як да сваёй уласнасці. Зрэшты, што ж? Ні адна з іх і не патрабавала ад яго вернасці — таксама, як і ён ад іх: невядома, што будзе заўтра.

У жыцці, праўда, асабліва ў такім, як у яго, усялякае бывае. Бывала і ў яго, здараліся нават казусы. Вось як нядаўна. Каб хто іншы сказаў — не паверыў бы. Федзя Гаранчук — сімпатык[1] з вёскі Баяры пад Слонімам — завёў яго на пастой да саламянай удавы Гэбліхі, муж якой з'ехаў гадоў з пятнаццаць назад у Амерыку ды так і не вярнуўся. Хата ціхая, чыстая, прыбраная, а галоўнае — бяспечная, далёкая ад паліцыі, ды і ніхто надта да Гэбліхі не заходзіў. Мужчын яна мала цікавіла — старая ўжо, сівая, крыху накульгвала на адну нагу ды к таму ж яшчэ і рабая. Гаспадыня была не адна — мела дачку Анюту, усмешлівую і пагляднуню, з прыгожымі, выбеленымі летнім сонцам валасамі. Ён неяк упадабаў яе адразу. Напачатку спаў на гарышчы, а праз дзень гаспадыня прапанавала праслаць у хаце, бо ночы стаялі ўжо халаднаватыя. Ён згадзіўся, і атрымалася ўсё неяк нечакана і нават смешна. Гэбліха паслала яму каля сцяны на лаўцы. Лёгшы, у вечаровым сутонні ён сачыў за Анютай, якая, калі ўжо добра змерклася, здалося яму, распрануўшыся, палезла нанач на печ. Калі ўсе паснулі, ён не вытрымаў і палез на печ, дзе, як яму ўяўлялася, павінна была спаць Анюта. У цемнаце не разгледзіш...

Раніцаю назіраў, як старая Гэбліха, задаволеная і ўсцешаная, завіхалася ля печы, смажыла яечню. Час ад часу паглядала на яго. Калі ён прачнуўся, спытала, прыязна ўсміхаючыся:

— Ну як, Андрэйка?

Ён не ведаў, што адказаць, і тут у хату ўвайшла Анюта.

— Дзе ж ты ўсю ноч была? — прыдзірліва паглядзела на яе маці.

Ён насцярожыўся.

— А я ў каморы спала.

Ён сумеўся, пачырванеў. У тую ж ноч пайшоў ад Гэбліхі, спаслаўшыся на справы.

Вядома, яго не магла задаволіць традыцыйная, так званая буржуазная мараль. Як рэвалюцыянер ён не бачыў аніякага сэнсу ў тым, каб прытрымлівацца яе нормаў, якія, па яго глыбокім перакананні, прыдумала буржуазія для забяспячэння сваіх класавых інтарэсаў. Паспрабуй даверся толькі буржуазнай маралі, дык і сам не заўважыш, як саступіш з партыйнай лініі.

Потым раптам думкі пабеглі ў іншым кірунку: «Дзе ўсё ж такі я знаходжуся?» — падумаў ён. На нейкай дзіўнай зямлі апынуўся. Чыя яна? Здавалася б, беларуская, аднак гаспадары не яны, не беларусы. Гаспадарыць Варшава. Утвораны чатыры ваяводствы: Віленскае, Навагрудскае, Беластоцкае і Палескае з цэнтрам у Брэсце. Пра Беларусь, напэўна,

[1] У Заходняй Беларусі 20—30-х гг. чалавек, які спачуваў КПЗБ.

мала хто і ведае. Польшча! Вялікі кавалак беларускай зямлі яна заглынула, але ці пракаўтне? Няпэўная гэта пакуль што тэрыторыя. Як бы нічыя. «Трэфная». Гэта слова ён чуў ад Станіслава Будзінскага. Слова — з яўрэйскага ўжытку. Гэта Кляновік ведаў. Трэфныя стравы — некашэрныя, забароненыя Талмудам. Станіслаў Будзінскі, аднак, не яўрэй, а паляк, з рабочых. У нядаўнім мінулым — адзін з камісараў рэвалюцыйнага Варшаўскага палка, арганізаванага ў Маскве ў пачатку 1918-га. Потым кінулі Станіслава на радзіму — у Польшчу, каб з таго боку падкінуў дроў у рэвалюцыйнае полымя. Каб і Польшча занялася Кастрычніцкім агнём! Не выйшла, не пашанцавала! У 1919 годзе Будзінскі быў арыштаваны, але неўзабаве, у красавіку наступнага года, абмяняны. Хоць тут пашанцавала.

«Вясёлы чалавек, а галоўнае — такі ўдачлівы. А я хіба не ўдачлівы? Свет вялікі. А цяпер жа і ў Германіі нешта сур'ёзнае наклёўваецца...»

Зноў прыслухаўся да начных гукаў — навокал стаяла цішыня, усё ўгаманілася.

«Та-ак, чалавеку адначасова і мала трэба, і шмат», — думаў ён, засынаючы. Глыбока набраў у лёгкія свежага паветра і, выдыхнуўшы яго, заснуў.

## XII

Не мог тады Кляновік адкрыцца Лявону, што прыехаў на Брэстчыну праз Берлін з пашпартам на імя Ляховіча Андрэя Раманавіча. «Трэба, каб пажар шугаў і там, каб класавае змаганне разгортвалася! — сказаў на развітанне Станіслаў Будзінскі. Голас яго гучаў не надта ўпэўнена, чулася і паказная бадзёрасць, прывычны пафас: — Паліцыя топча іскры нашай класавай нянавісці капытамі коней і прыкладамі карабінаў. А мы што? Па мордзе свалачэй! Па мордзе!..»

«Сам жа паспрабаваў пажар раздзьмуць, ды не атрымалася», — падумаў Кляновік, але ў знак згоды кіўнуў галавой.

Ну, зразумела, яго рыхтавалі. Давялося прайсці кароткатэрміновыя курсы ў Маскве, у разведупраўленні Чырвонай Арміі. Вучыліся многаму, найбольш увагі аддавалі марксісцкай літаратуры. Асабліва займала яго кніжка Леніна «Дзіцячая хвароба «левізны» ў камунізме». Да гэтага гартаў брашуру В. Лібкнехта «Павукі і Мухі» — там усё было проста і зразумела, як у арыфметыцы, а вось ленінская кніжка — нешта іншае. Усё адно як вышэйшая матэматыка. Чытаў ён яе ўважліва, кожны сказ — па два-тры разы. Шукаў у ёй паміж сказамі нешта такое, пра што аўтар не мог сказаць напрамую для ўсіх, а вымушаны быў хаваць і ўтойваць. Каму трэба — той зразумее.

Хутка трэба было ехаць, бо час не чакаў. У душы ён — былы рэвалюцыйны камісар — быў нават рады такому павароту справы яшчэ і таму, што ў Расіі раптам нечакана (з падачы самога Леніна!) пачало аднаўляцца старое — самаўпэўнена і нахабна ўсталёўваўся нэп. У партыі віхурылася апазіцыйная барацьба. Не ўсё падабалася Кляновіку: паміж сабой валтузню распачалі! Гэтага толькі не хапала!

Прызнацца, і ён хварэў, як тады казалі, на «люксембургізм» — недаацэнку нацыянальнага і сялянскага пытанняў. Хіба нацыянальнасць мае значэнне? Ці тое, што ты селянін? Усіх аб'ядноўвае адна ідэя, і хіба не здрада ўсё гэта ёй, адной, ідэі? Ну, яснае дзела, селянін-уласнік, не прале-

тарый, але ж і ён можа адмовіцца ад уласнасці і стаць у строй барацьбітоў! Гэта з тэарэтычнага пункту гледжання, а з практычнага?

Сам Кляновік перш за ўсё адчуваў сябе чалавекам ідэі, яго жыццё знаходзілася ў распараджэнні партыі. І ён лічыў сябе агітатарам, арганізатарам мас, важаком! А як інакш? Толькі рэвалюцыйная дзейнасць можа апраўдаць наша існаванне на гэтым свеце. Што ён без рэвалюцыі? Нішто. Ён прырос да партыі, да ідэі, да работы па яе рэалізацыі, а яны? Хто яны — такія, як Лявон? Так... Сыры матэрыял. Народ — ён яшчэ народзіцца, а ідэя, яснае дзела, адна.

Што народ? Ён, калі на тое пайшло, быў абсалютна перакананы, што ёсць людзі вышэйшага і ніжэйшага гатунку. Ніжэйшыя — а іх большасць — створаны дзеля таго, каб вышэйшыя вялі іх да мэты. Залішне давяраць ніжэйшым не варта. Гэта ж стыхія, натоўп, сёння ён цябе кумірам зробіць, а заўтра павесіць!

Аднекуль данёсся пах ворнай зямлі, ці гэта толькі здалося, але Кляновікавы думкі пераключыліся на Лявона.

«Эх, Лявон, Лявон. Бяскрыўдны мужычок... Бяскрыўдны і наіўны. Сімпатычны і яшчэ раз наіўны. Наіўныя людзі гавораць тое, што думаюць. Сяляне. Калі падумаць, то невядома — клас гэта ці не клас. Можа, і не клас. Клас — гэта нешта вялікае ў сваёй галечы і адначасова ў сваёй бескарыслівасці і высакароднасці».

Ён адчуваў у сабе дыханне гэтага вялікага класавага акіяна, сваю сувязь з ім і растворанасць у яго безбярэжнасці. Ён усведамляў свой абавязак накіроўваць гэты акіян, надаваць арганізацыйныя формы яго хаатычнаму руху...

Прачнуўшыся і ўспомніўшы, дзе ён, супакоіўся і зноў заснуў...

* * *

Кляновік з'яўляўся камісарам 2-й Украінскай брыгады 15-й стралковай дывізіі экспедыцыйных войск 9-й арміі, калі Лявон, вяртаючыся з бежанства дадому, сустрэў яго ў Цвяткове. Удзельнічаў у аперацыях на Паўднёвым фронце, змагаўся з Урангелем і пятлюраўцамі. Пасля грамадзянскай марыў вярнуцца на Прэсню, на завод «Пролетарский труд» (так пачаў называцца былы завод Цільманса), але вярнуцца не атрымалася. Калі вятры сусветнай рэвалюцыі падзьмулі на захад і пачыналася польска-савецкая вайна, яго адклікалі з Паўднёвага фронту ў Маскву, дзе Кляновіка, аднак, чакала не родная Прэсня (калісьці тут яго прымалі ў партыю), а Камуністычны універсітэт імя Свярдлова. Ён не згаджаўся, каб не ўпусціць пэўных службовых шансаў, але ў яго нават не пыталіся: загад ёсць загад, і праз тыдзень ён апынуўся на гэтых кароткатэрміновых курсах, якія называліся Свярдлоўскім універсітэтам.

Такіх, як ён — «з Польшчы», — было не так і шмат. Людзі мяняліся, адны прыбывалі, другія кудысьці знікалі, накіроўваліся на фронт ці на іншую якую-небудзь работу, бо ў рэвалюцыі клопатаў шмат. На той час ужо дзейнічаў Камінтэрн. Родным, сваім ведамствам для Кляновіка было ГРУ, а цяпер яго паклікалі яшчэ і ў Камінтэрн, які моцна быў асаджаны ў ГПУ. Працавалі ўсе гэтыя ўстановы як бы і на адлегласці, але рабілі адну справу — разам раздзьмухвалі касцёр сусветнай рэвалюцыі. Нягледзячы на ідэйную роднасць, у чарговы раз (бюракратыя — рэч непераможная) давялося запаўняць «асобую» анкету, падрабязна выкладаць бія-

графію, даваць патрабуемую падпіску. У анкеце сярод іншых пытанняў (іх было некалькі дзесяткаў) стаяла: «Вашы адносіны да Польшчы». Ён напісаў: «Классовый враг мирового пролетариата».

Пасля афармлення неабходных дакументаў адразу ж камандзіравалі — на Захад, у Мінск. Інструктаж праводзіў Будзінскі. Падначалены запамінаў. Памяць у Кляновіка глыбокая і ёмістая — запісамі і накідамі не карыстаўся. У Камінтэрне далі з сабой дзесяць тысяч злотых. Начфін камінтэрнаўскай службы Іосіф Пятніцкі, амаль да крыўднага, папярэджваў: «Глядзі, каб у дзела ўсё!» Як быццам ён куды на пагулянку ехаў. Ці ведаў Іосіф Пятніцкі (а можа, і здагадваўся?), што яго «кліент» з'яўляўся не толькі пасланцам Камінтэрна, але яшчэ і рэзідэнтам галоўнага разведупра. Адзін у двух асобах. Так трэба!

У 1922—1923 гадах работа бальшавікоў на занятай польскімі войскамі тэрыторыі ішла па двух накірунках: узмацненне ўплыву на масы і арганізацыя дыверсійных атрадаў. Задачай Кляновіка была арганізацыя ячэек КПЗБ у трэцім акружкоме, на Брэстчыне, г.зн. у Палескім ваяводстве, згодна з польскім адміністрацыйным дзяленнем. Работа тонкая, адказная і небяспечная. Усіх разам не збярэш — канспірацыя. Член ячэйкі ведаў сваіх таварышаў і не мог ведаць членаў іншай ячэйкі. Старшыня ячэйкі кантактаваўся з кіраўніком раёна, акружкома. Структура, амаль як у масонаў. Кур'ер ведаў толькі таго члена райкома, якому ўручаў пошту і ў якога атрымліваў яе.

Даводзілася шукаць апоры ў розных гарадах і вёсках, якія былі патрэбнымі і карыснымі ў яго сакрэтнай дзейнасці. Гэта было для Кляновіка тым, што потым назавуць школай рэвалюцыйнай творчасці, цесна і арганічна звязанай з інтарэсамі Камінтэрна і Галоўнага разведупра.

Тут, на захадзе, пасля савецка-польскай вайны ішла зацяжная і жорсткая партызанская барацьба. У паўднёва-заходняй частцы Беларусі актыўна развіваўся партызанскі рух, якім кіраваў урад БНР, што знаходзіўся ў Коўне. У Белавежскай пушчы дзейнічалі атрады, якія падпарадкоўваліся гэтаму ўраду. Утварылася па сутнасці паўстанцкае падполле, якое вяло барацьбу з мэтай стварэння беларускай дзяржавы, федэратыўна звязанай з Літвой. Гэта была канцэпцыя Ластоўскага — лідэра ковенскіх урадоўцаў. У верасні 1921 года па ініцыятыве Ластоўскага ў Празе адбылася Усебеларуская нацыянальна-палітычная нарада па абмеркаванні беларускага пытання, што ўзнікла пасля нядаўняга заключэння Рыжскага міру і падзелу Беларусі на Усходнюю і Заходнюю. Пасля гэтага на тэрыторыі Белавежскай пушчы і прылеглых раёнаў пачала дзейнічаць Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя. Кіраваў ёю ўсё той жа ўрад БНР з Літвы, з Коўна. Памножыліся выпадкі, калі леваэсэраўскія баявыя дружыны, за якімі стаяла Коўна, супрацоўнічалі з прасавецкімі камуністычнымі атрадамі. Нядаўна — Кляновік пра гэта ведаў — падпалілі склад будаўнічых матэрыялаў у пушчы, смалакурню каля Чаромхі. Забілі паліцыянта ў Кляшчэлях і зброю забралі. Гэта была работа няйначай як Скамароха.

У сакавіку 1923-га прадстаўнікі беларускіх партый (у тым ліку і тых, што ўваходзілі ў склад эміграцкага ўрада БНР) падпісалі ў Мінску пагадненне з урадам БССР пра падрыхтоўку ўзброенага паўстання ў Заходняй Беларусі. Але і Маскву, і Мінск надта палохала цэнтралізацыя беларускіх нацыянальных (ці нацыяналістычных, як там казалі) сіл. Бальшавікі ставілі задачу падпарадкаваць гэтыя сілы сабе або, на крайні выпадак,

хаця б абясшкодзіць іх. Каму-каму, а рэзідэнту гэта было добра вядома, і Кляновік быў проста нястомны. Ён кіраваў партыйнай і баявой работай у партызанскіх атрадах ужо некалькі гадоў (да арышту). Пастаянна хадзіў на сустрэчы з партызанскімі камандзірамі Кірылам Арлоўскім, Васілём Каржом, Станіславам Ваўпшасавым, Аляксандрам Рабцэвічам і інш. Дабраўся нават да Мухі-Міхальскага. Сустрэчы адбываліся ў Белавежскай пушчы, у Пінскіх балотах, каля возера Выгонашчанскага, у раёне Маладзечна. Баявыя групы канспіратыўна дзейнічалі ад Брэста да Беластока і ад Варшавы да Вільні. Трэба было ведаць, што робіцца на гэтай «трэфнай» тэрыторыі. Гэтага патрабавалі шэфы з аддзела міжнароднай сувязі Камінтэрна — Будзінскі і іншыя. У Мінску сядзелі іх прадстаўнікі — Багуцкі і Славінскі. Апошні ўзначальваў так званае Бюро дапамогі Заходняй Беларусі. З імі Кляновік кантактаваў непасрэдна.

У Камінтэрне мыслілі вялікімі маштабамі. Дзіва што! Напіналася новая рэвалюцыйная хваля ў Германіі. У Гамбург, дзе рыхтавалася паўстанне — Кляновік дакладна ведаў, — з Масквы камандзіравалі вядомых рэвалюцыянераў — Ларысу Рэйснер і Карла Радэка. Ларыса ехала туды з дакументамі польскай графіні, а Радэк — адзін з правадыроў Камінтэрна — суправаджаў яе ў якасці сакратара. «Падшукалася парачка! — думаў Кляновік. — Зблыталі справу з ледзь прыхаванай распустай... Але што рабіць? Каб рухаць справу наперад, у сродках разбірацца не даводзіцца...» Праўда, менавіта ў час знаходжання Радэка ў Германіі былі забіты Роза Люксембург і Карл Лібкнехт — гэта Кляновіка насцярожвала. Зрэшты, думаць не было калі.

Трэба было спяшацца, мацаваць адзіны фронт. Як рэзідэнт Галоўупра і сакратар Брэсцкага акружкома Кляновік імкнуўся стварыць свой апарат. Мысліў маштабна. Брэсцкай акругай, вядома, не абмяжоўваўся. Для гэтай мэты сабраў групу надзейных людзей, у якую ўваходзілі Валодзя Шандрук, Сільвестр Касінскі, Марыя і Ігнат Лісакі, Аляксандр Саванеўскі, Антон Цыбуля, Паша Дмітрук, Іван Ходан, Карп Кузько, Даша Панкова, Рубінчык, Захар Грашкоўскі, Андрэй Ганчарук, Мікалай Кулік і многія іншыя, якія адно пра аднаго нават не ведалі. Целаахоўнікам пры Кляновіку, калі ён ішоў куды па заданні, быў Шэрашавец з-пад Камянца. Найхутчэй, псеўданім. Работа не лёгкая, рызыкоўная, вымагала шмат сіл — і фізічных, і духоўных. Шэфу падпарадкоўваліся поўнасцю і безагаворачна. Гэта не тое, што Радэк з Ларысай.

Цяпер яго цікавіў Скамарох, з якім неадкладна трэба было ўбачыцца. Зашчаміўся недзе ў Белавежскую пушчу, самаўпэўненым залішне стаў, незалежным...

* * *

Спаў Кляновік да раніцы. Калі прачнуўся, пачуў пах свежага малака. Ці гэта яму толькі здалося? Прынюхаўся: «Так і ёсць, гаспадыня падаіла карову». Не спяшаючыся, злез з гарышча, апынуўся ў сенях. Дзверы на кухню былі прыадчыненыя. Гаспадары, відаць, чакалі гэтага моманту. Фёкла нарэзала сала, кінула яго на скавараду і паставіла на пліту. Калі сала заскварчэла, узбіла туды тры яйкі.

Прускаўская раніца іскрылася вугалькамі, якія жанчыны пазычалі ў суседак і ў гаршчочках неслі ў свае хаты, каб распаліць у печы. Над комінамі падымаліся дымы.

Мыўся Кляновік у кухні над цэбрам. Гаспадыня падала ручнік. Баялася, каб не забрыў хто чужы і не ўбачыў пастаяльца. Чутно было, як у канцы вёскі сварыліся Ламакі — Апраска і Пятро. «А каб на цябе халера! — крычала Апраска. — Каб табе вочы пазапухалі! Каб ты нічога не бачыў!» Госць услухаўся:

— За што гэта яны?

— Размінаюцца з раніцы, — пасміхнуўся Лявон, але госць заставаўся сур'ёзны. Ён па-свойму расцаніў сварку:

— Гэта, браце, беднасць прымушае людзей сварыцца, — зазначыў ён, выціраючы твар і рукі ручніком.

— Не беднасць, а чорт! — сказала Фёкла, ставячы скавараду на стол.

Кляновік пасміхнуўся, зачарпнуў з вядра кубак халоднай вады, выпіў.

— Смачная вада ў вашым калодзежы! — пахваліў ён.

Сталі садзіцца за стол. Перад тым як есці, гаспадар і гаспадыня перахрысціліся. Госць гэтага як бы не заўважыў. Фёкла — жанчына бойкая:

— А вы ў Бога верыце? — пацікавілася яна.

Лявон паглядзеў на жонку з дакорам: «Дзе, маўляў, твая тактоўнасць, гаспадыня?»

— Не, — адмоўна пакруціў галавой Кляновік і натапырыў вусы.

— Чаму?

— Таму што, яснае дзела, яго няма. Хто яго бачыў?

Наступіла хвіліна нялоўкага маўчання.

— Ну, можа, бачыць не бачылі, але ж ён ёсць. Не такі ён, каб нам, грэшным, паказвацца, — як бы ўслых падумала Фёкла.

— У мінулым годзе і ў нас тут выбары былі, — сказаў Лявон, каб памяняць напрамак гаворкі.

Зноў падала голас Фёкла:

— Партый шмат, — паскардзілася яна, — разабрацца сярод іх звычайнаму чалавеку цяжка. Як некалі ў Расіі...

Госць усміхнуўся:

— А што ў Расіі?

— То бальшавікі, то эсэры, то белыя, то красныя, то нархісты нейкія. Сёння — адны, заўтра — другія, паслязаўтра — трэція...

— Я пра гэта ведаю. Ну, цяпер там бальшавікі. Канешна, трудна ім — разруха. Аднак праз гадок-другі ўсё стане на места. Будзе — как нада!

Лявон з Фёклай нічога не адказалі.

Госць з'еў сваю порцыю яечні, запіў малаком, падзякаваў.

Ён мог бы расказаць, што і тут, у Заходняй Беларусі, створана ўжо, нядаўна, праўда, свая камуністычная партыя, якая распачала работу, згуртоўвае шэрагі барацьбітоў, ладзіць паўстанне, але па вядомых прычынах змаўчаў. Адвёўшы вочы ўбок, як бы штосьці ўспамінаючы, ён сказаў:

— Я ж, браце, таго салдаціка помню!..

— Якога салдаціка? — не зразумеў Лявон.

— За якім жандар бег з наганам у Брэсце, у крэпасці. Здзекаваўся!

— Успамінаю, успамінаю...

— Дык вось я таго жандара зноў сустрэў. Ажно ва Уладзівастоку!

— Няўжо?

— Страшны чалавек! І прозвішча ў яго адпаведнае — Гадаў!.. Але справа не ў гэтым. Я хачу сказаць, што павінен жа нехта бараніць простага чалавека ад прыгнятальнікаў, ад гэтых Гадавых! Вядома, просты чала-

век — дурны і сляпы, як цяля. Але — што зробіш? — любім мы яго і такога, наіўнага і нягеглага. І паглядзіш, як мы моцна возьмем яго за рукі і павалачом да шчасця!

Гаспадар і гаспадыня ўважліва слухалі, не перабівалі.

— Вядома, ёсць такія, хто з намі не згодзен. Адны па сваёй спрадвечнай цямноце, другія — свядомыя нашы класавыя ворагі. Адных мы паспрабуем пераканаць. Не можа быць, каб разумны ад прыроды чалавек не зразумеў праўды. З другімі, мусіць, давядзецца быць стражэй...

Лявон з Фёклай маўчалі, сачылі за тым, што гаварыў госць.

— Вельмі важна, братка, пад чыім уплывам будзе чалавек, — уздыхнуў Кляновік.

— Дык так, чаго добрага, і ў турму можна трапіць... — занепакоілася Фёкла.

— Можна, — згадзіўся госць, як бы нешта ўтаіўшы. Можа, тое, што сам ён больш за ўсё баяўся страціць волю і трапіць у турму. Пасадзяць, а то і наогул заб'юць, — і ўсе пра цябе забудуць, нікому ты не будзеш патрэбен... Турму ён ведаў, бо не раз туды трапляў.

Фёкла пазірала на госця зажуранымі вачыма.

— Нічога, іншыя на волі застануцца, справа будзе працягвацца! — як бы запэўніў Кляновік і бадзёра пракашляўся.

Зноў, каб перавесці размову, Лявон спытаў:

— А сям'ю маеш?

— Ёсць, — менш пэўна адказаў госць.

Фёкле прыгадалася, што калісьці казаў брат Міша, якога ўсе ў Запалонным лічылі «парцейным»: «Любіць можна толькі тада, када ўсе будуць раўны». «Напэўна, і госць гэтак лічыць», — падумала яна.

Кляновік апусціў галаву, упёршыся вачыма ў гліняную падлогу, а потым, павярнуўшыся да Лявона, запэўніў:

— Ёсць і сям'я!.. — і дадаў: — Рэдка бачымся. Жыццё такое...

Лявон ведаў, што лезці ў чужое жыццё, насуперак жаданню чалавека, не варта, і змоўк. Госць таксама прымоўк, як бы нешта думаў ці ўспамінаў.

Гэта былі нядаўнія ўспаміны — калі ён толькі-толькі вярнуўся з Масквы. Напачатку наведаў родную вёску. З цягніка сышоў у Жабінцы. Ішоў усю ноч і каля бацькавай хаты з'явіўся пад раніцу, калі пачуліся першыя птушыныя галасы. Ён слухаў і гэтыя галасы, і біццё ўласнага сэрца, а яно ніяк не магло супакоіцца, увайсці ў норму. Хоць ты яго выкінь куды-небудзь! Колькі часу сядзеў пад бярозай, на лавачцы. Нарэшце супакоіўся, падышоў да дзвярэй, ціха адчыніў, пераступіў парог і апынуўся ў сенях. Прывычна запахла бульбяным шалупіннем, паранкай і яшчэ нечым. Па сценах віселі пучкі нейкіх траў, галінкі рабіны, засушаны дзівасіл. У кутку стаяў цэбар, у якім размешвалася паранка для свіней. Тут жа, у сенях, знаходзіліся дубовыя жорны, навокал якіх панаваў дух мукі і вотруб'я. «Нічога, здаецца, не памянялася, так вось і жывуць», — падумаў ён і намацаў знаёмую клямку, каб адчыніць дзверы ў хату. Першай прачнулася і ўгледзела сына маці. Доўга плакала. Абдымаючы яе, нечакана для сябе, адчуў шчымлівую пяшчоту і шкадаванне, адчуў матчын пах.

Крыху пажыў дома. Маці кожнага разу, расказвала, калі наведвала царкву, ставіла па ім свечку. Дома ўбачыў усё тую ж галечу, нястачу, беднасць. Убогасць сямейнага побыту прыгнятала. Чаго ён не любіў — гэта патрыярхальнасці, таго, што, на яго погляд, устарэла, што трэба было ла-

мацы. Каля сямейнікаў доўга не затрымаўся. Трэба было ў Брэст. Па дарозе выраршыў наведаць у Прусцы Лявона...

Лявон з Фёклай не перашкаджалі яго думкам.

## XIII

Далей Кляновік накіроўваўся да Берасця. Трэба было адвезці яго на станцыю ў Лышчыцы. Лявон выйшаў з хаты, каб запрэгчы каня. На вуліцы сустрэў Гамона.

— Ну што, картоплі ўжо выбраў? — каб неяк прывецiць чалавека, спытаў Лявон.

— А я, як Бог, — ашчэрыўся Гамон, — шэсць дзён адпрацаваў, на сёмы адпачыць трэба.

Кужаль успомніў, што некалі чуў нешта падобнае ад запалонаўскага Фролкі, які жорстка расправіўся з сваім былым гаспадаром Мілягіным і сам загінуў у полымі грамадзянскай вайны.

Настрой у Гамона не благі. Паспеў і атаву скасіць, і бульбу выбраць. Жыць, што ні кажы, стала лепш — увосень, як кажуць прускаўцы, і верабей багаты.

Кляновік выйшаў з хаты, ужо калі гаспадар запрог каня і пад'ехаў да веснiц. Спрытна ўскочыў у воз, і яны выехалі за вёску. Цягнулася, блішчэла на сонцы павуцінне. За даляглядам віднеліся цёмныя зубкі лесу. Паўсюль панаваў нейкі асаблівы, невытлумачальны смутак.

— Той самы конік? — пацікавіўся Кляновік.

— Той самы.

Праехалі сядзібу пана Падгурскага. На панскіх палетках капалі бульбу. Кляновік кіўнуў галавой убок капальшчыкаў:

— Што ён ім плаціць?

— Каму — грашыма, каму — картоплямі. У нашага пана шмат не заробіш.

Кляновік нічога не сказаў. Асенняя свежасць халадзіла твар, лёгка дыхалася. Ляцелі ў вырай журавы — неслі на крылах бабіна лета. Хутка маглі пачацца і замаразкі. Лявон усё думаў пра прыяцеля, што сядзеў побач. Мясцовае жыццё хоча перарабіць. Да лепшага. А якое яно — лепшае? У чым яно? Паспрабавалі ў Расіі, а што атрымалася? Свет хочуць ашчаслівіць. Хай бы пра людзей думалі.

Андрэй, Андрэй... Бадзяешся ты, дружа, па людзях і сам пакутуеш! А зрэшты, што такое жыццё чалавека, як не вечнае падарожжа? Можа, у гэтым і сэнс жыцця? Хто яго ведае, у чым ён — сэнс. Чым больш думаеш пра жыццё, тым менш разумееш яго сэнс...»

Воз гушкала на калдобінах, і тады фурман крыху прыцішваў коніка, азіраўся навокал. Паабапал дарогі кусцілася густая кастрычніцкая рунь, ціха шумелі вербы. Пад'ехалі да Рудаўца — так называўся хутар за Прасцяніцай. У Рудаўцу пасяліўся асаднік. Лявон сказаў пра гэта седаку.

— Каланізатар! — раздражнёна пракаменціраваў той.

Лявон ведаў, што азначае гэтае слова і што каланізацыя края адбываецца праз асаднікаў.

— Зямлю раздадзім задарма! — зноў адгукнуўся Кляновік, нібы пачуўшы думкі сябра. — Зробім, як у Расіі! Там памешчыкаў проста турнулі, ды і ўсё! І разгаварваць з імі не сталі!

Вазакі кульнуліся на глыбокай калдобіне, але воз захаваў раўнавагу. Напалоханы шумам, з-за мяжы выскачыў заяц і стрымгалоў кінуўся ў поле.

— Пабег, як партызан, — пажартаваў Лявон, але, мусіць, не надта ўдала, бо адчуў, што Кляновіку гэта не спадабалася. Той, аднак, стрымаўся, а потым раптам спытаў:

— Дарэчы, пра партызан у вас не чутно?

Лявон чуў, што як быццам у Пруску заходзілі людзі Скамароха, але сам іх не бачыў.

— Чуткі ходзяць...

Сам Скамарох са сваім штабам, казалі, атабарыўся недзе ў Белавежскай пушчы. Пра гэта Лявон сказаў сябру — больш нічога дадаць не мог.

Кляновік ведаў пра Скамароха нашмат больш. Ведаў, хто ён, чым займаецца, што сабой уяўляе. У некаторых вёсках напагатове былі яго «сямёркі». Палякі называлі скамарохаўцаў «выўратоўцамі», гэта значыць бунтаўшчыкамі, якія вялі падрыўную дзейнасць. Дзейнічаў бяспровадны сялянскі тэлефон, і «выўратоўцы», пабраўшы зброю, хутка збіраліся «да купы» і праводзілі «эксы». Скамарох быў з тых, хто, як тады казалі, якраз і займаўся «актыўкай». Нярэдкімі былі сутычкі з паліцыяй...

— У адным месцы людзі падымуцца, а ў другім? — як бы сам сабе сказаў Лявон.

— У тым-то і справа, — заклапочана ўздыхнуў Кляновік.

Хутка, за Астромічамі, была станцыя, да якой яны ехалі, — Лышчыцы.

— Я калі з Амерыкі вяртаўся, дык з Берасця да Лышчыц дабіраўся, а потым гэтаю дарогай — дадому, — сказаў Лявон, каб не маўчаць, але сусед на гэта нічога не адказаў. Думаў, відаць, пра нешта сваё.

Лявон працягваў:

— Нешта не чутно, каб у Амерыцы якая-небудзь рэвалюцыя была?..

Пытанне было досыць рызыкоўным, і Лявон усведамляў гэта, баючыся, каб сябар не пакрыўдзіўся. Але Кляновік толькі ўсміхнуўся:

— Я бачу, ты сваёй Амерыкай захоплены, а мы зробім жыццё лепшым, чым у Амерыцы! Папомніш маё слова!..

Фурман толькі плячыма паціснуў:

— Дай Бог!

— У Савецкім Саюзе, каб ты ведаў, Лявоне, новы чалавек нараджаецца! Гэта ж здорава! Падумай толькі — новы чалавек! Я кажу пра гэта і чую, як дрыжыць голас! Плакаць ад шчасця хочацца! Там, брат, роўнасць паміж людзьмі — усе аднолькавыя. Энтузіязм небывалы! Сам бачыў, як на дэманстрацыі калона сляпых спявала «Інтэрнацыянал» і несла лозунг: «Да здравствует труд слепых!» А тут? Наверсе паны, а мы пад імі! Не, я не я буду, калі не змяню гэта...

Лявон павярнуўся да сябра і ўважліва на яго паглядзеў. У галаве мільганула думка: «Высока ты лётаеш, дружа, ой высока...»

Кляновік відавочна быў узрушаны тым, пра што гаварыў. Пацямнелі пад густымі бровамі вочы, вусны сцісnуліся і натапырыліся вусы. Потым погляд яго пацяплеў, і ён неяк яшчэ больш ажывіўся.

— Наступныя пакаленні будуць жыць, як у раі. Можа, і працаваць чалавеку не трэба будзе! — у голасе Кляновіка Лявону пачулася адценне нейкай мройлівасці, летуценнасці.

— А хто ж за яго працаваць будзе? — усумніўся Лявон, цмокнуўшы на каня, каб хучэй рухаўся.

— Сонца!

— Хто?

— Сонца! Што ты на мяне так глядзіш? Не верыш? Эх ты, Фама нявеtoday! Пры камунізме, таварыш ты мой дарагі, усё само сабой будзе расці! Сонечныя ветракі дадуць энергію — змелюць муку, сагрэюць і напояць. Адкуль энергія? Ад сонца!

Кляновік па натуры сваёй шчыра цікавіўся навукай і навуковымі пытаннямі і любіў думкамі забягаць у далёкую будучыню.

Лявон адвёў вочы ўбок, нічога не адказаў. «Няўжо гэта і сапраўды так будзе?» — падумаў ён.

— Мы ведаем, што трэба чалавеку! — працягваў разважаць Кляновік. — Так! Сілу мы возьмем ад сонца. Сонца будзе свяціць і грэць і днём, і ноччу! Троцкі казаў: мы навучымся перасоўваць рэкі і горы, узводзіць народныя палацы на вяршыні Манблана і на дне Атлантыкі. І гэта правільна! Навука ўсё зробіць — і накорміць, і напоіць! І настрой будзе адпаведны — вясёлы! Гэта будзе калектыў вясёлых людзей! Сапраўдны рай, толькі не на небе, а на зямлі! Але за гэта трэба змагацца, ды не аднаму, а ўсім! Разам! Трэба, каб рускія, а з імі беларусы і іншыя народы дайшлі да самай высокай тэхнікі амерыканцаў, а амерыканцы хутчэй пазбавіліся ад крыважэрнай буржуазіі і засвоілі наш светапогляд, сталі свядомымі. У тым свеце, які мы збудуем, не будзе ўціску, не будзе месца злу, гвалту. Лявоне, памятай: дзеля гэтага мы нічога не пашкадуем!..

Кужаль маўчаў. У ім усё больш мацнела адчуванне, што Кляновік — гіпнатызёр, які імкнецца сваёй моцнай воляй укласці ў яго галаву новыя, нязвыклыя і непамысныя, думкі і спадзяванні.

— Паглядзіш! Мы вызвалім чалавека ад хвароб, палепшым яго прыроду, пароду і нават смерць прымусім адступіць! Не верыш? Мёртвых ажывім! Так, ажывім! Гэта будзе, калі хочаш, новая папуляцыя, новы, чысты, стэрыльны чалавек!

— Але ж кажуць, што зло і жорсткасць сядзяць у нас унутры і лепш за ўсё не чапаць іх, — як бы самому сабе сказаў прускавец.

— Ну, гэта не так. Хіба мы з табой — ты ці я — жорсткія? Ды мы ў любой бядзе дапаможам!

— Дык не ўсе ж аднолькавыя. Ёсць такія, якія хочуць жыць самі па сабе...

— Убаку хочаш стаяць. Мая хата з краю? Але ж каму ты патрэбен — адзін? Каму?

— Ну, вядома, калі ты толькі за сябе, то, яснае дзела, мала каму патрэбен. Тут я з табой згодзен.

— Вось я пра гэта і кажу! Баюся я, дружа, каб мы з табою па розных баках барыкады не апынуліся... — у словах Кляновіка пачулася нейкая як бы пагроза.

— Ну, такога не можа быць! Я не такі...

— Я ведаю, таму табе і расказваю, бо каму іншаму не казаў бы...

— Дзякую. Мы, сяляне, да свайго прыкутыя. Як падумаеш: гаспадарка, сям'я, жонка, дзве сястры, якіх замуж аддаваць, пасынак!.. — прамовіў Лявон, але сябар, захоплены сваімі ідэямі, відаць, не пачуў. — Апроч таго, паводле знакаў задыяка, я Рак. Рак — паўзе задам напярод і дрэнна бачыць, што наперадзе.

— У наш час трэба бачыць! — схапіўся пасажыр, высока ўзняўшы правую руку з адтапыраным угору ўказальным пальцам.

— Можа, і так.

— Мы пабудуем свет, якога яшчэ не было! А маштабы якія! Галава кружыцца! Нічога страшнага, калі ў агні сусветнага пажару згарыць чыясьці маленькая хатка. На яе месцы стане палац!

Фурман скептычна маўчаў, як бы не верыў.

Кляновік паглядзеў на яго ўважліва, хоць з пэўным незадавальненнем:

— Не верыш? Эх, дзівак!

— Ты, Андрэй, і сябе не шкадуеш і нікога не шкадуеш... Ты жадаеш людзям дабра — у гэтым я не сумняваюся, але тваё дабро нейкае бязлітаснае.

— Сябе я не шкадую. Гэта праўда, — прызнаўся пасажыр.

Далей яны ехалі моўчкі. Кляновік глянуў на гадзіннік: хутка дванаццаць. Каб не спазніцца на цягнік, фурман прыцмокнуў на каня...

Потым ён доўга разважаў над словамі свайго даўняга прыяцеля, над яго апантанасцю. Ёсць жа пэўны лад жыцця, звычаі, традыцыі, прывычкі ўрэшце. Як без гэтага? Ён раптам падумаў, што Кляновік у чымсьці такі ж арыгінал, як і Кузёмка, а можа, яшчэ і большы. Але нічога: жыццё ўсіх ставіць на месца.

У Лышчыцах яны развіталіся. Андрэй сеў на брэсцкі цягнік, і сябар памахаў яму ўслед.

* * *

Вагон быў амаль пусты, і Кляновік даехаў без прыгод. На брэсцкім вакзале наняў рамізніка да Трышына — так называлася адна з прыгарадных вёсак па шашы на Маскву. Церусіў, як праз сіта, дождж. Набліжалася асенняя слата. Рамізнік падняў верх каляскі, і Кляновік у думках ухваліў яго клопат аб седаку: на вуліцах там-сям сустракаліся постаці паліцыянтаў у сініх накідках. Брэст ён ведаў. У жніўні 1919-га горад заняла Чырвоная Армія і на працягу амаль трох тыдняў, з 1 па 19 жніўня, была ўстаноўлена савецкая ўлада. Тады і ён збольшага папрацаваў, кіруючы толькі што ўтвораным Брэсцкім акругкомам РКП(б).

Ён не без цікавасці пазіраў на шыльдачкі з назвамі вуліц. Першае, што тады яны зрабілі, — памянялі назвы вуліц. Цяпер тых назваў не было, былі іншыя, новыя: Jana Sobeskiego, Zygmuntowska, Aleja Niepodleglosci…

Зрэдку, абганяючы рамізніка, праязджалі аўтамабілі замежнай вытворчасці, пакідаючы за сабой клубы цёмна-шэрай гары.

У Трышыне ён злез з каляскі, расплаціўся з рамізнікам, падняў каўнер світкі, глыбей насунуў кучомку і рушыў па знаёмым адрасе. Дзверы адчыніў малады мужчына. Ён з'яўляўся гаспадаром гэтай звычайнай трышынскай хаты, што стаяла ў глыбіні двара, атуленая з усіх бакоў садовымі дрэвамі.

— Добры дзень! — усміхаючыся, Кляновік прыжмурыў вочы і пераступіў парог.

— Добры дзень! — узрушана адказаў гаспадар. Кляновіка пазнаў адразу, як і той яго. Павіталіся і, не стрымаўшыся, абняліся, хоць Ігната (так звалі гаспадара) Кляновік не любіў: недалёкі.

— Распранайцеся! — гаспадар хацеў быць гасцінным. — Вешайце сюды.

Госць распрануўся, павесіў світку на цвік і агледзеўся. Хата выглядала ўтульна. Адчувалася прысутнасць жаночага вока і жаночай рукі. На вокнах герань, фікусы і ружовыя фіранкі з новага паркалю. У кутку, на невысокім буфеце, стаяў пышны, разгалісты кактус з тоўстымі галінамі-лісцямі нейкага сіняватага адцення. Уся хатняя абстаноўка мела хутчэй гарадскі, чым вясковы выгляд. Гаспадар — малады чорнавалосы мужчына, апрануты і абуты па-гарадскому: у недарагім касцюме і начышчаных чаравіках.

— А яна дзе?

— Недзе ў горадзе, па справах.

Гаворка ішла пра гаспадыню — Ігнатаву жонку Марыю.

— Як даехалі? — спытаў Ігнат.

— Нармальна. Ніхто не чапляўся.

Кляновік прысеў на лаўку, кінуў вачыма на абраз, што стаяў на покуці.

— Ціха тут у вас.

— Гэта — у Трышыне. А ў горадзе перапалох — ваеннага касіра забілі, паручніка нейкага, і грошы забралі.

— Хто забіў?

— Кажуць, Муха нейкі.

— Муха?

— Пры ім яшчэ Чарна дама была.

— Хто?

— Чарна дама.

«Чарна дама» — у Кляновікавай галаве мільганула думка пра Скамароха і Лізавету: — Можа, яны? Але ж драбнавата для іх. Нейкі касір...»

— Некаторых арыштавалі!

— Шукаюць, відаць.

Паўз вокан хтосьці прайшоў — Кляновік пазнаў Марыю. Дзверы адчыніліся, і яна ўвайшла ў пакой. Госця заўважыла адразу, зачапіўшыся за яго сваімі вялікімі, як слівы, зеленавата-сінімі вачыма.

— Добры дзень! — кінулася яму на шыю.

Яны павіталіся. Марыя была ўсхваляваная. Пульхныя вусны заўсміхаліся, беленькія шчочкі пакрыў сарамлівы румянец, на іх ад ўсмешкі паявіліся пацешныя ямачкі. Яна зняла плашч, зрабіць гэта дапамог Ігнат, а потым капялюшык. Кляновік звярнуў увагу на валасы — хвалістыя і залацістага колеру. Яму і на гэты раз цяжка было адвесці ад яе вочы — такой яна здавалася яму прыгожай.

Гэта і сапраўды была жанчына рэдкага хараства — высокая, стройная і абаяльная. Яго вабіла ў ёй жаноцкасць яе аблічча і ўсмешлівасць, хвалявалі прыгожыя пульхныя вусны, нешырокі, энергічны рот, доўгія махнатыя вейкі. І апранута з густам — у чырвоную паркалёвую блузку, якую тапырылі поўныя, высокія грудзі, і блакітную спадніцу з белымі пасачкамі. На доўгіх нагах туфелькі з высокімі абцасамі. Так яна выглядала, Марыя Лісак, — яго сувязная. Працавалі разам даўно, яшчэ з феадасійскіх часоў.

— Ну, што тут у вас, якія навіны? — твар шэфа таксама памякчэў, разгладзіўся і стаў спакайнейшы.

Красуня села з другога боку стала, прапраўіла валасы за вушамі.

— Есць сувязь з некаторымі людзьмі, — як бы пахвалілася яна.

— З Мертэнсам?

— Не, пра яго нічога не чутно. Я пра іншае: з Лізаветай бачылася.

— З Лізаветай?

Лізавета — жонка Скамароха і адначасова сяброўка Марыі.

— Ну і што яны?

— У пушчы яны цяпер. Партызаняць. Правялі некалькі эксаў. Гэта зрабіла ўражанне.

— Зразумела.

— Разграмілі паліцэйскі пастарунак у Кляшчэлях. Гэта мястэчка такое, за Высокім, некалькі панскіх маёнткаў, палац князя Друцкага-Любецкага, узарвалі чыгуначны мост. Яшчэ адзін паліцэйскі ўчастак збіраюцца патрывожыць...

— Ого!

— Газету выдаюць. «Беларускі партызан»

— Здорава! Малайцы! Газета — гэта добра.

— Падтрымлівае адносіны з урадам Ластоўскага ў Коўне.

Госць насцярожыўся, твар яго стаў сухі і афіцыйны.

— З Ластоўскім?

— Лізавета неяк прагаварылася.

Кляновік нічога не адказаў.

— І яшчэ: Ілючонак гэты паўсюль круціцца...

— Пятро?

— Ён самы. Ніяк не магу зразумець, хто ён такі. То ён у Вільні, то ў Гродне, то ў Баранавічах.

— Яго БРА[1] цікавіць.

Гаворка зайшла пра нядаўна створаную Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю, якая складалася з былых эсэраў. Кляновік ведаў, што з Масквы прыйшоў загад уліць яе ў КПЗБ, і гэтым якраз займаўся Пятро Ілючонак.

— Гэта яго Славінскі паслаў, з «Бюро дапамогі», — патлумачыў Кляновік. Пра існаванне «Бюро дапамогі Заходняй Беларусі» ў Мінску Марыя ведала.

— Эсэрам давяраць не варта, — уставіў слова Ігнат, які да гэтага маўчаў.

— Ігнатка, золатка маё, мы ведаем, каму давяраць! — махнула рукой жонка.

— Эсэры цяпер разам з камуністамі, — напомніў госць.

— Камуністы таксама бываюць розныя. Вунь польскія камуністы лічаць Рыжскі дагавор законным і справядлівым, — зноў азваўся Ігнат, але Марыя выразна глянула на яго, і той змоўк.

— Рух развіваецца паспяхова, у краі цяпер некалькі тысяч партызанаў, — сказала Марыя.

Кляновік нічога не адказаў. Твар яго стаў суровы і заклапочаны, а паміж бровамі сабраліся дзве вертыкальныя маршчыны: «Паўстанне можа выбухнуць з дня на дзень, — падумаў ён. — Каму яны будуць падуладныя — сілы гэтыя? Эсэраў сярод іх і сапраўды зашмат. Гэтыя сябе ўжо паказалі, улады прагнуць...»

— Цесна нам з імі... — прамовіў ён уголас.

— З кім? — спытала Марыя.

— З эсэрамі.

— Цесна, — згадзілася жанчына. — Наша арганізацыя павялічваецца, ёсць нашы і на чыгунцы, і ў крэпасці, і на паштамце...

— Звярніце ўвагу на гарадскі тэлеграф! Гэта вельмі важна! Каб нашы таварышы там былі. Калі да дзела дойдзе, тэлеграф ой як спатрэбіцца! Больш энтузіязму, мэтаімкнёнасці, аптымізму. Нам трэба быць бязлітаснымі і да іншых, і да сябе!

Марыя ў знак згоды кіўнула галавой.

Потым яны вячэралі, перакідваліся нязначнымі рэплікамі, і Кляновік пачаў збірацца ў дарогу.

— Газеты да вас даходзяць?

— «Czerwony sztandar»...

— Пра літаратуру я падумаю, — госць насунуў на галаву шапку. Аблічча яго набыло падкрэсленую важнасць і годнасць, вусы натапырыліся.

[1] Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя на тэрыторыі Заходняй Беларусі, праіснавала ад вясны 1922 года да канца 1924-га.

— Беражыце сябе, Андрэй Андрэевіч, — наказвала пры развітанні Марыя.

— Асцярожней! — параіў Ігнат.

Шэф пасміхнуўся:

— Нічога са мной не здарыцца, мне не ўпершыню. — Потым дадаў: — Самі будзьце асцярожныя...

* * *

Вяртаючыся з Лышчыц у Пруску, Лявон думаў пра Кляновіка: «Змоўшчык. І колькі ведаю яго — такім і быў, ні ў чым не змяніўся. Спакойнага жыцця ад яго не дачакаешся. А дзе сёння знайсці той спакой? На гаспадарцы? Добра мець фальварак, як Якаў Пац, але дзе яго ўзяць? Яшчэ і ў такім месцы — над ракой! Яшчэ каб дзе купіць! Паўучастка — гэта мала на пяць душ. Трэба яшчэ і пра пасаг думаць.

Нашто селяніну палітыка, калі хапае зямлі? Вырасціў што — прадаў. Маеш грошы, купляй што хочаш. Толькі зямля дазваляе жыць сумленна. Калі яе абрабляць. Калі думаць пра яе. Зрэшты, не ўсё так проста. Адной справай не абыдзешся, і адзін не пражывеш. Нельга пражыць, адгарадзіўшыся ад свету, ад людзей. На кожным тваім кроку сябры і прыяцелі, зычліўцы і недабразычліўцы. Ці можа чалавек добра жыць, калі людзі побач жывуць дрэнна? Таксама, відаць, не. Шмат людзей проста пакутуюць. Як з гэтым мірыцца?»

Думкі, думкі, думкі...

Па дарозе заехаў у Ратайчыцы на пошту. Паштарка ўзрадавалася:

— А вам пісьмо!

Пісьмо было з Расіі. У яго нават падняўся настрой: «Фяклуша ўзрадуецца!» Хутка ён быў дома. Распрогшы каня, зайшоў у хату.

— Сваячка прыслала ліст!

Фёкла была сама не свая ад шчасця:

— Домна? Домашка?

— Яна!

— Нарэшце! Гэта ж колькі часу прайшло, як паслалі...

Лявон надарваў канверт і дастаў згорнуты ў чатыры столкі аркуш паперы. Пачаў чытаць. Радкі гарбаціліся ад няроўнага, каравага почырку:

«Дарагія сястрыца, Лёня і ты, Вася! Добры дзень! Атрымала ад вас пісямцо. Ой, колькі радасці было, колькі слёз! Я нават вачам сваім не паверыла. Мы з братам Мішам ужасна скучалі, думалі пра цябе. Як табе там жывецца ў чужой старане? Гэта ж так даляко! Дарагая Фёкла! А зараз напішу табе пра тое, што ў нас здарылася, як мы жывём.

У нас у Запалонным правялі мерапрыяціе. Налажылі цэлую гару старых кніжак, зверху паклалі саху і падпалілі. Гэтак мы развіталіся са сваім прошлым і ідзём у новую жызь. Упечатленіе была агромнае. Усе вельмі пeражывалі і хвалявалiся.

Калі вы паехалі, у нас пачаўся нэп, і дзяла пайшлі лепш, аднак ад прошлага мала хто ўцалеў і застаўся на месцы. Міша як стары рэвалюцыянер якабы ў пачоце, але ўбаку ад спраў. Выступае па празніках.

Многія пакінулі Запалоннае. Хто за Урал, хто ў Ташкент. Ано і панятна: рыба шукае, дзе глубжа, чалавек — дзе лучша... гэта харашо, што вы імееце каня і карову. Усё-такі лекче...»

Некаторыя радкі і нават абзацы выразаны ножніцамі. Пісьмо абрывалася на словах: «У нас жызня...»

Фёкла ўзяла пісьмо, пакруціла ў руках:

— Хто ж гэта так выразае? Палякі, ці што? А можа, Саветы?

— Хто яго ведае.

Заставалася толькі здзіўляцца.

— Адпісаць трэба!

— Адпішам! — паабяцаў Лявон і глянуў у акно. Па вуліцы на ровары, азіраючыся па баках, як бы каго шукаючы, ехаў чалавек у паліцэйскай форме. — Глядзі, Шчука паехаў!

— Які Шчука?

— Паліцыянт.

Той самы, «пшадоўнік», які некалі дапытваў яго ў Высокім. Следам круціў педалямі радавы паліцыянт.

— Маюць па вёсках сваіх віжоў, — сказаў Лявон. — Да солтыса паехалі.

Пра Шчуку ведала ўсё наваколле. Родам ён быў аднекуль з Валыні. Бацька, казалі, быў гандляром, а сын служыць у паліцэйскім вышуку.

«Добра, што не сустрэлі Шчуку гэтага, калі з Кляновікам у Лышчыцы ехалі, — падумаў Лявон. — Пашанцавала...»

## XIV

На гэты раз Кляновік загадаў сваім сабрацца за Каменюкамі ў Пастуховых балотах. Два дні на зборы. Месца — вядомае. Першымі з'явіліся Валодзя Шандрук з Пашай, за імі Рубінчык. Кляновік з Шэрашаўцом і Ганчаруком Андрэем іх ужо чакалі.

Штаб Скамароха знаходзіўся тут, у глыбіні Белавежскай пушчы. Начальнікам штаба лічылася яго каханка Елізавета. Каханка, жонка, начальнік штаба і хтосьці яшчэ — і ўсё ў адной асобе. Пра Скамароха, Германа Шыманюка, Кляновік ведаў шмат. Расказалі ў Маскве і ў Мінску.

Герман Шыманюк нарадзіўся ў Грабаўцы — на Беласточчыне. Восенню 1915-га разам з бацькамі апынуўся ў Расіі, у бежанстве, ажно ў Тамбове. Потым, калі звергглі цара, Герман, будучы чалавекам няўрымслівым, пракідкім, кінуўся ў Маскву шукаць шчасця. Наймаўся ў розныя ўстановы, пакуль не ўладкаваўся ў тэатр «Скамарох» рабочым сцэны. Тут ён і сустрэў Лізу — маладую, як і ён сам, высокую і стройную брунетку, з прыгожымі чорнымі вачыма, заўсёды нецярплівую і ўзбуджаную. Ліза была актрысай, хоць і не на галоўных ролях. Сышліся яны неяк імгненна: у Германа — гэтым ён прымушаў усіх здзіўляцца — не было ніякіх унутраных стрымліваючых цэнтраў. Браўся за ўсё, але, не скончыўшы аднаго, хапаўся за другое. З рабочага сцэны перайшоў у артысты.

Разам з Лізай удзельнічалі ў масавым прадстаўленні «Містэрыя-буф», пастаўленым па п'есе Уладзіміра Маякоўскага. Масквічы перліся на спектакль, які рэжысёр Меерхольд неўзабаве перанёс з тэатра на вуліцу, пад адкрытае неба. Сцэны аказалася замала. Тэатр лічыўся адной з форм, праз якую павінна была выліцца, як казалі бальшавікі, «праздничная энергия масс». Гэта было грандыёзнае феерычнае відовішча! Спектакль ігралі амаль штодня, і жыццё, і тэатр для Германа спалучыліся як бы ў адно. Хутка адбылося юбілейнае 50-е прадстаўленне, якое шырока адзначалася тэатрам і грамадскасцю, а таксама ўрадам. Аўтар п'есы і вядучыя ўдзельнікі прадстаўлення былі абраны «героямі працы». Але Германа ў Маскве ўжо не было, ды і сам ён не быў ужо Германам, а стаў Скамарохам. Ліза — Лізаветай.

Абое апынуліся на далёкай Беласточчыне ранняй восенню 1921 года. Паслалі іх па іх асабістай згодзе займацца так званай «актыўкай», гэта значыць партызаніць, рыхтаваць паўстанне. «А партызанка, — паўстанне — чым не спектакль?» — думалі і Скамарох, і Лізавета. Спектакль патрабаваў выканаўцаў. Жадаючыя знайшліся хутка: сяляне з пушчанскіх вёсак. Скамарох не раз са сваімі хлопцамі пад выглядам камандзіра кавалерыйскага раз’езду прыязджаў у Высокае, Слонім, адзін раз нават у Брэст. Улады былі настрашаныя гэтымі смельчакамі, у якіх кіпеў бунтарны дух.

Цяпер, як стала вядома Кляновіку, ён са штабам (усяго 28 асоб) сядзеў у Старыне. Гэта быў, можа, самы багністы квартал Белавежскай пушчы.

Кляновік вёў сваю невялічкую групу і думаў пра анархічнага Скамароха, які апошнім часам рэдка стаў выходзіць на сувязь.

Ногі грузлі ў балотнай твані. Па пояс пераходзілі мулкія ручаіны, тыкаючы папераздзе дручкамі, каб не ўсунуцца ў якую-небудзь праваліну. Увосень гэтыя мясціны непраходныя. Там-сям над балотам на імгненне ўспыхвалі слабыя бледна-блакітныя агеньчыкі — успыхвалі і гаслі. «Каб не заблудзіцца, — падумаў Андрэй, — а то яшчэ завядуць немаведама куды. Праклятыя душы — казала некалі пра гэтыя агністыя здані маці — пакутуюць у пякельным агні...»

— Гэта балотнік іх запальвае, — азваўся звычайна маўклівы Ганчарук, — вось і багуном запахла. Багун — гэта ён вырошчвае. Балотнік. Каб людзей дурманіць. Задурыць галаву і ўсмокча ў балота.

— Хто гэта табе сказаў? — пацікавіўся шэф.

— У нашай вёсцы пра гэтае ўсе ведаюць.

— Забабоны.

Кляновік усміхнуўся людской цямноце і наіву, але падумалася пра іншае.

Балота нагадвала жыццё, а жыццё — балота: небяспека падсцерагае на кожным кроку — то правалішся пры выпадку, то не там апынешся, свае ж завядуць у непралазную глухамань, у самую макаўню[1]. Трэба быць пільным, бо вораг так і круціцца, паўсюль расстаўляючы пасткі.

У лесе нешта закрычала. Як бы чалавек. Не, пэўна, птушка. Сава, мусіць. А далёка недзе, з правага боку, як здалося Кляновіку, хтосьці нібы хіхікнуў. Але ўсё аціхла, калі з-за хмар паказаўся ветах. Кляновік падаў знак спыніцца, уперад паслаў Шэрашаўца. Глянуў на ніз макінтоша — мокры, у гразі. Спадарожнікі галінкамі бярозы адмахваліся ад камароў. Кляновік таксама адламаў галінку. Прыбег, прыгнуўшыся, Шэрашавец.

— Нейкія людзі на конях! — паведаміў ён, задыхаўшыся. — Падобна, што ўланы...

— Ой-ёй, — ціха запанікаваў Рубінчык.

Кляновік і яго спадарожнікі заварушыліся, схапіліся за зброю. Але не, гэта былі не ўланы і наогул не вайскоўцы. Кляновік гэта адзначыў адразу, як толькі ўбачыў. Незнаёмцаў выдаваў самадзейны выгляд. Пярэдні коннік добра быў відзён у месячным святле. Спадарожнікі, трымаючы ў руках зброю, назіралі, як ён уклаў у рот некалькі пальцаў і прарэзліва, на ўсю моц свіснуў. Усе зразумелі, што гэта не хто іншы, як сам Скамарох.

«Гаспадаром сябе адчувае», — падумаў Кляновік і таксама ціха прысвіснуў. Коннікі пачулі і павярнулі коней у іх бок.

Кляновік схаваў у кішэню наган і выступіў наперад.

— Шукаю дарогі на Кляшчэлі, — назваў ён свой пароль.

---

[1] Вымаклая мясціна.

— Гэта за тым паваротам, што вядзе на ўсход, — быў адказ.

— Артур, — прадставіўся Кляновік, углядаючыся ў няясную постаць конніка.

— Мядзведзь, — назваў сябе Скамарох, злазячы з каня, якога тут жа ўзяў за повад другі партызан, мусіць, ад'ютант ці ардынарац.

— А мы ўжо хацелі страляць, — пасміхнуўся Кляновік, падаючы яму руку. — Уланы, думалі, наскочылі...

— Не-е! — зарагатаў Скамарох.

Гэта быў яшчэ зусім малады, усмешлівы чалавек, на выгляд гадоў пад дваццаць пяць, сярэдняга росту, нават шчуплы, але надзвычай энергічны, з глюгаватым носам. Апрануты ў кароткую скуранку, на нагах боты з кавалерыйскімі шпорамі. Каля казырка скуранай фуражкі завіваўся чорны чуб.

Сярод партызанаў, таксама на кані і таксама ў скуранцы, ботах са шпорамі і скураным галіфэ, была жанчына. Кляновік звярнуў увагу на яе прыгожыя і вясёлыя вочы на бледным і нават зеленаватым пры месячным святле твары. «Гэта, відаць, яна і ёсць, — падумаў ён, — Лізавета. Ну і Скамарох! Умее з бабы ікру выціснуць. Не адна яна ў яго, мусіць. І правільна. Старая мараль для нас не ўказ!» Кляновік міжвольна заглядзеўся на Лізавету: «Скамарох Скамарохам, а як усё ж такі барацьба ўпрыгожвае чалавека!». Не вытрымаў, каб не сказаць, хоць канспірацыя гэтага і не дазваляла:

— А ваш твар мне як бы знаёмы...

— Адкуль? — здзівілася жанчына. У яе прыгожых вачах загарэліся іскрынкі цікавасці.

— Недзе я вас бачыў.

— Дзе? У Варшаве?

— Не помню, але бачыў.

— Дзіўна.

Апошнім часам да яго, праз Марыю Лісак, дайшлі чуткі, што паміж Скамарохам і Лізаветай пачаліся нелады, што ў таго з'явіліся новыя жанчыны, і Лізавета пра гэта ведае.

Удалечыні нешта грукнула — як бы хто валіў дрэва.

— Польскі жонд зрабіў з нас калёнію. Пушчу англічанам аддаў! — з абурэннем сказаў Скамарох.

— Канцэсіянеры!.. — у тон яму дадала Лізавета.

— Нішчаць лясы! Днём і ноччу валяць... — азваўся хтосьці з Кляновікавага акружэння. — Англійская фірма «Шаліт» і нямецкая «Кагаліт» з дазволу ўрада.

— Запрэгчы ў аглоблі хочуць! — падхапіў нехта з партызанскага боку.

Нехта ўзлавана загаманіў:

— Гнаць іх трэба ў каршэнь, каб ілбом дзверы адчынілі!

— Каленам пад сраку!

Але Кляновік не спяшаўся рэагаваць на жарты і досціпы. Скамарох зірнуў на яго твар, на важна надзьмутыя губы і адзначыў пра сябе, што яго суразмоўнік мае вельмі сур'ёзны выгляд.

— Ну што, давай крыху пагаворым? — звярнуўся ён да Скамароха.

— Давайце, — згадзіўся той, — мы паважаем кіруючых таварышаў.

Яны адышліся за дрэвы, у морак ночы. Навокал панаваў спакой. Уверсе, далёка-далёка, нягледзячы ні на што і безадносна да зямных спраў, ціха ззяла зорная раса Млечнага шляху.

— Асаднікам зямлю раздаюць, каланізуюць, — пачаў Скамарох, — надта збрыдлі людзям гэтыя асаднікі ды чыноўнікі.

— Гэта вядома. Хутка на іх прыйдзе канец.

— А як там, у Савецкай Беларусі?

— Там працоўныя масы будуюць свой дом, — Кляновік дастаў цыгарэты, пстрыкнуў запальнічкай, даў прыкурыць суразмоўніку, асвяціўшы яго вузка прарэзаныя вочы, глюгаваты нос, запалыя шчокі.

— На тым тыдні пошту ўзялі, — сказаў як бы між іншым Скамарох.

— У вас, як у ціятры... — пажартаваў госць, жадаючы, мусіць, намякнуць гэтаму гаспадару пушчы, што ён ведае пра яго «тэатральнае» мінулае. Але Скамарох не разгубіўся: ён як бы нават і чакаў такі жарт — не просты, а з падвохам:

— Увесь свет тэатр, і ўсе мы ў ім акторы. Гэта не я сказаў, гэта Шэкспір сказаў, а ён абы-чаго не гаварыў, — адрэагаваў на Кляновікаў жарт Скамарох, і ў яго словах прагучаў і дыпламатычны такт, і стоеная годнасць.

— Абдуманая рызыка — добрае дзела! — пахваліў Кляновік. У яго вачах зачапілася добразычлівая ўсмешка. — А са зброяй як?

— Літоўцы дапамаглі...

«Ах вось яно што!» — насцярожыўся госць, але не падаў выгляду.

— Колькі ў вас чалавек?

— Як-небудзь пазнаёмлю з нашымі хлопцамі, — адказаў Скамарох. — Арлы! Днём з гаспадаркай упраўляюцца, а ноччу...

— Страты ёсць?

— Амаль няма.

— Што значыць — амаль?

— Ёсць адзін паранены, але ўжо, здаецца, ачуняў.

Кляновік ведаў, што канспірацыя ў Скамароха пастаўлена нядрэнна. Усе яго людзі мелі псеўданімы: «Чорт», «Пугачоў», «Сатурн», «Вулкан», «Хмара»...

— Здраднікі ёсць?

Скамарох зірнуў Кляновіку ў вочы, як бы выпрабоўваючы яго:

— Народ тут наіўны, без свядомасці, можна сказаць, — растлумачыў Скамарох, — але людзі разумныя, а галоўнае — смелыя. Здраднікаў няма і быць не можа. Адкуль ім узяцца?

— Усялякае здараецца.

— Ну, гэта не ў нас. Бедната нам дапамагае.

— Глядзі, будзь асцярожны! — напомніў Кляновік. Жорсткія абставіны грамадзянскай вайны, работа ў падполлі прывучылі яго да каманднага тону, ён любіў аддаваць загады, але тут, на гэтай «трэфнай» тэрыторыі, надта не загадаеш, даводзіцца і так, і сяк.

— Асноўнае цяпер для нас — вызваліцца з-пад польскай акупацыі, — сказаў Скамарох, — зямлю ў паноў узяць, на добрую гаспадарку ўзбіцца. Ну і перш за ўсё самастойнасць — і Ластоўскі гэтак кажа...

— Мы таксама стаім за самастойнасць Беларусі, супраць прыгнёту, — як бы пагадзіўся з ім Кляновік, але, калі папраўдзе, дык гэтага для яго было ўжо замала. «Звычайная нацдэмаўшчына! — падумаў ён і ўздыхнуў. — Баюся, што тут мы будзем непрымірымыя». Ён даўно пачуваў сябе перакананым інтэрнацыяналістам. Яшчэ з Амерыкі. Цяпер, калі ўжо існаваў Камінтэрн, гэта пачуццё ўзмацнілася.

Чутно было, як працяжна і незадаволена, нібы пацвярджаючы Кляновікавы думкі, зашумела пушча. Ён павярнуўся да партызана тварам і развёў рукамі:

— Гэтага, дарагі мой, мала, каб абараніць рэвалюцыю. Зямля, гаспадарка... — ён скрывіў твар, саркастычна пасміхнуўся, а потым раптам пасур'ёзнеў, шумна, на ўсю грудзіну ўздыхнуў: — Вялікія падзеі стукаюцца ў дзверы! Трэба быць сляпым, каб гэтага не бачыць. А зямля, гаспадарка — гэта дробязі!..

— Крэсы[1] трэба вярнуць Беларусі, — спрабаваў запярэчыць Скамарох.

— Гэта само сабой, — згадзіўся Кляновік. — Сёння для нас важна выкарыстаць цяперашні крызіс. Мы павінны да эканамічнага крызісу, якім ахоплены сучасны свет, дадаць яшчэ і крызіс палітычны. Гэта — адназначна!

Як і кожнага рэвалюцыянера, Кляновіка грызла і не давала спакою нецярплівасць, жаданне ісці ў наступ, пераконваць:

— Неўзабаве ва ўсім свеце палыхне рэвалюцыйнае паўстанне. Мы павінны быць гатовымі да яго далучыцца. Вось пра што гаворка! Тады пытанне з «крэсамі» вырашыцца само сабой, усё будзе, як задумана.

Скамарох ведаў тую сілу, што стаяла за спіной у Кляновіка. Не падпарадкавацца ёй было немагчыма, і Скамарох толькі рабіў выгляд, што вагаецца.

— Я не тэарэтык, — зноў ухілiста адказаў ён. — Тэарэтыкам я не давяраю. Я больш практык. Практыка падказвае...

— Што падказвае практыка? — нецярпліва перабіў яго суразмоўнік.

Партызан змоўк, не адчуўшы падтрымкі сваім думкам.

— Наш курс, таварыш, яснае дзела, на паўстанне. На паўстанне — тут, на гэтай тэрыторыі і па ўсім свеце! Рэвалюцыя ж — сусветная! — гарачыўся Кляновік. — Інакш нельга! Ты быў у Расіі і павінен ведаць, што такое наш барыкадны гнеў! Трэба браць кроўю і жалезам, што нам належыць! А як інакш?

— А не ілюзія гэта, хай сабе і высокая?

— Барабан гісторыі круціцца ў наш бок, таварыш. Трэба дзейнічаць! Над падрыхтоўкай паўстання працуюць цяпер сотні і тысячы людзей па ўсёй заходняй тэрыторыі! Боегатоўнасць для нас — самае важнае! Паходня ўжо запалена...

Пачуўся далёкі стрэл. Як бы хто даваў знак. Рэха адгукнулася ў лесе.

— Ну, нам пара, — загаманіў Скамарох.

Месяц зноў запоўз за хмары, але бралася ўжо на світанак, слаўся ранішні туман.

— Вось вы боегатоўнасць і праверце! — працягваў свой як бы інструктаж Кляновік. — Тэрмін паўстання мы вам паведамім. Будзьце гатовы! Неабходна бойку завязаць, каб пра нас Еўропа пачула!

Скамарох, як бы нешта ўспомніўшы, запатрабаваў:

— Трэба зброя і пашпарты для нашых людзей.

Сведкі таго часу і тых падзей кажуць, што яны сышліся даволі хутка і паразумеліся. Кляновік падаў Скамароху ідэю напісаць ад імя партызан ультыматыўны ліст начальніку польскай дзяржавы Пілсудскаму, у якім былі выкладзены патрабаванні аб выкананні ўсіх пунктаў Рыжскага дагавору 1921 года, перш за ўсё — правоў нацыянальных меншасцей.

— Трэба дзейнічаць! — паўтарыў ён яшчэ раз.

У наступны раз дамовіліся сустрэцца ў Брэсце, у кавярні Чайкоўскага каля Вялікага кірмашу. А пакуль што яны знаходзіліся ў лесе. Над галовамі шумела пушча, вітаючы новы дзень. Пара было развітвацца.

---

[1] Крэсы — так у міжваеннае дваццацігоддзе называлася Заходняя Беларусь.

— На акупанта! — ціха сказаў Кляновік.
— На акупанта! — таксама ціха адказаў Скамарох, павёўшы сваім глюгаватым носам.
Калі група Кляновіка вярталася назад, з усходу паміж дрэў пагрозліва ўзнімалася, заліўшы паўнеба чырванню, сонца. Дзень абяцаў новыя трывогі і клопаты.
Праз нейкі час Марыя Лісак перадала Кляновіку ад Скамароха некалькі нумароў газеты «Беларускі партызан». Выглядала выданне вельмі салідна. І папера неблагая, і друк сапраўдны, нібы газета друкавалася ў нейкім горадзе легальна. Адрас рэдакцыі, зрэшты, паведамляўся: «Белавежская пушча».
— Наша газета, — з усмешкай сказала Марыя.
Скамарохаў ліст быў надрукаваны на першай старонцы вялікімі літарамі:

*«Начальніку Польскай дзяржавы*
*пану Пілсудскаму ў Варшаве*
*Копія: Старшыні лігі нацый у Жэневе*
*Ад акружнога атамана беларускіх партызанаў Германа Скамароха.*
*Беларусь. Дзейнічаючы канспіратыўны штаб*

**Ультыматыўныя патрабаванні**

Мы, Упаўнаважаныя ад партызанаў і ўсяго сялянства паветаў Беластоцкага, Бельскага, Брэст-Літоўскага, Ваўкавыскага, Пружанскага і іншых, вырашылі звярнуцца да вас, пан Пілсудскі, і праз вас да ўсяго польскага народа з просьбай аб прызнанні наступных патрабаванняў, а іменна:

У імя справядлівых чалавечых правоў адмовіцца ад прэтэнзій на Беларусь і прызнаць яе права (права народа) на самавызначэнне як нацыі.
Неадкладна спыніць жорсткія рэпрэсіі ў адносінах да ўсіх беларусаў, спыніць апячатванне (закрыццё) праваслаўных храмаў, арышты святароў, вобыскі і катаванні палітычных дзеячаў у вашых турмах і прызнаць недатыкальнасць усяго беларускага.
Безадкладна вызваліць з турмаў усіх арыштаваных палітычных (дзеячаў) беларусаў.
Неадкладна спыніць вырубку лесу і вываз (з Заходняй Беларусі) розных матэрыялаў, напрыклад: машын, лесапільных заводаў, чыгуначнай маёмасці і інш.
Падрыхтаваць да эвакуацыі польскія вайсковыя часці, жандарскія падраздзяленні, вызыскныя аддзелы і паліцыю.
Дзяржаўныя ўстановы, народныя банкі Беларускага краю і іх маёмасць павінны быць поўнасцю перададзеныя беларускаму народу як яго ўласнасць.
Неадкладна склікаць змешаную камісію для перадачы ўсіх спраў і вырашэння тэрміновых пытанняў (пастаўленых у гэтым дакуменце). Калі выкладзеныя вышэй патрабаванні не будуць прынятыя польскім урадам, а рэпрэсіі, арышты і розныя праследаванні беларускага народа ўзмацняцца, то за вынікі, якімі б яны ні былі, мы не адказваем. Мы верым, што даб'емся вызвалення і што сваёй перамогай умацуем наш нацыянальны сцяг.

Да вас, пан старшыня Лігі нацый, звяртаемся мы, прыгнечаныя беларусы, і просім не дапусціць далейшых гвалтаў над намі, мы патрабуем толькі нашай незалежнасці і нашай свабоды».

Унізе стаяла:

*«Атаман Гродзеншчыны Г. Скамарох (подпіс),*
*Выконваючы абавязкі начальніка штаба,*
*палкоўнік (подпіс), Ад'ютант (подпіс).*
*30 сакавіка 1922 года».*

Пасля гэтага Кляновік разгарнуў яшчэ адзін нумар газеты і зноў натрапіў на цікавую нататку, якая паведамляла, што тэкст «Ультыматыўных патрабаванняў» 4 жніўня 1922 года перапраўлены праз польска-літоўскую мяжу, дастаўлены ў Коўна, дзе тады была сталіца летувіскай дзяржавы, і перададзены прэзідэнту рэспублікі. Летувісы мелі з палякамі свае рахункі. Прэзідэнт прыняў гэтае пасланне беларускіх партызанаў і запэўніў, што яно абавязкова трапіць у Жэневу, у Лігу нацый.

З добрым настроем Кляновік падаўся дадому, да Сцепаніды. «Малайчына! — хваліў ён у думках Скамароха. — Вось якіх незвычайных людзей нараджае рэвалюцыя. Рэвалюцыя, паўстанне і каханне — усё разам!..» У Жабінцы, на станцыі, яму перадалі шыфроўку, якую прывёз сувязны. Трэба было неадкладна быць у Варшаве. Ён тут жа купіў білет і, наведаўшы Сцепаніду, назаўтра паехаў. У Варшаве атрымаў указанне ехаць у Маскву, на другі з'езд, з дакладам аб рабоце Брэсцкай партыйнай арганізацыі.

Пераход цераз мяжу — тут пастараўся Рубінчык — быў забяспечаны.

10 верасня 1923 года ён быў ужо ў Маскве, дзе далучыўся да прыбыўшых сюды дэлегатаў другога з'езда Кампартыі Польшчы.





## Рагнед МАЛАХОЎСКІ

* * *

Жамчужына ў бурштынавай аправе —
Маё Нарочча, хто я
Без цябе,
Без захаду за салаўіным гаем
І успамінаў,
Як калісьці бег

Я хлапчуком
Па сцежцы верасовай
На бераг слухаць казкі чаратоў?
Плылі аблокі над старою хвояй...
І сёння да цябе прыйшоў ізноў.

Напевам паплыла душа па хвалях,
А мараў таямніца — як у сне.
Натхненне і дабро на зорных шалях
З маленства ты ахвяравала мне.

Каханнем пад сузор'ем беражніцы
Мяне адорыць ранішні спакой.
Кідаюць зоры срэбра у крыніцы,
І я лаўлю яго сваёй рукой.

...Шляхамі доўгімі на родны бераг
Яшчэ не раз вярнуся я ў журбе
З адданасцю, удзячнасцю і верай...
Маё Нарочча, хто я
Без цябе?

---

*__Малахоўскі Рагнед Юр'евіч__ нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). У 1987 годзе сям'я вярнулася на радзіму ў Нарачанскі край. Скончыў Нарацкую сярэднюю школу. Цяпер вучыцца ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце на факультэце фінансаў і банкаўскай справы.*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Беражніца».*

* * *

Мая дваццаць першая восень
Кладзецца на волкія плечы
Вясёлкі над Нарачу роднай.

Грымотаў нябёсны аркестр
Вітае барвовае сонца
У далечы яснай і мудрай.

Па хвалях агніста-шыкоўных,
Пад ветразем лёгкай самоты
Мая адзінота вяслуе.

На беразе дыхаць свабодна,
І больш не палохаюць цені
Грахоў і старога ядлоўцу.

У шатах шумлівага бору
Мой страх заблукае, растане
З цяплом навальнічнае хмары.

Шчаслівы, я сяду у човен
І рушу ў глыбіні прасторы
Шукаць дваццаць першую восень.

## МАТУЛІ

Уноч, калі гаснуць агні
І мары спавіты спакоем,
Мяне да грудзей прыхіні
Сваёю пяшчотнай рукою.

Цень свечкі варожыць на сон,
Цікуе з-за воблака поўня.
Па хвалях душы срэбны звон
Плыве беражніцай на чоўне.

Я сны твае сэрцам прыму
Як голас святой Беларусі.
Начамі, калі не да сну,
На вобраз матулі малюся.

* * *

Дрыготкі далягляд —
Як вадаспад,
Як вечнасці
Імклівае імгненне.
За намі —
Крок,
Прад намі —
Летні сад.
Усмешка закаханай,
Бы праменне
Зямнога шчасця —
Трапяткога матылька,
Што заблукаў
У шчодрай квецені...
І марай
Да майго твару
Дакранулася рука,
Нібы рака,
Нібы пажар
Над хмарай.

А летні сад
Заманьвае гульнёй
У мроі,
У забытыя хвіліны
І зачароўвае
Пяшчотнай цеплынёй
І водарам
Агністае маліны.

Сцякуць у далягляд
Жыцця гады,
Не стануць
Нашы крокі
Божай карай...
Успомнім мы
І летнія сады,
І матылька —
Што як пажар
Над хмарай.

* * *

Паэзіі вясковая душа
Блукала між сівых муроў сталіцы.
Прыйшоў паэт журботны да крыжа
Вандалам апаганенай капліцы.

Адчуць душы блуканні па зямлі
Ён здолеў і заплюшчыў вочы з гора...
І думы-мроі ў неба паплылі,
Як ветразі асвенчаныя ў мора.

І стогн душэўны скалануў сусвет
Паэзіяй, чысцейшай за крыніцу...
Стаяў шчаслівы, як анёл, паэт,
Каля душой асвечанай капліцы.

* * *

*Паміж кубкам і вуснамі*[1] — лета,
Прахалода самотнага рання.
У руцэ пасівела газета
З даўнім вершам пра наша каханне,

Пра свабоду і радасць былую,
Што, як іскры, пагаслі у небе.
Я пачуцці свае ці ўратую
У прасторы мінулага недзе?

Спадзяванні, як дні без падману,
Незваротна не кануць у Лету.
Я прачнуся.
Няхай будзе рана.
І прыцісну да сэрца газету...

Памалюся за наша каханне.
Веру ў заўтра і вольніцу думак.
Кубак кавы. Самотнае ранне —
Самачассе для творчых задумак.

* * *

Кастрычнік золатам патоне ў вохры лісця,
Сцюдзёны люты захінецца снегам сноў,
Але вясна натхнення, як было калісьці,
Адорыць новымі радкамі творцу зноў.

Душа ў самоце
Красавіцкай песні просіць.
Пратылым снегам адпаўзае шэры сум.
У стомленых вачах нябёсаў майскіх просінь,
І дорыць небакрай чароды ясных дум.

[1] З Казіміра Камейшы.

* * *

Ласунак лепшы
Для мяне —
Кропелькі
Грэйпфрутавага соку,
Што марамі
Шчаслівага юнацтва
Коцяцца па тваім
Бурштынавым целе.
А свежы водар
Ранішняга сонца
Зачароўвае сціпласцю
І непаўторнай цеплынёй.
Пяшчота прамянёў
Пераліваецца
З кропелькі ў кропельку,
І лёгкая,
Дрыготкая хваля
Працінае цела.
Сусвет —
Перад вачыма,
А смак яго
Ў мяне на вуснах.
І сэрцы дрыжаць
У рытме
Ап'янелай асалоды,
Бы кропелькі
Грэйпфрутавага соку.

* * *

Хораша з табою
Крочыць па сталіцы,
І забыць пра заўтра,
І забыць пра шлях.
Сонечная ўсмешка,
Сціплая спадніца...
Крылы таямніцы
Набылі размах.
Марамі ў нябёсы
Галубы ўзлятаюць,
Ветрык закаханым
Ветла гляне ў твар.
Сонечныя промні
Косы заплятаюць.
Вуснаў прахалода,
І душы пажар.

* * *

*А.*

Ты не з тымі,
Хто не марыць пра цябе,
Ты не з тымі,
Хто не спадзяецца...
А як сэрца час кахання твой праб'е,
То куды ад гонару падзецца?

Цені думак і няпройдзеных шляхоў —
Нібы ў залюстрэччы — на паперы.
Жыццястойкі дух пульсуючых радкоў
Ці ўмацуе нас у сваёй веры?

Існаваць у вымярэнні вечных мар
Не для нас. Не нам хавацца ў свеце.
Ці распалім мы паэзіі пажар,
Што сагрэе сэрцы нашым дзецям?

* * *

Удзячны вечару
Хвіліннага спаткання,
Спрабуе горад
Свечкі запаліць.
Чужыя цені
Прадчуваюць развітанне
З пачуццямі,
Не здатнымі больш жыць.

Чужымі думкамі
Аблокі праплываюць.
Таксі развозяць
Мары-міражы.
А зоры-варажбіткі
Зноў пытаюць:
— Няўжо сабе самому
Ты чужы?

* * *

Няма каму сказаць «да пабачэння»,
Чарговы эпізод жыцця пагас.
У прыцемках туманных сутарэнняў,
Абражаны хлуснёй, блукаў не раз.

Нябёснай асалодай наталіцца
Ці здолее сасмяглая душа?
Ды лёс мой — заўтра зноўку нарадзіцца
І піць каханне з зорнага каўша.

Пяе за шыбай вецер калыханку
На мове, зразумелай толькі мне.
Хвіліны падкрадаюцца да ранку.
Іх не спыніць, як не спыніць мяне.

Спяшацца ў заўтра, як агню, баюся.
Саломінку надзеі лёс падаў.
І выбар зроблены. Я застаюся
У тым жыцці, якое Бог мне даў.







Васіль ШАБАЛТАС

# ТРЭЦІ ЛІШНІ

*Аповесць*

Мігуноў сустрэў Івана Васільевіча Кашына ў бальніцы, дзе той лячыў сэрца. Кашын сядзеў у калідоры на крэсле, недалёка ад таго месца, дзе знаходзіўся пост медыцынскай сястры, і назіраў за прывычнай калідорнай мітуснёй.

Была раніца, хворыя прачнуліся, спяшаліся да ўмывальні. Мігуноў ужо ўсе гігіенічныя працэдуры выканаў і ішоў па калідоры ў палату. Зачапіўшыся вачамі за цікавага старэнькага, прысеў побач. Кашын, хоць і быў па гадах далёка не маладым, адрозніваўся сваёй дагледжанасцю. Зрэзаны глыбокімі маршчынамі твар быў добра выгалены, рэшта сівых валасоў зачэсана назад. У блакітных вачах свяцілася выразнасць і разуменне.

Разгаманіліся, пазнаёміліся.

— Гэтая бальніца шмат для каго — родная хата, — угледзеўшы ў Мігунове свайго, канстатаваў з лёгкай іроніяй на тонкіх сінявых губах Іван Васільевіч. — Большасць наведвальнікаў тут — бамжы і п’яніцы. П’юць, б’юцца, рэжуць адзін аднаго, «хуткая» іх падбірае і — сюды. Тут іх падлечаць, зацыруюць, выпішуць, а яны — зноў за сваё. Атрымліваецца, што бальніца для такіх — адстойнік чалавечай распусты, бруду, сюды, як у каналізацыю, зліваюцца наступствы ад п’янства і наркаманіі. Колькі даводзіцца трацiць дзяржаве сродкаў на такіх уродаў! — скончыў з сумам Іван Васільевіч.

— Нічога не зробіш, нехта ж павінен прыбіраць гразь у доме, змагацца з ёю, вось гэтую ачышчальную місію, на жаль, і даводзіцца выконваць нашай медыцыне, — зрабіў свой вывад Мігуноў.

Пасля некалькіх такіх сустрэч абодва зразумелі, што яны — ягады аднаго поля і часта, у свабодны ад працэдур час, размаўлялі аб жыцці-быцці. Адзін раз пасля ціхага часу ў палату, дзе знаходзіўся Іван Васільевіч, нясмела адчыніліся дзверы, затым прапіснулася галава бабулькі.

— Гэта да мяне, — усміхнуўшыся, сказаў Іван Васільевіч, і Мігуноў, які сядзеў побач, падняўся, каб выйсці.

— Не-не, вы сядзіце, я жонку адпраўлю і даскажу, чым справа скончылася, — настойліва папрасіў Іван Васільевіч. — Да таго ж, можа, Ірына Радзівонаўна нам чаго-небудзь смачнага прынесла, падзелімся, — апраўдваў Кашын сваё патрабаванне застацца, і Мігуноў, пацiснуўшы плячыма, зноў сеў.

— Вось табе салацік з крабавымі палачкамі і яйкамі, вось расольнік з грыбамі, што ты прасіў, — дастаючы з сумкі посуд з ежай, прыгаворвала жанчына.

Мігуноў, гледзячы на жанчыну, не змог бы сказаць, колькі ёй гадоў: пяцьдзесят альбо ўсе семдзесят. Крыху ацёклы яе твар з правільнымі рысамі быў, мабыць, калісьці прыгожым, але цяпер на ім ляжала пячатка застарэлай тупой пакорнасці, вочы туманіла попельная павалока. Губы выглядалі яшчэ свежымі, маршчын было няшмат. Адчувалася, што жанчына некалі часта малявалася: уеўшаяся ў скуру хімія выбеліла твар да матавай бледнасці.

— Паспрабуй, ці не гарачы расольнік, — зняўшы накрыўку з паўлітровага слоіка, папрасіў Іван Васільевіч і падаў жонцы лыжку.

— Не гарачы, — праглынуўшы расольнік і стрэльнуўшы ўбок Мігунова напалоханымі вочкамі, сказала Ірына Радзівонаўна.

— І салат таксама не перасолены, — зачарпнуўшы лыжкаю з пластмасавай скрынкі белага месіва і адправіўшы яго ў рот, дадала яна, і твар яе пачырванеў.

— Ну, вось і добра, пакінь усё гэта і можаш ісці, — з хітраватай усмешкай на твары сказаў Іван Васільевіч.

Жонка дастала з тумбачкі пусты посуд, у якім прыносіла ўчора ежу, усё ўпакавала ў сумку, развіталася і выйшла. Мігуноў зразумеў, што дэгустацыю прынесенай ежы жонка праводзіла не проста так, за гэтым нешта ўтойвалася. Па твары Мігунова Кашын зразумеў, што яго субяседнік зацікавіўся і сказаў так:

— Не здзіўляйцеся, нам яшчэ доўга ляжаць, раскажу і пра гэта.

У яго заўсёды прыжмураным поглядзе мільганула трывога і сум...

* * *

У бальніцы адразу пасля снедання пачынаўся абход. Урач Мікалай Іванавіч Фядотаў заходзіў у палату разам з медсястрой. Ён быў у белым халаце, які шчыльна абцягваў постаць, сярэдняга росту, крыху паўнаваты, з высокім каўпаком на галаве. Усе дзесяць пацыентаў палаты заціхалі, з надзеяй глядзелі на доктара. Гарадок быў невялікі, і доктар ведаў амаль усіх сваіх пацыентаў, ды і тых, хто прыехаў з раёна, таксама, таму што яны траплялі ў бальніцу шмат разоў. Калі прысаджваўся на ложак да чарговага хворага, урач незнарок успамінаў і прафесію пацыента, і яго сям'ю, і адносіны ў сям'і, меркаваў, як адаб'ецца на гэтым хвароба. Большасць хворых прывозіла «хуткая», якая забірала іх з працы, іншых — з-пад платоў, дзе тыя ляжалі да беспрытомнасці налітыя гарэлкай. Спыняліся ў гарачую пару камбайны і трактары, недзе прастойваў такарны станок, адкладваліся вяселлі, сумавалі, плакалі і радаваліся людзі. Кожны чалавек круціўся на сваёй арбіце, працаваў да апошняга, не звяртаючы ўвагі на здароўе. У большасці з іх, малаадукаваных, паняцце было простае: захварэю — урач вылечыць.

...Аглядваючы Сальнікава, чарговага хворага, Мікалай Іванавіч перасоўвае па сінявым, худым да выпукласці рэбраў целе трубку стэтаскопа. Хворы дыхае гучна, цяжка, твар ацёчны, нават абыякавы. Ён нават вачэй на доктара не падымае. Грудная клетка ўздрыгвае ад удараў сэрца.

— Калі ў цябе гэта пачалося? — пытаецца ўрач.

— Ды дзён за пяць да «хуткай». — Голас слабы, хрыплаваты.

— Працаваў?

— А то як жа, у майстэрні «Камаз» рамантавалі.

— Ну і як?

— Дыхаць стала нечым, і не пілі, быццам...

Мікалай Іванавіч глядзіць на хворага і прадстаўляе, як ён, гэты мужчына, з цяжкасцю пераадольваючы хваробу, кожны дзень хадзіў на працу і думаў аб адным: толькі б не зваліцца. Хто тады прынясе грошы ў сям'ю?

— Жонка на працу яшчэ не ўладкавалася? — пытае Мікалай Іванавіч.

— Ды дзе там, доктар. Усе месцы занятыя, шукае кожны дзень, а толку...

І ва ўрача раптам узнікае ідэя: санітарка Агеева праз пяць дзён на пенсію ідзе, але хоць і прасілася пару месяцаў яшчэ папрацаваць, прыйдзецца адмовіць і ўзяць жонку гэтага гаротніка.

— Прызначце яму дадаткова эуфілін і магнія сульфат. Колькі ён прыняў кропельніц? — звяртаецца доктар да медсястры.

— Тры.

— Працягвайце. — А потым звяртаецца да хворага: — А жонцы сваёй скажы, каб зайшла да мяне ў кабінет, возьмем санітаркай у бальніцу.

Твар хворага ад здзіўлення нават выцягнуўся.

— Доктар! — Але Мікалай Іванавіч ужо прысаджваўся на ложак да другога хворага — Кашына.

— Ну, як справы ў ветэранаў? Паказвайце ногі. Як сардэчка?

— Ды так... — Іван Васільевіч закасаў трыко, з-пад якога паказалася сіняватая, у вузялках вен, нага. Урач пакратаў найбольш выпуклыя вузлы, запытаўся:

— Здаецца, паменшалі?

— Так, прыкметна.

— Лекі прымаеце? Грэеце?

— Усё, як вы сказалі...

Зняўшы з шыі стэтаскоп, паслухаў сэрца.

— Ну, лячыцеся. — І пакуль ішоў да другога ложка, зірнуў на Сальнікава: у таго на вачах былі слёзы. Ён зразумеў, што гэта былі слёзы радасці ад таго, што яго жонка будзе працаваць, і яму, слесару аўтабазы, не трэба будзе выцягваць жылы, каб пракарміць сям'ю. Прыемная хваля пачуццяў ахапіла доктара, бо не часта ў яго такое бывае — лячыць людзей не толькі скальпелем.

Пасля абходу прыціхлы калідор ажыў, напоўніўся людзьмі: медсёстры пачалі насіць па палатах кропельніцы, хворыя спяшаліся на ўколы. Мігуноў выйшаў з палаты ў калідор з надзеяй убачыць Кашына. І не памыліўся: Іван Васільевіч ужо пабываў у фізіякабінеце, пагрэў ногі і цяпер, сціснуўшы рукі ў замок, сядзеў у калідоры.

— Сядайце, — радасна, як сябру, сказаў Кашын. Мігуноў сеў. І зноў, быццам ручай па вясне, зажурчала ціхая гамонка ўмудроных жыццём старых. Кашыну было 82, Мігунову — 68, у абодвух, як ва ўсялякага пражыўшага жыццё чалавека, было пра што расказаць.

* * *

— Вось вы здзівіліся, што я патрабаваў ад жонкі каштаваць прыгатаваную ежу, — пачаў Іван Васільевіч. — А ведаеце, чаму я гэта раблю? Баюся, што яна мяне атруціць.

Сказаў, быццам стрэліў з ружжа. Ад яго слоў Мігуноў нават уздрыгнуў: «Што кажа гэты чалавек, ці ў сваім ён розуме? Каб жонка напрыканцы жыцця жадала смерці свайму мужу? У такім узросце адзінокія старыя наадварот — збіваюцца ў пары, каб лягчэй было пражыць, а тут...»

На рудаватым твары Кашына заззяла ўсмешка, ён зразумеў, што такой навіной злёгку агаломшыў слухача.

— А для таго, каб зразумець, чаму так адбылося, я раскажу пра сваё жыццё.

* * *

— Нарадзіўся і жыў я ў Віцебску. Бацькі мае былі людзьмі інтэлігентнымі, маці — настаўніца, бацька — інжынер. У 1940 годзе я скончыў дзесяць класаў і паступіў у педагагічны інстытут. Прайшоў год, а тут — вайна. І мяне, дзевятнаццацігадовага юнака, накіравалі ў Разанскую школу малодшых афіцэраў. Правучыўся паўгода, і — на фронт. За гады вайны я даслужыўся да маёра. Заб'юць камандзіра роты, камандаваць няма каму, прызначаюць мяне. Потым загіне камандзір батальёна — зноў прымаю камандаванне. У апошнія дні вайны камандаваў палком. Дайшоў да Берліна і нават распісаўся на рэйхстагу.

Ад успамінаў скрозь выдубленую часам скуру на твары Кашына праступае румянец. Адчуваецца, што кожнае яго слова праходзіць скрозь сэрца, і ён хвалюецца.

— Скончылася вайна, угаворвалі застацца на вайсковай службе, але гэта было не па мне, за вайну мне ваенная служба так надакучыла, што я, як цяпер гавораць, узяў шынель і пайшоў дадому.

— А раненняў што, ніякіх? — не ўтрымаўся Мігуноў.

— Як бачыце, жывы, здаровы, не кульгаю. Але калі распрануся, то на маім целе вы можаце налічыць 9 сіняватых плям — зарубак вайны. Пасля вайны трэцюю групу інваліднасці па раненні давалі — адмовіўся: інвалід у 25 гадоў, смешна. У мяне асколачныя і кулявыя раненні. У шпіталях больш як месяц не затрымліваўся, цела маладое, зажывала, як на сабаку. Проста шанцавала, — адказаў коратка і ясна.

Голас у Івана Васільевіча выразны, моцны, у ім, што называецца, пазвоньвала жалеза. «Значыць, памрэ не хутка», — падумаў пра яго Мігуноў, які ведаў, што блізкай прыкметай смерці чалавека з'яўляюцца слабеючы голас, пустата ў вачах.

— Дома адпачыў з тыдзень, з ацалелымі ў вайну сябрамі на танцы пахадзіў, потым паехаў у сталіцу, у свой інстытут. Пачаў займацца. І замест патрэбных чатырох гадоў нас выпусцілі праз два гады. Было такое пасля вайны, настаўнікаў не хапала. І атрымаў я накіраванне ў Н-скае гарано, а адтуль — у гарадскую школу № 3. Гарадок невялікі, насельніцтва тысяч 25, самае буйное прадпрыемства — завод апаратуры. Адным словам — горад. У школе мяне прынялі добра, стаў выкладаць матэматыку, а ў нагрузку падсунулі батаніку. Што я ў тычынках ды песціках разумею? Але вузкага спецыяліста не было, давялося разбірацца, а потым мне батаніка нават спадабалася.

* * *

На перапынку калідор школы гудзеў дзіцячымі галасамі. Малодшыя вучні ганяліся адно за адным. Але малых дзяцей было мала, у асноўным калідор быў запоўнены падросткамі. У першых класах за партамі ся-

дзелі тыя, хто павінен быў быць ужо ў 4—5-ым. Вайна не дала магчымасці ім вучыцца.

Празвінеў званок, і з настаўніцкай пачалі расходзіцца па класах выкладчыкі. Кашын ішоў у свой 7 «Б» з настаўніцай малодшых класаў Ірынай Радзівонаўнай. Ён пазнаёміўся з ёй яшчэ на першым педсавеце. Здарылася так, што на савет ён спазніўся, а каля Ірыны было свабоднае крэсла. Кашын сеў на яго і быў задаволены, таму што прыкмеціў яе раней, — з усіх настаўніц яна спадабалася маладому педагогу больш за астатніх.

Усмешлівая, яснавокая, з пушком на верхняй губе, яна паглядзела на Кашына ўпершыню так ласкава, быццам пальцамі па твары пагладзіла. Івану Васільевічу ад гэтага позірку стала нават няёмка. За тыдзень ён прыгледзеўся да яе больш уважліва. Тонкі стан, поўныя бёдры, быццам вытачаныя лыткі, высокія грудзі. Гледзячы на ўсе гэтыя аздобы, Кашын падумаў: «Можа, дзяўчына замужам, і дарэмна я на яе вока паклаў».

Даведаўся: не замужам. Паўгода назад яе накіравалі сюды з гомельскага педвучылішча, сама мясцовая, жыве з бацькамі. Кожны дзень яны сустракаліся ў настаўніцкай, размаўлялі, жартавалі. Яна глядзела на яго з мяккай, прывабнай усмешкай пухлага рота з падмаляванымі вуснамі і больш слухала, чым гаварыла. Часам яе вочы рабіліся задумлівымі, і хаця яна і рабіла выгляд, што слухае, але не слухала, і Кашын у такія хвіліны абрываў гамонку і, спаслаўшыся, што яму некуды трэба, адыходзіў. «Нешта турбуе дзяўчыну», — думаў сам-насам і тлумачыў такія паводзіны звычайнай дзявочай безуважлівасцю, ды і ці мала якія клопаты могуць быць у дзяўчыны?

Кашын знайшоў сабе добрую кватэру ў адзінокай бабулькі, прыдбаў усё неабходнае для быту і, абжыўшыся, цалкам аддаўся школе. Раніцай у настаўніцкай распранаўся і перш-наперш шукаў вачамі Іру. Калі яе не было, ён сумаваў і мучыўся.

Аднойчы, напрыканцы красавіка, калі дзень выдаўся па-летняму цёплы, яны разам вярталіся дадому. Іра была ў лёгкай светла-зялёнай крэпдэшынавай сукенцы, перацягнутай па таліі поясам.

— Ірына Радзівонаўна, давайце сходзім у кінатэатр, ідзе фільм «Подзвіг разведчыка», кажуць, нядрэнны, — прапанаваў Кашын.

— Не, сёння не магу, давайце ў іншы раз, — адказала Ірына так, быццам прасіла прабачэння, і ўсміхнулася.

У кіно ён яе ўсё ж звадзіў, а пасля заканчэння сеанса прывёў да сябе. Бабулька, якая пражыла век, зразумела, што патрэбна маладым, паставіла на стол ежу, пайшла да суседкі, папярэдзіўшы, што вернецца няхутка.

У той вечар пад лёгкім націскам Кашына Ірына аддалася без усялякага супраціўлення. Пасля блізкасці Іван Васільевіч быў расчараваны: нехта да яго ўжо тут пабываў. Далікатна, каб не пакрыўдзіць дзяўчыну, Кашын не ўтрымаўся і задаў пытанне, якое яго турбавала.

— Выпадкова, яшчэ ў дзесятым класе, на выпускным... Потым яго забралі на фронт. З вайны ён не вярнуўся, — сказала вінавата, апусціўшы вочы, загінаючы і разгібаючы вугалок насоўкі.

— Зразумела, — уздыхнуўшы, сказаў Іван Васільевіч, і першапачатковая думка ажаніцца з ёй растала, як сняжынка на руцэ. «Будзем некаторы час сустракацца, а потым разыдземся, як у моры караблі», — падумаў, лежачы на падушцы і заклаўшы за галаву рукі. У цьмяным свеце таршэра побач ляжала Ірына, прыкрытая да пояса прасцінай. Прывабнымі бугаркамі тырчалі грудзі, залатым россыпам на белай падушцы рыжэлі доўгія вала-

сы. Усё гэта ўражвала і па-мужчынску турбавала. І ён зноў загарэўся, гарачкава цалаваў яе маленькія грудзі, зусім забыўшыся, што гэтыя грудзі да яго цалаваў і абдымаў нехта іншы.

Тое, што яна з першага разу распранулася і жвавай вавёрачкай нырцанула ў пасцель, Кашына таксама збянтэжыла. Спачатку, імкнучыся праверыць яе настрой, пасля дзвюх стопак віна ён прыцягнуў яе да сябе, пасадзіў на калені і ўсяго толькі і зрабіў, што асцярожна расшпіліў два верхнія гузікі на блузачцы. Яна ж са словамі «Я сама» саскочыла з яго калень і пачала распранацца.

«Браць у жонкі не дзяўчыну — ніколі! — намерыўся пасля гэтага вечара Кашын. — А пакуль нармальную дзяўчыну знайду, буду з гэтай забаўляцца», — канчаткова рашыў ён і праводзіў Ірыну дадому.

На наступны дзень яны сустрэліся ў школе так, быццам нічога паміж імі не здарылася. Злавіўшы момант, калі яны засталіся адны, Кашын зноў запрасіў яе да сябе на кватэру, але яна, хітравата прыгразіўшы пальчыкам, жартаўліва сказала:

— Салодкага шмат есці нельга, можна захварэць цукровым дыябетам. — І, перайшоўшы на сур'ёзны тон, дапоўніла: — Магу толькі ў нядзелю, пасля абеду. Ды і нельга часта, западозраць.

Кашыну нічога не заставалася, як прыняць прапанову...

Так вось і прыляпіўся Кашын да мірнага жыцця, нягледзячы на тое, што начамі часта снілася вайна. Днём — заняткі ў школе, партсходы, педсаветы; вечарамі сустрэчы з Ірынай, кіно. На ўроках матэматыкі, пасля асноўнай праграмы, Іван Васільевіч расказваў вучням пра розныя выпадкі, якія здараліся з ім на вайне. Дзеці слухалі яго, затаіўшы дыханне. А яму, былому салдату, ад такіх споведзей рабілася лягчэй на душы, быццам скідваў цяжкі груз. Такі чалавек: моўчкі насіць у сабе перажытае доўга не можа, яму абавязкова патрэбна з некім падзяліцца, разгрузіць сябе.

Неяк вызвалі Кашына ў гарком партыі. Іван Васільевіч стаў камуністам яшчэ ў далёкім 1942 годзе, перад адной з важных і цяжкіх франтавых аперацый — фарсіраваннем Дняпра.

...Строгі, падцягнуты, ён зайшоў у кабінет да першага сакратара і яшчэ каля дзвярэй прывітаўся, нахіліўшы галаву: так прывык. Галоўны партыйны начальнік чакаў наведвальніка.

— Кашын? З трэцяй школы? Падыходзь бліжэй, не саромейся, салдат.

Сакратар гаркама — паўнаваты, сівавата-лысы — падняўся, пайшоў насустрач, працягнуў руку, левую. Рукаў, дзе павінна была быць правая рука, запраўлены пад шырокі рэмень. Кашын ведаў, што Гардзееў, першы сакратар, згубіў руку ў партызанскім атрадзе.

— Як працуецца, як настрой? — пачаў здалёку Гардзееў.

З кабінета першага сакратара Кашын выйшаў акрылены: яго зацвердзілі сакратаром партыйнай арганізацыі школы, да таго ж яшчэ абралі і членам бюро гаркама партыі. Ды яно і зразумела: ні ў яго, ні ў біяграфіі бацькоў — ніводнай плямы. Зноў жа чын ваенны — маёр. Вайна ад званка да званка, узнагароды, — самы што ні на ёсць кадр для партыі. Да таго ж, знешні выгляд выдатны: высокі, статны, з ваеннай выпраўкай. Смуглы скуласты твар з выцягнутым наперад упартым падбароддзем выдаваў чалавека валявога, мэтанакіраванага.

— Ну як, Іван Васільевіч, справы, навошта ў гарком выклікалі? — сустрэў Кашына на парозе настаўніцкай дырэктар школы.

— Сакратаром партарганізацыі зацвердзілі, — адказаў настаўнік.

— Толькі і ўсяго? А я думаў, цябе забіраюць куды-небудзь вышэй, — з лёгкім здзекам у голасе сказаў дырэктар.

— А я вышэй не спяшаюся, з вышыні падаць балючэй, — аджартаваўся Кашын, хаця пра кар'еру марыў і рабіў дзеля яе ўсё магчымае.

Дырэктар Івану Васільевічу не спадабаўся адразу. Было ў ім нешта фальшывае, найгранае, нядобрае. Насіў яркі гальштук з вялікім вузлом, трымаў сябе з гонарам. На правах начальніка заўсёды рабіў настаўнікам заўвагі, чапляўся да дробязей, размаўляў высакамоўна са спасылкамі на ўказанні партыі. Пры гэтым імкнуўся гаварыць прыгожа, але настаўнікі ведалі, што за гэтымі яркімі, як паперкі з цукерак, пустымі словамі хаваўся чалавек абмежаваны, недалёкі. За чатыры гады вайны Кашын пераканаўся, што разумныя людзі пустога не гавораць, больш маўчаць, а калі і гавораць, то самае патрэбнае, важнае.

Звалі дырэктара Дзянісам Сяргеевічам. Быў ён сярэдняга росту, 35-гадоў, паўнаваты. На галаве — лысіна з рэдкімі валасамі па краях. Твар матава-бледны. Вочы неспакойныя, чорныя, увесь час бегаюць, быццам у злодзея. Выкладаў гісторыю, меў жонку і двое дзяцей. А вось на вайне чамусьці не быў, відаць, па хваробе. Даходзілі чуткі, што апошні год вайны партызаніў. «Калі б біяграфія была нечым запэцкана, дырэктарам не прызначылі б», — падумаў Кашын.

— ...Ну, давай, сакратарствуй, настаўляй нас на шлях ісціны, — сказаў дырэктар з уласцівай яму цынічнасцю і пайшоў да сябе ў кабінет.

У настаўніцкай у гэты час прысутнічала толькі сакратарка, усе настаўнікі былі на ўроках, але і перад ёй Кашыну пасля размовы з дырэктарам было чамусьці ніякавата.

* * *

Прайшло пяць месяцаў з таго дня, як Іван Васільевіч патаемна сышоўся з Ірынай Радзівонаўнай. Сустракаліся яны звычайна два разы на тыдзень на кватэры ў Кашына. Пелагея Ільінічна, гаспадыня, да прыходаў дзяўчыны прывыкла і рабіла ўсё магчымае, каб маладым не перашкаджаць.

Сваю любоў Кашыну Ірына Радзівонаўна аддавала з разлікам, з розумам: на ласку і пяшчоту была скупой да халоднасці. Цалаваць і абдымаць сябе дазваляла, але сама не вельмі загаралася. Кашын яе ў гэтым не папракаў, бо ведаў, што так вядуць сябе вельмі многія жанчыны, і тлумачыў гэта сарамлівасцю, халодным тэмпераментам.

На працы, у настаўніцкай, на вачах калег яны паводзілі сябе так, быццам паміж імі нічога не было. Ён часта заўважаў, што некаторыя выкладчыкі чамусьці з'едліва ўсміхаліся яму ў твар. «Здагадваюцца... Ну і няхай, мы абое свабодныя, што ў гэтым дрэннага», — думаў ён, злавіўшы чарговы іранічны позірк.

Аднойчы, калі ўсе разышліся і настаўніцкая апусцела, Іван Васільевіч застаўся праверыць сшыткі. На вуліцы стаяў кастрычнік, цямнела рана, дома пры праверцы сшыткаў даводзілася ўключаць святло, а за гэта гаспадыня патрабавала дадатковую аплату.

Са скрыпам расчыніліся дзверы, Кашын павярнуўся і ўбачыў Ірыну.

— Ой, я шаль забылася, ці не тут? — спыталася жанчына разгублена і крыху запунсавела ў твары.

— Зразумела, які шаль ты забыла?! — адказаў Кашын, тулячы яе да сябе.

— Ваня, спыніся, мне зараз не да абнімонаў, — слаба адпіхваючы яго ад сябе, з трывогай у голасе прагаварыла Ірына.

— А што здарылася?

— Зацяжарала я, другі месяц... — патупіўшы галаву ў чорным велюравым капялюшыку, адным выдыхам адказала яна.

— Та-ак, справы. Паспяшалася ты крыху з гэтым, — перастаўшы абдымацца, Кашын зрабіўся сур'ёзны.

— Чаму гэта я? Гэта ты паспяшаўся, заўсёды так стараешся. Не, каб крыху паберагчыся... — папракнула Ірына, але неяк лёгка, каб не пакрыўдзіць.

— Нічога, не турбуйся, разбяромся, — суцешыў дзяўчыну Іван Васільевіч, а сябе пачаў у думках катаваць. — «Так, уліп, як муха ў мёд. Даведаўшыся, што яна не «дзевачка», трэба было адразу рваць. А я... І на што спадзяваўся?» Ён не збіраўся спяшацца з жаніцьбай, нават калі б яна была і нявіннай. Спрачатку хацеў прасунуцца па службе, кватэру атрымаць. Да таго ж на завочнае аддзяленне юрыдычнага інстытута паступіў, над кантрольнымі па вечарах карпеў, увесь быў у справах. І тут — на табе, прыехалі.

Больш за ўсё яго мучыла думка аб тым, што ён у Ірыны быў не першы. Але адмаўляцца ўжо позна. Напісаў бацькам пісьмо, абмаляваў сітуацыю, неўзабаве з Віцебска прыехала маці. Кашын пазнаёміў яе з будучай нявесткай. Сціплая, сарамлівая дзяўчына спадабалася маці, і яна дала сыну «дабро» на рэгістрацыю шлюбу. Калі Ірына пайшла, і яны засталіся ўдваіх, маці сказала:

— Тое, што ў яе быў нехта да цябе, — дрэнна, але не бяда. З намі, бабамі, у маладосці featuring рознае здараецца. Трапіцца які-небудзь жвавы свавольнік і возьме сілай. Ты з гэтай думкай звыкніся і душэўна не бунтуй. Не кідаць жа цяпер яе, што падумаюць людзі? — разважала, супакойваючы сына, маці.

Іван сядзеў задумлівы, збянтэжаны. У яго грудзях скруткам калючага дроту варушылася рэўнасць, яна душыла яго і мучыла. Так, у яго жыцці адбылася, бадай што, першая сур'ёзная памылка, значыць, сапраўднае сямейнае жыццё пачынаецца не так, як планаваў. А чалавечы век з-за памылак заўсёды кароткі. Такі вывад ён зрабіў, калі прайшоў вайну, пасля размоў з былымі старымі салдатамі. Памылка на вайне — гэта смерць. Памылка ў цывільным жыцці — гэта таксама не мёд, быццам прадчуваючы, што будзе далей, перажываў ён. Але рабіць не было чаго: прызначылі вяселле.

— ...Вяселле трэба зрабіць сціпленькае, — не ведаючы, аб чым думае сын, працягвала раіць маці. — Час цяпер цяжкі, галодны. Запросіш сваіх таварышаў па службе, зноў жа я з Кацярынай (сястрой Івана) прыеду. Бацькі, як ты разумееш, не будзе, ён з вайны ледзь дадому дакульгаў, часта хварэе, асколак з лёгкага так і не асталі.

— Урачы не раяць асколак чапаць? — разарваўшы аблытаўшую яго павуціну трывожных думак, запытаўся Іван.

— Сказалі, што, калі выцягнуць гэтую жалязяку, кроў могуць не спыніць, а так, маўляў, і з гэтым асколкам можна доўга пражыць, бацька і супакоіўся. Мы з ім параіліся: грошай табе на вяселле дадзім, хоць і не багата. Сабрацца можна ў якой-небудзь сталовай, заказаць на вечар залу. У рэстаране не трэба, дорага, — гаварыла маці і быццам сыпала гэтым сыну на рану соль. Ён зразумеў, што яна ўжо ўсё рашыла за яго і назад

ходу няма, словы маці прагучалі, быццам прысуд, і аслухацца ён не мог: так быў выхаваны.

Спачатку, як толькі даведаўся аб цяжарнасці Ірыны, у ім, быццам дрожджы, забрадзіла неўласцівая яго прыстойнаму характару дзёрзкая думка: як бы ад гэтай жанчыны пазбавіцца. Пачаў розныя варыянты ў галаве прадумваць. Няхай робіць аборт, падумаў ён, нічога страшнага ў гэтым няма. Але ад гэтай прапановы Ірына адмахнулася, як ад надакучлівай мухі: пасля аборту можа зусім не быць дзяцей. А калі ён ад яе адмовіцца, яго не зразумеюць ні таварышы па школе, ні ў гаркаме партыі, дзе ён лічыўся на добрым рахунку, думаў ён. Гэта можа пашкодзіць кар'еры, ды і да інстытута чутка дойдзе: які выйдзе юрыст — амаральныя паводзіны... І першапачаткова ўздыбленае на ім, быццам на раззлаваным індыку, пер'е паступова апала і ўлеглася, і Кашын пачаў рыхтавацца да вяселля.

Аб тым, што ён збіраецца ажаніцца з Ірынай Стэльмах, праз некаторы час даведаўся ўвесь педагагічны калектыў, усе 25 чалавек. Людзі паводзілі сябе па-рознаму. Настаўнік малодшых класаў Андрэй Жаўрыд — сур'ёзны, строгі мужчына гадоў пад пяцьдзесят — знайшоў момант, калі ў настаўніцкай яны засталіся ўдвух з Кашыным, і сказаў:

— Сям'ёю, Іван Васільевіч, абзавесціся надумаў? Ну і правільна. Без сям'і чалавек — нуль. А на тое, што другія гавораць, — плюнь і разатры.

— А што людзі гавораць? — занепакоіўся Кашын.

Жаўрыд зразумеў, што сказаў лішняе, і ў той жа момант выраўняў баланс:

— Ну як? Нарадзіўся — гавораць, ажаніўся — гавораць, памёр — таксама гавораць. Гэта ж людзі, ім абы языкі пачасаць, — выйшаў са становішча Андрэй Сямёнавіч і пачырванеў. Ад свайго паскудненькага ўчынку пачырванеў, яму было не па сабе ад таго, што так і не знайшоў у сабе сілы сказаць чалавеку праўду.

Святлана Уладзіміраўна — яркая светлавалосая жанчына, настаўніца геаграфіі, — злавіўшы момант, калі Ірыны Радзівонаўны ў настаўніцкай не было, падышла да Кашына, хітравата памахала пальчыкам і, усміхаючыся, сказала:

— Густ у цябе, Іван Васільевіч — што трэба. Выбраў самую-самую... Віншую!

— Дзякую, — усцешаны, сароменючыся, адказаў Кашын.

Вяселле гулялі ў сталовай мелькамбіната ранняй вясной: час прыспешваў, Ірына пачала акругляцца. Гасцей сабралася небагата, дзесяткі са тры чалавек. Танцавалі пад баян, для чаго запрасілі музыканта з Палаца культуры. З усяго калектыву на вяселле не прыйшоў толькі дырэктар: у яго расхадзілася язва страўніка. З начальства прысутнічаў нават загадчык гарана.

Ірына сядзела побач с жаніхом чырванашчокая, разгарачаная. Падвыпіўшы, госці часта крычалі «горка». Маладыя з неахвотай падымаліся і дзеля супакаення гасцей ледзь датыкаліся вуснамі. Пры гэтым твар Ірыны быў посны і абыякавы, ніякага вяселля і радасці не паказваў, быццам яна была не на вяселлі, а на пахаванні.

Калі ў чарговы раз, запрашаючы гасцей на танцы, залівіста зайграў баян, усе ўсталі з-за стала і, разбіўшыся на пары, пайшлі танцаваць, да Кашына на добрым падпітку падышоў Генадзь Пятровіч, настаўнік фізкультуры — зграбны, высокі, гадоў трыццаці, былы старшына разведроты — і сказаў:

— Васільевіч, хадзем пакурым, аб жыцці пакалякаем!

Пакінуўшы нявесту з сяброўкай, Кашын выйшаў з фізкультурнікам у калідор. Закурылі. Зацягнуўшыся, Генадзь Пятровіч доўга глядзеў прыжмураным хітраватым поглядам Кашыну ў твар. Потым не ўтрымаўся, сказаў, пакалыхваючыся ад выпітай гарэлкі:

— Добры ты чалавек, таварыш маёр!

— Ну-ну, навошта ты так? — паляпаў Кашын калегу па плячы. — Ніякі я цяпер не маёр, а радавы настаўнік.

— Сказаць я табе нешта хачу, ды не магу — жонка забараніла, а я ёй слова даў, — нарэшце выгаварыў фізрук і, пакутуючы ад таго, што не можа выдаць тайну, заматаў галавою і заскрыгатаў зубамі. — А навогул, подлая яна, калі так...

— Нічога, памірыцеся, — думаючы, што Генадзь Пятровіч так дрэнна сказаў пра сваю жонку, супакоіў калегу Кашын. Неўзабаве да фізрука падбегла жонка, узяла пад руку і са словамі «Пайшлі танцаваць» павяла ў залу.

Жыць пасля вяселля сталі ў хаце нявесты. Маці аслабла, часта хварэла. А тут — зяць, дачка, такая радасць! Твар маці свяціўся шчасцем. Зяць цешчы спадабаўся адразу, ён быў добры, памяркоўны, уважлівы, з першага дня пачаў называць цешчу мамай. Усё ажыло, нібы сонца пасялілася ў хаце.

Неўзабаве Ірына нарадзіла. І дадалася да светлай радасці маці ад паспяховага замужжа дачкі яшчэ адна: у хаце з'явіўся ўнучак, які сваім зычным плачам, нібы званочкам, агучыў анямеўшую было хату. «Роду Кашыных на зямлі быць!» — гледзячы на сына, радаваўся бацька, забыўшыся пра ўсе тыя сумненні, якія турбавалі яго. А праз некаторы час да гэтай добрай падзеі дабавілася яшчэ адна, таемная, жаданая: Івана Васільевіча прызначылі дырэктарам суседняй школы.

Пасля вайны — не тое, што ў цяперашні час — шмат адпачываць парадзіхам не давалі. Крыху ачухаецца — і зноў на працу. Добра, калі дзіцё ёсць каму даглядаць. Як у Іры, напрыклад. Пакарміла тры месяцы грудзямі і на прыкорм пераводзіць пачала, каб адлучыць ад грудзей, бо вельмі не цярпелася выйсці на працу. Муж у гэтым пытанні ўпоперак дарогі стаў, бяры, гаворыць, водпуск за ўласны кошт і сядзі дома, пракармлю, з голаду не дам памерці. А тая — ні ў якую, ды і маці падгаварыла, і яна заняла пазіцыю дачкі. Уламалі зяця, махнуў той на іх рукою: рабіце, што хочаце.

— Іван Васільевіч (так паважліва цешча называла 26-гадовага зяця, бо інакш нельга: настаўнікі — вялікія людзі, а ён над усімі — галоўны начальнік, дырэктар)! Ты надта не турбуйся, няхай ідзе дзяцей вучыць, а Алежак ваш будзе і накормлены, і абагрэты, і ніякай шкоды я яго здароўю не дапушчу, — цвёрда сказала бабуля зяцю аднойчы вечарам пасля вячэры, трымаючы на каленях спавітага тоўсценькага карапуза. Кашын часта ўгледжваўся ў твар сына і раздумваў, чые гены ўзялі верх, і прыйшоў да высновы: не яго — жонкі. Ну і няхай, думаў ён, спадзеючыся, што другое дзіцё будзе паходзіць на яго.

А адносіны з жонкай складваліся не проста.

* * *

У красавіку сонца грэла па-летняму горача. Адсырэлая ад расталага снегу зямля парыла, нібы падагрэтая на скавародзе, і вылучала прэлы дух.

У небе насіліся шчабятлівыя ластаўкі, уздоўж плота дружна зелянела трава. Была нядзеля.

Распрануўшыся да кашулі, Іван Васільевіч сек дровы: ставіў чарговае палена і адным ударам сякеры лоўка яго расколваў. Гледзячы на яго работу, на мускулістае зграбнае цела, можна было зрабіць выснову, што гэтаму хлопцу любая справа па плячы. Працаваў, паглядаючы на ручны гадзіннік і браму, і думаў: «Чаму да гэтай пары не вярнулася жонка?» Гадзіны тры назад яна пайшла ў краму па хлеб, раней заўсёды спраўлялася за гадзіну, а сёння прайшло ўжо амаль чатыры, а яе ўсё няма. «Напэўна, сустрэла каго-небудзь з сябровак і загаварылася», — падумаў ён. І пакуль гэтак трывожыўся, скрыпнула брама і на двор не ўвайшла, а велічна ўплыла Ірына. Кашын даў зразумець жонцы пра сваю трывогу, зірнуўшы на гадзіннік.

— Сяброўку сустрэла, калісьці разам вучыліся ў школе, зараз яна прыехала да бацькоў у водпуск, — растлумачыла з вінаватай усмешкай на падмаляваных тоўстых губах.

Кашын паглядзеў на яе і здзівіўся: у жонкі быў такі твар, быццам яна толькі што вярнулася з марозу. Цюкнуўшы ў палена сякеру, падаўся за Ірынай у хату. Пакуль ішоў, адчуў, што за ёю ўецца пах гарэлачнага перагару. «Ага, ды тут нешта не тое», — падумаў і запытаў проста, без усялякіх задніх думак:

— А дзе піла?

— Я? — страпянулася жонка і, павярнуўшыся, спытала: — А адкуль ты ўзяў, што я піла?

— Дык тхне ж ад цябе...

— Ну, як жа, зайшлі да яе, а там якраз абедалі, з гарэлачкай, ну і мяне за стол запрасілі...

— І колькі ты...

— Слухай, пракурор, чаго ты прычапіўся да мяне? — змяніўшы вясёлы, насмешлівы тон на больш рэзкі, нервовы, сказала раптам яна і тут жа запыталася: — Можа, раўнуеш?

— Яшчэ чаго, раўнаваць я буду, — буркнуў з прыкрасцю, а ў самога кошка-рэўнасць сапраўды балюча драпнула па сэрцы.

«Нешта тут не тое, — напіўшыся вады і выйшаўшы на двор, падумаў Кашын. — Калі з ёй працаваў, усе паглядвалі на мяне неяк дзіўна, быццам сказаць нешта хацелі. Цяпер вось на падпітку часта прыходзіць пачала і ўсялякаму выпадку — быццам бы лагічныя апраўданні. А ці не занадта шмат такіх вось выпадковасцей?» Ён хацеў вярнуцца ў хату, распытаць, што гэта за сяброўка, дзе жыве. Але прыпыніўся, бо адчуў, што можа азвярэць, пачне скандаліць. У яго такое ўжо з жонкай здаралася. Вярнулася позна з вінным пахам, Іван Васільевіч не сцярпеў і пачаў прыставаць з распытваннямі. Замест тлумачэння жонка раптам прымяніла іншую тактыку — нападзенне. Ён упершыню ўбачыў жонку такой раз'юшанай: яе ноздры раздзьмуліся, у белую пустыню выедзеных аднекуль узніклай нянавісцю вачэй было жудасна глядзець. Успомніўшы скандал, Кашыну расхацелася варочацца ў хату і распытваць пра сяброўку. Хадзіць, вынюхваць — не ў яго манеры, брыдка, гэта зневажала яго. Ды і які памяркоўны мужык стане зневажаць жонку недавер'ем? І ён — ужо ў каторы раз — праглынуў яшчэ адну горкую пілюлю. А іх ужо было нямала.

Седзячы на двары на лавачцы пад ласкавымі промнямі сонца, ён курыў і раптам успомніў, як, збіраючыся ў краму, жонка працяглы час стая-

ла перад люстэркам і малявалася. Яна наогул любіла маляваццa, і калі куды-небудзь збіралася, то перад гэтым сядзела гадзінамі перад люстэркам і вымалёўвала кожную веіну. Маці з сумам глядзела на яе, але нічога не гаварыла, толькі цяжка ўздыхала і ішла ў другі пакой.

— Ты быццам на прыём да міністра сабралася, — не стрымаўся аднойчы Іван Васільевіч.

— А табе што, спадабалася б, каб я лахудрай хадзіла? Я ж у людзі іду і мне патрэбна быць акуратнай, — лёгка адбіла папрок мужа Ірына. Кашын у спрэчку з ёю не ўступаў, бо ведаў, што гэта дарэмна.

Асабліва непрыемна было, калі з дапамогай ацэтону здымала лак. У гэты час кватэра насычалася такім едкім пахам, што хоць процівагаз нацягвай. А ў кватэры бегала дзіця.

— Дачушка, ты б хоць сыночка пашкадавала. Ці нельга ўсю гэтую працэдуру праводзіць на вуліцы? — прасіла дачку маці.

— Добра, мама, у наступны раз я гэта на вуліцы зраблю.

Але праходзіў час, абяцанае забывалася і ўсё паўтаралася.

— На прадпрыемствах, дзе выраблююць ацэтон, людзі, між іншым, ідуць на пенсію ў 40 гадоў, — не ўтрымаўся і праінфармаваў жонку Кашын.

— А ты што, там працаваў? — з’еднічала Ірына. І ўсміхнулася: маўляў, што, атрымаў?

Ідучы з дому, жонка нанізвала на пальцы штук пяць розных пярсцёнкаў з камянямі і без іх, на шыю чапляла залаты ланцужок з кулонам. Іван Васільевіч быў супраць гэтых дарагіх цацак і, гледзячы на жонку, толькі ківаў галавою.

— Яны ж табе толькі перашкаджаюць, з імі нязручна, — пераконваў ён Ірыну.

— Затое прыгожа, — злавала яна мужа, круцячыся перад люстэркам.

Назіраючы за людзьмі, ён зрабіў для сябе выснову, што адной трэцяй частцы чалавецтва гэтыя бліскучыя цацкі падабаюцца, яны з задавальненнем упрыгожваюць імі сваё цела. Астатняя частка насельніцтва зямлі да гэтага адносіцца абыякава, а то і з пагардай. Да такіх адносіў сябе і Кашын. Калі б яго прымусілі насіць пярсцёнак, ён бы саромеўся гэтага, мучыўся б і перажываў, і пры першым жа зручным выпадку ад яго пазбавіўся. «Што я, папуас, які рознымі фарбамі сябе размалёўвае і выхваляецці перад іншымі?» — адказаў ён аднойчы жонцы, якая запыталася, чаму ён не носіць заручальнага пярсцёнка.

— Цёмны ты чалавек, Кашын, — адказала на гэта жонка.

— Я б так не сказаў, другі інстытут заканчваю, пракурорам рыхтуюся стаць, — жартаўліва адбіў іронію жонкі Іван Васільевіч.

* * *

Так непрыкметна прайшло чатыры гады. За гэты час у сям’і Кашыных адбылося прыбаўленне: нарадзіўся другі сын, якога, у гонар дзеда Ірыны назвалі Валерам. Маці да дзяцей па-ранейшаму асаблівай прыхільнасці не выказвала, а ўсе турботы па выхаванні пераклала на плечы бабулі Настассі Ільінічны. Павялічылася турбот і ў самога Кашына — як жа, бацька дваіх дзяцей, да таго ж сыноў, чым ён вельмі ганарыўся.

Алежку ўжо ішоў чацвёрты год, у ім, як зубкі ў аднагадовага дзіцяці, пачаў праразацца характар. Ён цэлымі днямі гуляў з суседскімі дзецьмі, але як толькі здалёк заўважаў бацьку, які ішоў з працы, куляй імчаўся яму

насустрач, а потым — абавязкова прасіўся на рукі. Абвіваў запэцканымі, іншы раз падрапанымі да крыві ручкамі загарэлую бацькаву шыю і быў ад такога шчасця на сёмым небе. А як толькі бацька пачынаў займацца якой-небудзь справай, сын — тут як тут, першы памочнік. Ды не такі, каб толькі блытацца пад рукамі, а самы што ні на ёсць сапраўдны.

Неяк па вясне перабіралі выцягнутую са склепа бульбу. Свяціла сонца, ласкавае, добрае, якім яно звычайна бывае ў пачатку траўня. Клубні ў склепе прараслі, іх трэба было аддзяляць ад расткоў і класці ў два розныя кошыкі — для ежы і для сяўбы. Гэтую справу даручылі бацьку з сынам. Пакуль працавалі, дарэмна час не гублялі: Кашын распавядаў сыну пра Гітлера — дрэннага чалавека, якому свайго было мала і ён распачаў вайну. І раптам сын сказаў:

— Тата, ты не халтур. Навошта ты гэтую бульбіну кінуў у пасадачную? Яна ж вялікая, магла б спатрэбіцца для ежы!

Іван Васільевіч ад здзіўлення нават раскрыў рот.

— Сынок, а адкуль ты гэтае слова блатняцкае ўзяў, я цябе гэтаму не вучыў.

— Пацаны на вуліцы так гавораць, — крыху памаўчаў, потым запытаў: — А ён, гэты Гітлер, што, быў такім прагным, што рот на чужое разявіў?

— Не, хутчэй за ўсё ён — ненармальны, гэта, калі ў чалавека з галавою не ўсё ў парадку, — адказаў Кашын, з трывогай паглядаючы на сур'ёзны сынаў твар. Бацька спалохаўся, што Алег і надалей пачне развіваць гэтую тэму, а як яму адказваць? Яна і для дарослых да канца незразумелая, а дзіцячая псіхіка, як недаспелы плод, тут можна так уліпнуць, што і не выберашся. Таму ён памяняў тэму размовы.

— Скончыў дзела — гуляй смела, — раптам сказаў Алег, чым зноў здзівіў бацьку. — Ладна, тата, ты налівай ваду ва ўмывальнік, а я збегаю за ручніком, а заадно даведаюся, як там снеданне. Чуеш, як смачна супам пахне? — і пабег у хату.

Памыліся, прывялі сябе ў парадак, селі на лаўку, падставіўшы сонцу для загару белыя твары.

— Хлопцы, снедаць пара, калі ласка, за стол!

Гэта не Іра паклікала, яна так не магла. Гэта так паважліва і душэўна іх запрасіла бабуля. Жонка з самай раніцы была нечым незадаволена, хадзіла па хаце моўчкі, не размаўляла. «Якая муха яе на гэты раз укусіла?» — гадаў Кашын, паглядаючы на строгую, быццам нечым пакрыўджаную жонку. Такая дэпрэсія на яе находзіла ўсё часцей. Аднойчы ён паспрабаваў даведацца, што яе непакоіць, на што Ірына адказала: «А ў цябе што, ніколі не бывае дрэннага настрою?» І муж адчапіўся.

Назіраючы за жонкай, Кашын зрабіў выпадковае адкрыццё — усмешка даўно знікла з яе твару, і ён стаў нагадваць раўнадушную маску. Гэтая выпадковая выснова ашаламіла Івана Васільевіча, і ён задумаўся: «З чаго б гэта? І калі такое здарылася?» Прагнаў у памяці ўсё жыццё з Ірынай, успомніў усялякія шчаслівыя і не вельмі эпізоды і выйшла, што вясёлай і ўсмешлівай яна ніколі не была, а толькі ў пачатку знаёмства з Кашыным дазваляла сабе гэтую раскошу — расслабіцца, пасмяяцца разам з іншымі і быць вясёлай, як і астатнія. У апошні ж час адносіны з жонкай зусім разладзіліся, рабіліся ўсё халаднейшымі, і гэты холад ішоў з яе, Ірынінага, боку.

Сёрбаючы суп, Кашын паглядваў на строгі выгляд жонкі, якая сядзела насупраць з апушчаным ў талерку позіркам, і імкнуўся здагадацца, што на

гэты раз сапсавала ёй настрой. Ад нядобрага прадчування балюча сціснула ў грудзях, і ён падумаў: «Ці не захварэла яна?» Скончылі снедаць, Алежак пабег на вуліцу, бабуля мыла посуд, а Ірына выйшла ў залу, стала каля трумо і, трымаючы ў зубах шпількі, пачала папраўляць валасы. Кашын ціха падышоў ззаду, нясмела дакрануўся да пляча жонкі. Ірына рэзка здрыганулася, нібыта ад сутыкнення з нечым непрыемным, павярнулася і, бліснуўшы злымі вачыма, запыталася:

— Чаго табе?

— Я не разумею, Ірына, што з табою? Чаму ты такая злая? Можа, цябе хто пакрыўдзіў? Я, здаецца, не. Адкуль гэтая чорная злосць?

— Адтуль, — з брыдкай грымасай на тоўстых губах адрэзала жонка.

— Можа, ты захварэла? — працягваў дапытвацца Кашын. — Дык схадзіла б у паліклініку, да неўрапатолага.

— Доктар знайшоўся, раіць мне ў паліклініку схадзіць. Ха-ха-ха! — Ірына засмяялася якімсьці наіграным смехам. У яе поглядзе бліснула халодная нянавісць. Супакоілася і, не адварочваючыся ад трумо, нечакана, зусім міралюбна, растлумачыла:

— Даўбешка ты, Кашын. Нічога не разумееш. — Пры нацягнутых адносінах яна заўсёды называла яго па прозвішчы. — Стамілася я, ты разумееш, стамілася! Пяць месяцаў нібы за кратамі. Пялёнкі, распашонкі, мыццё бялізны — усё гэта так надакучыла! На працу хочацца, вось і находзіць на мяне іншы раз дэпрэсія. А ты — захварэла. Псіхолаг!

— Ну, не перажывай, хутка ж пойдзеш на працу, навошта ж на нас зло спаганяць, — сказаў, з палёгкай уздыхнуўшы, Кашын. Ён успомніў, што яна і раней, пасля нараджэння Алега, была нервовай, а пайшла на працу — адразу змянілася, падабрэла і нават пачала ўсміхацца.

Пасля такога тлумачэння Кашыну палягчэла, а то ўжо здавалася нешта нядобрае. І сапраўды, калі Ірына выйшла на працу, яна прыкметна павесялела. Праўда, пачала часта затрымлівацца ў школе, але за гэта настаўніку ў час летніх канікулаў і двайны водпуск належыць. Не ўсё па засвойванні вучэбнага матэрыяла ішло роўна, з некаторымі вучнямі прыходзілася заставацца пасля ўрокаў. Так яна тлумачыла мужу свае затрымкі. Кашын, сам настаўнік, яе разумеў і стараўся не папракаць, тым больш, што дома было ўсё ў парадку, у ім гаспадарыла маці і ў дапамозе дачкі не было патрэбы.

* * *

У суботу ў Кашына ў школе былі толькі два ўрокі, ён іх правёў і спяшаўся дадому: трэба было замяніць слуп у штыкетніку, а то мог заваліцца ўвесь плот.

Стаяла сярэдзіна кастрычніка. У горадзе ўжо пачаў ападаць ліст: з таполяў — зялёны, з ліп — жоўты. Ліпавае лісце разляталася па вуліцы, а тапалінае ляжала кругамі вакол дрэў. Нягледзячы на шум, мітусню і пагрукванне вагонаў на станцыі, у горадзе было ўтульна, журботна, хаця сонца грэла па-восеньску скупа.

Недалёка ад чыгуначнага рэстарана Кашын сустрэў свайго, мабыць, адзінага сябра па школе № 3 — Валодзю Назаровіча. За кароткі тэрмін працы ў гэтай школе ён па-сяброўску, па душах пазнаёміўся, бадай што, толькі з адным ім, калі не лічыць Ірыну. Прычынай сяброўства былі іх франтавыя біяграфіі. Высветлілася, што Назаровіч ваяваў там жа, дзе і Кашын, быў паранены ў нагу, таму хадзіў з палкай.

І вось — выпадковая сустрэча, якой яны чыстасардэчна ўзрадаваліся, як бываюць рады блізкія па духу і характары людзі. Прывіталіся, разгаварыліся.

— Слухай, у мяне ёсць ідэя, давай зойдзем у рэстаранчык, пасядзім, — прапанаваў Назаровіч і, выцягнуўшы з кішэні змятыя асігнацыі, дадаў:

— Учора зарплату атрымаў, аддаў жонцы, а гэтыя грошы яна дала мне на мелкія дробязі. На курыва — шмат, ну дык як? — паглядваючы на Кашына, запытаўся Назаровіч. — Жыццё ж адно, трэба калі-небудзь і аб сабе не забывацца.

— Чорт з ім, з тым плотам, другі раз зраблю, — махнуў рукою Кашын, і яны накіраваліся ў рэстаран.

Наведвальнікаў было не багата, восенню людзі нарыхтоўвалі на зіму агародніну, капалі бульбу. У зале сядзелі рэдкія госці — ідаць, пасажыры, якія чакалі свайго цягніка. Сябры ўладкаваліся за столікам каля сцяны, ад увахода іх закрываў вялікі, амаль да столі, фікус. Афіцыянтка ў светла-зялёнай сукенцы з белым фартухом запісала заказ і знікла. Да графінчыка гарэлкі яны заказалі па адбіўной, салаціку — а там, рашылі, час пакажа. З кухні цягнула падгарэлым мясам і ўсялякімі смачнымі прыправамі. Міжволі хацелася есці. Валасы ў Назаровіча светлыя, рыжаватыя, стаяць тарчма: стрыгся пад бокс. Твар з ледзь прыкметнымі канапацінамі быў сухаваты, са слядамі жаўцізны і гаварыў аб нялёгкіх гадах пераржытага ваеннага жыцця, хаця яму было толькі 35.

— Ну, як ты там дырэктарствуеш? — уладкаваўшыся ў крэсле, першым пачаў Назаровіч. Ён быў вельмі рады сустрэчы, — па-добраму свяціліся вочы.

— Ды нармальна, пакрыўджаных няма, я, ведаеш, не з тых кіраўнікоў, якія могуць зрабіць чалавеку непрыемна. Ды і наогул імкнуся жыць па прынцыпе: не рабі чалавеку таго, ад чаго табе было б дрэнна, — адказаў Кашын.

— Ну і як, атрымліваецца?

— Не заўсёды: людзі розныя бываюць, — Іван Васільевіч развёў рукамі.

— А ў сям'і, я чуў, ужо другі нашчадак нарадзіўся, так? — запытаўся Назаровіч, углядаючыся ў твар сябра, нібы імкнуўся зразумець, як той жыве з Ірынай.

— Ды нармальна, здаецца. Хаця...

— Што — хаця? — ухапіўся за слова Назаровіч. — Ты мне можаш гаварыць усю праўду, без сораму. Усё, што ты мне тут скажаш, тут і застанецца.

— Адносіны ў нас не тыя, што былі раней. — Перад тым, як такое сказаць, Кашын з хвіліну памаўчаў, нібы перад скачком з трампліна ў ваду — збіраўся з духам. — А мы ж усяго чатыры гады разам...

— І што яна?

— Ды злосная нейкая, усё больш маўчыць, заводзіцца без усялякай на тое прычыны, — нібы перад доктарам, пажаліўся Кашын.

— Толькі і ўсяго? — здзівіўся Назаровіч. — Ды ведаю я баб, якія, выйшаўшы замуж, праз тыдзень з мужыкамі былі на нажах і хадзілі па хаце ў брудных халатах. Галоўнае — выскачыць замуж, а потым расслабляюцца, пачынаюць зубы скаліць: пячатка ж у пашпарце ўжо стаіць! Праўда, так робяць жанчыны прымітыўныя, недалёкія.

Назаровіч памаўчаў, а потым дадаў:

— Каханне, Іван, бывае паміж палюбоўнікамі, а паміж мужам і жонкай — сямейнае жыццё з грызнёй і скандаламі, гэта не толькі ў цябе. Што, і Ірына такая?

— Здаецца...

Кашыну не хацелася выносіць смецце з хаты, не хацелася, каб чужы чалавек ведаў аб яго жыццёвых праблемах, таму і выціскаў з сябе словы, нібы старую пасту з цюбіка, па-трошку, малымі порцыямі. Назаровіч глядзеў на сябра вачамі чалавека, які хоча, але ніяк не адважыцца сказаць нешта важнае.

— Іван, а ты нічога не чуў пра Ірыну, ну, што яна... — урэшце асмеліўся Назаровіч, быццам адной нагой ступіў у халодную ваду і збіраецца даць нырца.

— А што яна? — ухапіўся за словы сябра Кашын.

— Так, ты, значыць, нічога не ведаеш!

У гэты момант падышла афіцыянтка з падносам, выставіла ўсё на стол, пажадала прыемнага апетыту і пайшла. Прадчуваючы нешта нядобрае, Іван Васільевіч глядзеў, як яго сябра наліваў гарэлку, і пры гэтым горла графіна, сутыкаючыся з краем стопкі, дробна аб яго стукала, — адчувалася, што Назаровіч хваляваўся.

— Ну, давай за гэтае жыццё, будзь яно праклятае! — сказаў Назаровіч.

Выпілі, закусілі. На душы ў Валодзі пацяплела, а ў Кашына — наадварот, з'явіўся нейкі халадок, паколькі Назаровіч сказаў толькі «а», а «б» ніяк не мог з сябе выціснуць.

— Іван, прабач, што я зноў за сваё. Я ж да вайны таксама ажаніўся, я табе расказваў, — усё больш распальваючыся, пачаў сваю споведзь былы франтавік, а цяпер кульгавы настаўнік Назаровіч. — Скончыцца бой, радуюся, што жывы застаўся, выцягну з шынелі фотакартку жонкі, гляджу і нібы размаўляю з ёю. Старшына дадаваў ў акопы да кансерваў абавязкова па сто грамаў франтавых. Так радасна! Сябрук мой, Федзька з Разані, вып'е гэтыя слёзы з алюмініевага кубка, закурыць папяросу і абавязкова, падлюга, жаласную песню зацягне:

Ты меня ждешь,
А сама с лейтенантом живешь,
И у детской кроватки тайком
Ты меня проклинаешь…

— Ты, ведаеш, у той час на вайне гэтая песня Ісакоўскага была так перайначана... Слухаю Федзьку, і так цяжка ў мяне на душы зробіцца, што не вытрымліваю і гавару:

— Ты што гэта, Федзя, такой песняй жанчын зневажаеш?

А той падыме на мяне цяжкія, быццам свінцом налітыя вочы, і так асуджальна гаворыць:

— А я не пра ўсіх баб пяю, я пра Феньку сваю, падлу. Яна ў мяне на перадок слабая, пры мне, жывым мужыку, любіла ў чужыя гароды зазіраць, а без мяне і падаўна.

— А можа, цяпер вылечыла яе вайна і яна цяпер сябе сціпла паводзіць, грэх жа, мужык — на вайне, а яна — з другім, — гавару яму, каб яго душэўныя пакуты трохі зменшыць.

— Не-а, — гаворыць, — калі справа датычыцца гэтага, з душы маёй Фенькі ўсялякую святасць нібы ветрам здзьмухвае.

Тут я не вытрымліваю, дастаю фота сваёй Валькі і пытаю:

— Слухай, гэта — мая жонка. Як мяркуеш, здраджвае мне?

Ён доўга глядзіць, а потым ухілiста адказвае:

— Не ведаю. Але, здаецца, не здраджваюць толькі непрыгожыя ды тыя, да якіх мужыкі не чапляюцца. І гэта зразумела: прырода, яна, брат, сваё бярэ. Калі б жанчыны іншымі былі — род чалавечы на зямлі звёўся б. І супраць гэтага нічога не зробіш.

Тут Назаровіч схамянуўся, наліў па чарцы. Кашын заўважыў, што рука ў яго сябра на гэты раз не дрыжыць.

Выпілі яшчэ.

— Ты, Іван Васільевіч, не надта сумуй, не адзін ты такі. І прыгатуйся мне морду біць за тое, што праўду пра тваю Ірыну раскажу. Але пакуль да гэтага чарга дойдзе, пра сваё паспавядаюся. Карацей, вяртаюся з фронту. Зінка, жонка мая, адразу на шыю вешаецца, а ўнізе, аб прыпол яе спадніцы, хлопчык трэцца. Падымаю яго на рукі, падкідваю ўгару: «Сыночак, — кажу, — які ты вялікі вырас!» А ў самога ад расчуленасці слёзы на вачах. Да вайны я пакінуў яе цяжарнай, а сам на фронт падаўся. А цяпер сыну пяты годзік ішоў, без мяне вырас. Потым паглядзеў уважлівей, і сэрца маё неўпапад забілася: вельмі ўжо хлопчык нагадваў суседа Восіпа Пятроўскага, такі ж рыжанькі. І тварам — выліты Ёська, што з вайны не вярнуўся. Засумаваў я, канешне, гэта ж, выходзіць, яна яшчэ пры мне з ім стыкоўку мела. І так мне млосна на душы стала. «Гэта ж трэба, пры жывым мужыку!..» — мучыў я сябе. Іншыя ў такіх выпадках скандаляць, высвятляюць адносіны з мордабіццём, а мяне настолькі закпініла, што дні два гаварыць не мог. Потым знайшоў зручны момант і сказаў: «Зінка, сучка, калі другі раз давядзецца — пад рыжага не кладзіся, трэба, каб валасы аднолькавага колеру былі, тады зручней лухту мужу вярзці». Яна мне — маўляў, бываюць выпадкі, што, калі пры цяжарнасці баба на чужога мужчыну доўга глядзіць, то дзіцё да яго падобнае нараджаецца.

Назаровіч сціснуў да скрыгату зубы, ад адчаю гнеўна зыркнуў вачыма.

— Хацеў пару разоў стукнуць па яе нахабнай мордзе, каб палягчэла, ды пасаромеўся: не змог, не таму мяне маці вучыла. Зінка ж, лярва, сама кажа, маўляў, пабі мяне, лягчэй стане. Не пабіў. — Падумаўшы, дадаў: — А-а, хрэн з ёю, чые б бычкі ні скакалі, — абы цяляты былі нашы.

Потым усміхнуўся сам сабе, дакончыў:

— І так па начах налёг на яе з-за рэўнасці і ваеннай галадухі, што неўзабаве другое хлапчанё нарадзілася. Чыста мой, без усялякіх дамешкаў! І цяпер у мяне ўжо два арлы, дакладней — галубкі. Я без іх — нуль, ніхто, а з імі — чалавек! Шануюць яны мяне, я ім тым жа адплочваю, без іх жыцця свайго не прадстаўляю. Упэўнены, што яна, Зінка мая, зноў дзеля разнастайнасці зручнага моманту шукае. Ну і няхай, на тое яна і баба, здраджваць мужыкам у іх прыродзе генамі закладзена.

Выпілі патроху, закусілі — і рука Івана сама ў кішэню за курывам пацягнулася: арганізм патрабаваў. Смачна зацягнуліся дымам, і Назаровіч тут жа пракаменціраваў:

— Я чаму люблю ў рэстаранах пасядзець? Ды тут рабі, што захочаш, ніякай табе забароны: хочаш — пі, хочаш — куры, ніхто табе заўваг не робіць. А наогул, Ваня, жытуха наша вельмі правільна ў такім анекдоце сканцэтравана: увайдзі ў аўтобус і пагладзь па галоўцы хлопчыка, які стаіць побач, — можа, гэта твой сын. І ўступі месца старому: можа, гэта твой бацька.

Памаўчаўшы, працягваў апавядаць пра сваё жыццё:

— Ты памятаеш, як у «Красной звезде» ў 1943 годзе з'явіўся верш Канстанціна Сіманава «Адкрыты ліст», адрасаваны жанчыне з горада

Вічуга?» Я да гэтага дня яго на памяць ведаю, мы яго ў той час адзін у аднаго перапісвалі і ў адваротах шапак на галаве насілі.

— Я таксама яго на памяць ведаю, словы ў ім якія! — захмялеўшы ад гарэлкі і ад жудаснага намёку на прыгоды сваёй жонкі, прагаварыў Кашын. І раптам з сур'ёзным тварам пачаў чытаць верш:

Я вам обязан сообщить,
Что не дошло да адресата
Письмо, что в ящик опустить
Не постыдились вы когда-то.
Вы пишете, что вот уж год,
Как вы живете с новым мужем,
А старый если и придет,
Вам все равно не будет нужен.
Я сообщаю вам о том,
Что, завернувши в плащ-палатку,
Мы ночью в сквере городском
Его зарыли после схватки.

Кашын змоўк. Мабыць, ён чытаў вельмі гучна, таму што наведвальнікі рэстарана павярнуліся ў яго бок і, выцягнуўшы шыі, слухалі. Не смяяліся, не тыкалі пальцамі, што чалавек перапіў і яго на вершы пацягнула, а слухалі моўчкі і строга, як некалі зводкі Саўінфармбюро. І ўсё таму, што чытаў Кашын выразна і дакладна, а словы былі цяжкімі і вельмі правільнымі.

— Вось і ўсё, Іван Васільевіч, і не трэба больш ніякіх доказаў, што жанчыны святыя. Усе жанчыны, Іван Васільевіч, жывуць па прынцыпе: мужыка шмат не бывае. Пабудзе пад чужым, а потым пачынае маніць, выкручвацца. Ты, можа, чытаў вершы Амара Хаяма: «Скорей голодный тигр откажется от мяса, чем женщина откажется от лжи». А святымі бываюць толькі маці і бабулі, у маладосці ж усялякае вытвараюць.

— А з кім вытвараюць? — нечакана запытаўся Кашын.

— О-о, такіх бабнікаў сярод нашага брата хоць гаць гаці! Такіх кабеты за вярсту чуюць, быццам пчолы мёд. У мяне кот Барыс жыве, а кошка ў аднаго суседа метраў за трыста ад нас. І, як толькі замарцуе — ён адразу там. Так і гэтыя, аматары да чужых баб. Вось ты, калі жаніўся на Ірыне, думаў, што яна нявінніца. І памыліўся. У маёй Зінкі таксама да мяне нехта паспеў палазіць. Ажаніўся, паспаў першую ноч, раніцай устаў, а на прасціне — чарніла. Што гэта, пытаюся, у цябе кроў не такая, як у людзей? А яна паглядзела і адказвае, маўляў, бухгалтарам у канторы раней працавала. А чарніліцу пад ложак паставіла, спадзявалася мяне абдурыць, ды чарніла пераблытала, замест чырвонага — блакітнае.

І Назаровіч засмяяўся, гучна, на ўвесь рэстаран. Кашын таксама нацягнута засмяяўся, ён зразумеў, што гэта анекдот. Па першых пытаннях Назаровіча пра жыццё, пра справы ў сям'і Кашын здагадаўся, што Уладзімір Сяргеевіч ведае пра Ірыну нешта такое, аб чым ён, яе суджаны, нават не падазрае. І адразу неяк скіс, засумаваў. Вядома ж, размова пойдзе аб здрадзе жонкі. Цяпер ён зразумеў усялякія людскія намёкі, недагаворкі, з'едлівыя погляды таварышаў.

— Ну, ладна, не вярэдзь душы, скажы, дзе і з кім яна... — не ўтрымаўся Кашын.

— Неблагі ты, Іван, чалавек, добры, правільны. І наіўны, — здалёку пачаў Назаровіч. — А наогул мы ўсе такія, што тут гаварыць, асабліва тыя, хто чатыры гады смерці ў акопах у вочы глядзеў. Ад частай сустрэчы з праклятай чалавек не становіцца злосным — дабрэе.

Назаровіч зацягнуўся, стушыў папяросу ў шкляной попельніцы і працягваў:

— Прыехаў ты да нас з інстытута, убачыў крутыя бёдры і тонкую талію гэтай Ірыны і быццам здурнеў, і за ёй у вір кінуўся. І ніхто табе пра яе благога слова не сказаў, таму што мы табе былі чужыя, а чужому недазволена пра сардэчныя справы адкрыта гаварыць. А Ірына — дзявэля мясцовая, пра яе выкрутасы ўсе ведалі да дробязей. Ведалі пра тое, што яна сустракаецца і са сваім былым школьным таварышам, і з дырэктарам вашай школы, мы яго ўсе пляшывым завём. І, ведаеш, было б у каго закахацца, а то глянеш на гэтую лысіну, у нахабныя хітрыя вочы — і адразу плюнуць хочацца: не мужык, а штаны з яйцамі.

Гледзячы на тое, як густа пачырванеў твар Кашына, Назаровіч папярэдзіў, што не варта з-за гэтай гуляшчай маладухі асабістае здароўе марнаваць, бабу можна і змяніць, а здароўе ў краме не купіш.

— Пляшывы пра яе блуд з другім ведаў, увесь час скандаліў, а яна ў адказ на яго папрокі паставіла ўмову: кіну свайго сябра тады, калі ты кінеш сям'ю і ажэнішся са мною. А ў яго было двое дзетак. І разводзіцца ён не збіраўся. І тут у самы між імі раздрай з'яўляешся ты, і ўся справа спускаецца на тармазах, ты жэнішся, — бязлітасна рэзаў голую праўду падвыпіўшы сябра.

Назаровіч дабулькаў у стопкі рэшткі гарэлкі і запытальна паглядзеў на Кашына: можа, яшчэ заказаць?

— Можна, — услых вымавіў амаль анямелымі вуснамі паніклы духам Іван Васільевіч.

Паклікалі афіцыянтку, папрасілі паўтарыць. Дзяўчына кіўнула і пайшла.

— Калі я даведаўся, што ты збіраешся ажаніцца з ёй, ведаеш, як у мяне язык свярбеў? Я месца сабе не знаходзіў. Ты думаеш, што на такую прыманку, як яе крутыя клубы, іншыя б не кінуліся і не ажаніліся з ёю? Яшчэ б як кінуліся, ды толькі як даведаюцца, што гэта за цаца, за птушачка «святая», — адскоквалі, быццам ад агню: каму патрэбна юрлівая жонка, усялякі імкнецца знайсці і для ложка прыдатную, і дамавітую. А дамавітасці ў Ірыне — кот наплакаў.

Выпілі яшчэ па адной, даклявалі закуску. Чырвань з твару Кашына сышла, на змену ёй з'явілася бледнасць.

— Нашы настаўніцы-жанчыны гледзячы на цябе, калі гаварыць чэсна, зларадлічалі: маўляў, такі красун — і так уляцеў. І са здзекам пасмейваліся. «Чаго вы здзекуецеся з хлопца, ну, не ведаў, ну, уліп. А можа, зусім і не ўліп, можа, Ірына пасля замуства адменіць свае левыя паходы і такой жонкай будзе!» — спрачаўся я. А яны мне: не будзе! Маўляў, калі ўб'ецца свіння ў чужы гарод па бульбу лазіць, дык якую палку ёй на шыю ні вешай — усё адно будзе лазіць. Асабліва старалася адна — я табе яе імя не скажу. А выступала яна апантана таму, што нявіннай свайму мужыку дасталася і гэта, на яе думку, давала ёй права наводзіць рэзкую крытыку. А ў астатніх, выходзіць, рыльца ў пушку, таму і выказваліся яны не так азартна...

— Слухай, хлопец, ты не вельмі нервуйся, — гледзячы, як Іван Васільевіч пачаў прыкурваць чарговую цыгарэту ў той час, калі першая ляжала на

стале напалову недакуранай, захваляваўся Назаровіч. — Інакш я табе гэтую казку даказваць не буду. Не будзеш нерvavацца?

— Не буду, — змяўшы ў попельніцы недакураную цыгарэту, паабяцаў Кашын, а ў самога ў ґрудзях усё гарэла.

Назаровіч жа вырашыў збавіць абароты. «Трэба неяк мякчэй, — падумаў ён, — так недалёка і да інфаркту».

— Калі яна пайшла ў дэкрэтны, у мяне з душы нібы камень зваліўся: ну, думаю, на гэтым раман у Ірыны з дырэктарам скончыўся, і Іван Васільевіч пачне з жонкай праведнае жыццё, — працягваў Назаровіч, глыбока зацягваючыся паміж словамі цыгарэтным дымам. Усё ў рэстаране было ў едкаватым блакітным тумане, бо курылі не толькі яны.

— Калі Ірына вярнулася з дэкрэтнага, я ўвесь натапырыўся і ўсё гадаў: няўжо зноў на прыём да пляшывага пойдзе? — загаварыў Назаровіч. — Як нарадзіўся гэты выраз — «на прыём?» Ды вельмі проста. Калі ён, дырэктар, сярод белага дня вызываў яе да сябе ў кабінет і яны, закрыўшыся на ключ, песціліся там, жанчыны між сабой гаварылі: «Дзяніс Сяргеевіч заняты, не хадзіце да яго, у яго на прыёме Ірына Радзівонаўна». І аднойчы гэтая (яе імя я табе ўсё ж такі не скажу) злоязычная маладзіца — ёй камунебудзь шпільку ў бок уваткнуць, што цукерку пасмактаць, — неяк між іншым асцярожна запыталася пры ўсіх у Ірыны:

— А за што на вас, Ірына Радзівонаўна, сёння дырэктар сварыўся, вы выскачылі з кабінета ўся чырвоная, як мак?

— Значыць, зарабіла, таму і сварыўся! — гучна сказала і абвяла ўсіх прысутных смелым позіркам: маўляў, што, выкусілі?

— Кіраўнік і да тэлеграфнага слупа можа прычапіцца і насварыцца, — разрадзіў тады я напружанне ў настаўніцкай. А ў самога — мурашкі па спіне: значыць, каханне працягваецца. Мне тады так хацелася адвесці Ірыну ўбок і пагаварыць з ёй сур'ёзна. Што ты, хацеў сказаць, робіш, ядрона вош, навошта мужыка свайго прыстойнага ганьбіш? Але пасля гэтага мне давялося б шукаць другую работу, бо Ірына пляшываму ўсё б расказала, а той чапляцца б пачаў, ты ж ведаеш, ён помслівы. Калі я гэтую ідэю адкінуў, адразу другая з'явілася: захацелася напісаць ананімку ў гаркам партыі, так, маўляў, і так, дырэктар у працоўны час закрываецца з настаўніцай у кабінеце і розныя там шуры-муры творыць. Але і тут закавыка выйшла: мяне маглі вылічыць па почырку і — да пабачэння, праца, а дзе цяпер уладкуешся? Папакутаваў я трошкі, памучыўся і прыняў канчатковае рашэнне: расказаць усё табе, няхай, думаю, ён яе на месца паставіць.

Каля іх століка зноў мільгануў беленькі фартушок афіцыянткі, заблішчаў напоўнены гарэлкай графінчык, заказытала ноздры толькі што выцягнутая з духоўкі адбіўная.

— Ты як сябе, Іван Васільевіч, адчуваеш, ці адолеем мы яшчэ адзін пузанчык? — і Назаровіч стукнуў па напоўненым бясколернай вадкасцю графіне костачкай сагнутага пальца.

— Дробязь, адолеем, — коратка сказаў Кашын, з цяжкасцю выбіраючыся з туману, які напусціў эмацыянальны Назаровіч.

— Толькі ты, Ваня, пры хатняй разборцы прозвішча маё не ўблытвай, не хачу, каб гэта ад мяне выйшла, — папрасіў, заканчваючы сваю гутарку, Назаровіч.

Пакуль налівалі, закусвалі, хвіліны дзве за сталом панавала маўчанне. Неспакойнае, нацятае, нібы струна. Гісторыя, расказаная Назаровічам, была для Кашына такой нечаканай і жудаснай, што ён першыя хвіліны

сядзеў, як у паўзабыцці, быў момант, калі перад ім усё паплыло, як у міражы, нейкую хвіліну ён нават баяўся зваліцца з крэсла і непрыкметна для сябра ўчапіўся рукою за стол. Але хвіліна слабасці была кароткай і хутка прайшла, ён узяў сябе ў рукі і, як не раз бывала пасля ранення на перадавой, пачаў вырашаць, што б такое прыдумаць для выратавання. А рабіць нічога і не трэба было, спачатку патрабавалася, як у судзе, добра выслухаць абвінаваўцу Назаровіча, разабрацца ў сітуацыі, і толькі пасля гэтага прымаць рашэнне.

Першы вывад, які зрабіў для сябе Кашын, быў такі: Ірына выйшла за яго замуж вымушана, каб стаць законнай жонкай, і ўжо за спіной мужа працягваць сустракацца са сваімі палюбоўнікамі. Такі вывад для Кашына быў халодным душам. Усе добрыя намеры па стварэнні сям'і разбурыліся ў адзін момант, рассыпаліся, нібы хата з пяску, ён сядзеў расстроены, прыбіты. Яго твар, змардаваны праўдай аб жонцы, быў змучаны, у вачах стаяў адчай.

А Назаровіч, выканаўшы сваю чорную справу, паклёўваў сабе ідэльцам салацік і з трывогай чакаў, што скажа Іван. Кашын таксама, апусціўшы ў талерку вочы, вяла жаваў. Ён пакутліва шукаў адказу на тысячы пытанняў. І калі маўчанне зацягнулася да непрыстойнасці доўга, падняў угору задумлівыя вочы і запытаў:

— А ты, калі з фронту вярнуўся і даведаўся, што сын не ад цябе, доўга бушаваў?

— Не-е, я ж цяля па натуры. Калі б я быў агрэсарам, ці ж дазволіў бы сваёй Зінцы з суседам сустракацца? Ніколі! Потым я даведаўся, як яны... Аднойчы яна позна вечарам вярталася з дня нараджэння сяброўкі. Добра пад мухай. Сусед выпадкова дагнаў яе па дарозе, пайшлі разам. А на двары — ноч, канец жніўня, конікі стракочуць. Сусед, адчуўшы, што яна пад мухай, абняў яе, а яна — нічога. Ён — далей. А ў п'янай бабы, як сам ведаеш, гэтая штука чужая. Не шкада. Ну і састыкаваліся. А жанчыне ж цяжка толькі пачаць, потым яна сама за табою... З таго часу і пайшло-паехала. Выскачыць вечарам быццам па малой патрэбе, хаты ж побач стаялі, а хвілін праз дваццаць варочаецца ўжо. Аказалася, што ён яе кожны вечар чакаў.

— Во падла, — не ўтрымаўся і плюнуў убок Кашын.

— Дык яна ж цэлы год, лічы, што да самай вайны, двух быкоў даіла.

Адчувалася, што Назаровіч сваю былую непрыемнасць наўмысна перабольшваў, каб яго, Кашына, гора зменшыць, маўляў, не з адным табою такое здарылася.

— Што ж мне, па-твойму, рабіць? — глуха запытаўся Іван Васільевіч, паступова адыходзячы, як ад наркозу пасля аперацыі, якую хірург Назаровіч зрабіў на душы сябра.

— Не ведаю, дапаможа табе мая рада ці не, але я б зрабіў так. Спачатку трэба да яе добра прыгледзецца, як і калі яна з працы прыходзіць. Ты ж ведаеш расклад яе ўрокаў. А калі ўпэўнішся, што яна сапраўды з ім сустракаецца, знайдзі ціхае месца і час і пагутары з ёю па-добраму, каб спыніла яна свае левыя паходы. Не згодзіцца — прыгразі разводам, хаця разводзіцца ў тваім становішчы не зусім зручна: дваіх дзетак сіраціць грэх. Без факту, які б яе прыпёр да сценкі, на такую хітрую лісу без стрэльбы ісці нельга. Скажа: плёткі. І такі разнос табе ўчыніць за абразу, што паставіць цябе потым на калені прабачэння прасіць. У іх, такіх, як твая Ірына, ды і навогул у большасці баб, лепшы спосаб абароны, як ты сам ведаеш —

нападзенне. З імі трэба вой як асцярожна! Інакш увесь той бруд, які яна намуціла, паплыве супраць цябе, і ты ў ім захлынешся.

Адчувалася, што Назаровіч параду сябру абдумаў загадзя і турбаваўся, ці прыме ён яе. Хаця разумеў, што дзейнічаць прыйдзецца па абставінах.

— Давай яшчэ па адной, — нічога не адказаўшы на прапанову Назаровіча, нечакана сказаў Кашын.

Закусіўшы, Іван Васільевіч выцер пот тыльным бокам рукі.

— Разводзіцца, Валодзя, мне з ёй ну ніяк нельга, — жаласлівым тонам сказаў ён. — На гэта я маю тры прычыны. Па-першае, я ў яе закаханы, закаханы надоўга і беспаваротна. — Кашын, саромеючыся перад сябрам сваёй слабасці, пачырванеў тварам, апусціў уніз вочы, у якіх заблішчэлі слёзы. Памаргаўшы павекамі і пераадолеўшы сябе, працягваў:

— Ты, можа, чуў, як у Адэсе раней такую песеньку спявалі:

Все говорят: она наводчица,
А мне еще сильнее хочется.

Так і са мною. Сорамна ў гэтым прызнавацца, але гэта — факт.

— Навошта саромецца, — паспачуваў Назаровіч сябру. — Я ведаю шмат сем'яў, у якіх жонкі — кобры, нават б'юць сваіх мужыкоў, а яны перад імі на задніх лапках. Гэта, брат, прыродная стыхія, як цунамі, супраць яе нічога не зробіш.

— Не зробіш, — глыбока ўздыхнуўшы, згадзіўся з ім Кашын і працягваў: — Другая прычына, па якой развод супрацьпаказаны, — гэта мае дзеткі-сынкі. Пасля таго, што пачуў ад цябе, я не ўпэўнены, што яны ад майго семя, але гэта, уяві сабе, цяпер значэння не мае. Я прырос да іх, а яны да мяне так, што разарваць нас ніяк нельга. Бачыў бы ты, як зіхацяць вочкі старшанькага, калі ён мяне з працы сустракае! І здрадзіць яму? Ды ніколі! Гэта не ў маіх сілах, хутчэй ў пятлю палезу.

Пасля такіх слоў Кашын нервова сціснуў кулакі, на твары захадзілі жаўлакі.

— Я вось зусім нядаўна па радыё чуў, як у аднаго адзінокага артыста кошка прапала. Месца сабе не знаходзіў, усё шукаў. А калі не знайшоў, дык выпіў бутэльку гарэлкі і павесіўся, хаця алкаголікам не быў. Вось так брат. Зацятая прыхільнасць — штука страшная.

— А меншанькі, ён жа мала што яшчэ разумее, але варта мне толькі з'явіцца ў хаце, як ён вылузваецца з рук бабулі і працягвае да мяне ручкі. І ад такіх анёлачкаў пайсці? Ніколі, грэх здраджваць божым немаўлятам, гэта ненатуральна.

— Ну, а трэцяя прычына якая? — не стрымаўся Назаровіч.

— Трэцяя таксама не малая. Ты ж ведаеш, што я дысертацыю па педагогіцы пішу, скора абараняцца паеду. Зноў жа, інстытут юрыдычны канчаю. Не ведаю, што мяне перацягне: юрыспрудэнцыя ці педагогіка. Ды і ў гаркаме партыі на добрым рахунку, член бюро, мяне паважаюць, да маіх слоў прыслухоўваюцца. І калі гэты сямейны фурункул ускрыецца, ён сваім гноем запырскае маю кар'еру. А мне гэтага так не хочацца... — Потым, падумаўшы, дадаў: — Кожная з трох прычын, нават адна, сама па сабе, ставіць крыж на разводзе. А ўсе разам — гэта бетонная сценка, якую не прабіць.

— Та-ак, справы, — выслухаўшы сябра, задумаўся Назаровіч. — Ну што ж, дам табе яшчэ адну дзелавую параду: ні ў якім разе не выда-

вай сябе, няхай яна не ведае ні адной з прычын, па якой ты не развядзешся. Інакш стане нахабнай да крайнасці і пачне паводзіць сябе так, што табе неба з аўчынку пакажацца. Сумлення ж у яе няма, усё высахла, гэта факт.

* * *

З рэстарана яны выйшлі ўжо пад вечар. На прывакзальнай плошчы вецер круціў апалае лісце. Раз-пораз пад'язджалі аўтобусы, з іх выходзілі людзі, потым салон запаўняўся новымі, шоргнуўшы старымі разбоўтанымі дзвярыма, аўтобус даваў газу і плыў убок горада.

У адзін з аўтобусаў ускочыў Назаровіч. За гадзін шэсць яны выпілі дзве бутэлькі гарэлкі, але п'янымі не былі і на нагах трымаліся цвёрда. Яно і зразумела: градусы, нібы вадою, разбавіў час, так п'юць на Захадзе, патрошку, але доўга, са смакам, курэннем цыгарэт і душэўнымі размовамі.

— Татулечка, дзе ж ты так доўга быў, па табе твой сынуля засумаваўся, — сустрэла Кашына цешча з дзіцём на руках. — Ну, пачакай жа, пачакай, дай татулю пераапрануцца, у-у, які нецярплівы! — мякка дакарала бабуля ўнука.

— А Ірыны яшчэ няма?

— Не, — суха, з прыкрасцю ў голасе адказала Настасся Ільінічна, і па тоне яе голасу Кашын зразумеў, што аб паходжаннях дачкі маці ведае ўсё.

— Дзе ж яна магла так затрымацца, урокі ж у яе да трох? — быццам нічога не ведаючы, запытаўся Кашын.

— Можа, там, дзе і зяць, — мякка папракнула цешча Кашына, ці не ўпершыню пачуўшы ад яго пах гарэлкі, і гэта ёй не спадабалася.

— Я сябра сустрэў, Назаровіча, даўно не бачыліся, зайшлі ў рэстаран, пасядзелі. — Яму стала крыху сорамна і адначасова крыўдна, што цешча яго папракнула. І за што? За тое, што ўпершыню прыйшоў не п'яны, а так, з душком дадому вярнуўся? Гэта з яе боку несправядліва. І ён у першы раз у жыцці падумаў аб Настассі Ільінічне нядобра.

Праз паўгадзіны з'явілася Ірына. Сказала, што затрымалася ў школе, правяраючы вучнёўскія сшыткі.

— А за сшыткамі сядзець не тое, што ў рэстаране гарэлку піць, — даведаўшыся, дзе быў муж, падкалола яна.

З той хвіліны, як яна ўвайшла, Іван Васільевіч пачаў глядзець на яе другімі вачыма. Да пачуцця кахання дабавілася падазронасць. Яму прыдумалася параўнанне, што яго мёд кахання да жонкі патыхае дзёгцем. З таго дня Кашын пачаў тайком прыглядваць за жонкай. «Зразумела, што праверкі сшыткаў — прычына, каб застацца ў школе і сустрэцца з «пляшывым». І, мяркуючы па яе спакойным, добрым твары з усмешкай у куточках пухлых вуснаў, сустрэча гэтая адбылася. Пазней па гэтай затоенай усмешцы Кашын здагадваўся, была яна з палюбоўнікам ці не.

Аднойчы Ірына прыйшла са школы як звычайна — позна. Моўчкі зняла з сябе плашч, падышла да люстэрка. Іван Васільевіч сядзеў з сынам на каленях і чытаў газету. Жонка некалькі разоў касым позіркам паглядзела на мужа: ці не здагадваецца ён аб чым? Потым пайшла ў ванную (дом хаця і прыватны, але ванная з тытанам ужо была), доўга ў ёй паласкалася. «Мабыць, мыецца, — падумаў Кашын, — знішчае сляды падпольнага кахання». Выйшла з ваннай з пахам духоў «Масква», якія там стаялі. «Ага, — зноў падумаў муж, — пах палюбоўніка знішчыла».

І толькі пасля ўсяго гэтага заспакоена прысела да стала, за якім сядзеў муж з дзіцём на руках.

— Ідзі да мяне, мой маленькі, — ласкава сказала яна і працягнула рукі да сына. Валерка тут жа ўчапіўся за шыю таты і са здзіўленнем паглядзеў на маці.

— Сынок, ты чаму ад мяне адварочваешся? — запыталася з фальшывай крыўдай у голасе. Хлопчык, задаволены тым, што маці не ўзяла яго на рукі, усміхнуўся.

— Ірына, табе наліць баршчу? — запыталася, выходзячы з кухні маці.

— Не, мама, мы там з дзяўчатамі ў буфеце перакусілі, дай толькі кампоту папіць... Вой, я сёння так утамілася, так утамілася, дзеці за дзень вельмі выматваюць!

Гэтыя словы яна адрасавала мужу, спадзеючыся, што той пашкадуе. Але муж змаўчаў, працягваючы чытаць газету. Чытаў, але літар не бачыў, бо ў ім усё бушавала, кіпела, нібы суп у каструлі, і ён з цяжкасцю сябе стрымліваў: толькі б не плюхнуць цераз край! Кашын некалькі разоў глыбока ўцягнуў носам паветра, і хаця жонка сядзела на другім баку стала, да яго данёсся пах віна. «Ага, «Кагор» сёння пілі», — падумаў, і рэўнасць востра праняла грудзі, быццам у сярэдзіну ўсадзілі нож.

Калі надышоў час класціся спаць, Кашын упершыню за апошнія гады папрасіў Настассю Ільінічну паслаць яму ў зале на канапе. Для Ірыны і цешчы такое пажаданне было нечаканасцю. Настасся Ільінічна запыталася:

— Што з табою, Іван Васільевіч? Ці не захварэў ты?

— Галава разбалелася, — зманіў зяць.

Жанчыны, нічога не разумеючы, паглядзелі адна на адну, паціснулі плячыма, паслалі яму ў зале і пайшлі. Чуваць было, як Ірына доўга варочалася ў ложку, глыбока і шумна, каб пачуў муж, уздыхала.

Не спаў і Кашын. Ды і як было заснуць пасля ўсяго таго, што ён даведаўся. Думаў, што ажаніўся ўдала, што яму дасталася добрая, хаця і не першай свежасці, жонка, якая двух хлапчукоў, нібы два арэхі з сябе вылузала. Хлапчукі растуць бадзёрымі, здаровенькімі. Зноў жа цешча, дарэчы, прыйшлася, унукаў даглядае, у сям'і мір і парадак. Сам ён выбудаваў сабе добрую перспектыву, спадзяваўся з дапамогай двух інстытутаў у людзі выйсці, кар'еру неблагую зрабіць. І вось на табе, дачакаўся...

Калі яму было дрэнна, ён з акопных часоў навучыўся думаць аб сваёй маленькай радзіме, успамінаць маці і дзяцінства. Карціны мінулага з'яўляліся перад вачыма адразу, быццам ён іх уключаў кнопкай. Яны ўзнікалі лёгка, па першым жаданні, нібыта толькі і чакалі прыйсці на дапамогу, суцешыць, прыдаць моцы. І Кашыну здавалася, што справа тут не проста ў жывасці яго асабістага ўяўлення, а ў тым, што далёкая ад яго мілая, крэўная радзіма нейкім незразумелым чынам дае аб сабе ведаць, помніць яго, імкнецца дапамагчы.

Першай ён успомніў маці, якая, з верай у святасць і чысціню чалавечай сумленнасці, падштурхнула яго да Ірыны. Цікава, што б яна цяпер сказала, калі б пачула пра нявестку праўду? І, ведаючы характар маці, паспрабаваў адгадаць яе падказку сыну, які заблукаў у жыцці. І колькі ні думаў, колькі ні намагаўся на адлегласці прачытаць думкі маці, заўсёды прыходзіў да аднаго і таго ж фіналу: яна б паплакала і наказала сыну ніякіх скандалаў не ўчыняць, пагаварыць з ёю мірна і скарыцца свайму лёсу.

У думках ён згадзіўся з довадамі маці, паколькі быў яе крыві, яе часткай, і думаў таксама, як і яна. Прыняўшы такое рашэнне, ён паспраба-

ваў заснуць, для чаго падцягнуў коўдру да самага падбароддзя. Але мітуслівая штурханіна думак пакою не давала, і ён зразумеў, што сёння гэта не ўдасца.

Бяссонне з’явілася ў яго нядаўна, і ён зразумеў, якая гэта пакута. Раней, чым больш ён працаваў, чым больш быў стомлены, тым мацней спаў. Цяпер нешта зрушылася, і стома пачала выклікаць у яго стан нервовага напружання. Ён адчуў, што знясільваецца. Раней блізкія адносіны з жонкай былі снатворнай таблеткай, цяпер і гэта перастала дапамагаць. Працаваць дырэктарам школы, дзе калектыў з пяцідзесяці чалавек ды чатырыста навучэнцаў, — гэта не так проста. Амаль кожны дзень у школе нешта здаралася. Ён ужо звыкся з цяжкай пасадай, і непазбежныя непрыемнасці, якія ішлі сваім ходам, усялякага роду канфлікты навучыўся пераносіць стойка. Прынамсі, яму так здавался. Але ўсё гэта засядала ў галаве, мучыла, адкладалася цяжкім асадкам ва ўсведамленні, быццам свінец, абцяжарвала цела.

Цяпер да яго прафесійнай дзейнасці дабавілася яшчэ адна жыццёвая галаваломка — здрада жонкі. Які ўжо тут сон...

* * *

Раніца наступнага дня была пахмурнай і шэрай. У хаце таксама было змрочна і цьмяна.

Стоячы каля люстэрка, Ірына рабіла макіяж і бакавым позіркам з трывогай паглядвала на мужа. «Няўжо нешта пранюхаў? І хто яму мог данесці? Ён жа ў нашу школу ніводнага разу не заходзіў. Можа, хтосьці выпадкова прагаварыўся?»

Улучыўшы момант, калі яны засталіся адны, запыталася:

— Як галава, прайшла?

— А чаго гэта ты пачала турбавацца пра маё здароўе? — адказаў Кашын суха і выйшаў на кухню.

«Усё зразумела, калі судзіць па адказе, дык нейкай інфармацыяй пра мяне ён валодае», — падумала Ірына. Падумала не з трывогай, у прадчуванні скандалу, а хутчэй зларадна. За гады жыцця з мужам яна вывучыла яго характар, ведала, што нічога дрэннага ён з ёй не зробіць, і гэтая ўпэўненасць усяляла ў яе ўсёдазволенасць: што б яна ні сатварыла, ён усё даруе, перажыве, перамучыцца, нават пасівее ад цяжкіх думак, але даруе. Такіх мужчын у народзе называюць падкаблучнікамі, жонкі з іх, што называецца, вяроўкі ўюць. З такімі і цяжка, і добра. Цяжка таму, што да іх узнікае непавага, бо мужчына павінен быць мужчынам — строгім, уладарным, моцным на сілу і волю. А тут — ануча. А добра таму, што пры такіх мужах можна жыць раскавана і вольна, падпарадкаваўшы іх сваёй волі, з імі можна паводзіць сябе беспакарана.

Прыйшоўшы на працу, Іван Васільевіч распрануўся, зачасаў перад люстэркам ужо негустыя, з пакуль адзінокімі сівінкамі валасы (і гэта ў трыццаць гадоў!) і сеў за свой працоўны стол. Неўзабаве дзверы шырока расчыніліся, і ў кабінет уляцела Антаніна Уладзіміраўна — пышнацелая настаўніца гадоў сарака — і адразу накінулася на яго:

— Іван Васільевіч, што ж гэта такое атрымліваецца! Завуч склала новы расклад на паўгоддзе і выдзеліла мне па алгебры на дзе гадзіны ўрокаў менш, чым Абросімавай. Яна маладая, незамужняя, а ў мяне трое дзетак і муж капейкі атрымлівае. Прашу ўмяшацца і навесці парадак, — рэзка выпаліла яна і тут жа выскачыла.

Званка не было, і Кашын зразумеў, што настаўніца скарыстала момант, убачыла яго ў акно, на некаторы час пакінула вучняў і прыбегла ў кабінет са скаргай. Ён сёння заходзіў у гарана, таму крыху спазніўся. «Разабрацца з Абросімавай і Кулагінай», — памеціў сабе ў працоўным календары і тут жа падумаў: «Наколькі дакладна ведаюць пра сувязь Ірыны з Дуктавым у школе?» І тут жа сам сабе адказаў: «Вядома ж, настаўнікам, асабліва жанчынам, вельмі падабаецца корпацца ў чужой бялізне».

Пасля званка на перапынак да яго заходзілі яшчэ некалькі педагогаў па розных пытаннях. Пры размове з імі Кашын у першую чаргу імкнуўся здагадацца па позірках, па інтанацыі, ці ведаюць яны што-небудзь пра блуд жонкі. Бо гэта вялікая ганьба, калі жонка дырэктара самай вялікай школы ў горадзе наставляе яму рогі, а мужык ці нічога не ведае пра гэта, ці проста робіць выгляд, што не ведае, бо ніякіх контрмер не прымае, а гэта нараджае ў падначаленых непавагу да начальніка, над ім цішком пасмейваюцца, паджартоўваюць, нават плююцца.

Неяк, задоўга да размовы з Назаровічам, Кашын капаўся ў архіўнай кладоўцы, дзверы якой выходзілі ў калідор. Ён шукаў нейкую ведамасць на зарплату. У гэты час два настаўнікі выйшлі ў калідор пакурыць і паміж імі адбылася размова. Андрэй Нікадзімавіч, настаўнік астраноміі і фізікі, сказаў другому, выкладчыку рускай мовы:

— Учора ад сябра па школе з Бабруйска атрымаў ліст. Мы з ім з адной вёскі, і ён нядаўна быў дома. Піша, што мая маці зноў злегла, трэба на тыдзень у вёску вырвацца, ды як? Ты, разумееш, як пахавала бацьку, дык і сама занемагла і ніяк не адыдзе. А самой жа — толькі шэсцьдзесят.

— Даглядаць за маці — справа святая. Ты гэтае пытанне не адкладвай, а то спознішся, потым будзеш локці кусаць. Адпрасіся ў Рагаліка, свае гадзіны перадай Інесе — і ў дарогу, — параіў сябра.

«Як ён сказаў — Рагалік? Чаму менавіта Рагалік, бо адпрошвацца Андрэю трэба будзе ў мяне. Значыць, Рагалік — гэта я? Дзіўную мянушку далі мне калегі», — падумаў Кашын без крыўды. «Што ж, у кожным калектыве людзі адно аднаму мянушкі даюць, і нічога ў гэтым страшнага няма».

І вось цяпер, у кабінеце, пры людзях, Кашын раптам успомніў тую даўнюю размову, і яго быццам токам стукнула: «Рагалік жа — ад слова рогі, значыць, гэтую мянушку мне даўно далі з-за Ірыны. Божа мой, а я думаў!» Думкі яго раптам разбегліся, як мурашкі. І калі настаўнікі выйшлі, выцягнуў з кішэні таблетку валідолу і паклаў яе пад язык: вельмі заныла сэрца. Пераадолеў унутраную слабасць і з усяго перажытага зрабіў выснову: яны ведаюць больш, чым я. Часовая слабасць знікла, таму што быў яшчэ моцны целам, і сілы яму пакуль хапала.

* * *

Наступіў чарговы вечар пасля таго дня, як ён даведаўся пра тайнае жыццё Ірыны. Жонка вярнулася са школы рана, прыгатавала вячэру і чакала мужа з працы. Апранутая ў яркі сацінавы халацік для асаблівых выпадкаў, калі ў хаце з'яўляўся нехта чужы, Ірына сустрэла Кашына радаснай усмешкай. Па яе неспакойных вачах можна было здагадацца, што яна нечым занепакоена.

Калі пачалі есці, жонка часта пастрэльвала вачыма, быццам хацела нешта спытаць, але ніяк не адважвалася. І ўсё ж такі не вытрымала, спытала:

— У школе ў цябе ўсё ў парадку?

— А што там можа быць не ў парадку? — запытаўся Кашын, з цяжкасцю выціскаючы з сябе словы.

— Ну, мала што, — наткнуўшыся, быццам на камень, на яго жорсткі адказ, прагаварыла Ірына. Па ўсім было відаць, што яна не сумняваецца ў тым, што муж ведае ўсё.

А ў Кашына з наступленнем ночы зноў узнікла праблема: дзе сёння легчы спаць. На канапе другую ноч запар было нельга — на галаўны боль зноў не спашлешся. Класціся спаць з жонкай, якая нядаўна вылезла з-пад другога? І калі ў горадзе запаліліся агеньчыкі, Іван Васільевіч выйшаў на вуліцу пакурыць.

Прахалода асенняга вечара прыемна асвяжыла твар. Удалечыні паступова заціхаў шум горада. У шматпавярховых дамах ярка гарэлі вокны. «Вось яшчэ адзін дзень скончыўся і адплыў у вечнасць», — падумаў Кашын. І пакуль ён курыў, праблему дзе класціся спаць вырашыла Ірына. Яна добра ведала яго слабасць, ведала лякарства, якім можна завабіць яго ў ложак.

Пакуль Іван Васільевіч у роздуме сядзеў на канапе, яна выйшла са спальні ў адной ружовай камбінацыі і, стаўшы спіной да мужа, пачала нешта шукаць на этажэрцы. Кашын глянуў на яе і... загінуў. У ім адразу ж памёр цвярозы разважлівы мужчына. Імгненна развеялася крыўда на жонку. На яго месцы сядзеў бязвольны, юрлівы тып, мазгі якога ўраз перамясціліся з галавы ў тое месца, на якім звычайна сядзяць. Ён у гэты час гатовы быў на сувязь нават з жанчынай, хворай СНІДам, сіфілісам і ўсялякага роду іншай заразай, спадзеючыся на — авось пранясе. Мужчын такога тыпу хоць макам сей, і Кашын не быў выключэннем.

Зразумеўшы па кроках і шамаценню коўдры, што Ірына ўлеглася, ён тут жа пачаў ліхаманкава, дрыжачымі рукамі распранацца. Увайшоў у спальню, груба вырваў з рук жонкі кніжку, шчоўкнуў выключальнікам. І нырнуў пад коўдру...

Ён быў зараз, як раз'юшаны бык на арэне, якому паказалі чырвоны лахман. Такі Кашын Ірыне падабаўся: грубы, нястрымны, дзікі. У гэтыя хвіліны яна паслушна выконвала ўсе яго жаданні, таму што ведала, што і сама будзе ў выйгрышы.

Паранены рэўнасцю, ён накінуўся спачатку на яе вусны, грудзі. Цалаваў з такой прагнасцю, быццам ведаў, што іх вось-вось забяруць, і ён не паспее прагнаць смагу.

Калі яна паслухмяна легла на спіну, ён выканаў тое, да чаго так заўзята імкнуўся і, адкінуўшыся набок, адпачываў. Варожасць да яе ўсё яшчэ слаба мігцела недзе на краі разумення, але цяпер яна здавалася няважнай, віна жонкі зменшылася, і ён цынічна падумаў: «Гэта такі ласунак, што колькі ні з'ясі — не паменшае, усім хопіць». Падумаў з такім грубым сарказмам, што і сам спужаўся гэтай гадкай думкі, аўтарам якой быў, зразумела ж, не ён, а нехта іншы, ён толькі са смакам яе паўтарыў.

— Ну што, супакоіўся? — адчуваючы, што дыханне ў яго выраўнялася, запыталася жонка.

Кашын змоўчаў. Яго сярэдзіну, як праколатую гумавую лодку вада, пачала запаўняць ранейшая крыўда на жонку. На душы з кожнай хвілінай станавілася ўсё цяжэй. «Можа, цяпер самы момант з ёй пагаварыць?» — падумаў, падклаўшы рукі пад галаву і свідруючы вачыма цёмную столь. І тут жа сам сабе адказаў: «Не, яшчэ рана, можа, і не такая

ўжо значная яе віна. Яно ж як бывае?» — успомніў Кашын сівагаловага старшыню 2-й роты, які гаварыў: «На адным канцы вёскі мужык пукне, а пакуль гэтая навіна дойдзе да другога канца, кажуць, што фрыцы вёску бамбілі». Ён пачаў спадзявацца, што ўсё, што расказаў Назаровіч, як у гульні ў сапсаваны тэлефон, перабольшана, і што трэба ва ўсім упэўніцца самому.

На другі дзень ён прыйшоў дадому раней звычайнага і, не застаўшы жонку дома, накіраваўся ў школу № 3, дзе працаваў раней і дзе цяпер працавала Ірына. Школа знаходзілася за чыгункай. Дабраўшыся да двухпавярховага будынка, паглядзеў на гадзіннік: стрэлка набліжалася да лічбы чатыры. У гэта час школа пусцела, таму што працавала ў адну змену, і зараз там гаспадарылі адны прыбіральшчыцы і, магчыма, некаторыя настаўнікі з адстаючымі вучнямі.

Яго крокі па драўлянай падлозе калідора адгукаліся гулкім рэхам. З аднаго з класаў паказалася прыбіральшчыца, якая трымала ў руках швабру з анучай. Паказалася і тут жа знікла.

Іван Васільевіч зайшоў у настаўніцкую, вопытным вокам агледзеў бязлюднае памяшканне. На адным са сталоў ляжала стопка вучнёўскіх сшыткаў, стаяла чарніліца з чырвоным чарнілам і ручка. Па ўсім было відаць, што тут толькі што сядзеў чалавек і некуды выйшаў. Узяў адзін са сшыткаў: 4 «А», яе, Ірынін, клас. «Можа, выйшла ў туалет?», — падумаў і сеў чакаць. Прайшло хвілін дваццаць. Ірыны не было. Яму захацелася прайсці да кабінета дырэктара і ўпэўніцца, ці не зачынены ён. Падняўся, выйшаў у калідор і тут жа сустрэўся з прыбіральшчыцай Верай Антонаўнай, з якой некалі разам працаваў.

— Вера Антонаўна, вы Ірыну Радзівонаўну не бачылі, яна тут сшыткі правярала і некуды выйшла? — запытаў, адчуваючы, як загарэўся ўвесь твар і вушы.

Пажылая жанчына паглядзела на яго ва ўпор жаласлівым сумным поглядам, паківала галавою, уздыхнула і, нічога не адказаўшы, моўчкі папльла ў цемру калідора. Ёй таксама не хацелася страціць працу. Кашын усё зразумеў, набраўся смеласці, падышоў да дырэктарскага кабінета, з сілай шмаргануў за ручку. Дзверы былі зачынены.

Ён вырашыў дачакацца жонку, чаго б гэта яму ні каштавала. Для гэтага выйшаў са школы і стаў на аўтобусным прыпынку, што быў побач са школьнай агароджай. Уваходныя дзверы школы з гэтага месца добра праглядваліся. Чакаў з паўгадзіны. Нарэшце са школы выйшлі Ірына ў аранжавым драпавым паліто і дырэктар Дуктаў — невысокі, мажны мужчына ў велюравым капелюшы і з папкай у руках. Заўважыўшы іх, Кашын павярнуўся да школы спіною, шчасце, што на прыпынку былі яшчэ пасажыры. У яго замерла сэрца: калі яны захочуць ехаць аўтобусам, што сказаць пры сустрэчы? Але закаханыя накіраваліся ўздоўж вуліцы пешшу. Нацягнуўшы на лоб свой капялюш і вытрымаўшы дыстанцыю, Кашын, нібы пецярбургскі шпіён, падаўся за імі ўслед.

Яны ішлі няспешна, часта паварочваючы адно да аднаго галовы, размаўлялі. Раптам прыпыніліся, і Ірына, паставіўшы на зямлю сваю сумку, папраўліла Дуктаву каўнер паліто.

На рагу вуліц Цвяточнай і Чапаева Дуктаў, махнуўшы Ірыне рукою, развітаўся і падаўся ўбок дома, дзе жыў. Ірына пайшла далей адна больш хуткай хадою. Некалькі разоў азірнулася назад, нібы прадчуваючы нешта нядобрае. Імкнучыся быць непазнаным, Кашын падняў каўнер свайго

плашча, чаго ніколі не рабіў, увабраў галаву ў плечы. Ідучы за жонкай, позірку на ёй не трымаў, раз-пораз глядзеў па баках. І раптам глянуў уперад — Ірына знікла, быццам яе і не было. Адбылося гэта насупраць двухпавярховага Дома чыгуначнікаў, дзе жыла Ларыса, школьная сяброўка жонкі. «Значыць, зайшла да яе», — рашыў Кашын і працягваў свой шлях. Раптам нехта схапіў яго за локаць, і ён пачуў голас Ірыны:

— А-а-а, папаўся, шпіёніш за намі, чэкіст! — спрабуючы ўзяць мужа пад руку, жартаўліва сказала жонка. Але Кашын сваю руку не прапанаваў. Яе гэта не здзівіла, яна ўчапілася супраць яго волі абедзвюма рукамі. Пайшлі далей. Кашына здзівілі яе рашучасць, жартаўлівы, забаўляльны тон: нават пры добрым настроі яна так сябе не паводзіла, а тут — проста ліса.

— Ты што гэта, нібы мартаўскі кот, па чужой тэрыторыі ходзіш, ці не высочваеш мяне? — запыталася са смехам, зазіраючы мужу ў вочы.

— Трэба ты мне, каб сачыць за табою, — нехаця буркнуў, не ведаючы, як сябе трымаць. І тут жа дабавіў: — А сачыць за табою, мабыць, прыйдзецца: заняткі скончыла ў дзве гадзіны, а зараз — амаль шэсць. Чатыры гадзіны невядома дзе была.

— Дык я ж сшыткі правярала, хіба цяжка запомніць, што пасля заняткаў я заўсёды сшыткі правяраю.

— Сшыткі ляжалі на стале, а цябе не было, — запярэчыў ён.

— Ты і гэта праверыў? — здзівілася Ірына.

— І не толькі гэта. Дырэктарскі кабінет таксама быў зачынены. На ключ! — працягваў абвінавачваць жонку Кашын.

З паўхвіліны Ірына збянтэжана маўчала. Думала.

— А мы з дырэктарам хадзілі на другі паверх, там дзеці рабілі экспанаты для дэманстрацыі 7-га лістапада...

Кашын рэзка глянуў у яе бок, яна не паспела прыбраць з твара маску, і ён убачыў у яе вачах ману. Ірына зразумела, што выкручвацца наіўна і бязглузда.

З хвіліну ішлі моўчкі.

— Па-першае, ты мне скажы, хто і дзе табе пра мяне напляткарыў? — адняўшы ад яго свае рукі, пакрыўджаным голасам запыталася яна.

— Табе, можа, сказаць прозвішча, імя, імя па бацьку, даныя пашпарта? — распальваючыся, з іроніяй запытаўся ён. — Не прыкідвайся, хопіць разыгрываць з сябе наіўную працэячку! Думаеш, цяжка зразумець па тваіх паводзінах, што ў цябе ёсць палюбоўнік? Што я, сляпы, не бачу з'едлівых поглядаў у мой бок? Я нават ведаю, што мяне ў маім родным калектыве Рагалікам клічуць. Гэта значыць — рагатым. І гэтыя рогі настаўляеш мне ты! Мне, без дзесяці хвілін юрысту, можа, нават пракурору, без пяці хвілін — кандыдату педагагічных навук! Ты мяне ганьбіш на кожным кроку! У цябе што, не хапае розуму гэта зразумець?

Кашын гаварыў эмацыянальна, гнеўна, адшукваючы, быццам для ўдару, словы больш рэзкія, імкнучыся даказаць абсурднасць яе паводзін.

Яны ішлі паўз прыватныя драўляныя дамы. Наткнуўшыся каля плота на лаўку, Іра, аслабеўшая ад важкіх довадаў мужа, нечакана прысела. Побач з ёй прымасціўся і Кашын. Ірына выцягнула з сумачкі насоўку, паднесла да вачэй, зашморгала носам.

— Пакінь яго і давай жыць па-чалавечы, нельга ж так, — нярвова рухаючы скуламі, прапанаваў Кашын. — Ён што, цябе праследуе? Дык пераходзь у другую школу, хоць да нас.

Ірына па-ранейшаму шморгала носам і нічога не адказвала.

— Ну, што маўчыш? У чым справа? Ці ты яго кахаеш?

— Так, — раптам ціха адказала яна. — Я яго кахаю і нічога з сабою зрабіць не магу, — дадала цвёрда, так, каб яе зразумелі.

У Кашына ад такога адкрытага прызнання аж у вачах пацямнела, халодныя дрыжыкі прабеглі з галавы да ног. Да гэтай хвіліны ён усё яшчэ спадзяваўся, а тут — на табе, быццам студзёнай вадою пляснула ў твар. Ён ведаў, што двух мужчын адначасова жанчына кахаць не можа, значыць, трэцім лішнім быў ён, законны муж.

— Та-ак, справы, — скрыгануўшы зубамі, адчайна прагаварыў Кашын, — а я ўсё яшчэ сумняваўся, спадзяваўся, думаў...

Нервова падхапіўся з лаўкі і хутка пакрочыў па дарозе. Ірына засталася сядзець адна. Кашын прайшоў метраў сто, не ўтрымаўся, вярнуўся і зноў сеў побач.

— Што ж рабіць будзем? — імкнучыся не даваць волі гневу, запытаўся спакойна. — Ён цябе таксама кахае?

Ірына змаўчала.

— Калі вы адно аднаго кахаеце, чаму ж ён не развёўся і не ажаніўся з табою? Навошта ж мяне ў сваё бруднае каханне ўтравілі?

— Не захацеў. У яго жонка, дзеці, — плаксівым голасам адказала Ірына. І дадала: — Калі хочаш — падавай на развод. Пакуль мая маці жывая, дзяцей выгадуем самі.

— Добранькая справа! Яму нельга разводзіцца, таму што ў яго жонка, дзеці, а мне можна, таму што ў мяне не дзеці, а шчанюкі. І не жонка, а сука. — Апошняе словы ён услых не выказаў, толькі падумаў, таму, што жанчын ніколі не абражаў, нават калі яны таго заслугоўвалі. — Трэба ж дадумацца, яна сама дзяцей выхавае! Смешна. Ды за табой самой, нібы за дзіцём, маці сама да цяперашняга часу ходзіць. Дзяцей яна выгадуе! — хмыкнуў груба, з іроніяй. — Ірачка, табе боршчыку наліваць? Ірачка, з'ясі яшчэ адзін блінчык! — успомніў словы цешчы, якія яго заўсёды абуралі.

— Калі разводзіцца не хочаш, завядзі сабе жанчыну, я не буду супраць, — прапанавала жонка.

— Ну, дарагая, я не з такога цеста, каб б...ам займацца, — азвярэў раптам Кашын у праведным гневе. — Па-першае, я камуніст, і калі для твайго Дуктава гэтае слова — пусты гук, то для мяне — святое! Па-другое, я педагог, з мяне бяруць прыклад дзеці, якіх я рыхтую да жыцця. І табе павінна быць сорамна даваць мне такую свінскую параду.

«Па-трэцяе, — хацеў сказаць ён, але не сказаў, а толькі падумаў, — я цябе кахаю. Кахаю, нягледзячы на тое, што ты — шлюха». Калі б Кашын менавіта цяпер прызнаўся ёй у каханні, гэта паслужыла б сігналам да прымірэння. Але мірыцца было рана, жонка гэтага не хацела, ды і ён ёй пакуль не дараваў.

Адчуваючы, які ён напружаны і як раздзіраецца рэўнасцю, яна паспрабавала яго супакоіць ці хаця б зменшыць глыбіню перажывання:

— У нас з Дуктавым усё гэта хутка распадзецца. Я адчуваю. Ці ён мяне кіне, ці ў мяне ўсё пройдзе. — Сказала так, быццам нечым хворая была і ад гэтай хваробы хутка вылечыцца.

— Значыць, ты яго кахаеш, а куды ж мне дзецца, твайму законнаму мужу?

— А цябе, прабач, я ніколі і не кахала, замуж жа выйшла ад адчаю, калі зразумела, што ён са мной не ажэніцца. Выходзіла за цябе, думала, што пасля вяселля пра яго забудуся. Я так і хацела. Але ён быў упарты,

настойлівы, пачаў мяне ў кабінет выклікаць, быццам па рабоце. І ўсё пайшло, як і раней, — апусціўшы галаву, прызналася яна і зноў прытворна ўсхліпнула, паднесла да вачэй насоўку.

Такой ён бачыў жонку ўпершыню. Гледзячы на яе жаласлівы выгляд, як яна час ад часу падносіць да вачэй насоўку, ён імкнуўся паверыць у тое, што яна сапраўды не па сваёй віне трапіла ў пастку акалічнасцей і не можа з іх выкараскацца. Ён ледзь не паверыў у тое, што яна сапраўды шкадуе і раскайваецца. Але на змену жалю прыйшлі іншыя думкі.

«Ды яна ж перада мною проста разыгрывае жаласлівае ягня», — падумаў, супаставіўшы цяперашнюю Ірыну з той, якой яна была хаця б учора, — жорсткай, каварнай, лжывай. «Артыстка», — зноў падумаў пра яе з іроніяй, акінуўшы поглядам згарбелую постаць жонкі. Ніжні гузік на яе паліто расшпіліўся, з-пад крыса паказаліся пругкія ружовыя ногі. Узнікла думка: «Вось на гэтыя маладыя ногі, мабыць, і клюнуў юрлівы распуснік Дуктаў!» — Цяпер яго раздзірала нянавісць да іх абаіх.

Кашын разумеў, чаму яна была з ім такой няласкавай і грубай. Усе свае пяшчоты яна аддавала другому, яму ж заставаліся высеўкі — папрокі, зло, з'едлівасць. Да сустрэчы з Назаровічам Кашын прыпісваў гэтыя якасці характару Ірыны, моўчкі цярпеў яе ўпартасць, згладжваў усе вострыя вуглы і чакаў, калі яна пераменіцца да лепшага. Цяпер жа, калі даведаўся, адкуль дзьме вецер, разгубіўся і не ведаў, як выбрацца з пасткі, у якую нечакана трапіў.

— Пойдзем дадому, блудніца, — сказаў лагодна і, узяўшы сваёй гарачай рукою яе халодную маленькую, дапамог падняцца.

Па дарозе слёзы ў жонкі высахлі, перад уваходам у хату, каб маці нічога не заўважыла, Ірына прыпудрыла твар.

Спаць у гэтую ноч Кашын зноў лёг асобна: «Усю сваю порцыю кахання яна атрымала ад другога», — падумаў гідліва пра жонку. Ён адчуў новае для сябе пачуццё — пачуццё адчаю...

* * *

Жыццё пасля высвятлення адносін знешне не змяніліся. Уставалі ў шэсць раніцы, і, пакуль Настасся Ільінічна гатавала снеданне, Іван галіўся ў ваннай, чысціў зубы і наводзіў іншы марафет. Ірына каля гадзіны сядзела перад люстэркам у зале, старанна малявала вочы, вусны, пудрыла шчокі. Кожная веіна была ў яе пад кантролем.

Неяк, праходзячы паўз Ірыну ў час навядзення макіяжу, Кашын не вытрымаў і з'едліва падкалоў:

— Хопіць наводзіць глянец, ты і так блішчыш, быццам новая манета, ён і без глянцу цябе кахае.

— Я не для яго.

— А для каго ж?

— Можа, яшчэ хто падвернецца, — з ухмылкай пажартавала яна.

— Табе што, двух мужчын мала?

— А мужчын багата не бывае, гэта такі прадукт, якога заўсёды хочацца. — І яна засмяялася з яўным намерам яго пазлаваць.

Ад такога чорнага гумару Іван Васільевіч асеў на канапу. Убачыўшы, як пабялеў твар у мужа і ў нядобрым прышчуры звузіліся яго вочы, Ірына павярнулася да яго і сказала:

— Ты чаго? Гумар перастаў разумець?

«Так, усё ясна. Ведаючы маю мяккацеласць, пачынае здзекавацца. Трэба нешта рабіць. Калі бабу ў свой час не спыніць — запражэ і паедзе». Ён з дзяцінства не быў задзірам, у яго зусім адсутнічаў байцоўскі характар. Мала таго, ён з маладосці быў сарамлівы, сысціся і пазнаёміцца з дзяўчынай яму доўга не ўдавалася, і ён мучыўся і пакутаваў.

Успомніў, як аднойчы у час бою, ужо ў Берліне, яны ўварваліся ў піўную разам з сябрам, адкаркавалі па бутэльцы віна і з горла выпілі. І ўсё раптам ажыло, займела для яго сэнс і значэнне, дабавілася смеласці і смерць стала не такой страшнай.

Хвілін праз дзесяць ён заскочыў ў бамбасховішча — разгарачаны, з нахіленай на правы бок пілоткай на галаве, з-пад якой кучаравіўся ладны чуб. Прыгажун! У сховішчы ўбачыў з дзесятак пажылых жанчын, апрануты ва ўсё чорнае. Яны сядзелі на лаўцы ўсе ў адзін радок, нібы ластаўкі на правадах. Чорныя спадніцы звісалі да самай падлогі. І раптам адна са спадніц заварушылася. «Хаваюць некага», — падумаў Кашын і, узвёўшы аўтамат, падышоў і падняў спадніцу. З-пад яе паказаўся ўсмешлівы твар маладой немачкі. Кашын махнуў ёй рукою, маўляў, ком, вылазь. Яна пакорна і радасна выпырхнула са свайго сховішча. Ён павёў яе па ступеньках наверх. Немачка бегла ўперадзе, час ад часу азіраючыся назад, усміхалася белазубым роцікам і Кашына нічуць не палохалася, ведала, куды яе вядзе гэты прыгожы савецкі салдат. У спальні яны забаўляліся хвілін колькі, пры гэтым немка азартна цалавала Кашына і рагатала. А вакол ішоў бой, цяжка грымелі гарматы, стракаталі аўтаматныя чэргі...

Зрабіўшы сваю справу, Кашын схапіў дзяўчыну за руку, прывёў на ранейшае месца, загадаў ёй схавацца пад спадніцу, а сам пабег далей — даганяць сваіх. І потым часта думаў: «Расце недзе белабрысы, падобны да мяне Гансік, і незнаёмая немачка часта мяне ўспамінае». Гэты выпадак быў адзіны, дзе ён праявіў нахабнасць у адносінах да жанчыны, і ён заўжды пра гэта памятаў.

* * *

Выбраўшы «акно» паміж урокамі, прыйшоў на абед: не цярпелася пагутарыць з цешчай. Настасся Ільінічна ў апошнія дні адносілася да зяця асабліва ўважліва. Хаця маладыя і рабілі выгляд, што нічога паміж імі не адбылося, сталая жанчына адразу адчула, што паміж імі прабегла чорная кошка. Аб тым, што Ірына сустракаецца з другім мужчынам, маці ведала, — ды і якая дачка не падзеліцца з крэўным чалавекам самай задушэўнай тайнай?

— Ну, як боршчык, Іван Васільевіч? — лісліва зазіраючы зяцю ў вочы, запыталася Настасся Ільінічна.

— Я не памятаю, каб прыгатаваная вамі страва была нясмачнай, — пахваліў зяць.

— Дзякую, стараюся, але не заўсёды атрымліваецца.

— Мне трэба з вамі пагутарыць, — дапіўшы кампот і выходзячы з-за стала, спакойна сказаў Іван Васільевіч.

Настасся Ільінічна ўважліва на яго паглядзела і цень трывогі лёг на яе твар.

— Дзеткі, даядайце і ідзіце ў свой пакой, я потым са стала прыбяру. — Сама ж, нібы на смяротную кару, пайшла ўслед за зяцем у залу.

— Сядайце тут, — ветліва паказаўшы на канапу, сказаў Кашын, а сам уладкаваўся насупраць у крэсле. — Вы, мабыць, ведаеце, аб чым я хачу з вамі пагутарыць?

Жанчына зрабіла выгляд, што нічога не разумее, сціснула падсохлыя, з фіялетавым адлівам губы і паціснула плячыма. Па тым, як вільнулі ўбок яе вочы, Кашын зразумеў: яна ведае ўсё.

— Ірына сустракаецца з другім мужчынам, якога кахае, і пакідаць яго не збіраецца. — Яму было няёмка гаварыць аб такой далікатнай справе з пажылой жанчынай, хаця і цешчай, але ён адагнаў пачуццё няёмкасці і працягваў: — Я хацеў бы, каб вы з ёй пагаварылі як маці. Не разводзіцца ж нам з-за яе любоўных уцех.

Ніводная рыса на твары не здрыганулася, яна не раскрыла шырока вочы і не зрабіла здзіўлены выгляд, а толькі падперла рукою падбароддзе і апусціла ў зямлю патухлы позірк. Кашын паглядзеў на яе яшчэ раз і ўжо каторы раз падумаў: «Яна ведае ўсё».

Раптам павекі цёшчы заторгаліся, і яна заплакала.

— Ну-ну-ну, навошта ж так растройвацца, не трэба, — заклапаціўся Іван Васільевіч.

— Каб ты, Ваня (так ласкава яна назвала зяця ўпершыню), ведаў, колькі я з ёй гаварыла, колькі перасварыліся, сіл маіх больш няма, — і слёзы густа намачылі нейкую анучку, якой яна скарысталася, нібы насоўкай.

«Вось яно як», — падумаў Кашын і не ведаў, аб чым больш гаварыць.

— Калі яна за цябе замуж выходзіла, дык паабяцала мне, што перастане з Мішкай сустракацца. Але — дзе там! — часта моргаючы вачыма, сказала Настасся Ільінічна.

Іван Васільевіч не зразумеў яе, думаў, недачуў («Які Мішка?!»), таму перапытаў:

— Дык з кім яна?..

— Ды з Мішкам жа, паскуднікам! Ён з Ірынай яшчэ ў школе... а ажаніўся з другой. Адна надзея, што ў Ленінград скора паедзе разам з сям'ёю. Быццам збіраецца, жонка яго адтуль.

Тлумачачы, цешча раз-пораз усхліпвала і падносіла да вачэй анучку. Кашын жа на нейкі момант анямеў, але затым пераадолеў мінутную слабасць і нясмела запытаў:

— А Мішка гэты дзе працуе? — Ён чамусьці ўсё яшчэ думаў, што яна мае на ўвазе Дуктава.

— Раней ён у той жа школе, дзе і Іра, працаваў. Электрыкам. Але потым нешта з дырэктарам не паладзіў і цяпер не ведаю, дзе ашываецца. Мабыць, нідзе, таму што ехаць сабраўся, — нечакана паднесла цешча зяцю яшчэ адну горкую пілюлю. Настасся Ільінічна і не падазравала, як балюча яна ўдарыла гэтым Кашына па яшчэ незажыўшай ране, дакладней, пухліне, якую разрэзаў не так даўно яго сябра Назаровіч.

Калі ружовыя кругі перад вачыма зніклі, Іван Васільевіч, валодаючы жывым уяўленнем, уявіў, якія баі мясцовага значэння вяліся ў школе да яго прыезду паміж лысаватым дырэктарам і маладым электрыкам Мішам. Баі за валоданне жанчынай, нібы турніры сярод звяроў. І вось з'явіўся чужак, гэта значыць ён, Кашын, і павёў самку ў сваё логава.

Злосна іранізіруючы над сабою, ён уявіў, колькі асалоды ад такой паддыванавай барацьбы атрымалі ў той час мясцовыя гледачы, гэта значыць, настаўнікі, колькі плётак і розных пікантных дэталей смакавалі яны, разбіраючы па костачках закаханае трыо. Ды дзе! Цэлы квартэт! «Божа, і як

я ўляпаўся ў гэтае дзярмо! Прынесла мяне не да часу. І трэба ж было вока на гэтую дзеўку пакласці!» І стала яму так горка і крыўдна за сябе, за сваю слепату, што часам месца сабе не знаходзіў, курыў адну цыгарэту за другой.

І ўспомніў Кашын выпадак, калі вяртаўся з арміі дадому. Успомніў чамусьці да самых падрабязнасцей: іх лёс яму быццам знарок ярчэй высветліў, каб ён мог правесці аналіз свойго жыцця, супаставіць прароцтва старой цыганкі з рэчаіснасцю.

Было гэта спякотным ліпенем 1945 года, калі яны вярталіся на радзіму. Цягнік спыніўся ў Брэсце. Кашын, як і ўсе яго сябры, выскачыў з вагона: так хацелася адчуць пад нагамі родную зямлю! Высокі быў ён, статны, ваенная форма на ім быццам улітая: шарсцяная гімнасцёрка пад рэмень, штаны галіфэ, хромавыя боты начышчаны да бляску, пагоны маёра на плячах блішчаць буйной зоркай. На галаве — пілотка, з-пад якой кучаравіцца капа валасоў. А на вуліцы грае роднае сонца, людзей — бы мурашак, гандлююць рознай ежай.

— Грамадзянін, пан афіцэр! Не жадаеш свой лёс уведаць? — пачуўся голас.

Азірнуўся — да яго ішла старая, у доўгай спадніцы ў зборках, цыганка. Яе гіпнатычны, але даверлівы позірк спакусіў Кашына, і ён падумаў: «А, была не была, пагадаю!» Ён быў раўнадушны да такога роду прароцтваў, проста карцела даведацца аб тым, што яго чакае ў мірным жыцці. Яны адышлі далей ад вагона, дзе было меней людзей.

— Гадай, толькі кажы праўду! — сказаў цвёрда і працягнуў ёй зацвярдзелую ад аўтамата далонь.

— О-о, шаноўны, вялікім чалавекам станеш! Воля ў цябе моцная, вучоным будзеш, павучаць усіх станеш. Але твая дабрата пачне чыніць усялякія перашкоды, бо характар у цябе мяккі, а гэта не заўсёды добра. Сустрэнеш ты жанчыну хітрую, вераломную, з чорнай душою, абкруціць яна цябе. У яе чарах ты заблытаешся, бы муха ў павуціне, будзеш хадзіць, як напоены травой-дурманам. І нічога супраць яе падкопаў зрабіць не зможаш. Пражывеш ты з ёю доўга, да глыбокай старасці, але ў муках і пакутах. І праклінаць будзеш той час і гадзіну, якія звялі цябе з ёю.

— А як абысці гэтую кабету, калі ты праўду гаворыш? — напужаны такім прароцтвам, запытаўся Кашын.

— А лёс, даражэнькі, не аб'едзеш. Лёс — ён заложаны табе ў душу Богам і перарабіць яго нельга. Мая табе парада, валет мой крыжовы. Не кідайся на статных ды прыгожых: пад іх прыгажосцю хаваюцца воўчыя клыкі, абыходзь іх бокам, а кахай добрых і ласкавых, у якіх душа чыстая з вачэй свеціцца.

Падзякаваў тады Кашын старой празарліўцы, добра ёй заплаціў, пасмяяўся над тым, што яна яму нагадала, купіў на дарогу варанай гарачай бульбы з салёным агуркам, па якіх засумаваў, і ўскочыў у цягнік. І назаўсёды расталі, быццам папяросны дым у паветры, і забыліся словы цыганкі-вяшчункі, якія здаваліся пустымі і несур'ёзнымі. Цыганка, думаў ён, таксама хацела есці, таму лавіла людзей і расказвала ім усялякую небывальшчыну аб казённай хаце і далёкай дарозе.

«Божухна, а яна ж мне тады праўду нагадала, а я ж ёй не паверыў?!», — занепакоіўся Іван Васільевіч, наклаўшы прадказанні цыганкі, бы трафарэт, на сваё цяперашняе жыццё. «Чатыры гады з ёй пражыў і нават не падазраваў, што побач не добрая жанчына і нават не сяброўка, а вораг», — папракнуў сябе, быццам стукнуў. — А не падазраваў таму, што быў нібы аслепле-

ны каханнем. І, можа, нават не яе як у чалавека, а ў яе невялікае, моцна збітае гарачае цела.

Успомніў, што ў першыя гады кахаў жонку безадказным каханнем кволага чалавека і ўвесь час адчуваў гэтае каханне, быццам смагу, якая смокча, патрабуе задаволіць. Жонка ж, бадай што, з першых месяцаў была да яго падазрона раўнадушнай, у кампаніях, на людзях трымалася заўсёды вясёлай, жвавай, а як толькі яны заставаліся ўдваіх, яна марнела, хмурнела, на яго пытанні адказвала неўпапад, рэзка і злосна.

— Што ж мне рабіць, мама? — быццам у сне пачула з болем сказаныя словы зяця Настасся Ільінічна, якая плакала.

— Я з ёй яшчэ раз пагавару, — перастаўшы плакаць, сказала цешча. — А калі Ірына і на гэты раз не адумаецца, — падавай на развод, знайдзі сабе нармальную жанчыну і жыві. Ты гэтага, як ніхто, заслугоўваеш.

— Ну што вы, мама, як можна? Дзеці, яны ж не зразумеюць.

— А да дзяцей будзеш прыходзіць, і яны — да цябе, жыць жа, можа, у горадзе застанешся.

— Не, не, не, гэта не выхад, — падымаючыся са свайго месца і ходзячы па пакоі, узрушана прагаварыў Кашын. — Па-першае, я не хачу псаваць дзіцячую псіхіку, дзеці абсалютна нічога не павінны ведаць пра нашы ўзаемаадносіны. Інакш усё гэта адаб'ецца на іх характарах, псіхіцы, і яны могуць скапіраваць і перанесці нашы скандалы ў сваё жыццё. Няўжо гэта дапушчальна? — прагаварыў ён разгарачона, пераканана.

— Госпадзі, такі мужык трапіўся, жыць бы ды жыць, а яна, распусніца... — і маці Ірыны зноў паднесла да вачэй намоклую хустачку.

— А пакінуць дзяцей — яшчэ горшая здрада! Успомніце, як у нас Марсік сем дзён дадому не прыходзіў. Мы ж думалі, што ён не з кошкамі загуляў, а знік. Колькі было гора, як плакаў Алежак, ды і сам я месца сабе не знаходзіў. Уяўляў, што ён ляжыць недзе паранены ці забіты, яны ж за кошак б'юцца па-страшнаму, не адну лішнюю цыгарэту з-за перажывання па Марсіку выкурыў. А тут — кінуць дзяцей, якія да цябе нібы прыкіпелі. Ды я з глузду з'еду, і думаць пра такое кінце!

— Тады я не ведаю. Буду дзяўбці яе, праклятую, дзень і ноч. І што яна ў тым Мішку знайшла? — уздыхнула Настасся Ільінічна. Уздыхнуў і Іван Васільевіч. І не столькі таму, што жонка гуляла, колькі ад таго, што цешча не хацела выкрываць другую сувязь дачкі з Дуктавым, бо не ведаць аб ёй яна не магла. «Значыць, баіцца зрабіць мне кепска, можа, гэта і добра». А сам ён не хацеў нагадваць аб гэтым цешчы. У тым, што жонка працягвае сустракацца з другім, ёсць і яго доля віны: значыць, у ім няма нечага такога, што ёсць у Дуктаве. І ён успомніў індыйскую прымаўку: калі жанчына не знаходзіць у сваім мужу тое, што ёй патрэбна, яна шукае гэта ў чужым. І гэта быў якраз яго выпадак.

* * *

Ірына прыйшла дадому позна, а шостай гадзіне. Вяла сябе насцярожана. Кашын сядзеў і слухаў радыёпрыёмнік, на руках у яго сядзеў меншанькі Валерка, ён грыз пячэнне. Два дні з жонкай не размаўляў, яго быццам заклініла. Але сёння вырашыў пагаварыць: не гуляць жа ўсё жыццё ў маўчанне!

Калі яна ўправілася, павячэрала і, пераапрануўшыся ў халат, села на канапу і таксама пачала слухаць радыё, Кашын аднёс сына ў дзіцячую, дзе

Настасся Ільінічна вязала Кашыну баваўняныя шкарпэткі. Ірына пачула, як Валерка заплакаў, пачаў абурацца, што яго забралі ад таты, і з зайдрасцю падумала: «Во прыручыў дзяцей, дзень і ноч сядзелі б у яго на каленях!» Сама ж яна да дзяцей была абыякавай, ніколі іх не лашчыла, яны гэта адчувалі і рук да маці не цягнулі.

Вярнуўшыся ў залу, Кашын прыкрыў дзверы, прыглушыў радыёпрыёмнік, сеў на канапу, нібы чужы, далей ад Ірыны, і суха запытаўся:

— Ну, жонка, як будзем далей жыць?

— Як жылі, так і будзем жыць. А што, уласна кажучы, здарылася? — Ірына ўжо паспела пераважаваць, нібы карова жвачку, навіну аб тым, што муж ведае пра яе любоўныя сувязі, і паспела выбраць тактыку, як сябе з ім паводзіць.

— Вось сёння, чаму позна прыйшла?

— Сшыткі правярала, — цвёрда сказала яна і нахабна паглядзела мужу ў вочы, якія нібы гаварылі: што, атрымаў?

— Сшыткі... Ты дзеля сустрэчы з ім прыдумала гэтыя сшыткі. Іх жа можна і дома правяраць, так усе настаўнікі робяць, — павысіўшы голас, сказаў Кашын.

— Можна, але навошта мне цягаць такі цяжар дадому? Я іх у школе праверыла і рукі памыла, — адбівалася жонка.

— Была з ім сёння?

— З кім?

— З лысым сваім ці з Мішкам. У цябе ж іх, нібы ў прасцітуткі, не адзін, — гнеўна, празмерна нацягнутым голасам сказаў Кашын.

— Ага, дык ты ўжо і пра Мішку ведаеш! І хто гэта табе так лоўка плёткі на талерачцы падносіць? — звузіўшы ў з'едлівым прыжмуры вочы, запыталася Ірына.

— Сарока на хвасце. Ды ўвесь горад пра гэта гаворыць, а я не павінен ведаць? — Распаляючыся, Кашын падняўся з канапы, стаў насупраць Ірыны: — плёткі?

— Ды не сустракаюся я з Мішкам ужо даўно, наманілі табе, — сказала, нібы адрэзала, і вочы яе звузіліся да таўшчыні брытвенага ляза. Ён сціснуўся пад яе позіркам, нібы паменшаў.

— Наманілі? Ты ж сама мне ў гэтым прызналася, а цяпер — наманілі? — наступаў Кашын.

— Дурная была, таму і прызналася. Усе бабы памыляюцца, але свой грэх старанна хаваюць, толькі я, бязглуздая, не змагла, — з прывычнай грубасцю адбіла яго папрок Ірына. На яе твары ўспыхнуў густы румянец і Кашын адчуў, што яе нехта навучыў, як адбівацца ад мужа.

— У яго што, прычындалы не як у людзей? — стаўшы перад Ірынай у байцоўскай позе, груба запытаўся ён.

— Чаго ты прычапіўся? Навошта трагедыю з гэтага робіш, хвалю гоніш? Не здраджваюць толькі пачварныя ды хворыя. А я ў самым росквіце сіл і ўсё пры мне не горшай якасці. Сам жа, мусіць, чужых жонак не раз падмінаў і нічога, гэта нармальна. А калі жонка — скандал да нябёсаў. А з кім бабы здраджваюць, ты падумаў? З мужыкамі! З такімі ж, як і ты, не з вярблюдамі ж. І запомні: ніводная жанчына не можа ўстаяць перад дамаганнем мужчыны, яны баяцца толькі двух рэчаў: каб ніхто не даведаўся і каб не зацяжараць. А астатняе...

— ...А астатняе хоць лыжкай сёрбай, не зменшае, — цынічна працягнуў яе думку Кашын.

— Вось-вось, — раптам жартаўліва паддакнула жонка і тут жа ціха, давячыся, каб не пачула маці, разрагаталася. І падабрэла. Падабрэла да таго, што паднялася з канапы, падышла, абняла за плечы.

— Пакінь мяне, здрадніца, — сказаў ён слабым голасам, але рук яе не разняў, стаяў, бы слуп, дазваляючы сябе абдымаць.

Потым яна павалакла яго ў спальню, закрыла на ключ дзверы. Настасся Ільінічна падышла да іх пакоя, паслухала, перахрысцілася і прашаптала:

— Паміры іх, Госпадзі, ахаладзі плоць блудніцы, вярні яе ў лона законнага мужа...

Пасля ўсяго першым падаў голас Іван:

— А ты ўсё роўна сучка!

— Асцярожна ў выразах, зараз нумар міліцыі набяру, прыедуць і заграбуць. За абразу асобы. Цяпер не тое, што раней. Хуліган няшчасны, — гаварыла, а сама ледзь стрымлівала сябе, каб не засмяяцца.

— Спакою ў нас у доме не будзе — пра гэта заяўляю цвёрда. Прашу аб адным: пры дзецях паводзь сябе так, быццам мы з табою галубкі закаханыя. Каб ніводнага дрэннага слова не прагучала. Зразумела? — разважліва, без унутранай злосці папрасіў ён і дадаў: — Дзяцей трэба ў чысціні выгадаваць, без смецця твайго, яны ж не вінаватыя, што маці ў іх слабая на перадок.

— А каханне — гэта і ёсць хвароба, — згадзілася яна, хітаючы галавой. — Пакахаеш — быццам з глузду з'едзеш і зрабіць з сабою нічога не можаш. Ну не можаш, і ўсё тут, ты разумееш?

— Але бывае, што яна пераходзіць у хранічную форму, тады гэта надоўга. У цябе як?

— Не ведаю, — глыбока ўздыхнуўшы, праўдзіва адказала Ірына.

Так і паплыло далей жыццё ў сям'і Кашынах: то на хвалях лёгкіх папрокаў, то на хвалях прымірэння.

* * *

Прайшлі тры гады.

У доме Кашыных асаблівых змен не адбылося, хіба толькі што Алежак пайшоў у школу, а Валерка — у дзіцячы садок. Цешча была супраць садка, але Іван Васільевіч настаяў на сваім: няхай хлопчык прывучаецца да дзяцей, лягчэй будзе ў школе. Гэта быў пераканаўчы довад, і з ім згадзіліся.

У адносінах паміж мужам і жонкай таксама нічога не змянілася. Ірына па-ранейшаму правярала сшыткі ў школе, а Іван Васільевіч пакусваў за гэта яе папрокамі. Калі ж з'яўляліся сыны, у доме ўсталёўваліся мір і спакой, які парушаўся толькі дзіцячым смехам, весялосцю, а калі-небудзь і плачам. Настасся Ільінічна трымала нейтралітэт — баялася парушыць раўнавагу.

...Ішла вясна, квітнелі сады, у ранішнім паветры, напоеным водарам кветак, насіліся ластаўкі. У такое яснае сонечнае надвор'е з папкай у руцэ Кашын ішоў на працу.

У школе, не заходзячы ў кабінет, зазірнуў у настаўніцкую. Настаўніцы нешта горача абмяркоўвалі. Убачыўшы дырэктара, яны змоўклі і, састроіўшы на тварах дзяжурныя ўсмешкі, з нахілам галавы, прывіталіся. «Відаць, пра мяне пляткарылі», — падумаў, заходзячы ў настаўніцкую,

дырэктар. Зірнуў у акно і ўбачыў, што ручай дзетак, якія спяшаліся на ўрокі, гусцеў і шырыўся.

— Прыйдзе Алег Пятровіч — няхай зойдзе да мяне, — папрасіў усіх і выйшаў з настаўніцкай.

У апошні час у яго адносінах да настаўнікаў знікла цеплыня, ён стаў сухі і афіцыйны. Гэта было яго адказам на перасуды. Многія не адабралі дырэктара за тое, што ён працягвае жыць з юрлівай жонкай, не разводзіцца. Аб гэтым гаварыў увесь горад, і Кашын такое меркаванне гараджан ведаў.

Алег Пятровіч, завуч і сябра Кашына, уварваўся ў кабінет нібы віхор. Ён быў невысокі, таўставаты, з чырвоным, нібы апараным, тварам. Вяла патрымаўся за руку.

— Чуў навіну? Гавораць, учора вечарам гэтага кабяля лысага, дырэктара трэцяй школы, ледзь не забілі. «Хуткая» падабрала на вуліцы, зараз у рэанімацыі.

Іван Васільевіч падняў на сябра здзіўленыя вочы, спытаўся:

— Дуктава?

— Так, яго.

— Па п'янцы, ці як?

— Ды не, гавораць, наўмысна. А ўрэшце, хто ведае... Раптам твар Алега Пятровіча нібы асвяціла здагадка, ён уважліва паглядзеў на Кашына і спытаў:

— Слухай, а хто яго мог?

— Ці не думаеш ты, што гэта я? — нахмурыўся Кашын.

— Ды не, што ты, я цябе ведаю. А ўсё-такі, хто? — вільнуўшы ўбок вачыма, стушаваўся Алег Пятровіч.

— У кожнага ёсць ворагі, відаць, некаму перайшоў дарогу. А можа, гэта водгук з ваеннага мінулага, яго на фронт не ўзялі, гавораць, у партызанах быў, а там — хто яго ведае, дзе ён быў і што рабіў, можа, сябрукі старыя за нешта помсцілі, — прапанаваў сваю здагадку Іван Васільевіч.

Кашын не ведаў, радавацца такой навіне ці не. Можа, гэтую навіну нехта дзеля жарту запусціў? — падумаў ён, але тут празвінеў званок, і настаўнікі заспяшаліся па сваіх класах. Пакуль ішоў урок, у падсвядомасці не-не ды і ўзнікала трывожная думка: калі з гэтым Дуктавым нешта сур'ёзнае здарылася, у першую чаргу падумаюць на яго, Кашына.

* * *

Навіна пра замах на жыццё дырэктара трэцяй школы абляцела ўвесь горад. Гаварылі на працы, у крамах, проста пры сустрэчах. Былі розныя версіі, але большасць гараджан прытрымлівалася адной: Кашын, у помсту за тое, што Дуктаў не пакідае ў спакоі жонку, наняў чалавека, і той яго трохі папалохаў.

Неўзабаве высветліліся і падрабязнасці, іх у канцы дня прынёс у кабінет дырэктара ўсюдыісны Алег Пятровіч.

— Ты разумееш, нехта да гэтага старанна рыхтаваўся, — адкінуўшыся на спінку крэсла і паклаўшы нагу на нагу, загаманіў настаўнік. — Я знаёмага міліцыянера сустрэў, Андрэя Казько, капітана крымінальнага вышуку, ты яго павінен ведаць. Ён мне ўсё расказаў. Падпільнавалі гэтага Дуктава, калі ён вечарам аднекуль варочаўся. З-за вугла стукнулі даўбешкай па патыліцы. А даўбешка — з метр даўжынёй, дубовая, ёмкая для замаху,

ручка тонкая, не таўсцейшая за тапарышча, а на канцы — патаўшчэнне, нібы сярэдні качан капусты. У гэтую булаву па крузе забіты цвікі, быццам іголкі ў вожыка. Але не доўгія — сантыметры па тры. Стукнулі добра, толькі пад раніцу ў рэанімацыі ачуняў.

Было відаць, што Алег Пятровіч смакаваў гэтую навіну і не ўтойваў радасці. У тым, што жонка Кашына палюбоўніца Дуктава, ён, як і ўсе, добра ведаў, ды Кашын гэтага ад сябра і не хаваў. Алег Пятровіч часам раіў, як раз'яднаць Ірыну і Дуктава, разам нават нешта дзеля гэтага пачыналі рабіць, але ў выніку ўсё засталося па-ранейшаму.

— А ўсё ж-такі, хто гэта мог быць? — выслухаўшы Алега Пятровіча, са здзіўленнем запытаўся Іван Васільевіч.

— Міліцыя шукае, думаю, што знойдуць. Булаву ўзялі як рэчавы доказ, розныя там адпячаткі пальцаў, хаця шэрлакі холмсы, сам ведаеш, якія ў нас... — не дагаварыўшы, скончыў Алег Пятровіч.

— Ну ты, Алег, і сказануў: адпячаткі пальцаў... Ха-ха! Ды што ён, такі прасцяк, каб адпячаткі пакідаць? — засумняваўся Кашын.

— Ведаеш, гэты лысы — яшчэ той фрукт. Ён з усімі сваімі педагогамі перасварыўся. А там сярод баб і чатыры мужыкі. З кім з іх ні размаўляў — усе Дуктава ненавідзяць. Адзін праглынуў горкую пілюлю, другі, а трэці... Характары ж у людзей розныя. Так што... — выказаў намёкамі сваё меркаванне Алег Пятровіч.

— Ты хоць пра мяне перастань думаць...

— Іван, не трэба. Праўда, спачатку думка незнарок мільганула... Каб Кашын даўбешкай з-за вугла — проста смешна, — супакоіў сябра Алег Пятровіч.

На другі дзень, пасля званка на перапынак, у дзверы кабінета Кашына асцярожна пастукалі.

— Можна? — І ў праёме адчыненых дзвярэй паказалася галава маладога чалавека гадоў трыццаці з выцягнутым смуглым тварам і чорнымі шырокімі брывамі. У руках ён трымаў аранжавую папку.

— Заходзьце, калі ласка, — сказаў Кашын і, працягнуўшы руку, выйшаў з-за стала насустрач госцю. — Сядайце. — Ён пазнаў яго: гэта быў следчы міліцыі, паколькі, займаючыся завочна ў юрыдычным інстытуце, Кашыну раз-пораз даводзілася заходзіць у міліцыю.

— Вы мяне, Іван Васільевіч, прабачце, але па парадзе нашага галоўнага, дзеля формы, я хачу задаць вам адно пытанне. Вы, спадзяюся, чулі пра чэпэ з Дуктавым? — Адчувалася, што следчы мучыцца ад няёмкасці, што менавіта яму выпала такая нялёгкая місія — апытваць такога паважанага ў горадзе чалавека.

— Так, чуў. Ды вы не саромейцеся, служба ёсць служба.

— Дык вось, адкажыце, калі ласка, дзе вы былі вечарам у нядзелю, 22 мая?

— Дома быў, са старэйшым сынам Алегам у шахматы гулялі. І ўсе ў той вечар у нас дома былі — і жонка, і цешча, — зразумеўшы, чаго ад яго хоча следчы, адказаў Іван Васільевіч.

Ён баяўся аднаго: пачырванець. Але вытрымаў. І толькі, калі супрацоўнік міліцыі пайшоў, лоб Івана Васільевіча пакрыўся потам. «Божухна, — падумаў ён пра жонку, — як жа ты мяне ганьбіш! І калі гэта скончыцца!»

У панядзелак, вярнуўшыся з працы, Іван Васільевіч дома жонкі не застаў. Запытаўся ў цешчы.

— У бальніцу пабегла, там нехта з сяброўак ляжыць, ці што, пайшла ў адведкі, — адказала Настасся Ільінічна, якая нічога не падазравала.

«Зразумела, да каго», — падумаў пра сябе Кашын, і рэўнасць зноў сціснула яго сэрца.

З бальніцы Ірына вярнулася позна, на твары былі сляды размытай слязьмі фарбы. Яе сумны выгляд не даваў Кашыну смеласці задаць пытанне, ад якога ён сам пакутаваў. Урэшце запытаўся:

— Дык хто ж гэта твайго так павіншаваў?

Яна рэзка павярнула галаву у яго бок, з паўхвіліны глядзела колкім, пагарджальным позіркам, потым сказала, нібы адрэзала:

— Ты, хто ж яшчэ?

— Я? Ты што, здурнела? Я ж увесь вечар пры табе з Алегам у шахматы гуляў.

— Значыць, некага наняў, — працягвала будаваць здагадкі жонка.

— Гэта я буду пэцкацца аб твайго пляшывага? Ці не з глузду ты з'ехала?

Ірына яшчэ раз паглядзела на мужа пякучым позіркам, пры гэтым яе твар зрабіўся непрыгожым, злым, і не сказала, а прашыпела, нібы змяя:

— Як я цябе ненавіджу!

І хаця яна выказвала сваю нянавісць да яго кожным сваім жэстам, рухам, словам, Кашын пашкадаваў, што так моцна яе раззлаваў. Не трэба было. Гэта толькі павялічыла непрыязь да яго, і яна магла яму што-небудзь зрабіць. «Раззлаваная жанчына — асоба непрадказальная. Ад такіх можна чакаць усялякага паскудства», — падумаў ён, павярнуўся і пайшоў слаць сабе на канапе: за вокнамі ўжо чарнела ноч.

Праз восем дзён Дуктава выпісалі з бальніцы. Калі ён у першы дзень з'явіўся ў настаўніцкай, гэта было нямой сцэнай, як у камедыі «Рэвізор». Убачыўшы дырэктара, многія засталіся сядзець з адкрытымі ратамі, настолькі ён меў жаласлівы выгляд. Некаторым здалося, што гэта быў зусім і не Дуктаў, а іншы чалавек: яго рот быў скрыўлены на правы бок. Верагодна, пры ўдары па патыліцы быў закрануты нейкі нерв, што выклікала параліч рота. З твару знікла маска пагарды і перавагі, на ім пасяліліся збянтэжаннасць і страх.

Калі настаўнікі агойталіся, некаторыя падумалі: «Так табе, падлюга, і трэба!»

Любіміца дырэктара Ала Сяргееўна пачала выказваць яму спачуванне. Ён слухаў яе рассеяна і маўчаў. У дапаўненне да скрыўленага рота педагогі заўважылі, што Дзяніс Сяргеевіч не мог павярнуць шыю і пры неабходнасці паварочваўся ўсім целам.

Пакуль Дуктаў ляжаў у бальніцы, у школу неаднойчы прыходзіў усё той жа следчы. Яму нават адвялі асобны кабінет, куды ён па адным выклікаў усіх настаўнікаў і кожнага падрабязны распытваў аб адносінах у калектыве. Гэтыя допыты не мелі вынікаў, капаць трэба было ў іншым месцы, і настаўнікаў пакінулі ў спакоі.

Пасля з'яўлення Дуктава ў школе Ірына ўвесь свабодны ад урокаў час сядзела ў ягоным кабінеце. Яна хвалявалася, што пасля траўмы галавы іх любоўная сувязь спыніцца, але гэтага не адбылося. Настаўніца па-ранейшаму глядзела на Дуктава закаханымі, прагнымі вачыма, толькі цяпер да гэтай прагнасці дабавіліся мацярынская жаласлівасць і суперажыванне.

Надзея Кашына на тое што Ірына адмовіцца ад крываротага Дуктава не апраўдалася, і ён усё часцей спаў на канапе.

Неўзабаве па горадзе папаўзлі чуткі, што на Дуктава зрабіў замах былы партызан, які, адседзеўшы тэрмін, вярнуўся з турмы. Казалі, што ў вай-

ну яны нешта не падзялілі, і цяпер былы сябра звёў з ім рахунак. Былога турэмнага вязня некалькі разоў выклікалі на допыт, але ніякіх улік супраць яго не знайшлі.

Нападзенне на Дуктава забылася, пакінуўшы на яго целе свае меткі.

* * *

Прайшло дзесяць гадоў.

Раніца 1 мая 1962 года выдалася яснай і сонечнай, быццам прырода паклапацілася, каб людзі весела правялі гэты святочны дзень.

У дзесяць гадзін па горадзе ішлі прыбраныя людзі: яны спяшаліся на дэманстрацыю. Сярод іх у напрамку нарсуда ішоў і Кашын са сваімі сынамі. Яны абодва як дзеці былога франтавіка-афіцэра цяпер вучыліся ў сувораўскім вучылішчы. Алегу ішоў пятнаццаты год. Невысокі, каржакаваты здаравяк быў і тварам, і постаццю падобны на Ірыну. Форма суворaўца надавала яму зграбны і парадны выгляд. Не падкачаў і Валера. У свае 12 гадоў ростам ён дагнаў брата. Сухарлявы, чырванашчокі, у такой жа добра падагнанай форме, ён з паважным выглядам ішоў побач з бацькам і братам.

Не менш эфектна выглядаў і сам Кашын, які да такога святочнага выпадку пашыў сабе ў сталічным ваенным атэлье новую афіцэрскую форму. Хацеў спачатку прайсціся з сынамі-суворaўцамі ў той, што вярнуўся з вайны, але шарсцяны кіцель пасекла моль, ды і ад часу адзенне пастарэла, выцвіла.

У свой 41 год Іван Васільевіч статнасці не згубіў, здаваўся маладзейшым за свае гады. Хіба крыху папаўнеў. Загарэлы лоб блішчэў свежасцю, каля вачэй з'явіліся лёгкія маршчыны. Гладкія чорныя валасы выбіваліся з-пад ваеннай фуражкі, скроні злёгку пасерабрыліся. Ён быў у тым узросце, калі скончылася барацьба маладосці са сталасцю, калі чалавек перайшоў на другую палову жыцця, калі пражыты вопыт, пачуццё, хвароба пакідаюць на чалавеку свае адмеціны. Кашын дэмабілізаваўся з арміі з дазволам насіць ваенную форму, і новы кіцель падрыхтаваў да 9-га Мая, дзе сярод іншых афіцэраў франтавікоў павінен быў прыняць удзел у парадзе Перамогі. Але 1-ага Мая прыехалі з Мінска сыны, і Кашын не ўтрымаўся, апрануў сваю абнову на дэманстрацыю.

Глядзеўся высокі статны афіцэр з двума сынамі-суворaўцамі незвычайна эфектна. Было відаць, што хлопцы ганарыліся сваім бацькам, яны раз-пораз паглядалі на яго кіцель, які блішчэў ордэнамі і медалямі, і іх вочы свяціліся ад шчасця.

Маці з імі не было: Ірына пайшла ў гарана, дзе збіралася іх калона. Да школы Кашын цяпер ніякага дачынення не меў, паколькі працаваў галоўным пракурорам горада. За апошнія дзесяць гадоў ён двойчы выбіраўся народным суддзёй, а два гады назад яго прызначылі пракурорам.

Любоўная сувязь жонкі з Дуктавым на яго кар'еру не паўплывала, плёткі скочваліся з яго, бы з гусі вада. Перад грамадскасцю ён таксама быў чысты, свае справы і ўчынкі заўсёды сувымяраў з законам. Часта выступаў у раённай газеце з матэрыяламі, у якіх выкрываў і ганьбіў усіх, хто імкнуўся пераступіць закон.

Калі ішлі ў агульнай калоне па плошчы Леніна, гараджане пазіралі на Кашына з сынамі, затаіўшы дыханне.

— Глядзі, наш пракурор з сыночкамі, — шапталі ўслед цікаўныя гараджане. — Які мужчына! Заглядзецца можна.

— Ён, аказваецца, ваенны.

— А сынкі да яго не падобныя. Шкада!

— На такога мужыка Богу маліцца трэба, а яна, сучка, з другім...

— Чаму з другім? З другімі! Малодшы ж — выліты Мішка Сонін.

— Чаго ён яе, лярву, не кіне?

— Калі б кінуў — пракурорам бы не стаў. Тут ці кар'ера, ці развод.

— Калі б была маёй, я б ёй пару разоў пяткі начысціў — мігам ад палюбоўнікаў адвярнула б. А так — распусцілася баба, у смак увайшла.

— Чые б бычкі ні скакалі, а цяляткі — ягоныя. Гавораць, што любіць ён сынкоў сваіх болей, чым родных. І яны яму тым жа адплочваюць.

— А гэтаму морду скрывіла. Другі адумаўся б і завязаў, а ён — хоць бы хрэн. Дзёўбнулі яго, ды мала.

— Дык жа гародніна з чужога поля заўсёды смачнейшая...

* * *

— Ну як, спадабалася вам мая казачка? — запытаўся з хітраватай ухмылкай Іван Васільевіч.

— Пакуль рана яшчэ абагульняць, гэта ж не канец, — адказаў Мігуноў.

— Так, не канец. Але давайце перадыхнём, горла сокам прамочым, па мандарынцы з'ядзім, а потым прадоўжу, — прапанаваў Кашын, наліваючы сок у шклянкі. — Фінал, як у кожнай казцы, зразумела, павінен быць добры. І ў нас ён таксама добры. Бачыце, Ірына Радзівонаўна прыходзіць да мяне, розныя дыетычныя супчыкі прыносіць, даглядае мяне. Таму што болей ёй няма за кім даглядаць, — пачаў пераконваць Іван Васільевіч. — Дуктава аднойчы з працы забрала «хуткая», доўга ляжаў у рэанімацыі — інсульт. Дадому яго прывезлі ляжачым, а жонка потым доўга з-пад яго судны цягала. А калі надакучыла, прыйшла да нас, накінулася на Ірыну. Маўляў, ты ім карысталася — ты і даглядай, а да мяне, гаворыць, ён тыднямі не датыкаўся, я яму толькі ежу гатавала, вось цяпер прыходзь і абмывай яго. Ледзь бойка не здарылася, з цяжкасцю выправадзіў раз'юшаную бабу. А той паляжаў два гады — і Богу душу аддаў. Ірына тыдзень хадзіла заплаканая.

Іван Васільевіч з хвіліну моўчкі глядзеў прыжмуранымі вачыма некуды ўдалячынь, быццам выглядаў там яшчэ нешта недаказанае. Нарэшце прадоўжыў:

— Прыходжу неяк дадому, сядзіць журботная і фотакартка яго, Дуктава, на камодзе стаіць, на яго глядзела і плакала. Я думаў, што, калі пачуе скрып дзвярэй, то зразумее, што муж дадому вярнуўся і схавае гэтую картачку. Не схавала. Так ёй было цяжка, так яна па ім сумавала. Я не вытрымаў, хацеў гэты яе абраз, на які яна малілася, узяць і парваць. Яна са злосцю выхапіла яе з маіх рук, прыклала да грудзей і жудаснымі, нібы вар'ятка, вачамі ўставілася на мяне.

— Гэта ты яго са свету зжыў! Ты! І я цябе за гэта атручу! — пракрычала, дзіка вылупіўшы вочы, быццам на самой справе звар'яцела.

Я такой яе ніколі не бачыў, спужаўся, хацеў «хуткую» выклікаць. Але яна трохі паплакала і супакоілася. Цяпер мы засталіся ўдваіх: цешча памерла, сыны вывучыліся, іх адправілі служыць у розныя месцы.

— І што, можа, яна спрабавала выканаць сваю пагрозу? — запытаўся Мігуноў.

Іван Васільевіч невыразна пацісnуў плячыма і адказаў:

— Па натуры я чалавек недаверлівы, падазроны. Пасля такой пагрозы пачаў харчавацца ў сталоўцы, ад працы яна была недалёка і ад хаты таксама. А калі не атрымлівалася ў сталоўцы — гатаваў сабе супчык. А з яе рук — нічога. Асабліва пасля таго, як у камодзе знайшоў запаяны ў цэлафан маленькі пакецік парашку. Разрэзаў, пасыпаў ім кавалачкі мяса і паклаў у хляве, дзе заўсёды пастку на мышэй ставіў. На наступны дзень знайшоў там дзве мёртвыя мышы. У мяне, ведаеце, валасы дыбам падняліся. «Няўжо для мяне падрыхтавала?» — падумаў. Для мяне ці не, можа, проста так, на ўсялякі выпадак там ляжаў, яе ж сястра працавала ў аптэцы ў Гомелі, лекі развażвала, але я гэты парашок закапаў у зямлю. І з таго часу стаў надта асцярожны.

— Ну і што далей? Калі няма таго, каго кахала, можна, здавалася б, і супакоіцца? — запытаўся Мігуноў.

— Дык яна і супакоілася. Але пакуль яго кахала (а сустракаліся яны 27 гадоў), яна, бачыш, мяне зненавідзела, і гэтую нянавісць ніяк да гэтага часу перамагчы не можа. І спрабавала, але не атрымлівалася. Гэта ж характар, яго не пераробіш. Ёсць у прыродзе жанчыны-артысткі, яны ў жыцці — бы на сцэне, якую хочаш ролю табе сыграюць. Ірына ж не з такіх. Потым, праўда, памякчэла і нават некалькі разоў плакала з-за таго, што я яе супы не ем. Тады я прапанаваў ёй з кожнай стравы пры мне здымаць пробу. Гэта ўвайшло ў звычку, дасюль і працягваецца. Здавалася б, ужо прайшло многа часу. Валерка да палкоўніка даслужыўся, а Алежак наогул генералам стаў, у касмічных войсках служыць, пара б і забыцца пра яе пагрозу атруціць, але не забываецца, засела яна ў мяне, бы асколак ад гранаты ў целе, і не вымаецца. Падазронасць — штука жудасная, яе цяжка адолець.

— А сыны прыязжаюць, наведваюць?

— Як водпуск — абавязкова на пяць дзён прыязджаюць. Парыбачым, восенню ў лес па грыбы сходзім. Душэўныя хлопцы. Падарункаў навязуць, харчоў. У мяне і зараз слоікаў дзесяць чорнай ікры ў халадзільніку стаіць. Валера неяк прывёз, ён у той час на Далёкім Усходзе, на Амуры, служыў. Але я яе не люблю: ікрынку раздушыш — пырскі, па памеры — нібы жабіная. Брыдка. Каму-небудзь у якасці прэзента ўручаю, магу і вам...

— Не, дзякую, не трэба, я яе толькі раз у жыцці і спрабаваў, — адказаў Мігуноў.

— Словам, скасабочыла яна маё жыццё, а кінуць — не было моцы, за дзяцей турбаваўся, — ужо ў каторы раз паўтарыў Кашын. — Яны, між іншым, да гэтага часу думаюць, што тата з мамай жывуць у міры і згодзе, а для мяне гэта галоўнае. — Сціснуўшы ў кулак карычневыя, з сінімі пражылкамі вен рукі, ён з паўхвіліны глядзеў на іх, аб нечым задумаўшыся: — Самае галоўнае ў жыцці — гэта калі цябе чакае з працы жанчына і ты яе кахаеш. Мяне ж яна ніколі не чакала; чакала і радавалася майму прыходу толькі цешча, царства ёй нябеснае, ды сынкі мае. А Ірына, убачыўшы мяне, іншы раз як бліснe поглядам, бы вострай шашкай махне каля самага носа.

І раптам Іван Васільевіч палез у кішэню хатняй кашулі, якая была апранута пад бальнічнай уніформай, выцягнуў кашалёк, дастаў з яго дзве невялічкія фотакарткі, падаў іх Мігунову. Той глянуў на фота і ўсё зразумеў: хаця і прамучыўся Кашын усё жыццё, але не дарэмна. На Мігунова

паглядалі два ваенныя начальнікі з вялікімі зоркамі на пагонах — палкоўнік і генерал-маёр. Разумныя, праніклівыя вочы ўсмешлівага палкоўніка быццам гаварылі: «Прывітанне ўсім! Ну, як вы там без мяне?» Генерал быў больш стрыманы, сур'ёзны, яго задумлівы погляд быў накіраваны не ў аб'ектыў, а некуды далей, у вышыню. Абодва сыны Кашына тварам да яго не былі падобныя.

— Нармальныя мужыкі, такімі сынамі толькі ганарыцца, — сказаў, вяртаючы здымкі, Мігуноў і дадаў: — Трэба ж, да генерала даслужыўся.

І яшчэ ўспомніў Кашын такі выпадак. Дзеці тады ўжо вучыліся ў школе, Алег — у 9-м класе. Іван Васільевіч яшчэ дырэктарам школы працаваў, але ўжо абараніў дысертацыю, стаў кандыдатам педагагічных навук. Яго заўважылі ў Мінску, і неўзабаве прыйшла прапанова ад рэктара Мазырскага педінстытута заняць кафедру педагогікі. Давалі трохпакаёвую кватэру побач з інстытутам. Яму мроіўся далейшы кар'ерны рост, праца над доктарскай дысертацыяй, прафесура і нават пераезд у Мінск. Такія вехі на яго шляху намецілі ў Міністэрстве адукацыі. Але Ірына ехаць адмовілася, не магла існаваць без каханага чалавека. На ўсе намаганні мужа ўгаварыць яна адказвала адназначна:

— Едзь адзін, мне і тут добра. А дзяцей пастаўлю на ногі і без цябе.

Яна ўсё яшчэ спадзявалася, што з ад'ездам Івана Васільевіча Дуктаў перадумае, пакіне жонку і перабярэцца да яе. У гэтым выпадку ад'езд Кашына быў бы для яе нібы бальзам для душы.

Але Кашын застаўся. Ён не мог дапусціць, каб палюбоўнік жонкі перабраўся ў іх кватэру і спаў на яго, Кашына, ложку. Ды і дзеці не зразумелі б бацьку. Так і засталася нерэалізаванай вялікая кашынская мара — стаць прафесарам і жыць у Мінску.







**Уладзімір ШПАДАРУК**

## МОЙ ШЛЯХ

Глухі, бессэнсоўны,
Без сонца, без поўні —
Мой шлях без цябе.

Туманам спавіты,
Слязамі заліты —
Мой шлях без цябе.

Узнёслы, крылаты,
Духоўна багаты —
З табою мой шлях.

Прамы, нескароны,
Адзіны і родны —
З табою мой шлях.

Люблю, ганаруся,
Навек застануся
З табою, мой шлях,
Радзіма мая.

## ВЕТЭРАНЫ

Шануйце іх, пакуль жывыя,
Пакуль яшчэ глядзяць на нас
Іх вочы сумныя, святыя,
Гаворачы пра мужны час.
Шкадуйце іх, засцерагайце
Ад раўнадушша і маны,
Іх справе сэрцам прысягайце
У пераможны дзень вясны.

---

***Шпадарук Уладзімір Мікалаевіч*** *нарадзіўся 20 чэрвеня 1950 года ў вёсцы Бабічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў сярэднюю школу. Працаваў мантажнікам, вадзіцелем, служыў у арміі.*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар паэтычных зборнікаў «Весна на подоконнике», «Крыніца кахання», «Мне назначено судьбою», «Паміж цемрай і святлом».*

* * *

У смяротных абдымках Чарнобыля
Мы жывём і шукаем выйсця.
Сохнем, вянем асеннім лісцем
У смяротных абдымках Чарнобыля.

Стыне сэрца... Гарэла ж калісьці.
Ў чым мы грэшныя, людзі добрыя?
У смяротных абдымках Чарнобыля
Мы жывём і шукаем выйсця.

* * *

Чатыры сцяны і столь —
Такі майго лёсу набытак.
Усімі на свеце забыты.
Чатыры сцяны і столь.

Пачуцці мае разбіты,
На сэрцы — туга і боль.
Чатыры сцяны і столь —
Такі майго лёсу набытак.

* * *

Не склалася маё жыццё,
Не атрымалася.
Над лёсам восені лісцё
Ўжо захісталася.

Не дасягнуў, не асядлаў
Вяршынь, што клікалі.

У цемру жудасную ўпаў,
Хоць вока выкалі.

Жаданні, мары, нібы дым,
У небе згінулі.
Пытанне — быў я ці не быў? —
Другім пакіну я.

## КАБ НЕ ПАМЫЛІЦЦА

На мяжы святла і цемры
Мы стаім. Куды ісці?
Свет — калдобіны і церні.
Як, скажы, свой шлях знайсці?

Як, скажы, не памыліцца,
Каб у згодзе з дабрынёй

Богу мудраму адкрыцца
І паверыць — Ён з табой?

Каб знайсці душы збавенне
Ад жыцця ганебных з'яў...
«Сродак ёсць, і ён — сумленне», —
Голас з неба адказаў.

## З ДЗЯЦІНСТВА

Я — малеча, мне восем гадкоў,
І жыццё яшчэ ўсё наперадзе,
І стаю я на чыстым беразе,
Дзе пакуль што ні сцюж, ні вятроў,

Дзе на крылах узнёслых мар
Я лячу і палёту радуюся,
Дзе наперадзе толькі раніца,
Ну, а цемры — і ў думках няма.







## Васіль АНДРЫЕЎСКІ

* * *

Таемна-задумны палескі мой краю,
Шчымлівая песня і казка,
З мазырскіх вышыняў цябе азіраю,
А сэрцу пакутліва-цяжка.

Знудзілася маці-зямля пад нагамі
Ад гора-бяды невыноснай:
Пракляты Чарнобыль мой дзень апаганіў —
І сумна, і тлумна, і слёзна.

Я трызню цнатлівымі ў росах лугамі,
Прасторамі прыпяцкіх плёсаў.
Мне б чыстымі зноўку прайсціся гаямі,
Заснуць у духмяных пракосах.

Нямее краса, ды квітнее надзея,
І ёю адной наталюся.
А боль неадступны са мною падзеліць
На досвітку клёкатам бусел.

* * *

Учора тут былі клады́,
А сёння — скокі, карагоды...
Даюць бяспамяцтва плады
Свае вар'яцкія усходы!

* * *

Над старою буслянкай
Птах самотны лунае —
Разлучылі з каханай,
Долі болей не мае.

---

*Андрыеўскі Васіль Рыгоравіч нарадзіўся 20 кастрычніка 1967 года ў вёсцы Града Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1989). Настаўнічаў. Быў журналістам, бібліятэкарам. Зараз — супрацоўнік Мазырскага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь.*

*Аўтар зборніка паэзіі «Пад літасцю нябёс».*

*Жыве ў Мазыры.*

Не будзіць з ёй ніколі
Росных ранкаў пад хмарай —
Адплывае паволі
Белакрылая мара...

Доўга плакала рэха,
Не жадала уцяміць —
Паляўнічай уцехай
Сэрца птушкі працялі.

* * *

Бездухоўнасці цунамі
І чарнобыльскі палон —
Ліха, здзеенае намі,
На уласны ж ціхі скон.

* * *

Ніякай болей крыўды, злосці...
А ці змагу, а ці здалею?
Мне дужа часта сняцца штосьці
Лілеі, белыя лілеі.

Адпрэчу думкі аб няўдачах —
Няхай душа павесялее,
Бо заўтра будзе ўсё іначай...
Лілеі, белыя лілеі.

Наўкола красак вабных, родных
Мо тысяча пад сонцам млее.
Дзяцінствам пахнуць незваротным
Адныя ж — белыя лілеі.

Магчыма, праз гады кагосьці
У край мой прывядзе сцяжынка.
Лілеі лягуць па пагосце,
Нябачная ўпадзе слязінка.

* * *

Ружова-белай квеценню садоў
Ахоплены вясновы цёплы будзень.
Якое шчасце — пад крыжом гадоў —
На хвілю растварыцца ў гэтым цудзе!..

* * *

Калі парой не спіцца
І думкам горка,
Я з поўняю-сястрыцай
Вяду гаворку.

І хай у гэтым свеце
Не ўсё, як трэба, —
Выратавальна свеціць
Мне поўня з неба.

## СПАТКАННЕ

Спаткаў цябе ў жытнёвым спелым полі,
Там бегла ў вёску вузенькая сцежка,
Вятрыска-непаседа ўслед сваволіў...
Я прывітаўся, у адказ — усмешка.

І знікла ўсё, калі зірнуў у вочы:
І белы свет, і поле ў ім, і жыта...
А мы стаялі, не здалеўшы збочыць,
І пан вятрыска косы твае блытаў.

Лунталі думкі-мроі над зямлёю,
Трымцела сэрца у салодкім гудзе...
З тае пары, палонены табою,
Жыву красой, якой зайздросцяць людзі.

* * *

*А.*

Мне б прыпасці да тваіх каленяў,
І забыцца на грахі і сорам,
І ў пяшчотна-хмельным захапленні
Акунуцца у кахання мора.

Мне б на хвілю толькі дакрануцца
Вуснамі да вуснаў звабна-мілых
І на сёмым небе апынуцца...
Божа, блаславі, даруй, памілуй.

* * *

Мілая, чароўная, зямная
Валадарка незабыўных сноў!
Толькі сэрца ў адзіноце знае,
Як цябе чакаю я даўно.

Добрая, лагодная, святая...
На зялёным беразе вясны
Каляндар гадоў сваіх гартаю,
Верачы, што явай стануць сны.

* * *

О чалавечая дарога!..
Ніколі не бывае роўнай.
І толькі шлях адзін — да Бога —
Нас зберажэ. І абароніць.





## Сяргей РАБЧУН

* * *

Наракаем ізноў на зіму —
толькі б штось гаварыць, не маўчаць, —
і так цяжка адно аднаму
зразумелыя словы сказаць.

І чужымі адно аднаму
з кожным словам становімся мы,
упускаем у сэрца зіму
і не можам ужо без зімы.

* * *

А ты мяне лічыш
памылкай сваёй
і часта аб нечым
сумуеш употай...
Такое, напэўна,
бывае зімой,
калі пачынаецца
снежань суботай.

Такое бывае,
напэўна, калі
ты слухаць ужо
не жадаеш нічога
і ведаць не хочаш,
што я на зямлі
лунаю далёка
падчас ад зямнога.

І ўсё ж не бывае
заўсёды цяпла,
ў прыродзе здараюцца
розныя з'явы...

Даруй мне, што снегам
зіма замяла
і левы мой бераг,
і бераг твой правы.

### ПАВАРОТКА

Мы з самотай маёй аднагодкі,
колькі помню, —
заўсёды са мной...

---

***Рабчун Сяргей Мікалаевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1971 года ў гарадскім пасёлку Плешчаніцы Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў сярэднюю школу, ПТВ-124 у Вілейцы. Служыў на пагранзаставе ў Сярэдняй Азіі. Працаваў токарам-фрэзероўшчыкам на заводзе. Цяпер — у прыватнай фірме.*

*Друкаваўся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Першацвет» і «Маладосць».*

Мы прыйшлі з ёй да той паваротці,
дзе я калісь сустрэўся
з вясной.

Дасягнулі нябачнае рысы,
невядомай дагэтуль мяжы,
дзе ў тумане знікаюць абрысы,
дзе абрысы — нібы міражы.

Там масток цераз плыткую рэчку —
як пачатак наступнай вярсты,
там пакіне на сэрцы насечку
час паліць за сабою масты...

* * *

Мы ўсе аднойчы сябе губляем.
Каго кахаем, тым не даруем...
Нібыта дзеці, з агнём гуляем,
недаравальна з агнём жартуем.
А час праходзіць — як быць, не знаем,
сябе, няшчасных, да слёз шкадуем
і клятвы любым парой вяртаем,
нібы ад любых сябе ратуем...

* * *

Калі ў падманлівым жыцці
тваё апошняе каханне
маланкай гасне ў небыцці, —
недачакаўшыся світання,

ты п'еш сам-насам за сталом
віна гаркотнага атруту
з надзеяй кволай, што він*о*м
зальеш душэўную пакуту.

Але ад роспачы і гром
на золку не ўратуе сэрца...
Так, стоячы пад ліхтаром, —
нібы пад сонцам, не сагрэцца.

* * *

Нам пяшчоты з табой не хапіла...
Болей кветак блакітных не рву.
Ты валошкі заўсёды любіла,
я заўсёды любіў сон-траву.

І няварта з нябёсаў пытацца,
хто з нас штосьці не тое зрабіў...
Ты любіла маўкліва ўсміхацца,
я табе спавядацца любіў.

У мінулым усё. Спадзяванні —
навагодняй начы зарапад...
Ты сумуеш па новым каханні,
я — шукаю твой юны пагляд.





Іван ШАМЯКІН

# З ДЗЁННІКАЎ

**29 жніўня 1999 года**

Памёр Аляксей Гардзіцкі. 64 гады. Не курыў, не піў, не жанаты нават быў, жыў з жанчынай адзін час, нядоўга. Сачыніцелем у класічным разуменні гэтага слова не быў. Літаратарам быў. Жыў літаратурай. Выпускаў кніжкі размоў, інтэрв'ю, дыялогаў з добрымі пісьменнікамі. Гадоў 25 рабіў у СП, займаўся сувязямі з замежнымі пісьменнікамі. Адкрыццяў не рабіў, але працу сваю любіў і пісьменнікаў сацыялістычных краін ведаў, і яны, тыя, хто трымаў сувязь з намі, таксама ведалі яго. Актыўнасцю не вызначаўся, усё рабіў памяркоўна, але сумленна, шчыра. Сумленнасць — вызначальная рыса гэтага своеасаблівага чалавека. Сумна мне стала, калі я пачуў пра яго смерць, — Алеся пазваніла, прачытаўшы ў «ЛіМе». Няхай жыве светлая памяць пра цябе, добры чалавек! Помнік табе паставяць хіба сябры; СП гэтага не зробіць, кнігу не выдадуць. Але тыя, хто працаваў з табой, дарагі Аляксей Кузьміч, будуць помніць цябе. А гэта таксама помнік.

**31 жніўня 1999 года**

Слабыя кнігі пішуць былыя лагернікі. Але ці можна патрабаваць ад іх большага? Выжылі не самыя таленавітыя, у лепшым выпадку — сераднякі. «Архіпелаг ГУЛАГ» стварыў Салжаніцын. Але гэта дакументалістыка, а мастацкая вяршыня ў яго — «Адзін дзень Івана Дзянісавіча».

Што рабіў гэтыя дні? Нічога. Увечары — тэлевізар, перад сном чытаю «Фараона» Б. Пруса.

**3 верасня 1999 года**

Заўтра рада СП. Хацеў папрасіць машыну, паехаць. Алеся прачытала павестку: «Арганізацыйная работа СП», «Арганізацыйная работа Літфонду». Якая работа? Хіба ўстане пытанне, як старшыня СП Някляеў збег у Польшчу? Ганьба ўсяму СП! Не паеду!

**17 верасня 1999 года**

Што робіцца ў вялікай Расіі? Разгул тэрору. За тры нейкія дні ўзарвалі два жылыя дамы ў Маскве, у Волгадонску. Сотні ахвяр — дзяцей, жанчын. Азвярэлі людзі. А справа рук чэчэнцаў, баевікоў Басаева. Помста? У Басаева ў чэчэнскай вайне загінула жонка і шасцёра дзяцей. Траўма страшная. Думаю, у чалавека парушана псіхіка, ён азвярэў і трымаецца антычалаве-

чага закону: кроў за кроў, смерць за смерць. Дзяцей — за дзяцей? Гэтага дараваць нельга! Тэрарыста трэба ізаляваць, каб не было большай бяды. Некалі і я быў за адмену пакарання смерцю. Не! Трэба бязлітасна бамбіць базы баевікоў.

Далёка гэта крывавая «гульня», а сэрца баліць, настрой цяжкі.

Думаю пра смерць, але думаю і пра жыццё. Праз год і чатыры месяцы мне стукне 80. Дажыць бы! Жыццё — з'ява незвычайная і ўсёперамагальная. Крыўдна, што Бог і людзі (часцей людзі) так нечакана абрываюць яго.

Прачытаў «Фараона» Баляслава Пруса. Сорамна, што дагэтуль не чытаў, хоць, помню, разы два браўся. Не Талстой, не Чэхаў, але кніга цікавая, сацыяльна завостраная. Вось там, у развагах, у вытрымках з папірусаў, з «Кнігі мёртвых» шмат цікавага і пра жыццё, і пра смерць, пра лёс чалавека і народа. Лепш, чым у Дастаеўскага. Хоць па вобразах, безумоўна, слабей.

Вырысоўваецца сюжэцік. Дай Бог!

**23 верасня 1999 года**

Пахавалі Раісу Гарбачову. Глядзеў рэпартаж і... расплакаўся. Не па Раісе — па Машы: іх звяла ў магілу аднолькавая хвароба. А ўвогуле і Раісы шкада. Калі яна была «першая лэдзі», я недалюбліваў яе. Не таму, што яна ўсюды была побач з Генсекам, Прэзідэнтам. Не, не за гэта. Я, можа, адзін з першых прыняў, што Гарбачовы ламаюць нашу азіятчыну — не паказваць жонак, трымаць у цені, у кельях. Азіятчына і дамастроеўшчына, мацёрая, руская. Я разумеў, што такая актыўная жонка падказвае мужу ў палітыцы. Але я не бачыў у іх выступленнях філасофскай развагі. Жанчына — і ўсяго! Аднак вечная ёй памяць! Плакаў і па Машы, і па Раісе.

Усе старыя думаюць столькі пра смерць? Я — многа. Нядобра. Талстой думаў шмат, Бунін менш, хоць я не чытаў познія дзённікі Буніна. Хворы Мележ часта гаварыў пра смерць; мы ў тым узросце не думалі і не хацелі яго слухаць. Андрэй не любіў, злаваў: «Што ён хныча?!» Як адчуваў, што і сам ненадоўга пераджыве Івана Паўлавіча. Я таксама быў не надта чуткі да калегі, суседа па дачы, па кватэры.

Часам узнікае жаданне напісаць пра кагось з калег. Але ва ўсіх былі заганы, а выстаўляць, «адкрываць» іх, калі чалавека ўжо няма, нядобра, неэтычна. Самы слабы з маіх напісаных успамінаў — пра Броўку. Я ведаў тады ўжо яго слабасці. А што ведаю цяпер, лепш маўчаць, зямля яму пухам: мне ён зрабіў шмат добрага. Слабасці яго праявіліся ў 30-я гады. Але нават Георгій Колас у сваёй пасмяротнай кнізе не даказаў, што Броўка — агент органаў. Кузьму Чорнага выставіў у найгоршым святле. Чорнаму яго «дзейнасць» скараціла жыццё.

Я прачытаў палавіну кнігі Г. Коласа «Карані міфаў». Цікава. Але чамусьці далей не захацелася чытаць. Не магу зразумець — чаму.

Прачытаў Аляксандра Дзюма раманы пра каханне. А следам Васю Бялова «Привычное дело». Якая сачынёнасць і лёгкасць у Дзюма! І якая глыбокая, чэхаўская, трагедыя селяніна, калгасніка ў Васі! Але... во парадокс!



Дзюма чытаюць без малага 200 гадоў. Бялова ўжо не чытаюць. І не будуць чытаць. Хоць жыццё Івана Афрыканавіча — жыццё мільёнаў сялян. Глыбокі мастак Іван Пташнікаў, а таксама цікавасці да яго творчасці няма. Што рабіць такому пісьменніку? Хоць у наш час нікога з сучаснікаў, сур'ёзных, не чытаюць. Нават сексуальная белетрыстыка канае. Што ж трэба? Амерыканскія баевікі — гэта антымастацтва. Абсалютнае. Я пазаўчора паглядзеў такі баявік, не горшы, а пасля паглядзеў серыял «Атланты і карыятыды». Парадаваўся за сябе, за Гутковіча-нябожчыка. Гэта ўсё ж мастацтва. Сацрэалізм? Няхай. Але гэта жыццё інтэлігенцыі пэўнай эпохі. Найлепшай эпохі — для пісьменнікаў, рэжысёраў, мастакоў.

**2 кастрычніка 1999 года**

Надвор'е добрае. І жоўтага лісця яшчэ нямнога. Можна любавацца восенню. А ў мяне на душы пагана, ніякай паэзіі. Хочацца ў горад. Будзе там лепш? Наўрад. Няма чалавека, які развеяў бы смутак, прытуліў, як умела гэта Маша. Ах Маша! Адыход твой зрабіў маю старасць вельмі цяжкай.

**15 кастрычніка 1999 года**

Учора пераехаў з дачы на гарадскую кватэру. Там сядзеў у цяпле — паліў газам, тут — холад, хоць пакуль што трывалы. Вольга Філатаўна і Ліна параязджаць не захацелі: «Не ўсё дагледжана». Да слёз захапляюся Вольгай: ёй у студзені 2000 года 85 гадоў. Не для сябе яна капае грады — для пляменніц і ўнукаў стрыечных. Так і пражыла ўсё жыццё: у маладосці (ды і ў сталым узросце) жыла для сясцёр і брата, вывучыла ўсіх, потым усё аддавала іх дзецям. Калі пасля вайны Матрона ў «курнай» хаціне жыла з малой Тамарай (Тамара ўжо сёння на пенсіі), Вольга ішла пешшу з Церахоўкі, дзе рабіла на пошце, у Новую Гуту, каб прынесці сястры з пляменніцай буханку хлеба, атрыманую на картачкі. І так усё жыццё. Я адчуваю сёння сябе эгаістам, што пакінуў іх на дачы адных. Але ж там цёпла, хлеб, крупы, алей ёсць. У параўнанні з тымі бабулямі, што адзінока жывуць у глухіх вёсках... О бабулі! Пакланіцца ім трэба!

А мне стала вельмі самотна пад шум лесу, пры назіранні, як ападае лісце з бяроз, з ліпы, мною пасаджанай. Бярозы пасадзіў Мележ, я пісаў пра іх. Яны разрасліся ў магутныя дрэвы — 40 гадоў. Зяць Мележа Барыс Семілетаў тры дні назад спілаваў іх. Мне стала сумна.

Барыс разбурыў старую цесцеву дачу, будуе новую. Сам. Другога такога працаўніка я не ведаю. Штодня працуе яшчэ адзін сусед — былы міністр аховы здароўя Улашчык: выкладае адмысловыя дарожкі. Я ім зайздросціў: каб я ўмеў рабіць нешта, звязанае з фізічнай працай, можа, не

так апаноўвала б самота. І страх. Апошні час жыву пад страхам. Не за сябе. Не, і за сябе! Але і за ўсіх блізкіх, за дзяцей — асабліва.

Спадзяваўся, што ў горадзе адпусціць сум і страх. Учора, можа, і адпусціў: Ваню — два годзікі, па-святочнаму абедалі, выпіў грамаў сто гарэлкі. Былі хросныя — Маша-ўнучка і Сяргееў сябра — Юры Дзяргай, падпалкоўнік міліцыі. Пагутарылі. Сёння блукаю з кутка ў куток. Ваня ўчора не пазнаў дзеда, за тры месяцы забыўся, сёння наблізіўся.

Цікавы эпізод. Прыехаў — на стале кніга «Цудоўная дудка». Зборнік п'ес, выпушчаны Валянцінам Лукшам, калі ён быў яшчэ дырэктарам «Юнацтва». Выдатным дырэктарам!

У кнізе мая п'еса «Залаты медаль». Поўнаметражная камедыя. Хоць якая камедыя? «Чайка» — хіба камедыя? Ніколі не згаджаўся з Антонам Паўлавічам ў яго вызначэнні жанру. Але пад яго ўплывам і сам назваў «Медаль» камедыяй. Але што дзіўна? За 20 ці больш гадоў забыліся сюжэт, героі. Пачаў чытаць і... пакуль не скончыў, не адарваўся. Добрая п'еса. Нават здзівіўся, што гэта напісаў я. Актуальная п'еса. Можна ставіць цяпер. П'есы Ф. Аляхновіча, якія цяпер друкуюць, — дзіцячы лепет. Але ж носяцца з ім.

Ці ўсплывуць калі-небудзь забытыя творы? Сумна думаць пра гэта! Андрэя Макаёнка не ставяць. А жывыя ж, працуюць Раеўскі і Луцэнка, якія карміліся каля яго. Бочку кан'яку Андрэевага выпілі. Эх, людзі!

Газета дала здымак магілы Пімена Панчанкі — як яна запушчана. Сорамна сям'і, але сям'я бедная. А дзе ўсе тыя паэты, яго вучні, што кляліся ў любові да Пімена? Падыміце ўлады, грамадскасць! Дзе там!

Многа гаркоты ў душы маёй. Памерлі Мікола Грынчык, Іван Мяла. Да Івана Ільіча, які, седзячы ў Курасоўшчыне, адгукаўся на кожны мой новы твор, і, думаю, шчыра даваў высокія ацэнкі, я ні разу не з'ездзіў, не наведаў нават тады, калі быў дужы!

Чытаю ўспаміны пісьменнікаў XIX стагоддзя. У іх культуры было больш. Яны сустракаліся. І якая эпісталярная спадчына! Тамы. Я пісаў нямала ў гады славы сваёй — рэдактарам, перакладчыкам, чытачам. Але дзе тыя пісьмы? Хто іх збярэ? Перакладчык Павел Кабзарэўскі незадоўга да сваёй смерці пісаў, што ў яго 105 маіх лістоў. Трэба было, калі ён памёр, выкупіць у сям'і. Я і думаў, але не паварушыўся. Грошай шкадаваў, ці што? Тое ж з Арсеніем Астроўскім, у таго было яшчэ больш маіх лістоў, бо пражыў ён без малога 90 і пераклаў добры дзесятак маіх твораў. Дзед з нецярпеннем чакаў кожнай маёй новай рэчы і быў расчараваны і пакрыўджаны, калі пачала перакладаць мая дачка Таццяна. Вечная памяць дзядам, яны вывелі мяне на ўсесаюзную арэну. Але не магу не адзначыць, што Таццяніны пераклады былі не горшыя за пераклады старога майстра Астроўскага, не кажучы ўжо пра Кабзарэўскага.

**18 кастрычніка 1999 года**

Пачаў чытаць «Фаина Раневская. Монолог». Уласна «Монолог» — яе дзённікі, яны складаюць трэцюю частку кнігі. Астатнія дзве часткі — пра

яе, аўтар Дзмітрый Шчаглоў. Дзённікі заўсёды цікава чытаць. Запісы Ранеўскай кароткія, скупыя, амаль пратакольныя, хоць ведала яна Станіслаўскага, Качалава, блізкая была з Ганнай Ахматавай, Вольгай Бергольц і іншымі, пра каго ёсць што напісаць. Праўда, нярэдка яна ўражвае афарызмамі. Напрыклад: «Спутник славы — одиночество». Вельмі правільна! Ці яшчэ: «К старости надо добреть с утра до вечера!» А як дабрэць? Ад чаго? Да каго? Да ўсіх людзей?

Выбраць кнігу — праблема. З 500 тамоў на дачы выбіраў-выбіраў і ўзяў том Чэхава «Пьесы». Многа разоў прачытваў, глядзеў у тэатрах. А не мог адарвацца. Адводзіў для чытання час вячэрні пасля тэлевізара. Глядзеў брыдкія баевікі. І чакаў, як спаткання з каханай, калі падымуся да сябе наверх і разгарну Чэхава. Самыя душэўныя «Три сестры», «Дядя Ваня». Шмат разоў чытаю і шмат разоў плачу ў фінале «Трох сясцёр». Спектакль я глядзеў яшчэ, відаць, у пастаноўцы Станіслаўскага, у 50-х гадах. Незабыўнае. А тут ішоў па ТВ, не помню, якога тэатра, — і нічога ад Чэхава, усё абурала. Так навацыямі могуць спаганіць высокае мастацтва. І паганяць. А выдаюць за адкрыццё. Пайшлі вы з такім «адкрыццём»!

Я пачаў маліцца. Учарашні заняты атэіст! Веру? Да веры не дайшоў яшчэ. Але лічу, што малітва — псіхалагічны тэст самаўнушэння. «Господи Иисусе, Христе Боже наш, памилуй меня, грешного... Помилуй ближних моих». І, здаецца, пачынаю верыць, што хтось пашле мне сваю міласць. Ілюзія? Магчыма. Але, напэўна, у маім узросце трэба жыць ілюзіямі, без іх цяжка.

**2 лістапада 1999 года**

Якія паўзы я раблю ў дзённіку. Ды і не толькі ў дзённіку. Паўзы ў жыцці. Не, у жыцці бадай няма паўзаў. Жыць — думаць, разважаць. А я думаю бясконца. Аб сваім лёсе, аб лёсе дзяцей, унукаў. Думкі сумныя. Часта апаноўвае страх, больш таго — жудасць ад таго, што наперадзе — чарната. Цяжка пакідаць гэты свет з такімі думкамі, з такім настроем. Хоць такі лёс, напэўна, усіх старых.

Прачытаў кнігу Д. Шчаглова «Фаина Раневская». Пад старасць (пражыла 87 год) як яна пакутавала ад адзіноты, хоць яе і наведвалі многія акцёры, ад безграшоўя, хоць не думаю, што яно было такое катастрафічнае, як у нас зараз. У яе не заставаліся дзеці, унукі, не было страху за іх заўтрашні дзень. Але ці лягчэй ад гэтага было ёй? Думаю, што не. Гэта паглыбляла пачуццё адзіноты. А я прачынаюся ад «званочка» — ад галаска ўнука Ванечкі, ён радуе. Але гляджу на яго, радуюся, а сэрца смокча страх: якое жыццё будзе ў цябе, дзіця маё? Не было б толькі голаду! Я баюся голаду. У наш вар'яцкі час усё можа быць. З дапамогай шарэцкіх клінтаны і «дэмакраты» Еўропы могуць блакіраваць рэспубліку. Не ў захапленні я ад акружэння Лукашэнкі, але ўяўляю, што рабілася б пры Пазняку ці Шарэцкім.

Сёння Лужаніну 90. Пазваніў, павіншаваў старога. Бадзёры голас, ясны розум. Збіраецца на вечар, які арганізаваў не СП, а Таварыства дружбы. Запрасіў мяне. Хачу пайсці. Толькі як у цемры назад прыпаўзу?

**4 лістапада 1999 года**

Быў на вечары Лужаніна. У захапленні. Які высокі розум! Якая логіка! Выступаў больш за дзве гадзіны — і ніводнай агаворкі, выступіў лепш за ўсіх нас, маладзейшых. А памяць!.. Якая памяць! Успамінаў, што было 60—50—40 гадоў таму. Без паперкі прачытаў верш, які напісаў да свайго 50-годдзя. Але ногі — слабое месца, як і ў мяне. Аднак жа я амаль на 12 гадоў маладзейшы. У цэлым зайздросная старасць. Дай Бог нам такую, няхай і не да 90, але каб з такім розумам, з такой памяццю. Янку Брылю — 83. На нагах ён трымаецца мацней, ходзіць без кійка, але яго падводзяць вочы. Старасць знаходзіць слабое месца: у аднаго — склероз, у другога — вочы ці вушы, у трэцяга — ногі. Спадабалася мне форма вечара. У зале Дома дружбы былі пастаўлены літарай П у два рады журнальныя столікі, на іх бутэрброды, вада, а пасля афіцыйных віншаванняў і гарэлка. Утульна, па-хатняму. Хто фінансаваў? Яўна ж не СП і не сам Лужанін. Відаць, Прэзідэнт.

У нас адключылі цяпло. І я думаю: як жывуць паўночныя народы? У тайзе — лес. А ў тундры? Мароз прабірае, калі думаеш пра іх жыццё. А тут яшчэ Чачня. Боль за рускіх хлопцаў такі ж, як і за сваіх. Шчасце, што мы не ваюем. Але знайшліся мае калегі, якія пішуць лісты Клінтану, каб навёў парадак у нас, скінуў Лукашэнку. Амерыка можа навесці свой парадак! Такі, як у Югаславіі. Гэтага хочуць нашы пэнклубаўцы? А я ўчора з імі вітаўся, як нічога не было. Адвярнуцца ад калег я не магу. За 26 гадоў працы ў СП я лічыў, што мы — адна сям'я. Аказваецца, не былі мы адной сям'ёй. І тады некаторыя скрыгалі зубамі на партыю і саветы. Іх абсыпалі ўзнагародамі, а яны тачылі нажы. Быкаў і тады жыў багацей за Макаёнка, Шамякіна і цяпер паўтара года сядзіць у Фінляндыі. З якой мэтай? Выбівае Нобелеўскую прэмію? Лепш кормяць, чым кормяць дома? Ох, людзі, людзі, чалавекі!

**9 лістапада 1999 года**

Адзначылі 82-ю гадавіну Кастрычніка. Адзначылі? Як? У нас было прывітанне Прэзідэнта. У Мінску сабралася 30 тысяч ветэранаў, была і моладзь. Правялі мітынг на Кастрычніцкай плошчы і прайшлі да плошчы Леніна, усклалі вянкі да помніка.

А я ў гэты час яшчэ спаў — да 11. Нездаровіцца. Ісці столькі я ўсё роўна не здолеў бы. І цэлы дзень было самотна. Злосць брала на ўсіх, хто вінаваты ў развале Савецкага Саюза. Распяць трэба Гарбачова, Ельцына, Краўчука, Шушкевіча і ўсіх якаўлевых, бо яны падрыхтавалі развал. Доўга і разумна, прадумана ён рыхтаваўся, развал. Лічу, што пачалося з Брэжнева, з яго 44 машын, з чурбанавых, медуновых, рашыдавых. Так. А мы, вялікая партыя? Дзе мы былі? Нас на дзень развала было 18 мільёнаў — тых, хто лічыў сябе камуністамі. І такая армія капітулявала перад кучкай адшчапенцаў і здраднікаў. Ганьба!

Як адзначыла Расія 82-ю гадавіну — паведамленні скупыя. Позна ўначы паказалі па ТВ фільм: кадры дакументальныя, кадры іграныя — акцёры ігралі Сталіна і членаў Палітбюро. Тэкст да подласці злосны. У замежным друку лічаць, што ў лагерах загінула 20 мільёнаў, аўтары гэтага паганага фільма называюць 100 мільёнаў. На каго разлічана? На тых, хто не думае? Гэта больш за палавіну насельніцтва краіны. Хто ж перамог Гітлера?



*Сустрэча з чытачамі.*

Пры ста мільёнах загінуўшых краіна засталася б без мужчын. Так хіба было, калі я ішоў у войска? У Церусе, на радзіме Машы, пасадзілі аднаго дырэктара школы Салодкага. А ў Карме на 700 двароў — ніводнага чалавека. У 1937—38. У калектывізацыю, праўда, некалькі сямей выслалі. У другой перадачы 90-гадовы Дзмітрый Ліхачоў заяўляе: галоўны ўдар наносіўся па інтэлігенцыі. Гэта праўда. Але акадэміку варта было б ведаць, што ніводная краіна ў свеце за такі кароткі час — за нейкага паўстагоддзя — не вырасціла, не вывучыла такую армію інтэлігентаў — інжынераў, урачоў, настаўнікаў, пісьменнікаў, мастакоў. Крычаць аб неаб'ектыўнасці, аднабаковасці савецкай гісторыі — кніг па гісторыі. А зараз яна аб'ектыўная, калі з гісторыі літаратуры выкідваюцца такія велічыні, як Горкі, Шолахаў, Фадзееў, не кажучы ўжо пра Маркава, Сартакова, Бондарава, Бялова, Распуціна? Не эмігранты, а менавіта яны, франтавікі, стварылі найбагацейшую літаратуру. І яна будзе жыць: напісанае застаецца нават тады, калі кнігі паляць, як рабіў гэта Гітлер. Тэлебачанне вымушана паказваць савецкія фільмы. А куды дзенуцца! Нельга ж «карміць» народ аднымі дурнымі амерыканскімі баевікамі! Божа мой, якія ж яны бяздарныя! Як не сорамна рэжысёрам, сцэнарыстам, акцёрам сачыняць такую муць, такую лухту, замешаную на сексе і крыві.

Прачытаў вялікую кнігу пра Эдзіт Піаф Сімоны Бярто, яе сястры, якая амаль усё творчае жыццё была пры спявачцы. Алкагалічка, наркаманка, мужчын знала — не злічыць, аднак усё роўна Вялікая Піаф. Кніга бязлітасна сумленная — найлепшая з біяграфічных аповедаў.

**18 лістапада 1999 года**

Ледзьве не кожны паход у краму Сяргея ці Алесі канчаецца «радаснымі» паведамленнямі: той ці іншы прадукт падаражаў. Цана на масла

падбіраецца да мільёна. Халадзееш ад гэтых «радасцяў». Будзем галадаць? Нябожчыца Маша больш за ўсё баялася голаду, бо за жыццё сваё нагаладалася: у 30-я гады, у вайну, пасля вайны. Я заставаўся аптымістам нават пасля *развалу Саюза.*

Адна радасць: «Юнацтва» выпусціла маю кніжачку для дзяцей «Промні маленства». Не кніжачка — кніга: 17 кароткіх апавяданняў разам з ілюстрацыямі склалі аб'ёмную кнігу павялічанага (дзіцячага) фармату. Сігнальны экземпляр, які даў мне Алесь Камароўскі (свой — дырэктарскі), падарыў унуку майму Ваню, яму трэці годзік. Дай Бог табе шчасця, мой дарагі хлопчык! Хачу верыць, што ўсё ж мы, беларусы, вылезем з гэтай галечы, беднасці. Ніводнаму народу былых рэспублік СССР капіталізм не прынёс хоць бы адноснага дабрабыту, нават прыбалтам, якіх Захад падкармлівае. Усё ж дзядзька Сэм не вельмі шчодры, тэорыя «залатога мільярда» ў дзеянні; на астатніх пяць мільярдаў «залатым» напляваць; дэмагогіі, праўда, шмат — аб дабрачыннасці. Але ад такой «дабрачыннасці» нядоўга і загнуцца.

Рэдка разгортваю дзённік, але, калі ўжо дабяруся, выліваю ўсё — істотнае і драбязу. Хоць што можна назваць драбязой? Цэны? О, не! Страх свой перад жыццём, трывогу за будучае дзяцей? Гэта, можа, самае істотнае.

**19 лістапада 1999 года**

Толькі што пазваніла з Масквы Ліза Вольская: памёр яе бацька — мой лепшы сябра Віктар Вацлававіч Вольскі. Учора. Упаў у калідоры МДУ, дзе загадваў кафедрай геаграфіі да гэтага часу. Я заплакаў. Які чалавек! Асоба! Розуму палата. Член-карэспандэнт Саюзнай акадэміі, дырэктар Інстытута Лацінскай Амерыкі многія гады.

У кастрычніку 1940 года нас везлі ў Мурманск, ён быў студэнтам Лесатэхнічнага інстытута. Мы пазнаёміліся ў вагоне. Трапілі ў адну батарэю — вучэбную 33 ОЗАД. Сябравалі. Дасціпны, весялун, эрудыт, ён прыцягваў да сябе. Яго ўсе любілі — мы, курсанты, і нашы камандзіры, нават малапісьменныя сержанты, якія ганялі нас, як сідаравых коз, проста здзекаваліся з «прафесараў», як яны называлі нас.

У вайну разлучылі нас з Віктарам: яго адаслалі ў новы дывізіён. Чамусьці не перапісваліся. Сустрэліся ў 50-я гады ў Маскве ў тэатры. Ён пазнаў мяне. І з таго часу ў кожны прыезд я быў яго госцем. Пасябравалі і Маша з Уладай, такой жа дасціпнай, вясёлай хахлушкай, якая, на жаль, рана памерла. Віктар колькі разоў прыязджаў у Мінск, апошні раз на маё 75-годдзе, а ў жніўні таго ж 1996 я паехаў на яго 75-годдзе. Апошняя сустрэча. Ён званіў, вінаваціў мяне, што я не прыязджаю.

Вось так мы пакідаем гэты свет. Горка. Сумна. Я званіў яму 7 лістапада, ніхто не адказаў. Ужо тады ў мяне з'явілася страшная думка, бо ў жніўні, на яго дзень нараджэння, калі я патэлефанаваў яму, ён скардзіўся, што яму не пазбегнуць аперацыі на сэрцы. Аперацыі не рабілі. Працягваў працаваць. А трэба было? Ён — Герой Савецкага Саюза, пенсія была немалая. А можа, праца прадаўжала яму жыццё? Вечная памяць табе, мой дарагі сябра Віктар!

**22 лістапада 1999 года**

Смерць Віктара неяк па-асабліваму спалохала мяне, як не палохала смерць маладзейшых. Страта жонкі прынесла цяжкі боль, але не страх. А тут як бы абвастрылася адчуванне набліжэння ўласнага фіналу. Аднагодак, блізкі чалавек, найлепшы сябра. Грызе сумленне, што ў апошнія гады я так рэдка званіў яму. А мог бы і пісаць. Колькі Талстой пісаў лістоў у мае гады! Я чытаў яго дзённік і здзіўляўся.

Думаю: кім вызначаецца час смерці? «Усявышнім», — сцвярджаюць вернікі. Міжволі пачынаеш верыць. Колькі разоў Віктару смерць дыхала ў твар. На вайне, у баі, за які ён, камандзір батарэі, атрымаў Героя. Увесь час мне хацелася напісаць аповесць пра гэты бой і майго сябра. Чаму не напісаў? Не занатаваў расказ Віктара, і дэталі яго забыліся...

А пасля ў мірны час. Расказваў Віктар. Ён, дырэктар Інстытута Лацінскай Амерыкі, па некалькі разоў на год лётаў у краіны гэтага далёкага кантынента, вывучаў эканоміку, палітыку, выпускаў энцыклапедыю «Латинская Америка». Не помню, у якой краіне, здаецца, у Бразіліі, павінен быў ляцець у іх правінцыю. Але яго прымаў прэзідэнт — і ён на колькі хвілін спазніўся на самалёт. Самалёт гэты разбіўся, і ўсе пасажыры загінулі. Лёс? Не час быў памерці.

Другі выпадак. Ехалі ў Перу па горнай дарозе. І раптам за 200 метраў ад пярэдняй машыны горны абвал. Адна хвіліна — і іх машыны накрыла б. Расказваў, як маліўся шафёр, іншыя перуанцы, што суправаджалі госця. «Я не маліўся, — расказваў Віктар. — Я жартаваў. І на маіх спадарожнікаў гэта зрабіла незвычайнае ўражанне. Я паверыў у лёс, але цяпер думаю, што трэці падобны выпадак кончыцца для мяне жалобнай музыкай, калі будзе што хаваць».

Але быў і трэці выпадак. Віктар збіраў марскія ракавіны, у яго была найбагацейшая ў Саюзе калекцыя ракавін — каля пяці тысяч. Спецыялісты ацэньвалі яе на той час у сто тысяч рублёў. Ледзьве не кожная ракавіна мела назву. Цэлая навука. У Віктара было некалькі тамоў на англійскай і іспанскай мовах з апісаннем ракавін, іх назваў, «біяграфій». Частку ён купляў у рыбакоў, калекцыянераў розных краін, нямала знаходзіў, вылоўліваў сам. Смелы, рызыкоўны чалавек!

Мексіка. Адпачывае ў гатэлі. Пайшоў на бераг, папрасіў рыбакоў завезці яго на водмель, дзе ракавіны. Завезлі. Ён нырнуў, знайшоў ракавіну, якая ў шафе пасля займала цэнтральнае месца. Вынырнуў і... пачуў далёкі шум матора. Рыбакі, пакінуўшы яго, плылі да берага, а да яго кіламетраў дзесяць. Не даплысці. Аднак паплыў.

«Спалохаўся?»
«Ты знаеш, не. Ці не ўсё роўна, дзе паміраць».
«Не свішчы, Віктар».
«Дзівак, ты не ведаеш маёй філасофіі. Я — фаталіст».

Ды, на шчасце, рыбакі вярнуліся...



*У Рэчыцкім райкаме. Жнівень 1986 года.*

Вось такія былі выпадкі, калі смерць дыхала на яго. Але ці думаў ён, што ўпадзе ў доўгім калідоры роднага універсітэта, ідучы на лекцыю ці з лекцыі?

Хто ведае, дзе ён памрэ? Толькі хіба той, хто прыкаваны да пасцелі цяжкай хваробай, як Маша. Што яна думала ў апошнія дні, гадзіны?

Учора была пляменніца Машы Тамара Курганская і пераконвала мяне, каб я не думаў пра смерць (дзеці яе займаюцца ёгай, і яна сцвярджае, што гэта памагае ёй не думаць ні аб чым трагічным). Ой, ці так? Сумняваюся. Хоць можа быць у яе ўзросце — пад 60? Малады я не думаў, нават на вайне. Ці, ва ўсялякім разе, думаў зусім не так, як цяпер у бяссонныя ночы.

Улезці б у працу — у аповесць (на раман духу не хапае). А пра што пісаць? Можа, напісаць пра Віктара? Але я, гультай, не ўнікнуў у яго працу — у інстытуце. Найбольш поўна ён расказваў пра свае сардэчныя захапленні. Пра ваенныя падзеі можна дадумаць. Пра навуковую і дыпламатычную дзейнасць (яму заданні даволі часта давалі сакратары ЦК КПСС) ён мала расказваў, а дадумаць я не ў стане. Неяк жартам Улада назвала яго «вучоны шпіён». Безумоўна, пры такіх кантактах з палітыкамі, вучонамі розных краін, з веданнем моў, ён выконваў разведвальныя функцыі, быў сувязным паміж ЦК нашай партыі і камуністамі гэтых краін. Фігура! Асоба! Але напісаць аб гэтым я не магу — не ведаю ні каларыту Лацінскай Амерыкі, ні характару дзейнасці яго Інстытута. Напісаць толькі пра ваенны подзвіг — куца і запознена. Ды і на гэта наўрад ці хопіць сілы.

Я першы, хто напісаў пра «новых». У беларускай літаратуры. Гэта мой «канёк». Але і тут слабасць: ведаю іх побыт — суседзі ж па дачным

пасёлку, і не ведаю іх дзейнасці, як яны зарабляюць грошы — якімі махінацыямі.

**23 лістапада 1999 года**

Сеў за стол. Падвярнуўся пад руку пісьменніцкі даведнік. Прагледзеў яго. Добрую адну трэць членаў СП я не ведаю ў твар, ды і творчасці іх не ведаю. Гэта моцна засмуціла. Некалі я ведаў кожнага чалавека. Калі працаваў у СП і прымаў кожнага ў Саюз. Ды і менш тады нас было: калі я пайшоў у 1980 годзе ў Энцыклапедыю, спіс СП налічваў нешта чалавек 250. А зараз пад 500. Напрымалі. Адрасы некаторых: ЗША, Ізраіль, Латвія, Украіна, Польшча, Расія. Расія не здзіўляе. Ізраіль здзіўляе. Так абавязкова было занесці ў даведнік Юлію Канэ? А можа, і правільна?

Прачытаў «Байрана» Андрэ Маруа. Цяпер чытаю яго ж «Олимпио, или Жизнь Виктора Гюго». Цікава. Я напісаў пра Андрэя Макаёнка аповесць на сто старонак, мог бы напісаць кнігу па тым матэрыяле, якім валодаў, — па яго расказах. Але дакументаў мала, лістоў Андрэй не пісаў. Байран напісаў сотні лістоў, і яны здорава чытаюцца, лісты яго і яму. Высокая эпісталярная культура была. Не мелі тэлефонаў. А мы развучыліся пісаць лісты. Ды і тыя, што я пісаў, не паклапаціўся папрасіць у адрасатаў ці выкупіць. А тыя, што слалі мне (чытацкіх было тысячы), амаль не захаваў. Ляжыць некалькі пачак на дачы. Але хіба мне разбіраць іх! А нашчадкі мае (усе філолагі!) наўрад ці перачытаюць іх, адбяруць цікавейшыя. Сяргей, праўда, перадрукоўвае мае пісьмы, захоўвае арыгіналы. А ці патрэбны будуць? Не той час, не тыя адносіны да беларускай літаратуры. Не разумею некаторых нашых, калі чытаю ў іх, што партыя, савецкая ўлада гняла літаратуру, культуру. А на самой справе залаты быў век для нашай літаратуры! Колькі выданняў! Якія тыражы! Ці будзем калі-небудзь мець штосьці падобнае?

**24 лістапада 1999 года**

Сёння пасяджэнне Рады СП. Даўно не быў на людзях. Пайшоў.

Прачытаў у «Вячорцы»: камерсант, які заблытаўся ў сваёй камерцыі і залез у даўгі, пытаецца, каму прадаць уласную нырку, згодны прадаць. Жах! Але сюжэт нашага часу. Паспрабаваць «раскруціць»? Можна зрабіць драматычную рэч. Але ці трэба? Цяжка пісаць такое. Унучка мая Маша, магістр філалогіі, крытыкуе мяне, што апошнім часам мае аповесці змрочныя. «Дзядуля, напішы што-небудзь светлае». А што светлае? Успаміны маладосці?

Прачытаў, што Някляеў з Польшчы перабраўся ў Фінляндыю. Спадзяецца, што пад крылом у Быкава будзе цяплей? Можа, таксама Нобелеўскую хоча?

**6 снежня 1999 года**

Для мяне сенсацыя: Ціцянкоў падаў у адстаўку. Сам? Не веру. Хутчэй Прэзідэнт сам адставіў яго; даўняя выверaная формула: «па ўласным жаданні». Калі гэта падкрэсліваецца, то яўна «жаданне» ў двухкоссі. Менавіта ў яго, а не ў Мясніковіча, была ў руках уся матэрыяльная база, усе фонды. Толькі ў Мінску ён прыватызаваў у фонд кіраўніцтва справамі больш за 200 лепшых будынкаў, такіх, як Дом літаратара. Канфіскацыя

ДЛ — ганебная акцыя, злая, неразумная. Усе абураны. Цяпер пахаваць члена СП з ДЛ не маем права. Хаваюць людзей з «хрушчовак», дзе праблема вынесці труну.

У мяне эгаістычнае задавальненне адстаўкай высокага чыноўніка. Я слаба ведаю Івана Іванавіча як чалавека, мне ён нічога дрэннага не зрабіў. Але эпізоды яго «ўзнясення» сталі асновай для стварэння вобраза Залозы — кіраўніка справамі губернатара ў маёй аповесці «Губернатар». Залоза — увасабленне паганых «хвароб», на якія хварэлі былыя партакраты.

Сыдзе Іван з палітычнай сцэны? Куды падасца? У камерцыю? Грошай хапае. Быў бог і цар над будынкамі, санаторыямі, запаведнікамі, азёрамі, лясамі. Вялікі князь літоўскі такой улады не меў. Дзяржава ў дзяржаве. Ненармальна гэта, калі кіраўнік выводзіцца з-пад кантролю.

**8 снежня 1999 года**

Прачытаў «Олимпио, или Жизнь Виктора Гюго» Андрэ Маруа. Вялікую справу зрабіў Маруа, напісаўшы столькі мастацкіх біяграфій. Пра Гюго кніга зрабіла асаблівае ўражанне, большае, чым «Байран». Сорамна прызнацца — я адкрыў вялікага Паэта. Прачытаўшы ў маладосці «Сабор Парыжскай Божай Маці», «Адрынутыя», я захапляўся, але ставіў Гюго ў адзін рад з Аляксандрам Дзюма, Вальтэрам Скотам. О, наколькі ён вышэй быў! Гігант! Зорка першай велічыні! І як ушаноўвае яго Францыя. У дзень 79-годдзя (някруглая дата) каля дома, дзе ён жыў, прайшло 600 тысяч чалавек. А ў дзень пахавання за трунoй ішло два (!) мільёны чалавек. Так французы ўшаноўваюць сваіх летапісцаў! На пахаванні каго з рускіх класікаў былі такія дэманстрацыі? Пушкіна вывезлі некалькі чалавек. Сціпла пахавалі Талстога. У 1910 годзе! Гюго хавалі ў 1885 г. І ўвесь Парыж, усе французы былі ў глыбокай жалобе, хоць яму было 83.

Думаю аб сваім лёсе, аб лёсе маіх калег. Хто стаў душой нацыі?

Я больш за паўстагоддзе быў самым чытабельным празаікам. Мільённыя тыражы! «Петраград — Брэст» у «Раман-газеце» — 2 мільёны. І хто помніць гэта? Цяпер, калі ем нішчымны суп, хто з «высокіх» ці «нізкіх» успомніў свайго летапісца? Адзін калгас прыслаў чатыры мяшкі бульбы. Дзякуй і за гэта. А што я пакіну дзецям і ўнукам? Гнілую дачу 1957 года збудавання па тагачасных нормах. І на перавыданні спадзявання мала.

Чатыры гадзіны, і ўжо цёмна. Мокры снег. Не для прагулак. Робяць дамафон — па 15 мільёнаў з кватэры. Сяргей узяў на сябе функцыі арганізатара. У гарадскіх дамах (у адным пад'ездзе) няма ніякага калектыву. Я не ведаю суседа па пляцоўцы. А варта было б мець дамавыя саветы ці камітэты, можа, было б трохі больш парадку. Мы шмат крычалі, пісалі пра калектывізм, а ў свеце капіталізму яго пэўна больш, прынамсі ў Германіі.

Разважаю. А сюжэта не маю. А варта пісаць. Гюго ў 80 пісаў любоўныя вершы. Сапраўдны волат.

Сёння Ельцын і Лукашэнка падпісалі Саюзны дагавор. Вітаю. Можа, будзем мець трохі больш гарантый сваёй бяспекі, эканамічнай і палітычнай.

**13 снежня 1999 года**

Пазванілі з «Юнацтва», ганарар за «Промні маленства». Паехаў Сяргей. Прывёз 15 мільёнаў. Багацей!

Быкаву, які паўтара года сядзіць у Фінляндыі, у Маскве прысудзілі прэмію «Трыумф» — 50 тысяч долараў. За 50 тысяч можна... пісаць. Грошы Беразоўскага. «Рыбак рыбака видит издалека». А мне два гады таму прысудзілі прэмію «Баян» (5 тысяч рускіх рублёў) і дагэтуль ніхто не ўручыў ні дыплома, ні грошай. «Наш Саюз» не мае і 5 тысяч. «Іх Саюз» мае ўсё. Але не думаю, што Вася шчаслівы ад доларавага дажджу. У яго гады жыць у чужой краіне, без мовы!.. Можна хіба аднаму пазайздросціць — што не слабее яго славалюбства і ў 75. Гонар, самалюбства, перакананне, што ён месія, апостал, — моцны рухавік, ён зараджае творчую патэнцыю. Цікава, што Быкаў выдасць за фінляндскі перыяд? Пакуль што адно апавяданне, пасрэднае. Я шчыра жадаю яму ўдачы. Напісанае застаецца! А гісторыя ўсіх нас расставіць па месцах, адведзеных Богам.

**18 снежня 1999 года**

Па-мойму, па падказцы Гены Пашкова (ён дае такія партрэты ў БелСЭ) мастак Кірылаў Мікалай Сцяпанавіч піша мой партрэт. Працавалі ўчора і сёння. Цікава. Чалавек цікавы, дасведчаны, эрудыт, як і сябра наш агульны, яго сябра яшчэ па Ленінградскай акадэміі — Мікалай Рыжанкоў. Пагутарылі з асалодай. Ён намераны напісаць Навуменку і Савіцкага. Я запрасіў Алеся (у адным жа доме), і яны, абодва гаваруны, аднадумцы, хутка паразумеліся — па палітычных пытаннях: хто кіруе Расіяй.

Анекдатычны выпадак адбыўся ў нас з Савіцкім. Кірычэнка сабраў прэзідыум Камітэта міру. Прыслаў позвы мне, свайму ганароваму прэзідэн-



*Супрацоўнікі выдавецтва «Мастацкая літаратура» і часопіса «Полымя» ў народнага пісьменніка.*

ту, і Алесю. Мы сазваніліся. Сабраліся і пайшлі. На паўдарозе сустрэлі Уладзіміра Гілепа, ён здзіўлена пытае: «А вы не позна? Куды?» — «Мы на Камітэт міру». — «А я адтуль. Скончылася пасяджэнне. Яно ж пачалося ў 12, а зараз палова трэцяй».

Пасмяяліся. Прыгадалі анекдот. У чукчы пытаюць: «Чукча, ты читал «Евгения Онегина»? — «Чукча не читатель, чукча писатель».

Так і мы: не «читатели — писатели», паўстаронкі тэкста не дачыталі да канца. Абодва. Дзіва.

Аб'явілася Тамара Віннікава, вяшчае з Лондана, дае інтэрв'ю. А апазіцыя трубіла, што яе забілі. Ці не з яе з'яўленнем звязана адстаўка Ціцянкова? У яе, безумоўна, ёсць кампрамат. «Дивны дела твои, Господи!»

**24 снежня 1999 года**

Мароз. Вецер. Не гуляў. Чытаў газеты. У «7 днях» А. Лемяшонак выказвае арыгінальныя думкі пра расійскія выбары.

**30 снежня 1999 года**

Канчаецца год. Канчаецца...

Сёння вырашыў павіншаваць добрых людзей. Першы ў дзённіку — Дзялец. Пазваніў. Жаночы голас.

— Людміла Сцяпанаўна?

— Не. Вам Людмілу Сцяпанаўну?

— Можа, Міхаіл Іванавіч блізка.

— Міхаіл Іванавіч учора... памёр.

О Божа! Ледзь не самлеў. Ад неспадзяванасці. Вось і Міхала няма, разумнага, дасціпнага, вясёлага чалавека, сябра Андрэя Макаёнка і майго. Я любіў гэтага чалавека. Як чалавека і як кіраўніка — ён быў старшынёй Камітэта па друку. Дзялец быў вельмі дзелавым чалавекам. Калі я працаваў галоўным рэдактарам Энцыклапедыі, з ім лёгка вырашаліся любыя пытанні. Чалавек слова: сказаў — зрабіў. Пасля яго колькі памянялася. За нейкіх восем гадоў столькі, што і прозвішчаў усіх не помню. Але хіба адзін Анатоль Бутэвіч узнімаўся да Дзяльца. З Толем можна было гутарыць.

Ах, Міхал, Міхал! Якая страта! Але Дзяльцом узрушанасць мая не скончылася.

Пазваніў другому выдатнаму чалавеку і сябру Уладзіміру Сяргеевічу Раманаву. Апошні раз званіў яму на Кастрычніцкія святы. Жартаўнік. Гумарыст. А тут кволы голас, песімістычны. Перанёс інфаркт, тры тыдні ляжаў у бальніцы, тры тыдні ўжо дома. Але тэлефон яму падносяць у пасцель. І тут мне стала горка, сумна. Здаюць ветэраны.

І трэці званок. Не дазваніўся ў наш дачны пасёлак, памяняўся тэлефон. Пазваніў Нэлі Шчаснай. Меў на мэце пазваніць брату яе, Мікалаю, майму дачнаму суседу. Цудоўны хлопец, таленавіты, разбяр па дрэве, выдатныя рэчы выразаў, замежнікі хапалі іх. Майстра залатыя рукі. Не было праблемы машыну адрамантаваць — праз вуліцу Коля Шчасны. Заўсёды выручаў.

Нэла паведаміла:

— У нас з Колем бяда. Цяжка хварэе. Печань... Ляжаў у бальніцы. Цяпер вырашаецца — куды яго: у Першую ці ў Бараўляны.

Піў хлопец лішняе, майстра ўсе частавалі.

Дзяльцу — 82-і, Раманаву — 75-ы, Міколе — 52. Шкада. Смерць забірае лепшых. Праўда, калі не рак, то могуць падлячыць і будзе жыць, толькі б трымаўся. Гарэлка забівае многіх. На вёсцы мужчыны паміраюць, як у эпідэмію. Згіне нацыя.

Варта запісваць спакойныя дні, без стрэсаў. Колькі іх набярэцца? Нямнога. У стрэсах гэтых згараюць нашы старыя сэрцы.

**31 снежня 1999 года**

Апошні дзень года. Сенсацыя: Ельцын падаў у адстаўку. Нарэшце злы дэман звяў. Даўно пара. У звароце прасіў прабачэння ў народа. А дараванне табе, Барыска, няма — за развал вялікай дзяржавы — СССР, за здраду народам гэтай дзяржавы; за тое, што прадаў душу д'яблу — сусветнаму капіталізму, масонству.

Улада перайшла да Пуціна. Здаецца, рускі патрыёт. Дай Бог. Але насцярожвае, што горача падтрымліваюць яго нямцовы і чубайсы. Хоць гэтыя пярэваратні гатовыя адначасова служыць і Богу, і чорту. Пажывём — пабачым.

Парадавала «Звязда». Ва ўрэзцы: «Другі радок упэўнена займае Міхал Савіцкі. Цікавае назіранне: амаль усе рэспандэнты, называючы Савіцкага «мастаком стагоддзя», «пісьменнікам стагоддзя» вызначылі Івана Шамякіна». Але... замест Савіцкага адводзяць паласу Шагалу, замест Шамякіна — Быкаву. Не веру, што рэспандэнты першым назвалі Шагала. Хто, акрамя творчай інтэлігенцыі, ведае Шагала? Што зрабілася з Валодзем Наркевічам?

Віншаваў усіх добрых знаёмых — урачоў, суседзяў па дачы. Тэлефон стамляе.

Сяргей рыхтуе навагодні стол. Будзе ён багаты. Але каму есці і піць? Ванечка засне. Застанёмся мы ўтраіх: я, Сяргей, Алеся. А якія зборы былі раней! Збіраўся ўвесь клан. Абавязкова быў Андрэй. Віншавалі пасля 12. Аднойчы здзівіліся, калі нам адказалі, што Лынькоў ужо спіць. У навагоднюю ноч спіць?! А цяпер гэта так зразумела: кожны новы год набліжае да фіналу. Якая ж радасць?! Але трэба радавацца! Трэба жыць жыццём народа, блізкіх сваіх.

*Падрыхтавала да друку*
*Марыя Шамякіна.*







# СЫМОН БЛАТУН
## (1937—1970)

Яго сябры-аднагодкі прымервалі ўжо на сябе касцюм класіка, думалі пра Дзяржпрэміі, а ён яшчэ ўсё хадзіў без сваёй першай кніжкі, хоць мець яе мог даўно, нават раней за іншых. А выйшлі нашы з ім першыя зборнікі амаль адначасова (яго — у 1968-м, мой — у наступным) у вядомай тады серыі «Першая кніга паэта», якую ажыццяўляла выдавецтва «Беларусь». Серыю тую жартам называлі «тэлевізарам». Невялічкая рамка з партрэцікам аўтара пасярэдзіне вокладкі, ад вуглоў якой разыходзіліся чатыры промні, і сапраўды нагадвала экран тэлевізара. І не трэба было турбаваць мастакоў на пошукі адпаведнай зместу той самай вокладкі. Усё ж ды нейкая для выдаўцоў эканомія.

«Раўнавага» (назва кнігі) была, як і сёння мне здаецца, вельмі ўдалай, бо цалкам адпавядала і характару паэта, і яго творам. Больш сціплага, чыстага душой, сумленнага і ўраўнаважанага чалавека, як Сымон Блатун, я не сустракаў дагэтуль.

Быў і яшчэ адзін «тэлевізар», дзе Сымон часта праседжваў з сябрамі за шклянкай віна. Я маю на ўвазе кафэ на рагу Дома друку (сённяшняя «Батлейка»). Людная гэта забягайлавачка і сцены і вокны мела са шкла, і ўсе, хто там заседжваўся, глядзеліся як на тэлеэкране. А за тым экранам заўсёды кіпелі гарачыя спрэчкі пра паэзію, там высока ўзносілі непрызнаных геніяў, лаялі бяздараў, чыталі новыя творы, а яшчэ згадвалі старых і новых сяброў. Казалі часта і яму, ушчувалі нават, што спіць у шапку, мог бы мець не адну ўжо кнігу, бо толькі надрукаванага ў яго набярэцца на добры важкі том. Вунь яго аднагодкі ўжо выбранае выдаюць.

— Ну, і няхай, — махаў рукою Сымон. — Куды спяшацца?

Ці гэта было нежаданне парушаць усё тую ж душэўную раўнавагу, ці, сапраўды, стрымлівала непаспешлівасць, або патаемная задума стварыць аднойчы нешта такое, каб і сябры, і тая ж крытыка ахнулі, «каб аж гай шумеў», як ён сам казаў. Ды ўсё ж, думаецца, унутрана ён перажываў сваё адставанне ад паэтычнага «абозу». Бо адкуль жа тады такія радкі? —

Жывой паэзіі вада ёсць —<br>
Бывае мелкай і глыбокай.<br>
Сябры ўжо ў рэчышча ўпадаюць,<br>
А я застаўся ля вытока...

Можа, была тут прычынай і сама журналістыка, якой ён аддаваў увесь свой лепшы час, пачынаючы яшчэ са студэнцкіх гадоў. Ён слыў улюбёнцам дарог, паважаў камандзіровачную мітусню. Маладыя заўсёды непаседлівыя, любяць дарогі. Ды ўрэшце гэта і яго хлеб надзённы. Нарысы, рэпартажы, замалёўкі добра пасаблялі той жа студэнцкай стыпендыі, а потым — зарплаце, але толькі не вершу.

Год яго нараджэння (1937) гістарычна акрэслены даволі сумнымі асацыяцыямі. І калі паэт, выкарыстоўваючы матэматычны прыём, паспрабуе здабыць кубічны корань з лічбы 1937, дык разгубіцца: «Разгубіўся зусім я — не ведаю, // Як той корань з яе здабываць...». І адразу ж катэгарычна адмаўляецца сам корань зла, і аўтар засяроджваецца на спрадвечных каранях жыцця, якія існуюць у роднай палескай глебе.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Кавака на Брагіншчыне. Цудоўная, багатая на паэтычныя краявіды, святая зямля прашчураў. Як тут не будзеш пісаць вершы, калі яны самі цёплымі і дарагімі вобразамі стукаюцца табе ў сэрца?!

У Брагінскай сярэдняй школе № 1, дзе вучыўся С. Блатун, ён выпускае сатырычную газету «Гром і маланка». Сам і рэдактар, і мастак яе. Газета падабаецца і настаўнікам, і вучням. Гэтак юны Сымон, Сеня, рыхтуе сябе ў вялікую творчую дарогу. Школу юнак заканчвае з залатым медалём і ў 1954 годзе, накінуўшы на плечы непрыкметны ранец, тутэйшымі шляхамі адпраўляецца ў Мінск, адразу ж паступае на аддзяленне журналістыкі філфака Белдзяржуніверсітэта. З гэтага часу імя С. Блатуна даволі часта з'яўляецца на старонках рэспубліканскага друку.

Для кожнага паэта няма нічога даражэй за яго родныя мясціны. Гэтаксама і для С. Блатуна. Любую зямную прыгажосць ён мерае звабнасцю хараства свайго роднага палескага кутка.

Невядома, ці захавалася тая бяроза пры роднай хаце, ля якой сфатаграфаваны Сымон улетку 1957 года. Сядзіць ён на траве ля самага камля, малады яшчэ, у лёгкай расхрыстанай студэнцкай куртцы. І бяроза, асабліва ствол яе, і трава, і ён сам ярка асветлены вясёлым летнім сонцам. Гэтак многа яснага святла ля роднай хаты! І ён усміхаецца, бо адчувае зараз сябе, магчыма, самым шчаслівым чалавекам на гэтай зямлі, якая яшчэ нядаўна адпакутавала такую страшную вайну. Хіба галоднае ваеннае і пасляваеннае дзяцінства параўнаеш з гэтай светлай часінай?! Можа, таму пра тыя нялёгкія гады пішуцца і такія прачулыя радкі:

Мы таптапі стагі —<br>
Будавалі свае піраміды<br>
І раслі угару, угару...

Дзе сёння тая бяроза?.. Не ведае і ніколі не даведаецца малады паэт, што праз некалькі дзесяткаў год яго родны куток чорным крылом ахіне чарнобыльская бяда. Тады яго ўжо не будзе на гэтай зямлі.

Смерць яго была нечаканай, заўчаснай, недарэчнай. Можа, усё гэта не тыя словы, калі гаворка тычыцца смерці. Смерць ёсць смерць. Але ў гэтым выпадку траціць сваю сілу і тая ж «раўнавага». Шаля вагаў пахіснулася і пайшла назаўсёды ўніз. І няма жыццёвай раўнавагі, бо няма самога жыцця... Зноў жа гэтыя паэтычныя прароцтвы, прадчуванні. Некалі маладым ён напісаў такое:

І скажуць: «Быў яшчэ ж ён малады...»<br>
Паўстану я ў кагосьці прад вачыма.<br>
Зязюлямі падлічаць мне гады<br>
Суцішана трывожныя жанчыны.

І скажуць так: «Ляжаў ён, як жывы...» —
Упершыню спагадліва і шчыра.
Цішэй вады, ніжэй травы...
Бывайце гоні, рэчкі, паплавы, —
Я адлятаю ў свой далёкі вырай.

Усё і адбылося амаль так, як прадчувалася. Вось і не вер пасля гэтага ў сілу і магічнасць паэтычнага слова. Тыя радкі адліты на помніку паэта. Апошні прытулак ён знойдзе на Чыжоўскіх могілках у Мінску.

Другая кніга С. Блатуна «Радаслоўнае дрэва» выйдзе з друку ў год яго смерці. А чытач будзе памятаць таленавітага паэта і па той першай кніжыцы «Раўнавага». І дзіўна, ніхто ніколі не назаве яго пачаткоўцам. Ды і сам аўтар пачуваецца вельмі стала ў паэзіі. А таму неяк дужа ўсхвалявана, нават з нейкім смуткам піша ён пра хуткацечнасць часу:

Лістапады мае, лістапады,
Залацістыя каруселі,
Падхапілі мяне, панеслі
На агністым сваім кані...
.......................................
«Стой імгненне!» — хачу я крыкнуць,
каб яшчэ раз людзей убачыць...

Пасмяротную кнігу, дзе сабрана ўсё найбольш значнае, створанае С. Блатуном, сябры назвалі «Чысціня». Пабачыла яна свет у 1979 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». На цёмным фоне кнігі белым бляскам маланкі пульсуе гэта дарагое для паэта слова. Ён так прагнуў яе, чалавечай чысціні, і тую сваю першую сціплую кніжыцу пачаў аднайменным вершам. Твор гэты — пра сані, якія творыць вясковы дзед. І ў маторны шумлівы век паэт прагне адправіцца на тых дзядоўскіх санях, захаваўшы святую чысціню першародства.

Якім ён усё ж быў, Сымон Блатун? Тут хацелася б прывесці словы Рыгора Барадуліна з прадмовы да кнігі «Чысціня»: «А Сымон Блатун як чалавек, як паэт быў асобай, цікавай з'явай. Здзіўлялі і выклікалі добрую зайздрасць шырокае і разнастайнае поле ягонай цікаўнасці, цяга да ведаў, упартае жаданне ў любой рэчы дапасці да сутнасці, да глыбіні, да вытоку. Займаўся спортам, вывучаў гісторыю мастацтва, а разам з тым не грэбаваў самай што ні ёсць чарнавой працай журналіста: апрацоўваў пісьмы, пісаў рэпартажы, нататкі, замалёўкі, рэцэнзіі, узнімаў нялёгкія скібы на здзірванелым палетку праблемнага нарыса».

Яшчэ адзін сябра С. Блатуна Алесь Шлег і пры жыцці і пасля смерці паэта не прамінаў, каб не працытаваць ягоныя шчымлівыя радкі:

...Жураўля я не спаймаў у небе,
А сініцу выпусціў з рукі.

Гэтыя радкі нібы вырываюцца з усяе творчасці паэта, але гучаць не крыкам збалелай душы, не адчаем, а проста нейкім сумным прызнаннем свайго жыццёвага нешанцавання. Але яны падкрэсліваюць безабароннасць, праўдзівасць, чысціню душы самабытнага творцы.

Пра паэтычныя здабыткі Сымона Блатуна крытыка пісала надзвычай мала. Усё неяк абыходзяць яго ўвагай даследчыкі. І паэт як бы застаецца ля таго ж свайго «вытоку». Але іменна там, ля вытокаў, і канцэнтруюцца самыя

галоўныя адкрыцці паэта. Мусіць жа заслугоўваюць увагі і журналісцкія пошукі С. Блатуна. Можа, некалі дойдзе даследчыцкае вока і да іх.

Варта было б паразважаць і пра гумар паэта. Ён быў пастаянным аўтарам часопіса «Вожык». Смех у Сымона таксама своеасаблівы, нейкі светла-інтэлігентны. Пра гэта сведчыць і пасмяротны зборнік «Калючая шаткаванка», што выйшаў у «Бібліятэцы Вожыка».

Безумоўна, самыя галоўныя задумы таленавітага паэта засталіся няздзейсненымі, самыя галоўныя вершы ненапісанымі. Аднак і тое, што паспеў зрабіць творца, не згубілася ў акіяне нашай паэзіі, яно і сёння хвалюе нас сваёй адметнасцю і непаўторнасцю.

***Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў***
***Казіміра Камейшы.***

## ЧЫСЦІНЯ

Будуць суха рыпець маразы, —
Быццам снег хто навошчыць
пад вечар...
І для санак крутых палазы
Парыць дзед,
як той кухар,
у печы.
Распусціў на грудзях бараду
І ў дугу гне гарачыя плахі...
Капылы —
звонкі клён,
Палазы —
гнуткі дуб...
Аж дуброваю ў хаце запахла.
Вяззе —
з вязу,
Аглоблі —
з бяроз...
Мчацца сані
палямі,
лясамі...
І ў маторны,
закручаны век
я збярог
Чысціню вашу,
звонкія сані.

## ЭРА МАІХ ПІРАМІД

Будавалі і мы піраміды —
Аж яшчэ ў даўнацкую эру
Мы таптали стагі.
Ногі грузлі у мяккім сене,
А мы грэбліся ў моры духмяным
Угару, угару...

Стог бакі выпінаў,
Як у яйка, крутыя,
Бо кідаў яго сам чарадзей —
дзед Прышчэп.
Ну, а потым, нібы акрабаты,
Мы па слізкай насілцы сігалі
З вышыні на зямлю,
Пачыналі расчэсваць стог.

Толькі дзед заставаўся ў аблоках —
Бог палескіх лугоў...
Шапку з стога не скінуць віхуры,
Абсякуць яго ніткі ліўняў,
Калі стог стагаваў
дзед Прышчэп...
Мы таптталі стагі —
Будавалі свае піраміды
І раслі угару, угару...

* * *

На твае залацістыя косы,
Помню, селі два матылькі,
Быццам макі пунсовыя.
Там яны і заблыталіся,
Пачалі трапятацца...
Доўга яны трапяталіся.
А аднойчы на лузе даспелым
Раптам пырхнулі — і паляцелі.
Як шкада! Я пабег наўздагон,
Каб спаймаць матылькоў тых жаданых...
Доўга бег... Раптам бачу — паселі
На льняную галоўку дзяўчынкі,
Што гуляла ля хаты у класы,
Пачалі, як раней, трапятацца...
Падышоў, зняць хацеў іх рукою,
Ды дзяўчынка сказала з дакорам:
— Не чапай, ты ўжо дзядзя вялікі,
Гэта будуць мае матылькі.

## МАЁ РАЎНАДЗЕНСТВА

Сёння маё раўнадзенства —
дзень раўнавагі,
Дзень роздуму і развагі...
З гэтага дня я павінен святлець,
Убіраць у сябе па кропельцы сонца,
З гэтага дня
буду сталець
Розумам,
Сэрцам.

У наступ ідзе
Дзень!
Спадае з воч
Ноч...
Даўжэць пачынае мой дзень,
Святлець пачынае мой дзень!
Значыць, буду я меней спаць,
Значыць, буду я болей бачыць,
І яшчэ
дужа многае значыць...
Раўнадзенства —
мой дзень раўнавагі,
Дзень упэўнасці і адвагі,
Бо ў наступны дзень раўнавагі
Ноч кульне мае вагі...

* * *

А будзе так — зальюцца салаўі,
Зязюля ў лесе гулка закукуе...
Ну, а пакуль што сіні сакавік
Свой сок бунтоўны для зямлі гатуе.

Ды чую я, як молада гудзе
Зялёны шум у сугалоссі з птаствам,
Няхай зіма у наступ злосна йдзе,
А людзі кажуць, што вясной запахла.

Я чую капяжоў цымбальны звон
І крыгалому гром прывольны, весні...
Прачнецца ў звонкім лесе
кветка-сон,
Расплюшчыць вочы сіняя пралеска.

І я ўвайду ў трывожную красу
Абавязкова самы, самы першы.
Табе, адзінай, кветкі прынясу,
Загорнутыя ў сціплы верш мой.

## ЗЕМЛЯКАМ

Не тым, хто ў страху
бег у край чужы
Ад гневу справядлівага,
расплаты,
Не тым, хто распісаўся на ілжы
І стаў народа ворагам
заклятым.
А вам, сумленным, шчырым
землякам,

Хто родны кут пакінуў
не па волі,
Хто з торбачкай паплыў
за акіян
У пошуках лягчэйшай долі;
Хто быў занесен
хвалямі вайны
У немаведама якія далі...
У вас ёсць ўнукі, дочкі і сыны.
Вы ім пра край свой родны
расказалі?
Пра шум бароў,
пра водар медуніц,
Пра квецень веснавога саду,
Пра звон руччоў
і чысціню крыніц,
Пра залатыя іскры
лістапада.
Ці расказалі дзецям пра буслоў,
Ці матчыну спявалі калыханку,
Што сплецена з дзівосных
красак-слоў,
Смугой спавітых,
быццам луг уранку?
Вы раскажыце, раскажыце ім
Пра гоні, пушчы,
па якіх хадзілі,
І стане вам лягчэй
тады самім,
Агорне болем
смутак па Радзіме.

* * *

На маёй галаве
былі хвалі —
Маці стрыгла мяне
авечымі нажніцамі,
Халоднымі, як лёд.
Аднойчы да нас у хату
Начаваць папрасіўся салдат,
татарын,
Ён ішоў праз вёску
У абмотках,
запэцканых граззю,
З наздраватым аўтаматам на плячы.
Ён убачыў на галаве маёй хвалі...
Усміхнуўся у вус пакручасты
І з ранца брытву дастаў.

Па рамні ёй пагойсаў спрытна
І чамусьці крануў далонь.
Галаву мне
цёплай пенай успеніў,
І салдацкая вострая брытва
зашоргала па маёй галаве...
А назаўтра пайшоў мой цырульнік,
добры дзядзька татарын,
У абмотках,
запэцканых граззю,
З наздраватым аўтаматам на плячы.
Пэўна, трэба было яму
яшчэ многіх дзяцей пагаліць.

## ЗАЛАТЫ АКРАЙЧЫК

Хлеб,
дажджамі дбайна паліваны,
Сонечнай спазнаўшы цеплыні,
Боханам духмяным,
паліваным
Лёг на стол
на белены ручнік.
Пёкся ў печы
на гарачым подзе
На далонях
клёнавых лістоў.
Адчуваю ў ім
дубровы подых,
Чуецца мне шэпт жытоў.
Тых жытоў,
што коцяцца бязмежна,
Што не злягуць
У нядобры дзень...
Я акрайчык залаты адрэжу,
Прытуліўшы бохан да грудзей.
І маленства выплыве заранак,
І матулі ўспомніцца наказ,
Што акрайчык
нельга есці нанач,
Каб нідзе ніколі не блукаў.
Не, не заблуджуся,
вер мне,
мама,
На пагорках бурнага жыцця,
Адшукаю сцежку,
выйду прама
На шырокі, як вясна,
прасцяг.

* * *

Я нясу за пазухай голуба
На квяцісты, як луг, стадыён,
Пасля першага звонкага гола
Аж з грудзей маіх выпырхне ён.

Каруселлю кружыцца ён стане
У чародцы сівых ґалубоў.
Потым ў небе, бы цукар, растане —
Панясе маю радасць з сабой.

Па грудзях шныраць вочкі-іголкі.
Не, не злодзей я, хоць бягу, —
Я нясу за пазухай голуба,
Камень там я насіць не магу.

## ДАРОГІ

З тае пары прайшло зусім нямнога,
Як першы раз зайшоў я у вагон,
І дрэвы развітальна на дарогу
Мне замахалі веццем наўздагон.

На стыках колы застугнелі глуха,
З акна дыхнуў раз'юшаны скразняк
І смела трапяткую завіруху
У валасах расхрыстаных падняў.

Насустрач мне плылі лясы, аблогі,
Са свістам прабягалі цягнікі...
Я з першых вёрстаў палюбіў дарогі,
Глухія зненавідзеў тупікі.

У мітусні перонаў і вакзалаў
Я адчуваў імклівы пульс жыцця —
І зноў мяне дарога калыхала,
Як быццам маці гушкала дзіця.

Не ў крыўдзе я на жорсткія вагоны,
Пракураныя дымам папярос, —
У іх праехаў сотні перагонаў
І ў іх на год, напэўна, я падрос.

Шляхоў ляжыць наперадзе шчэ многа
(Пралягуць хутка трасы і да зор).
Дык кліч удаль мяне заўжды, дарога,
Мігай зялёным вокам, семафор!



Таццяна ДЗЯРАБІНА

# НА СЦЕЖКАХ ПАЛЕСКАГА ЗАПАВЕДНІКА

Ужо пяты год я мераю свае зямныя вёрсты ў Палескім запаведніку. І кожны раз не перастаю здзіўляцца: да чаго ж у прыродзе ўсё ўзаемазвязана, абумоўлена і разам з тым застаецца такім крохкім. Чамусьці магчымасць сузірання прыроды, яе гармоніі і прыгажосці мы шануем менш за ўсё на свеце.

Пасля прыезду ў запаведнік адразу ж хочацца трапіць у лес — прайсці па сваіх маршрутах, удыхнуць зялёнага разнатраўя, свабоды і, на жаль, як кажуць у народзе, «радыяцыі». А яшчэ — няспешна паблукаць па вуліцах Бабчына, у які раз палюбавацца будынкам старой школы, пастаяць на падворках упадабаных мной хат. Цяпер я ведаю, у іх жылі Макрэна, Нюра, Манька-гулёна, Аксінчык, Вара. Надзвычай цёпла і вобразна пра сваіх землякоў, жыхароў Бабчына, расказаў Мікола Мятліцкі ў кнізе жыцця «Бабчын», падараванай і мне. Уся палітра чалавечых характараў і лёсаў. Адлюстраваны нават тонкія адценні ў водсветах кахання, жыццёвая мудрасць, іронія і сум, пачуццё ўдзячнасці сваім землякам і безвыходнасць перад іх лёсам.

Бабчын, такіх вёсак — сто трынаццаць. У іх цяпер адна доля, і вельмі незайздросная. Але Бабчын узрасціў паэта, а гэта значыць — уратаваў сябе ад небыцця. І, падобна, Бабчыну наканавана своеасаблівая будучыня. У яго цэнтры ўзвышаецца новы двухпавярховы корпус. Прастору кабінетаў, лабараторных пакояў, тэхнічнаму абсталяванню могуць пазайздросціць і акадэмічныя інстытуты. Побач — утульная сталовая і будынак, дзе пражываюць навуковыя супрацоўнікі, якія працуюць у запаведніку вахтавым метадам.

Ніколі ў мяне яшчэ не было такіх умоў для работы. Адбыліся змены не толькі ва ўмовах працы, прымаюцца меры па павышэнні навуковага патэнцыялу кожнага аддзела, распрацоўцы новых напрамкаў. Мне б хацелася, каб усе гэтыя пераўтварэнні спрыялі ўзмацненню заалагічных і прыродаахоўных кірункаў даследаванняў на тэрыторыі запаведніка, а таксама бесперапыннасці радыяцыйных і экалагічных навуковых даследаванняў. Зрэшты, апошнія няхай хоць на паўкроку, але будуць і павінны быць наперадзе.

На тэрыторыях радыеактыўнага забруджання маніторынг утрымання радыенуклідаў у кампанентах прыродных экасістэм — галоўны напрамак работы. Ды адны голыя лічбы ўтрымання цэзію, стронцыю, каэфіцыенты пераходу і накаплення самі па сабе мала што нам кажуць пра стан прыродных раслінных і жывёльных комплексаў, пра тыя змены, якія адбываюцца ў іх. Яны не перакладаюцца на біялагічную, даступную для разумення мову, калі побач няма экалагічных абгрунтаванняў і тлумачэнняў. Гэта ўсё роўна, што працаваць у межах толькі харчовай праграмы. Малыя паказчыкі ўтрымання — можна скарыстоўваць, вялікія — скарыстоўваць нельга. Харчовая праграма таксама важная і патрэбная, але такія даследаванні ўжо не падыходзяць, іх усё ж недастаткова.

На тэрыторыі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка ні аб якой спробе вытворчасці прадуктаў харчавання яшчэ доўгія-доўгія гады не можа быць і гаворкі. А вось убок разгортвання шырокіх даследаванняў эка-



лагічнага плана трэба рабіць намаганні. Палескі запаведнік — не толькі зона забруджання, зона адчужэння, гэта не толькі бекерэлі на кілаграм і могільнікі радыеактыўных адыходаў. Гэта вялізная тэрыторыя (216,2 тыс. гектараў), якая перавышае ў два з паловай — тры разы памер любога з нацыянальных паркаў і запаведнікаў рэспублікі. Тут поўным ходам ідуць самыя разнастайныя прыродныя працэсы і разам з праблемамі, якія маюць адносіны да радыяцыі, узнікаюць пытанні, што патрабуюць узмоцненай увагі менавіта эколагаў.

У павелічэнні колькасці дзікіх капытных і драпежнікаў неабходна бачыць не толькі станоўчыя моманты, трэба быць напагатове, каб не дапусціць стварэння сітуацый, якія звычайна складваюцца на запаведных тэрыторыях (рызыка эпідэмій, высокая колькасць капытных, спусташэнне іх кармавой базы, праблема ваўка). Пажары, шкоднікі лясной гаспадаркі, забалочванне зямель — гэта таксама на парадку дня Палескага запаведніка. Тут цесна перапляліся і радыяцыйны, і экалагічны аспекты. Рэальна бачыцца перспектыва ператварэння тэрыторыі запаведніка ў рэзерват для рэдкіх антрапагенна ўразлівых відаў, уключаючы магчымасць аднаўлення папуляцый тых відаў, якія лічацца зніклымі на тэрыторыі Беларусі (еўрапейскі лясны кот) або збераглiся ў невялікай колькасці на абмежаванай тэрыторыі (палятуха звычайная). Бо гэта будуць не чужыя віды, не інтрадуцэнты для фауны, а «родныя істоты, пайшоўшыя ад нас».

Лёс Палескага запаведніка яшчэ не абазначаны. Хацелася б ужо ў недалёкай будучыні з гонарам гаварыць пра яго значэнне ў захаванні біяразнастайнасці і ахове прыроды не толькі для Палесся, Беларусі, але і для Усходняй Еўропы. Верагодна, што вельмі своечасова ўзнятая праблема захавання біялагічнай разнастайнасці на Зямлі, якая распрацоўваецца і падтрымліваецца ва ўсім свеце, адыграе ў гэтым станоўчую ролю.

І ў той жа час, на што можа спадзявацца Палескі запаведнік у сувязі з прагнозамі па амерыцыю-241? «Максімальны ўзровень назапашання амерыцыю-241 ва ўраджаі кармавых траў і ў прадукцыі жывёлагадоўлі на тэрыторыі 30-кіламетровай зоны Чарнобыльскай АЭС і на прылеглых да яе тэрыторыях, дзе пражывае насельніцтва, чакаецца ў 2058 годзе», — гэтыя словы я літаральна цытую з матэрыялаў другой Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Гомель, 2004 г.).

Мінула з моманту катастрофы дваццаць год. Таблічныя слупкі лічбаў у пратаколах вымярэнняў утрымання цэзію-137 у органах і тканках дзікіх капытных, драпежнікаў, раслліннасці зусім не суцяшальныя. Гэта бясстрасная, халодная, пазбаўленая ўсякай палітычнай афарбоўкі і эмоцый інфармацыя. Але яна самая праўдзівая. І гэта толькі цэзій-137. Цікава, у якіх жа месцах бегалі два ваўкі, здабытыя ў сакавіку 2005 года, калі ўтрыманне цэзію ў поўсці аднаго з іх 156 тысяч Бк/кг, а ў другога ў мышачных тканках — 248 тысяч? І тут жа побач з аднаго раёна здабычы (былы населены пункт Уласы) — усяго толькі адна тысяча бекерэляў... А вось які «кампот» па ўтрыманні цэзію-137 у грызуноў і насякомаедных з Бабчына: крот — 181 Бк/кг, бурозубка — 6,2 тысячы Бк/кг, палёўка — 44,3 тысячы, мыш палявая — 2,4 тысячы, рыжая палёўка — 32,8 тысячы, зноў палёўка, але ўжо толькі — 31 Бк/кг.

Супакойваюць адны толькі зайцы, у якіх стабільна нізкі ўзровень забруджання. Што за сакрэты вывядзення радыенуклідаў у іх? А можа, гэта проста з прычыны пражывання зайца-русака ў адкрытых месцах, якія ў параўнанні з ляснымі лічацца менш забруджанымі?

Маленькі вадаём, да якога я ахвотна збочвала са свайго рабочага маршруту, вельмі змяніўся і зусім не вабіць мяне. Заходжу туды я ўсё радзей і радзей. Што ж адбылося? Як і раней, па берагах там растуць дрэвы, спляценні хмызняку сталі яшчэ гусцейшымі, шапаціць чарот. Аднак няма самага галоўнага — парыўнага, іскрыстага жыцця, якое панавала там. Усё прыйшло ў запусценне: не сталі прылятаць на кармленне качкі, рэдка дзе ланцужкі слядоў лісіцы, ужо не сустракаюцца паблізу пакопкі барсука. Нават ваўкі перасталі туды зазіраць. Вада — мутная, берагі — у ціне. Няўжо толькі два бабры, якія некалі пабудавалі тут хатку, сваёй прысутнасцю і нястомнай дзейнасцю стваралі гэтую яркую, бесперапынна зменлівую, уцешлівую для вачэй карціну, што пастаянна прываблівала мяне. Як відаць, і не толькі мяне. Баброў не стала, іх з'елі ваўкі. Вось так, напэўна, і са знікненнем віду ў прыродзе. Як быццам бы ўсё на месцы, усё ідзе сваім парадкам, але неяк пацямнела наўкол, дзесьці абарваліся сувязі-нітачкі, праз нейкі час штосьці будзе не так.

Паперад мяне бягуць сабакі. Яны такія розныя — і па характары, і па звычках. Дарэчы, як і мы — людзі. Я не выкормлівала іх з соскі і не з'яўляюся іх гаспадыняй, але ў нашых сумесных лясных паходах яны разумеюць мяне нашмат лепш, чым я іх. І не раз здзіўляюць гэтым. Пасярод алешніку — шырокая лагчына з вадой. Абысці нельга — усюды гразь. Цягаю сукі, паваленыя дрэвы — ладую пераправу. За маёй мітуснёй сабакі назіраюць трывожна, не скранаючыся з сухога месца. Таксама хочуць па бярвенцах — раблю я паспешны вывад. На сярэдзіне азіраюся, як і было, не зводзяць з мяне вачэй. Нага адштурхоўваецца ад бервяна ў скачку на зямлю, і тут жа радасны віскат і наўгалоп — адзін за другім — прама па чорнай гразі і вадзе. Ну, якая яшчэ жывёла за кропельку ўвагі і ласкі так безаглядна шчыра можа радавацца твайму поспеху?



Са з'яўленнем мядзведзя ў запаведніку нашы супрацоўнікі з групы маніторынгу зусім страцілі галаву. Кожную глыбокую драпіну на камлі дрэва гатовыя прыняць за мядзведжую. Умудраюцца і мяне настроіць на гэткі ж лад.

І вось ужо ўважліва аглядаю гэтыя драпіны (канешне ж, пакінутыя ласём), поўзаю на каленях па зямлі ў пошуку слядоў, шарсцінак. Вельмі ж ужо нам самім хочацца ўвачавідкі ўпэўніцца ў наяўнасці гэтага вялікага драпежніка ў запаведніку.

Раней і не здагадвалася, як многа можа быць звярыных сцяжынак, дарожак у лясных угоддзях, дзе няма месца чалавеку, дзе гаспадар становішча — звер. На першы погляд — мудрагелістыя карункі, але гэта цэлая сістэма сцежак, думаю, што вельмі рацыянальна і мэтазгодна пракладзеных. Іншы раз мільгае думка скапіраваць, зрабіць замалёўку, паглядзець, што атрымаецца. Можа, спатрэбіцца на дачы пры пракладцы дарожак: то гэта вузкія, ледзь прыкметныя — і толькі збітая раса на сцяблінах выдае іх, то грунтоўна выбітыя шырокія каляіны. Ля былых меліярацыйных каналаў з берагамі, парослымі густой расліннасцю,— акуратныя калідорчыкі, якія вядуць да вады і амаль з усіх бакоў закрытыя травой. Прысядзьце на кукішкі і зазірніце туды. Далібог, таму, хто тут бегае (а гэта можа быць норка, вадзяная палёўка, андатра), можна расслабіцца, звонку яго заўважыць немагчыма. Калі ты сам не ў стане выбрацца з балотнай багны, якая абступіла з усіх бакоў, шукай звярыную сцежку і смела даверся ёй.

Як толькі ні абзываюць мышэй і палёвак у газетах і часопісах, тэлевізійнай рэкламе: злосныя шкоднікі сельскай і лясной гаспадаркі, раскрадальнікі ўраджаю, народнага дабра, распаўсюджвальнікі інфекцый і страшных хвароб. У Палескім запаведніку мне хочацца гаварыць пра іх толькі добрае, проста язык на дрэннае слова не паварочваецца. Такія адносіны даліся мне не проста і не адразу. Аднак у прыродзе ўсё ўзаемазвязана. Пры высвятленні спектра харчавання лісіц, янотападобных сабак, куніц, ваўкоў, дробных куніцавых пераканалася, што ва ўсіх гэтых вялікіх, сярэдніх і маленькіх драпежнікаў мышападобныя грызуны — абавязковы кампанент рацыёну. У лічбах гэта выглядае таксама даволі ўнушальна і ўражліва. Калі ў рацыёне ваўкоў яны могуць складаць у сярэднім каля 10 працэнтаў, то ў лісіцы — 73 працэнты, янотападобнага сабакі — 84 працэнты, а ў ласкі, гарнастая каля 100 працэнтаў. І так з году ў год.

У перыяд рэзкага змяншэння колькасці мышападобных, як гэта адбылося ў 2003 годзе, гэты працэнт знізіўся, і толькі ліса і ласка, гэтыя непераўзыдзеныя паляўнічыя на мышападобных грызуноў, умудраліся і ў такіх умовах грунтоўна папаўняць свой рацыён грызунамі. Але ж здабываюць іх не толькі наземныя драпежнікі, аднак і змеі, і цэлая плойма драпежных птушак — ад саракуша да соў, у тым ліку і пугач. Ды і дзік, гэты нястомны араты зямлі, не супраць заглынуць іх разам з карэньчыкамі. Гэта не харчовы ланцужок, гэта проста глыба ў складанейшай трафічнай структуры. Толькі ўявіце, колькі нітачак цягнецца ад яе. Малюнак уражвальны.

У маленькай мышкі вялікія заслугі і перад навукай, асабліва на тэрыторыях з радыеактыўным забруджаннем. Мяркуйце самі, многія заканамернасці працэсаў размеркавання і міграцыі радыенуклідаў у жывёльных арганізмах, уздзеянне знешняга і ўнутранага апрамянення на ўзроўні арганізма, на тканкавым і генетычным узроўнях вывучаліся менавіта на ёй. Вось чаму шэрую мышку можна лічыць заслужаным аб'ектам нумар адзін на нашай тэрыторыі.

Ідуць гады. Зона адчужэння аварыі становіцца ўсё больш і больш зонай некранутай прыроды. Толькі так можа буяць, раскашаваць раслінны і жывёльны свет, калі не шкодзіць яму чалавек. Аднак без людзей прырода губляе сваю спаконвечную гармонію — цураецца чалавечых рук. І хочацца, каб чарнобыльская зона ўсяму чалавецтву заставалася аб тым напамінам.

***Пераклад з рускай М. Міхайлава.***







# МІКОЛА МЯТЛІЦКІ — ПАЭТ XXI СТАГОДДЗЯ

Паэзія М. Мятліцкага — вельмі прыкметная і арыгінальная з'ява сучаснай беларускай літаратуры, якая ў лепшай сваёй частцы не парвала з нацыянальнымі традыцыямі, не кінулася ў бесшабашны авангардызм, не ўсумнілася ў чалавечай дабрыні, у высокіх маральных каштоўнасцях і духоўных ісцінах. Яна вытрымала іспыт і выпрабаванні нашага суровага часу, не паддаецца ненадзейным, хоць і модным, спакуслівым уплывам і працягвае ісці, як сказаў бы Купала, «шляхам жыцця». Патлумачу сваю думку радкамі вядомага маскоўскага паэта-перакладчыка Якава Хелемскага, якія ён прысвяціў сваім беларускім сябрам:

Люблю поэтов белорусских,
У них стихи — не белоручки,
А работяги-мастера.
За тихим шелестом пера —
Гул жерновов неутомимых,
И скрип колес, и посвист кос,
И эхо самодельной мины,
Врага пустившей под откос…

У гэтых вобразах і метафарычных знаходках аўтара чуецца не толькі водгук гісторыі, але і чытаецца лаканічная «тыпалагічная» (даруйце мне гэты сухі літаратуразнаўчы тэрмін) характарыстыка беларускай паэзіі, яе змястоўнасці і мастацкай самабытнасці; яна заўсёды жыла неспакоем і народнай грамадскай заангажаванасцю, імкненнем сказаць за ўсё і за ўсіх. У рэчышчы гэтых традыцый і развіваецца творчасць М. Мятліцкага, які ўпэўнены, што і ў XXI стагоддзі перад пісьменнікамі стаіць усё тая ж нязменная задача: «І ў наш час — час пераацэнкі чалавечых каштоўнасцей — даказаць грамадству, што без судакранання з мастацкім словам згубна мізэрнее сама чалавечая сутнасць» («ЛіМ», 2002, 26 ліпеня).

## 1. Біяграфія

Родам з Палесся, са славутага Бабчына. Гэта — вялікая вёска ў Хойніцкім раёне, дзе ў сям'і Міхаіла Яфімавіча і Валянціны Рыгораўны Мятліцкіх 20 сакавіка 1954 года нарадзіўся будучы паэт. Бабчынцаў напасцігла вялікая трагедыя: пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе вёска была эвакуіравана, што стала таксама і вялікай асабістай трагедыяй паэта. Жыццё падзялілася надвое — да Чарнобыля і пасля Чарнобыля. Ці варта казаць, што гэтая акалічнасць абумовіла, перайначыла ўвесь характар творчасці паэта, яго светаўспрыманне, паэтыку і ўсё астатняе, але пачынаў ён сваю літаратурную баразну яшчэ да Чарнобыля, у 70-я гады, якія сталіся для М. Мятліцкага раннім, пачатковым перыядам творчага станаўлення. Гэты перыяд паэт правёў, працуючы на сваім «палескім загоне», як пісаў



пра яго А. Вялюгін у прадмове да першага зборніка «Абеліск у жыце» (1980), у якім, зрэшты, ёсць і такія радкі:

Вёска з дзіўнаю назваю Бабчын
Ад калыскі гняздзіцца ў душы.

Бабчын — родная вёска — любімае месца, куды сталы паэт (паспеў адзначыць ужо і 50-годдзе) не перастае на часіну вяртацца і сёння, каб пастаяць каля радзіннага гнязда, уцерці слязу ад нахлынуўшай памяці...

Першы зборнік, пра які я ўжо згадваў, і другі — «Мой дзень зямны» (1985) паспелі ўбачыць свет да гэтай навалы. Яны напоўнены светлымі матывамі і вобразамі. Свет паэта паўстае ў фарбах і гуках — рознакаляровым, ён умее перадаць клопат і радасць жыцця, сваю ўлюбёнасць у навакольнае прыроднае асяроддзе, у сваю малую радзіму, у землякоў.

На Палессі, у Бабчыне, прайшло дзяцінства, якое ў паэзіі М. Мятліцкага выглядае часам амаль экзатычным.

Было:
Прыходзілі ласі
У вёску з чарадой.
І голас кані галасіў
Над мутнаю вадой.

І лотаць млела у лазе,
Аж залачаў прастор.
І бусел на адной назе —
Балотны дырыжор.

Успамінаю гэтыя радкі і лаўлю сябе на думцы, што мне цікава прайсціся паэтавымі сцяжынамі, прыгадаць асобныя творы.

Пасля дзесяцігодкі Мікола Мятліцкі падаўся ў Мінск, паступіў у Белдзяржуніверсітэт, на філалагічны факультэт, бо вершы ўжо складаў у школе, у старэйшых класах. А куды паэту дарога, як не на філалагічны факультэт. Пляцоўка для ўзлёту!

У 1972—1973 гадах працаваў у хойніцкай раённай газеце. Вымушаны быў па стане здароўя ўзяць акадэмічны адпачынак ва універсітэце. Палескае паветра станоўча паўплывала на здароўе, а родны Хойніцкі раён схадзіў і скалясіў уздоўж і ўпапярок, пабываў у кожным паселішчы, зрадніўся з людзьмі, што, несумненна, прыдалося ў будучым.

У сваіх вандроўках ён — зямляк І. Мележа — не раз наведаў Глінішча:

Самая сціплая ў Глінішчах хата,
Як і калі пачарнела ад слот?
Скарбаў — багата
І песень — багата,
Дыхаеш прэлай дрыгвою балот.

Гэта і быў пачатак сваёй палескай тэмы, сваёй палескай песні. Да М. Мятліцкага, як і да І. Мележа, рана прыйшло адчуванне ўласнай дарогі, і гэта выразна адбілася і на яго біяграфіі, і ў творах.

Была магчымасць паступіць у аспірантуру — чакаў у Ленінградзе, у Пушкінскім Доме, сам акадэмік Дз. С. Ліхачоў, але выпускнік БДУ зрабіў свой выбар, застаўся верны паэтычнаму прызванню.

Паэзія мае шмат вызначэнняў, якія адпавядаюць яе адносінам да жыцця. Прырода паэзіі супярэчлівая: яна імкнецца да пастаянных этычных велічынь, якія не за-

лежаць ад часу і змен у чалавечай свядомасці, але ў мастацкім тэксце гэтыя велічыні ажываюць толькі калі абапіраюцца на самаадчуванне чалавека. Гэтае самаадчуванне, думаецца, знайшло выразны адбітак у творчасці М. Мятліцкага, у яго лірычных вершах і паэмах. За яго паэзіяй стаяў жывы чалавек са сваім характарам і біяграфіяй, сваім ладам мыслення і пазіцыяй. Праўду кажуць тэарэтыкі: «Як і што ты бачыш — такі ты і чалавек». Па натуры гэта быў ідэаліст, нават непапраўны ідэаліст, які ўсім верыў і паўсюль шукаў гармонію і прыгажосць, аднак часта, на жаль, даводзілася пераконвацца, што і жыццё, і людзі вельмі далёкія ад дасканаласці. Але ў цэлым жыццё давала адчуванне трываласці, устойлівасці, вечнасці:

...Ты — радуйся, жыві
На той зямлі, дзе каласуе жыта.
Яна крывёй салдацкаю здабыта
Для нашае, сыноўняе, любві.

Нутраная, чалавечая, псіхалагічная сутнасць паэзіі М. Мятліцкага выяўляла сябе ў многіх вершах, у тым ліку і ў лірыцы інтымнага плана:

Дажджынка ўпала, апёкшы шчаку.
Не праганяй кроплю малую,
Пачуў, у лёце стрымаўшы руку:
Дажджынкай кожнай
Цябе цалую.

Такое, кажуць, дарагога каштуе.

А як ён напісаў пра маці, дачасна з ёю развітаўшыся:

Сэрца тваё...
Я чую, як яно тахкае,
Збалелае, хворае,
У чорных грудзях планеты.
Няўжо ёй, мама,
Маючы сэрца тваё,
З арбіты сысці?

Тэма маці — скразная ў творчасці паэта, і ён як адданы сын будзе і будзе да яе вяртацца:

Спі, родная. Жальбой бясконца
Душа мая пад небам апавіта.
Магільны груд — тваё цалуе сонца,
Магільны сон — тваё калыша жыта.

Паэт не шукае выпадковых сугуччаў — іх падказвае думка, якая і існуе ў гэтай сваёй прадметна-пачуццёвай унутранай форме, непаўторнай энергетычнай пульсацыі.

Прыемная ўласцівасць паэзіі М. Мятліцкага — яна выявілася ўжо на самым пачатку — гаваркое, жывое слова, якое несла ў сабе мноства асацыятыўных сувязей, актыўна тлумачыла тое, што адбывалася ў свядомасці людзей, дапамагала паэту выразней акрэсліць сваю ідэйна-гуманістычную пазіцыю.

Перыяд «застою» — 80-я гады — непасрэдным, побытавым чынам мала адлюстраваўся ў кнігах М. Мятліцкага, але адлюстраваўся! Напрыклад, праз маральныя, духоўныя пошукі. Да зборніка «Ружа вятроў» (1987) аўтар у якасці эпіграфа ўзяў урывак з верша М. Багдановіча:

Хто мы такія?
Толькі падарожныя, —
Папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч.
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Згаданымі багдановічаўскімі радкамі паэт хацеў, відаць, напомніць, што мы далёка не першыя, хто задумаўся над складанасцю свету і чалавечым лёсам. Думалі і да нас — класікі. М. Мятліцкі перадае светаадчуванне свайго сучасніка. Даўняе пытанне Багдановіча ён ставіць на новай сацыяльнай глебе, у непараўнальна больш жорсткіх абставінах. «Сварак і звадак» тады, у 70—80-я гады, хапала — і паміж палітычнымі сістэмамі, і паміж дзяржавамі, і ў звычайным чалавечым асяроддзі! Паэт дзейнічае ў рэчышчы традыцыі — сваім асабістым духоўным і біяграфічным вопытам супрацьстаіць сілам зла, энтрапіі, чалавечаму адчужэнню. А ў чым, як не ў гэтым — у супрацьстаянні злу, забыццю, «чорнай імжы» адзіноты, — і заключаецца задача паэзіі, яе «галоўная тэма!»

Думаецца, такі погляд у многім блізкі М. Мятліцкаму. Адсюль — інтэнсіўнасць і смеласць паэтычнай думкі, маштабнасць і кантрастнасць вобразнасці, адмаўленне ад побытавага плана.

Паэт шырока выкарыстоўвае прыёмы ўзбуйненага плана. Радзіма, Зямля, Сонца, Сусвет, Вечнасць, Час, Памяць — гэтыя словы ён піша з вялікай літары.

Калі ж гаварыць пра літаратурную радаслоўную героя М. Мятліцкага, то трэба адзначыць, што ён не толькі нашчадак М. Багдановіча, але і малодшы сучаснік А. Куляшова з уласцівым для аднаго і другога імкненнем да ёмістых, маштабных абагульненняў.

Паэтыка маштабных абагульненняў была ўласцівая беларускай паэзіі 20-х гадоў, насычанай абстрактнымі касмічнымі вобразамі і біблейскімі алюзіямі, вобразамі Апакаліпсіса з яго асноўнай думкай аб непазбежнай перамозе дабра над злом, аб канцы старых, «грэшных» часоў і будучым царстве справядлівасці, аднак гэтай паэтыцы шкодзіў схематызм, літаратурнасць. Касмічным пафасам схематызацыі героя і свету прасякнута паэма-фантазія М. Чарота «Чырванакрылы вяшчун». Паэзія тут, па сутнасці, тоесная ідэалогіі — услаўленню сусветнай рэвалюцыі, якую імкнуліся распаліць бальшавікі. Сёння ўжо няма патрэбы гаварыць пра хімерычнасць і утапічнасць гэтага праекта. Сучасная паэзія, вядома, жыве іншым, хоць і сягае ў космас. Яна — рэальная, што бачым і ў М. Мятліцкага, які нават у самых высокіх касмічных вобразах і сяганнях не парывае з зямным.

Паэт не забываецца пра ўнутраны свет чалавека, яго духоўнасць. Зрэшты, «не забываецца» — не тое слова, ён жыве духоўнымі праблемамі сучаснасці, высокімі псіхалагічнымі нагрузкамі, верай у перамогу жыцця.

Паэзія жыве пытаннямі.

Хто я? Колькі мне год? Які мой лёс? — падобныя пытанні лірычны герой «Ружы вятроў» задае сабе часта, сувымяраючы свой век з узростам чалавецтва, узбагачаны яго гістарычным вопытам.

Зборнік сведчыў, што яго аўтар востра адчувае неадпаведнасць паміж узроўнем навукова-тэхнічных ведаў і сярэднім узроўнем свядомасці чалавека («Мы ўмеем ужо...»). Аднак пры ўсім драматызме становішча паэт не падае духам. Пра лірычнага героя паэзіі М. Мятліцкага расказала чытачу паэма «Неба».

Хто я? — Вечны сузіральнік
Недасяжнай небнай шыры.
Нада мною, як пытальнік,
Млечны Шлях...
І зор пункціры.

«Неба» — лірыка-публіцыстычная паэма. Яна сведчыла пра веру ў гуманістычныя каштоўнасці, якія з'яўляюцца агульначалавечымі і сцвярджаюць сябе праз барацьбу, супярэчнасці і трагедыі.

Я не веру, што планета
Наша — востраў адзінокі.
У абсяжышчы сусвету
Чалавека ўсюды крокі.

Думка скіравана ў глыбіню філасофскага спасціжэння быцця, якое бачыцца аўтару ў яго шматмернасці, пастаянным абнаўленні, кругавароце, унутранай дынаміцы. Чалавек выжывае таму перш за ўсё, што ён чалавек: трываласць яго і моц — у чалавечнасці. Чалавечае сумленне не павінна паддацца сілам расшчаплення.

Лірычны герой, насуперак усяму благому, імкнецца да духоўнай паўнацэннасці, да шчасця і хараства. Гэтае імкненне — у многіх вершах.

«Геаграфія душы» паэта — шырокая. І, зразумела, не толькі дзякуючы «касмізму», касмічным матывам. Ён імкнецца ўсвядоміць паўнату і шматмернасць сувязей чалавека з усім светам, зразумець сябе самога і праз сябе — свет. У кнізе дзейнічае ланцужок сувязей: Зямля—Радзіма—Палессе.

## 2. Кнігі. «Бабчын»

Недзе ў гэты час, у пачатку 80-х, Мікола ў сяброўскай гутарцы прызнаўся мне, што піша раман, і я, вядома, быў вельмі здзіўлены і ўсцешаны гэтай яго новай і, як мне здалося, нечаканай задумай. Час, аднак, унёс карэктывы і ў творчыя планы, і ў эстэтычныя погляды, і ў само жыццё. Чорны 1986-ы аказаўся трагічным, лёсавызначальным як для ўсёй Беларусі, так і для М. Мятліцкага, яго жыцця і паэзіі.

Чарговая кніга «Шлях чалавечы» стваралася пад уздзеяннем тагачасных сумных падзей гэтага і наступных гадоў. У зоне адчужэння апынуўся родны Бабчын — выток жыццёвай сцяжыны паэта. Адзін з вершаў, змешчаных у ёй, так і называецца — «1986 год».

Ты мне ахвяраваў
З радзімай развітанне:
Шаптанне мёртвых траў,
Крыніц атрутных ззянне.

Астылы матчын двор,
Усплёск самотны рэчкі,
Чароды зяблых зор,
Што ўспыхнулі, як свечкі.

Перайначылася ўсё: «Скіне заўтра пяро на сяло журавель, і ніхто не падхопіць яго». Апусцелі родныя вуліцы, жаласна рыпіць калодзежны журавель, зарастаюць палыном двары. Паэт застаўся прыкаваны да свайго часу бядой Чарнобыля, лёсам пацярпелых людзей.

Т. Шамякіна на гэты конт пісала: «Пасля Чарнобыля Мятліцкі губляе стан закаханасці ў жыццё, бо Прырода, застаючыся прыгожай для вока, перастае быць вытокам унутранага жару. Розум ведае: ад яе — жар іншы, смяротны для цела. Чалавек б'ецца ў адчаі і не бачыць выхаду». Гэта быццам бы і так (несумненна так), але паэзія, як і ўся літаратура, безумоўна, абапіраецца на цэласнае разуменне і ўспрыманне свету, імкнецца да універсальнага, усеахопнага. Выдатны дзеяч нашага Адраджэння Вацлаў Ластоўскі разумеў літаратуру так: «Літаратура адбівае ў сабе душу народа, яго «трывожныя думы», яго «чулыя і хвалюючыя пачуцці», яго «зразуменне радуючай красы». Гэтакі і М. Мятліцкі — яго многае трывожыць і непакоіць. Ён лірык і публіцыст адначасова.

Адну са сваіх кніг Янка Купала назваў «Шляхам жыцця». Мне здаецца, што назва зборніка вершаў і паэм М. Мятліцкага «Шлях чалавечы» перагукаецца з купалаўскай — гучыць у суладдзі з ёю. Пераклічка, думаецца, не толькі ў назве, але і ў тым, што за ёю стаіць. Пачынаецца зборнік кароткім, але ў філасофскім сэнсе ёмістым чатырохрадкоўем:

На абшарах зямных пад Сонцам
Мы сышліся на гулкім вечы.
Два шляхі ў Сусвеце бясконцым —
Млечны Шлях і Шлях Чалавечы.

Чалавек — лірычны герой — бярэцца не толькі ў зямным, але і ў касмічным плане — як насельнік Сусвету, звязаны з ім усім сваім жыццём і ўнутранай, біялагічнай структурай. Гэта, мне здаецца, вельмі арыгінальна. Тая ісціна, што чалавек — істота

касмічная ў такой жа ступені, як і зямная, пашырае творчую канцэпцыю паэта, паглыбляе адчуванне непаўторнасці і каштоўнасці асобы і яе адказнасці за жыццё, садзейнічае ўзмацненню «пачуцця сям'і адзінай» у агульначалавечым маштабе.

Мы большай часткаю глядзім на космас будзённа — як на безжыццёвую матэрыю, якую трэба выкарыстоўваць у тых ці іншых мэтах. Паэт абжывае яго эстэтычна, набліжае да нас, ён ведае, што энергія Зямлі — ад Сонца і зор.

Яшчэ шляхамі зорных завірух
Па космасу пустэльнай паласе
Ён горда пройдзе, чалавечы дух,
І розум чалавечы пранясе.

Паэт лічыць, што чалавек — непаўторная кветка Сусвету, узросшая пад жыццядайнымі промнямі сонца. Паміж ім і космасам існуе нябачная, але пастаянная сувязь, якая павінна глыбока ўсведамляцца чалавекам.

Вечнасцю неба наліта.
Вечнасцю сэрца налі.

Заслуга паэзіі М. Мятліцкага, як мне думаецца, у тым, што яна пашырае (наколькі гэта даступна) погляд чалавека на свет і на сваё месца ў ім. У лірычным герої паэта, нягледзячы на яго касмізм, я не знаходжу нічога абстрактнага — ён звязаны з рэальным быццём чалавека. П. Панчанка празорліва сказаў: «Без чалавечнасці не будзе і вечнасці». Гэтая думка блізкая і Мятліцкаму, які пастаянна апелюе да чалавечнасці, таму вершы яго гучаць па-сучаснаму, востра і надзённа.

Нобелеўскі лаўрэат аўстрыйскі пісьменнік XX стагоддзя Э. Канеці, зыходзячы са свайго, ды і не толькі свайго, вопыту, пісаў, што «сапраўдны пісьменнік, якім мы яго сабе ўяўляем, заўсёды ва ўладзе свайго часу, ён яго слуга, яго прыгонны, яго апошні раб». Да такога тыпу мастакоў належыць, думаецца, і М. Мятліцкі. Несумненным творчым дасягненнем паэта, вернага сваёй тэме, стала кніга «Палескі смутак» (1991 г.), якая ўбачыла свет у гады перабудовы. Яна ўразіла многімі вершамі: «29 жніўня 1986 года», «Паводле аднае сустрэчы», «Дзівасіл», «Малюнкі на чорным асфальце», «Астатні начлег», «Сон», паэмай «Няходжаны сусвет» і інш. Усе гэтыя творы вельмі арганічныя для аўтара, непрыдуманыя; была ўнутраная неабходнасць напісаць іх, і ён напісаў.

Напярэдадні выхаду гэтай кнігі М. Арочка адзначыў: «Гаркота «палескага смутку» пачала, бадай, цалкам трымаць у палоне вершы М. Мятліцкага — іх вызначае ўласна пражытая, сэрцам убачаная дэталізацыя, шчымлівая густата канкрэтных адзнак бяды, таго чорнага насення, што засеяла роднае поле дзікай пустэчай: быльнёг з далёкай мяжы падступіўся да парога бацькоўскай хаты, праз пустую траву адзінока глядзяць у трывожны свет касачы з гародчыка, цень майстра-печніка блукае ў сляпым змроку, а высокі чын, прыехаўшы ў Брагін на шыкоўнай машыне з усім прыпасам «чыстага» харчу і пітва, хлусліва спрабуе асляпіць чарговай дэмагогіяй ужо аслеплых, схварэлых целам і душой — «Занёс на боль чыноўны бот»...

Калі ў ранейшых зборніках адчувалася табуіраванасць некаторых сфер жыцця, дык цяпер яна знікла, аўтар умеў зачапіць чытача за жывое, зацікавіць яго, заінтрыгаваць. Многія вершы ўспамінаюцца, асабліва тыя, дзе драматычная эмпірыка перарастае ў філасофскі роздум:

Не спытаеш у хмары:
— Куды?
Не спытаеш:
— Куды?
У бяды.
На чаканы падказ
Свет глухі.
Не пазначаны
Згубы шляхі.



*Паслы свету каля роднай хаты паэта. 1999 г.*

У 1996 годзе ўбачыла свет адна з самых моцных кніг М. Мятліцкага — зборнік вершаў «Бабчын», які аўтар назваў «кнігай жыцця».

Кніга мае эпіграф —

> Глыток чысціні.
> Суцемак гладыша.
> Безгалосыя дні.
> Параненая душа.

Чатыры радкі — чатыры вобразы. Яны, надзвычай глыбокія сваім зместам, сталі назвамі чатырох раздзелаў зборніка, у якім — я гэта кажу з адказнасцю — з незвычайнай паўнатой адлюстраваўся народны вопыт адносін да жыцця. Кніга пісалася на незвычайным эмацыянальным напале. Многія вершы нагадваюць трэны (трэн па-лацінску — плач, плач па страчаным). Гэта асабліва адносіцца да цыклаў «Безгалосыя дні» і «Параненая душа». У іх выяўлены экзістэнцыялы перажытага і выпакутаванага людзьмі, пастаянна рэфлектуючая свядомасць паэта, які імкнецца ўсвядоміць, што ж гэта дзеецца ў свеце і ў яго душы. Асноўная ідэя таленавіта выяўлена ў вершы «Бяссмертнік», з якога пачынаецца кніга:

> Бяссмертнік, атручаны лекі твае.
> Жыццё тут пагаслага мёртвая стынь.
> А шчасце былое жаўцяна ўстае,
> Мне дорыць і дорыць жывую святлынь.
>
> О, колькі жадана ўвабрала яна
> Дыхання каханай, і мрой, і цяпла.
> І зараз пакутніца свету адна
> Шчыруе над цветам душа, як пчала.

Паэт хоча, каб пацяплела чалавечая душа — нават пасля такой жудаснай падзеі, як Чарнобыль, але сумныя рэаліі сялянскай хаты — стол (на якім няма хлеба), услон ля сцяны (на які ўжо ніхто не сядзе), печ (якую ўжо ніхто не запаліць) — вяртаюць да рэчаіснасці, «усланай покрывам радыяцыі» (верш «Загадкі ў хаце»).

М. Мятліцкі валодае рэдкім дарам стварэння народных характараў, асабліва шмат іх у раздзеле «Суцемак гладыша», у вершах «Мікалаеў дуб», «Балада пра Варын агарод», «Яблычны Спас», «Яна», «Чарадзейка» і інш.

Выдатны верш — «Бібліятэка». Апусцелая вясковая бібліятэка. Толькі вецер, што прыляцеў «праз бітыя шыбы акон», гартае падшыўкі газет. Але ўнутраным зрокам паэт бачыць, як выйшлі з яе дзве невідочныя постаці колішніх заўзятых чытачоў Маланкавіча і Буквара:

Ані слядка на расе.
Удаль павядзе іх вечар.
Старонкі прачытаны —
Ўсе! —
Трагедыі чалавечай.

У свеце паэта гаспадарыць памяць, узнаўляе свае карціны і вобразы, пацвярджае неадменныя чалавечыя каштоўнасці. Аднак было б несправядліва абмяжоўваць паэта тэматычна, ён — шматгранны. Умее быць інтымна лагодным, пяшчотным і ўмее ўзяць на сябе місію суддзі, узняцца да публіцыстычнага ўзроўню, крануць набалелае, сказаць грамадству без утойвання, што ў ім дрэнна, якім павінен быць, на яго думку, чалавек і якім павінен быць свет. М. Мятліцкі выступае як летапісец чарнобыльскай трагедыі, якой прысвяціў нямала глыбокіх, прачулых кніг і асобных твораў, вядомых далёка за межамі Беларусі, напоўненых гаркатой і журбой, вернасцю і крыўдай. Іх героі — аднавяскоўцы і землякі паэта — на сабе зведалі цану неабачлівага і абесчалавечанага прагрэсу, які забыў пра мараль, духоўнасць і чалавечыя каштоўнасці. Але галоўнае ў гэтых вершах не тое, што страчана, а тое, што навекі засталося з ім, у чулай паэтавай душы. Вершы М. Мятліцкага часта вырастаюць на ўспамінах пра сваякоў, суседзяў, пра вёску і вясковы побыт. За радком стаіць праўда перажывання.

Прачытаўшы «Бабчын», я міжвольна падумаў, што па сутнасці гэта лірычны раман — ці не здзяйсненне той задумы, якой Мікола дзяліўся са мной задоўга да гэтага, у сярэдзіне 80-х. Хранатопам гэтага рамана ў вершах стала выселеная родная вёска, у якой спыніўся час, стаў толькі цыклічным, але насельнікі засталіся — цені яе жыхароў. Іх шмат, і ўсе яны тут: Кацюша, Яніха, Антося, Макрэна, Баварыха, Аксінчык, Зоя, Манька, Нюра… І асобныя вершы з гэтага рамана ўяўляюцца мне кавалкамі бурштыну, у якіх навечна захоўваюцца карціны перажытага паэтам, вобразы памяці, палескія краявіды, постаці землякоў, пабытавыя сітуацыі. Аўтар спасцігае свет знутры, знаходзячыся ў гушчыні жыцця, яму блізкая народная прастата погляду, якую ён спалучае, аднак, з вышэйшай рэфлексіяй.

Пішу вам, цётка Анюта,
Двор — палын ды быльнёг.
Хата — горам замкнута,
У крапіве парог.

Прытхла і гаркавата,
Сырасць між сцен.
Шлю вам прывет
З вашай хаты —
Шчасце гукаю ўзамен…

*(«Пішу вам, цётка Анюта…»)*

Асноўным, базавым вобразам у «Бабчыне» з'яўляецца вобраз маўчання, цішыні: «Хаты пустыя… Яблынь сям'я. / Воблікі гаспадароў. / Ходзіць нясходна памяць мая / Быльнягамі двароў…» Маўчанне — гэта немы крык, пантаміма душы паэта, жэсты гэтай душы…

І паэт хоча разарваць замкнёны круг маўчання. Высокага ўзлёту ў гэтым сэнсе яго радок дасягае ў вершы «Апошні Бабчына жыхар…» У паэзіі М. Мятліцкага — летапісца роднага Бабчына, нягледзячы на ўвесь яе драматызм і напружанасць, няма адчування жыццёвага тупіка, безвыходнасці ці адчаю. Мужнасць, воля, стойкасць — вось аснова светаадчування лірычнага героя «Бабчына». У актыўнасці

пазіцыі спачування і дапамогі людзям — увесь М. Мятліцкі. Для Палесся ён свой. Калі, пасля чарнобыльскай навалы, бабчынцаў перасялілі, ён хацеў і дабіваўся, каб землякі былі пераселены разам, усёй вёскай, і актыўна гэтага дамагаўся.

Гістарычны Бабчын захаваўся б і ў назве, і цалкам, у адным месцы, але начальства, з сваіх меркаванняў, распарадзілася па-іншаму, і людзі апынуліся ў розных рэгіёнах. Людзі, дзякуй Богу, жывуць, падтрымліваюць сувязі, запрашаюць у госці паэта.

У 1986 годзе М. Мятліцкі стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, а ў 1998-м — за кнігу паэзіі «Бабчын» — атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы.

Пасля «Бабчына» былі новыя зборнікі: «Хойніцкі сшытак» (1999), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005). У іх аўтар звяртае пагляд на духоўныя каштоўнасці жыцця, углядаецца ў анталагічныя, быційныя праблемы, імкнецца гарманізаваць свет, выкарыстоўвае біблійска-хрысціянскую міфалогію. Пасля «Палескага смутку» і «Бабчына» нялёгка ўзняцца да новых вяршыняў, але Мятліцкі не быў бы Мятліцкім, калі б не намагаўся гэта зрабіць. Яго паэзія падводзіць вынік развіцця чалавека ў XX стагоддзі, які імкнецца да таго, каб стаць цікавым для самога сябе, каб убачыць іншага і завязаць з ім дыялог, адважыцца на ўчынак, мець смеласць думаць па-свойму. Сёння працягваецца працэс аўтанамізацыі чалавечай асобы, яе далейшай індывідуалізацыі. Усё гэта знойдзем у творчасці М. Мятліцкага. Праект паэта — па-сапраўднаму велічны і маштабны; ён, як біблейскі прарок, хоча выратаваць і ашчаслівіць усіх, усё чалавецтва.

Гэтага пакуль што, на жаль, нікому не ўдалося. У яго творчасці знайшоў выяўленне пасіянарны тып асобы, якая валодае, без сумнення, звышнарматыўнай жыццёвай энергіяй і выкарыстоўвае яе для актыўнай дзейнасці, для высокіх, часцей за ўсё ідэальных мэт.

І персанальны ўклад М. Мятліцкага ў нацыянальную духоўную скарбонку: у яго паэзіі нашчадкі знойдуць аблічча Беларусі, пазначанай стратамі веку — болем хатыняў, чарнобыльскіх бабчынаў.

Ахіні — бела-бела — крылом
Вечаровую вулку, бусел.
Я пагрукаю ў кожны дом,
З кожнай студні вады нап'юся.

Той радзіннай зямлёй, сваёй,
Пакіруюся ў шлях далёкі.
Сумна, дзіка ўзышлі на ёй
Палыны ды асокі.

Горкнуць крокі бяды, хады,
Смягнуць сцята і суха ў горле.
Выйдуць з хат перастрэць дзяды:
Не паверу — дзяды памёрлі.

Гэта — выдатная, духоўна абвостраная, сусветнай пробы лірыка, якая сведчыць пра вялікія магчымасці аўтара, магчымасці яго паэтыкі з уласцівымі ёй псіхалагізмам і вобразнасцю.

«Талент — гэта даручэнне, — лічыў рускі паэт Яўгеній Баратынскі, — якое неабходна выканаць любой цаной». Думаю, што Мікола Мятліцкі пра гэта ведае. Яго паэзія — гэта духоўнае супраціўленне таму неверагоднаму паслячарнобыльскаму свету, у якім апынуўся чалавек.

***Уладзімір Гніламёдаў***

*Пра творчасць М. Мятліцкага чытайце: «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя», т. IV, кн. 2, «Беларуская навука», 2003. С. 675—700.*

## ВЕРШЫ

* * *

Я прыйшоў: глухія хаты,
Вокнаў выбітыя шыбы.
Крык драча ў лазе дзяркаты,
І аблок над шляхам глыбы.

Шум ігрушы на падворку
Разліваецца паныла.
Я стаю, вяду гаворку
З тым, што тут адгаманіла,

Што на далечы — былое —
Ажывае галасамі.
Неба тое, сонца тое
Над палямі, над лясамі.

І быльнёг — з мяжы калішняй
Падступіўся да парога.
Хмеліць лета віннай вішняй.
Вішняй выспела трывога.

Горкне доля ў шырах поля.
Хто збярэ насенне тое,
Што пасеяла нядоля?
Поле Вечнасці — пустое.

І няма, няма працягу
Ў нікуды. Тут мёртва стыне,
Спарадзіўшы думак смагу,
Лёсу чорная пустыня.

* * *

Чмяліныя соты ў глыбокай траве,
На поплаве росы — як кропелькі мёду.
А голас матулін дадому заве,
І нехаця крочыш, каўтнуўшы нязгоду.

І свет пад нагамі — з расы і травы,
У гудзе чмяліным,
У зуме пчаліным.
І выша нябёсаў — прыліў сінявы,
І ліпеня роздых пад крыллем бусліным.

Дадому вяртацца.
Цяжкая хада,
Калі за аселіцай ліпа мядуе,
І пахнуць налівы ў гарачых садах,
І шчодрае сонца цяпла не шкадуе.

Завабліва кліча імчаць наўздагон
Пяшчотны вятрыска — вільготны і свежы.
І сэрца, узятае даллю ў палон,
Лунае, як бусел, у сінім бязмежжы.

— Ты вернешся, неслух?! —
Гукае здаля
Пагрозлівы голас. І крочыш ціхмяна.
І дражніш на кветцы гарэзу-чмяля,
І зумкае той за спіной узлавана.

...Ступаю сцярожка. Прымяты мурог.
Вяртаюся, мама, на голас слухмяна.
Падворак аплёў адзічэлы быльнёг,
І сонца над хатай — крывавая рана.

Мне выпала ў далях завабна блукаць,
Узносячы гімны жыцця прыгажосці.

О як ты цярпліва умела чакаць
На гэтым, разгорнутым смерцю, пагосце!

Прашэпчуць пад ветрам быльнёг ды палын
Аб ростані скрушнай,
Дзе хаты — нямыя.
І зжуранай восені вырайны клін
Дажджамі атрутнае неба адмые...

## ЗГАДКІ НА ШАШЫ

Напружу слых — і пачую
Гул крокаў забытых.
Адзін я ў вёсцы начую,
А ты, як нітка арбіты,
Якую зямля ссукала,
Горкія дні счакала...

Каменнем мошчаная між балот,
Пальцамі спрахлымі грэтая,
Ляжыш — чорнай бяды эшафот —
Між мёртвага лета.
Удалеч лясамі брыдзеш,
Даўнія цені вядзеш.

Рып колаў.
Галас на вёсцы...
Холад асенняй імжы.
Грукаюць брукам павозкі —
Котлас распяў на крыжы
Вёску маю...
За малога
Заступніцтва просіць Вольга
У Бога.
Да грудзей хлопчыка горне.
Удых ледзянее ў горле.

Стоены морак вайны.
Моташны рык маторны.
Цэдзяць дым каміны
З раніцы чорны.
Вёсцы загаласіць,
Як перад свету канцом.
Бы ў шыбеніцы — вісіць
Сонца над Варатцом.
Гоняць шашою людзей, як статак:
Дзяцей партызан,
Партызанскіх матак.
На бакавіне шашы над ровам
Аўтаматы выплюнуць кулі.
Хлопчык сямігадовы
Горнецца да матулі.

Ён з вечна жывой душой
Вернецца гэтай шашой.
Ён будзе хадзіць, расстраляны,
Па снах маленства,
Пудзячы іх да шаленства,
Суніц прыгаршчы на паляны
Кіне сярод бароў,
Як сваю кроў.
Сэрца маё апаліць
Ён, Зелянкоўскі Паўлік.

Зігзагі часу. Зялёныя долы.
Рып свой панеслі няўтомныя колы.
Промні мёртвага ранку.
Многае горка помнячы,
Рытмамі веку жыла брукаванка,
Гулам абсягі поячы.
Чаканнем ростаняў і сустрэчаў
Брук спешна змераны крокамі.
Над ёй зарою ірдзеўся вечар,
Гукамі нік далёкімі.
Тут абрывалася руху вярста,
Жыццё аседлае сэрца цішыла.
Чорная, немая пустата.
Сонца промнямі час той вышыла.
З непрыкаянаю душой
Хаджу ў пустэчы
Чорнай шашой.

Чую — храпуць аўтобусы,
Жыццё ў дзверы ўцінаецца
І па Зямлі — кругламу глобусу —
Ў шлях беззваротны кранаецца.
Старэчымі пальцамі
На хаты жагнаецца.

Жывое жыццё майго сяла
Шаша праз гады павяла.
Плёсы мёртвае цішыні —
У дзікіх травах губляюцца дні.
Птушка юркне, спалошыць зрэдзь.
Вецер, звадыяш, шарганецца
Аб шэрхлую лісцяў медзь.
Вёска пустая на міг прачнецца,
Ў чыстае неба гляне адтала:
«Колькі я спала?!»

Як старая на ўгрэтай чэрані,
Вёска нудзіцца ў чэрвені:
«Гляджу вачамі, а не раблю.
Здароўя ўжэ ніякога.
Смерці адно і прашу ў Бога.
Прыбяры, аслабані зямлю!»

Ляжыць шаша ў стоеным мораку,
Асфальтам чорным умазаная,
Як фарбай самага страшнага гора,
Хвастом да вёскі прывязаная,
Як тая труба, што супрапель
Смокча з азёр, пакідаючы мель.

І я, ссамочаны тут хадок,
Згадкі збіраю паміж хацін,
Кратаю крохкі шашы халадок,
З мёртваю вёскай — адзін на адзін.

## ДЗІВАСІЛ

*Светлай памяці*
*Веры Сямёнаўны Палтаран*

Сухавеем пабіты, дажджамі нябёс,
Жоўты цвет на сцяжынах маленства парос,
Адбіраючы вочы таемнай красой,
Мыты самаю чыстай, сцюдзёнай расой,
Жоўты цвет...
Ля бяроз... Ля панылых магіл.
Дзівасіл...
Адзічэлай зямлі дзівасіл...

Так замётна шугаюць былыя гады.
Я па сцежцы знаёмай вярнуўся туды,
Дзе бусліныя крылы — у высях святла,
Дзе шчаслівая казка трымцела-жыла...
Колькі гора чутно мне з узмахамі крыл!
Дзівасіл...
Палыновай зямлі дзівасіл...

Я знайшоў адзінотны, жаўцяны твой цвет.
Жоўта-жоўта зірнуў гэты ядзерны свет,
Промнем хіжым крануўся аціхлых палёў,
Ў косы смутных бяроз стужку зыркую ўплёў.
Залачаў ад яго стромы прыпяцкай схіл.
Дзівасіл...
Адзіноты маёй дзівасіл...

Пратрубілі высока ўгары жураўлі,
Сум пакуты маёй павялі, паняслі
У няведамы край, у выгнання смугу.
Я па сцежцы забытай за імі бягу.
Толькі шызы туман...
Толькі лопанне крыл...
Дзівасіл...
Адабранай зямлі дзівасіл...

Знае сэрца: не будзе зваротных дарог.
Азірае пустэчу угневаны Бог,
П'е з крыніцы палескай у прыхватках дня
Перагорклай атруты зямной вышыня!
Толькі вецер услед...Толькі ядзерны пыл...
Дзівасіл...
Самай горкай зямлі дзівасіл...

## ВЯЛІКАЯ ПЕЛЬ

Гушкала таемныя здані аблок,
Гукала званочкам крыніцы здалёк
Мой смех бесклапотны... І ліпеня спель...
Калыска маленства —
Вялікая Пель.

На жоўтым, умытым вадою пяску
Я ціснуў на ростань каханай руку,
Звінеў каля вуха пагрозліва чмель.
Сцяжына юнацтва...
Вялікая Пель.

У далях адкрытых чужое зямлі
Ў душы маёй светла, завабна жылі
Чупрыны аблокаў, бярэзніку бель.
Гуканне Радзімы —
Вялікая Пель.

Бядота прыйшла... Заплыла чарнатой.
Гаворыш:
— На ростань, выгнаннік, пастой.
Пагаслі нябёсы. Як чорная мель.
Мой смутак глыбокі —
Вялікая Пель.

Пагаслае неба тваё запалю,
Пунсовай зарою да краю налью,
Прыйду на спатканне з далёкіх зямель
Маленства, юнацтва, каханне сустрэць.
На промнях тваіх смертаносных згарэць
Яны не пасмеюць,
Вялікая Пель.

## БАРШЧОЎКА

*А. М. Сцепаненку*

Як блізка падступаецца прагрэс!
І што ў руках?
Магільная рыдлёўка...
Над Прыпяццю зялёная Баршчоўка
За восем кіламетраў ад АЭС.
Наўкруг — лугі.
І пракаветны лес.

Тут хвалі сіньку плёскала вясло,
Рука — сяўбой зямлю спадзеўна грэла.
Туманам ранне золкае шарэла,
І мокла жураўлінае крыло.
Жыццё гуло... Жыццё наўсцяж гарэла...

Тут эпахальных не было падзей,
Былі радзіны і былі хаўтуры.
Праводзіў позірк воч старых пахмуры.

Цяжэлі рукі цвёрдыя людзей.
Ды ў памяці вайны жылі віхуры.

...Уздрыгнуў ноччу пракаветны лес.
І воблак белы, як світанне, вырас,
Як згубы кліч, як смерці чорнай вырак,
За восем кіламетраў — над АЭС.
Ён рос і рос і накрап сеяў спрэс.

А тут — душа закутая ў спакой —
Хадзілі лугам, плавалі ракой,
На пашу гналі вуліцай кароў,
Садзілі соткі і... бялілі кроў.
І думалі: які ён, той прагрэс?
Ў глыбінцы свету... Побач ля АЭС.

## АСТАТНІ НАЧЛЕГ

Я пішу гэты сум
У куце пустой хаты
На пакінутай сястрою
Маёй школьнай тумбачцы,
Пры хліпкай свечцы.
У хаце,
Тут,
Дзе малы
Сцінаўся да колкіх дрыжыкаў,
Калі да вокнаў ліпла
Зубатая цемрадзь,
Накліканая казкамі
Бабулі Антосі,
Кралася зданямі
Ведзьмаў і лесавікоў...

Я начую
У хаце
У зоне.
Да вокнаў,
Як і тады,
У маленстве,
Прыпала цемра начы,
І мая свечка,
Пусціўшы «бараду» парафіну,
Варушыць на сценах
Водсветы памяці:
То быццам бацькавы плечы,
То пасма бабулі Антосі,
То матчын локаць...
Яны, хто не здолеў
Падацца-паехаць адсюль,
Прыйшлі на начлег
У хату —
Сведкі болю майго.

...Гусне,
Зыбаецца за паабарванымі фіранкамі
Цемрыва ночы.
Я ведаю:
Там, за парогам хаты,
Цемра моцна заплюшчыла
Вочы Жыцця...
Там ані голасу.
Наплывае, грозіцца
Цемрань,
Гатовая заглынуць
І гэты маленькі
Драбочак святла...

* * *

Поўня ліпеньскае ночы
Малаком таемна белым
Мякка, волка наплывае,
Беліць гай на даляглядзе.
Я лаўлю тваё дыханне
Вуснаў дотыкам нясмелым.
След гарачага кахання —
Зорны шлейф на воднай гладзі.

Удваіх на траўнай строме.
Плёсам студжаныя целы
Дакрануліся, зліліся —
Хмельна кружацца галовы.
Б'ецца ў слодычнай утоме
Ног гарачых сполах белы,
І салодзяць чуйнасць слыху
Пачуццяў нашэпты-словы.

На плячы свавольна голым
Маладое спее лета.
Вочы зоркамі ірдзяцца,
І травы расяны холад.
Ноч таемнага кахання.
Чуеш? Ты — мая Джульета.
Гэта прагі пацалункаў
Ненасытны першы голад.

Мы — астатнікі Сусвету —
Патанулі ў зорным пыле,
Затаіліся прышэльцы
Тут, на строме рыжапёсай,
Каб сказаць вачам сузор'яў,
Што жыццё зямное ў сіле,
Што за намі ранкам сінім
Ступіць юнае па росах.

## ЗЯЗЮЛЯ

Адзеў красавік у лісцвяныя ўборы
Альшэўнік за вёскай і гай белакоры.
Быльнёг на палях, выпрамляючы плечы,
Цыбата ўзыходзіў на шлях чалавечы.
На сейбішчы смерці — папар ажывае.
Маркота... Ды чую: зязюля кувае.

Сцярожкія, ценькія, гойстрыя гукі
У слых упіліся, і зваблівa рукі
Пакраталі мокры камлюк белакоры.
«Ку-ку» — нарастала ў вятрыстай прасторы,
Збалелае сэрца спатольна лячыла.
Чые ж ты гады тут, зязюля, лічыла?

Магчыма, прадказвала ў весняй пустэчы,
Як доўга не вернецца крок чалавечы,
Што згубна — наўсцяж — на гады амярцвела
Зямля, дзе жыццё віравала-шумела,
Дзе холадна скута ў пакутным маўчанні
Прыходзяць спалошна нямыя світанні.

Няўцешна самотны у згублівай зморы
Гадоў пералік, induced, хворы,
Да краю паўнюткі адчайнага страху.
Вачамі шукаў — не знайсці было птаху,
Бо шэрае крылле ў лістоце хавала.
Нібыта бядота сама кукавала.

Як доўга, няспынна лілося лічэнне
Пустэльных гадоў у спалоху здзічэння;
Аглухлых, не поеных дзён галасамі;
Пагрозных аблок, што плылі над лясамі;
Забытых дарог, што ад крокаў астылі;
Залётных вятроў, што сканалі ў бяссіллі.

Калі ж сіратліва знямела аблога,
Сказаў я зязюлі-вяшчунні: — Замнога
Гадоў налічыла выгнальнай пакуце.
Як доўга дзічэць шчэ палям у атруце,
А хатам чакаць гаспадарскага кроку,
Не бачыць радзімы стамлёнаму воку.

Гаючай спатолі жывое прычасце!
Зязюля, чаму ж не злічыла ты шчасця,

Што тут, у абсягах, калісьці лунала,
Душа яго зноўку салодка пазнала —
Там бацька на возе, а вунь і матуля...
Чаму ж не злічыла дні шчасця, зязюля?

А шчасце было як кароткае лета,
Ды толькі чамусь я забыўся пра гэта:
Свяціліся сінькаю небныя высі
І гукі жывыя трапётка ліліся,
І сонца над зонай плыло-красавала,
І доўга суцешна зязюля кувала.

## ГАВОРКА

На кінутым двары
Гавораць між сабой,
Як даўнія сябры,
Палын і зверабой.

Іх чуе на страсе
Залётны верабей.
Чубком палын трасе:
— Ад цэзію гібей!

Сухота долу гне
Ды ветраны павеў.
Паглянь жа на мяне,
Як рана я ссівеў.

Гаркавую сліну
Каўтаю безліч дзён.
Упаду і спачну! —
Расою плача ён.

Ў адказ гудзе худы,
Цыбаты зверабой:
— Занесла нас сюды
Вятрыстаю гульбой!

Тут чалавечых ног
Мне чуецца цяжар.
Увесь трымчу, знямог,
Кідае ў пот і ў жар.

Садраны глебы пласт,
Адзін пусты пясок.
Атрута поіць нас,
А не гаючы сок.

Два ўцешнікі-сябры
Па ласцы долі злой.
Шапочуць у двары
Палын і зверабой.

А сціхне шчабяток
Ў застрэшшы вераб'я,
П'юць памяці глыток —
У кожнага свая.

Сцінаецца палын,
Шчэ гнецца больш у крук,
Бо ведае адзін,
Чаго не знаў сябрук:

Як дралі карані
І гналі з поля прэч,
Палілі на агні
І не жадалі стрэч.

І крыўды гарката
Напоўніла сцябло:
«Дзе смерць ды немата —
Прыстанішча й было!»

Як светла аб былым
Успомніць зверабой:
Схіляліся над ім
З шаптаннем, варажбой.

Абы прыйшла вясна —
Як самы гойны лек
Яго чакаў здаўна
Збалелы чалавек.

Ён піў густы настой
І дужаў, уставаў,
З зацятасцю крутой
Палын на полі рваў.

Які мярцвячы сон
Змог хаты агаліць?
Куды падзеўся ён
І што яму баліць?

# «ЛІТАРАТУРУ НЕМАГЧЫМА НЕ ЛЮБІЦЬ»



**— Таццяна Пятроўна, што паўплывала на Ваш выбар стаць настаўнікам менавіта беларускай мовы і літаратуры?**

— Думаю, перш за ўсё — любоў да чытання. У мае школьныя гады, калі здаралася вольная хвіліна, гэта быў амаль адзіны занятак вясковай дзяўчынкі. І хаця кругагляд літаратурны я мела даволі шырокі, аднак больш цягнула менавіта да беларускіх твораў. У гэтым, канешне, заслуга і нашай настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Ганны Іванаўны Сікоры, ад якой нам перадаліся любоў і пашана да роднага слова. Ну а калі я пачала ўжо па-сапраўднаму цікавіцца творчасцю айчынных паэтаў і празаікаў, то канчаткова зразумела, што такую літаратуру немагчыма не любіць: яна ж дала свету столькі слаўных імёнаў, якімі мы ганарыліся і будзем ганарыцца. Гэтая схільнасць і падштурхнула мяне да выбару прафесіі.

**— Якія ж творы беларускіх пісьменнікаў Вам спадабаліся найбольш? Каго з іх нават цяпер хочацца перачытваць яшчэ і яшчэ?**

— Я вялікая прыхільніца прозы другой паловы XX стагоддзя. Школьніцай не магла адарвацца ад «Дзікага палявання караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча, у свой час зачытвалася Іванам Шамякіным. Сённяшнім школьнікам вельмі параіла б прачытаць лірычныя замалёўкі-эсэ Янкі Брыля. Што яшчэ... «Жар кахання» Генрыха Далідовіча — вельмі прыгожа напісана.

**— А як вы, настаўнік са значным працоўным і жыццёвым вопытам, адносіцеся да цяперашняй школьнай праграмы па беларускай літаратуры? Як-ніяк, яна Ваш хлеб надзённы, і Вы, я лічу, як ніхто іншы можаце ацаніць яе станоўчыя і адмоўныя бакі.**

— Адразу хочацца звярнуць увагу на перагружанасць праграмы ў 11-м класе. Успрыняць і глыбока засвоіць тое, што выкладаецца сёння нашым выпускнікам, у поўным аб'ёме проста немагчыма. Беларуская, у яе кантэксце замежная, ды яшчэ не меней складаная праграма рускай літаратуры — і гэта ўсё павінна прачытацца вучнямі, якім самы час рыхтавацца да ўступных экзаменаў! На маю думку, такія творы, як «Тутэйшыя» Янкі Купалы, «На ростанях» Якуба Коласа, «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага, — гэта ўсё варта было б перанесці ў 10-ты клас і такім чынам удзяліць больш увагі Мележу, Шамякіну, Быкаву, Караткевічу, беларускай паэзіі. А ў 10-м дзеля такіх значных аб'ёмных твораў знайсці пэўную колькасць гадзін за кошт не дэталёвага, а толькі агляднага вывучэння старажытнаславянскай, а таксама замежнай літаратуры эпохі Рэнесансу. З уласнага вопыту ведаю, што яна ўспрымаецца вучнямі непрыхільна, бо такія тэмы часцей ператвараюць урок у гістарычны агляд нашага мінулага, што павінна рабіцца і робіцца дзецьмі ўласна на ўроках гісторыі. Напрыклад, на тое ж «Слова пра паход Ігаравы» адведзена адна гадзіна, хаця, па-першае, за гэты час наогул наўрад ці можна данесці да вучняў ягоны змест, я ўжо не кажу пра характарыстыку герояў і месца гэтага твора ў патрыятычным выхаванні

---

***Чарнушэвіч Таццяна Пятроўна*** *нарадзілася ў вёсцы Алашкі Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. У 1982 годзе скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Выкладала беларускую мову і літаратуру ў СШ № 153, потым — у СШ № 72, з 1991 года — у СШ № 137 імя П. М. Машэрава г. Мінска.*

моладзі; а па-другое, гэты помнік старажытнасці дэталёва разбіраецца ў праграме рускай літаратуры, па ім нават сачыненне пішуць. Зусім невялікі ўрывачак прапануецца з «Боскай камедыі», і ён для разумення твора, мяркуйце самі, нічога не дае. А як можна за адну гадзіну пазнаёміцца з «Панам Тадэвушам» Адама Міцкевіча, ды яшчэ па тым да немагчамасці скарочаным матэрыяле, што ў падручніку? Ці яго трэба зняць з праграмы зусім, ці адвесці на вывучэнне болей часу. Ды і наогул, усю такую літаратуру лепей падаваць школьнікам у лекцыйнай форме. У той жа час не было б шкодным больш дэталёва вывучаць з імі жыццё і дзейнасць вялікіх асветнікаў Скарыны і Гусоўскага, якія сапраўды стаялі ля вытокаў не проста нашага роднага слова, але і ўвогуле нацыянальнай самасвядомасці. У астатнім жа патрабаванні сучаснай праграмы мяне задавальняюць.

**— А ў Вас ніколі не ўзнікала пытання, якія творы варта ўсё ж было б вывучаць акрамя ўжо існуючых у падручніку?**

— Такі спіс у кожнага настаўніка будзе свой, і да таго ж бясконцы. Мне, напрыклад, вельмі шкада, што з праграмы выкінулі «Дрыгву» Якуба Коласа: вельмі цікавая аповесць пра легендарнага дзеда Талаша і пра часы белапольскай акупацыі — нічога не сталася б, калі б дзеці пра гэта пачыталі. Яшчэ я б назвала аповесць Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага». Яна то з'яўляецца ў праграме, то зноў некуды знікае. А шкада. Ці ўзяць аповесць «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра. Чытаем пра нейкія там замежныя падарожжы, экзатычныя прыгоды і як бы забылі, што і ў саміх ёсць цудоўны твор такога кшталту.

**— Згадзіцеся, настаўніку сёння найлепей вядомыя адносіны моладзі да літаратуры ўвогуле і беларускай у прыватнасці. Як бы Вы ахарактарызавалі цяперашняе кола літаратурных інтарэсаў юнакоў і дзяўчат, і ці існуе наогул у сучасным асяроддзі школьнікаў любоў да кнігі?**

— Калі казаць шчыра, то чытаюць цяпер мала. Я кажу гэта менавіта пра праграмную літаратуру, якая вывучаецца тым больш туга, чым болей старэйшым становіцца школьнік. Па размовах можна меркаваць, што найбольшым попытам сярод такіх карыстаецца так званае «фэнтэзі». Тлумачу ўсё гэта пераважна юнацкім узростам, і хутка такая літаратура як здабытак масавай культуры перастане быць актуальнай — гэта мой погляд. Але не варта забываць і пра тых, якія з вялікім задавальненнем чытаюць таго ж Караткевіча, Дастаеўскага; якія, не пабаюся сказаць, дзякуючы школьнай праграме адкрылі Мележа і захапляюцца яго героямі; разумеюць і тую праўду аб вайне, якую сказаў нам Быкаў. Але, на жаль, такіх нямнога. Не апошняе месца тут таксама займае і момант папулярнасці пэўнай сацыяльнай з'явы, звязанай з творам. Напрыклад, пасля выхаду на тэлеэкраны серыяла «Ідыёт» сярод моладзі прабудзілася цікавасць да творчасці Дастаеўскага, пасля значнага камерцыйнага поспеху песні «Belle» многія пабеглі ў бібліятэкі за «Саборам Парыжскай Багамаці» Віктора Гюго. Галоўнае, я хачу сказаць, чытаць нікога не прымусіш. Усё выцякае з выхавання, а яно цяпер грунтуецца не на кнізе, а на камп'ютэры. Вось і маюць настаўнікі на ўроках літаратуры тое, што маюць. Таму я і мае калегі з прыемнасцю і ўдзячнасцю ўспрынялі новую рубрыку «Полымя» «Школьны факультатыў». Упэўнена, што яна стане добрай падмогай нам у выкладанні — а дзецям у вывучэнні — тэм сучаснай беларускай літаратуры. Вялікі дзякуй!

**— І Вам, Таццяна Пятроўна, вялікі дзякуй за гэтую цікавую размову і за вашу нялёгкую, але такую патрэбную сённяшняму грамадству справу — выкладанне роднага слова.**

*Інтэрв'ю Аляксея Бруя.*



# «БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў XXI СТАГОДДЗІ. РЭАЛЬНАСЦЬ І ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ»

## *(«Круглы стол» часопіса «Полымя» на філалагічным факультэце БДУ)*

Нярэдка кажуць, што літаратура ў сучасным грамадстве паступова адыходзіць на другі план, саступаючы СМІ, Інтэрнету, кіно. Атрымліваецца, што замест таго каб узбагачаць культуру, сучасныя тэхналогіі збядняюць яе. Сённяшнія школьнікі і студэнты маюць больш магчымасцей для самаадукацыі, у іх распараджэнні больш інфармацыйных крыніц, чым было ў папярэднікаў. Чаму ж духоўная і інтэлектуальная прастора не пашыраецца, а звужаецца?

Відавочна, што ў большасці сваёй сучасныя пісьменнікі адстаюць у адлюстраванні свету ад тых змен, якія ў ім адбываюцца. Хуткасць прагрэсу павялічваецца, паскараецца сам тэмп жыцця. У такіх умовах усё большае месца займаюць кінематаграфічныя спецэфекты, напружанасць і хуткасць дзеяння, а развагам, павольнаму аповеду кніг, стылёвай разнастайнасці і славесным знаходкам застаецца месца ўсё менш.

Мы не можам сказаць, што літаратура перажывае глыбокі крызіс, якога не ведала раней. 90-я гады XX стагоддзя вызначаліся значна большым спадам цікавасці да мастацкага слова. Паступова сітуацыя выправілася, самая чытаючая нацыя зноў вярнулася да кнігі. У гэтым працэсе нельга не аддаць належнае так званай масавай літаратуры. Што б пра яе ні казалі, але ў многім яна вярнула грамадству само паняцце чытання як віду адпачынку. Цяперашняя задача — скіраваць гэтую цікавасць да кніг больш сур'ёзных, прывучыць чытача не толькі прасочваць сюжэт, але і імкнуцца разважаць, супастаўляць, аналізаваць навакольны свет праз кнігі.

Пісьмовае слова са старажытных часоў было крыніцай самых каштоўных, самых глыбокіх ведаў. Далёка не ўсё давяралася паперы, папірусу, пергаменту... Слова паэтычнае, якое мела зародкі рытмікі і рыфмы, лічылася вытокам містычнай энергіі. Колькі гадоў таму многія публіцысты і навукоўцы сцвярджалі, што друкаваныя кнігі адыдуць у нябыт, саступіўшы сваё месца электронным носьбітам інфармацыі. Але час ідзе, а кнігі застаюцца кнігамі.

Якое месца мы адвядзём найбагацейшай духоўнай спадчыне ў свеце? Спадчыне, якую захавалі кнігі. На жаль, вечныя каштоўнасці не карыстаюцца ў моладзі належным попытам. Жыццё мяняецца так хутка, што наша ўвага і памяць не паспяваюць фіксаваць не тое што бытавыя падзеі — сенсацыі. Тое, аб чым стагоддзе таму гаварылі б год, сёння забываецца за некалькі дзён.

Асаблівасць мастацкага мыслення, характэрнага для пісьменнікаў, — уменне бачыць сутнасць рэчаў і ўменне фармуляваць сваю думку. Чытачоў кніг па гэтай прычыне цяжка падмануць з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі.

Як павінна мяняцца літаратура ў падобных умовах? І ці павінна яна наогул мяняцца? З чым беларуская літаратура ўвайшла ў XXI стагоддзе? Якія яе далейшыя шляхі развіцця? На гэтыя пытанні адказвалі ўдзельнікі «Круглага стала»: «Беларуская літаратура ў XXI стагоддзі. Рэальнасць і шляхі развіцця», які адбыўся на філалагічным факультэце БДУ. Супрацоўнікі кафедры сучаснай беларускай літаратуры і культуры, кафедры рыторыкі і методыкі мовы і літаратуры, навукоўцы з Інстытута

літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі і рэдакцыя часопіса «Полымя» абмеркавалі сучасны стан літаратуры і праблемы выкладання яе студэнтам і школьнікам, а таксама праблемы развіцця літаратуразнаўчай навукі.

Ва ўступным слове да ўдзельнікаў «Круглага стала» галоўны рэдактар часопіса «Полымя», паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы **Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі** зазначыў:

*Неабходнасць такога «Круглага стала» даўно наспела. На пераломе стагоддзяў неабходна пагаварыць пра стан беларускай літаратуры і перспектывы яе далейшага развіцця.*

*Сёння, 8 лютага — 85 год з дня нараджэння Івана Мележа. У другім нумары часопіса «Полымя» выходзіць артыкул, прысвечаны гэтай падзеі. Пра універсітэт на станцыі Сходня, пра тое, як развіваўся літаратурны працэс XX стагоддзя. Іван Мележ быў надзвычай яркім прадстаўніком культуры мінулага стагоддзя. Дата знамянальная. Тое, што мы праводзім «Круглы стол» на філалагічным факультэце БДУ, таксама невыпадкова. Самыя значныя літаратурныя сілы, якія працуюць у нашай краіне, выйшлі са сцен універсітэта.*

*Сённяшні дзень літаратуры вельмі трывожны. Мы развіталіся з метадам сацыялістычнага рэалізму. Мы ў пошуку новых форм і новых ідэй. Ёсць пра што падумаць — пра будучае развіцця літаратуры.*

*Што асабліва трывожыць? Адсякаюцца многія з тых традыцый, развіццё якіх і дало нашай айчыннай літаратуры сусветнае гучанне. Ідзе траскуча-астылы фармалізм. Наша літаратура падбірае пазаддзе заходняй. Толькі сваім, родным, мы можам быць цікавыя свету. Імя І. Мележа, якое адухаўляе наша пасяджэнне, вельмі сімвалічна.*

*Мы з трывогай назіраем, што звужаецца ўжытак беларускай мовы. Менш стала любові да сваёй зямлі. Складаецца ўражанне, што мы працуем у рэчышчы нейкіх іншых літаратур.*

*Мы сёння ў пары станаўлення нашай незалежнай дзяржавы, і той падмурак, які мы закладзём, будзе лёсавызначальным для многіх пакаленняў беларусаў.*

*Навучыць любіць літаратуру — гэта задача для ўсіх нас, і ніхто не перакане мяне ў тым, што гэта нельга зрабіць.*

*Хацелася б, каб мы больш усведамлялі, які мы народ. Сёння многае залежыць ад школьных настаўнікаў, ад выкладчыкаў вышэйшай школы. Засмучае тое, што на філфаку мала творчых людзей, што не наследуюцца традыцыі аб'яднання «Узлёт», якое, як я лічу, рыхтавала прафесійных літаратараў. Большая палова нашай рэдакцыі — гэта былыя ўзлётаўцы, філолагі. Дазвольце пажадаць, каб тут, на філфаку, захоўвалася і далей працягвалася гэтая традыцыя выхавання творчых людзей. Таму што так прафесійна падрыхтаваць ні ў якім іншым месцы немагчыма. Прыходзяць да нас аўтары і з іншых галін, але іх шлях у літаратуру складаны, ім даводзіцца прайсці доўгі перыяд вучнёўства.*

*Мы не павінны дазволіць, каб перарывалася сувязь пакаленняў. Кожны з нас можа настроіцца на сённяшнія праблемы, але не так проста стварыць на гэтай аснове спелы мастацкі твор. Магчыма, паэзіі ў гэтым плане лягчэй, прозе цяжэй, бо празаічны твор выношваецца гадамі.*

*З тых дзесяткаў аўтараў, якія пастаянна супрацоўнічаюць з часопісам «Полымя», як мінімум творы дзесяці, несумненна, застануцца ў скарбніцы нашай літаратуры, зоймуць пачэснае месца на паліцах бібліятэк XXI стагоддзя.*

*Мы многае падымаем з учора забароненага, бо ёсць доўг памяці перад тымі, пра каго на працягу дзесяцігоддзяў было шмат чаго недагаворана. Мы друкуем дзённікавыя запісы, мемуары, іншыя цікавыя матэрыялы.*

*Немалаважнае пытанне — адраснасць нашага выдання. Значную ўвагу мы надаём беларускай навуцы, не забываемся і пра школу. Мы бачым, што з многіх праграм выпалі творы, якія ні ў якім разе нельга забываць. Яны былі духоўным компасам папярэдніх пакаленняў. З'явіўся, напрыклад, у нас новы раздзел —*

*«Школьны факультатыў». Яшчэ адна новая рубрыка — «На паверцы — імёны».*

*Цяперашнім часам «Полымя» адкрыта ўсёй Беларусі.*



*Мікола Мятліцкі.*

Людзі адхіснуліся ад рэалізму, ад вострай сацыяльнасці таму, што праблем хапае ў жыцці, і яны, гэтыя праблемы, шырока асвятляюцца СМІ. Значыць, пісьменнік сёння павінен не проста адлюстроўваць жыццё, а ствараць такі малюнак рэчаіснасці, каб кніга зрабілася прыцягальнай.

Існуе праблема чытача, але існуе і праблема героя. Узрастае цікавасць да гістарычных твораў. Магчыма, адна з прычын у тым, што сярод сучаснікаў мы не сустракаем сапраўднага героя, носьбіта гераічных якасцей. Сучасныя характары літаратурных персанажаў у пэўным сэнсе спрошчаныя. Часам яны прыземленыя настолькі, што не могуць быць прыкладам і нават не могуць выклікаць цікавасць праявамі свайго духу, моцнага характару.

З другога боку, рэальнасць настолькі жорсткая, што многім чытачам неабходны адыход ад яе ў казку — у фэнтэзі, фантастыку, у гісторыю. Там захоўваецца менавіта чалавечная шкала каштоўнасцей, мала рэлятывізму, і дабро застаецца дабром, а зло — злом.

Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык аддзела тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі **Міхаіл Аляксандравіч Тычына** засяродзіў увагу на гэтым аспекце ўспрыняцця сучасных літаратурных твораў — адлюстраванні жыцця літаратурай сённяшняга дня праз прызму каштоўнасцей, напрацаваных пакаленнямі.

*Калі не чытаеш сучасную паэзію, прозу, то не разумееш у поўным аб'ёме і класіку. Мы кажам, што ёсць праблемы з чытачом. Але адна справа — масавы чытач, а другая — чытач зацікаўлены, які знаёміцца з кнігай для свайго ўнутранага росту. Ён звяртае ўвагу і на тэму твора, і на сюжэт, і на стыль. Шукае адказы на вечныя пытанні і выйсце з паўсядзённых праблем, абапіраючыся на вопыт літаратурных герояў. Мы на філфаку якраз маем справу з такім уважлівым, зацікаўленым чытачом.*

*Менавіта студэнты падказалі, што варта прачытаць раман Андрэя Федарэнкі «Рэвізія». Я прачытаў. Раман пакідае вельмі добрае ўражанне. Федарэнка — адзін з лепшых празаікаў апошняга «прызыву». Адзіны клопат: ці не ўсё ён ужо выказаў, што хацеў? Але адчуваецца, што яму яшчэ ёсць пра што сказаць.*

*Звяртае на сябе ўвагу мова твора. У мове заўсёды заўважаюцца змены ў адносінах чалавека да свету. Асабліва — калі супаставіць мову старэйшых і маладзейшых, а таксама перакладныя творы. Вонкава падаецца, што і ў арыгінальных творах, і ў перакладных адна і тая ж лексіка, сінтаксіс, але ў інтанацыях, настроі адрозненні заўважаюцца. Часам здзіўляе: пра звычайныя ж рэчы чалавек піша, але чаму яны захапляюць? Гэта іншае жыццё, чужыя рэаліі, але ёсць у такіх творах нешта, што захапляе нас, уцягвае, нібы ў вір. Можа, таму, што лепшыя перакладныя творы гавораць пра чалавечае ў чалавеку. А нас то ў палітыку цягне, то яшчэ некуды, і тады ўзнікае ўнутранае адштурхоўванне ад працэсу чытання.*

*Чытаючы А. Федарэнку, я адчуваю, як ён вядзе мяне, прычым вядзе на глыбіню. Не на мяльчак, а ў марскую прастору. Яму лёгка, свабодна там, дзе адчуваюцца жыццёвыя, гістарычныя, нацыянальныя глыбіні.*

*Характэрна: твор «Рэвізія» пачынаецца сцэнай, якую варта было б апісваць нарысісту. Сцэна амаль дакументальная — сустрэча «Тутэйшых». Цікавае ўражанне ствараецца: многіх пазнаеш, пра многіх чуў. Адразу нараджаецца цікавасць: а што гэта за новае пакаленне прыйшло ў літаратуру, куды яно нас павядзе?*

*Галоўны герой Ведрыч апісваецца з сімпатыяй. Гэтага героя (яго прататып Анатоль Сыс) цікавіць самае глыбіннае, без чаго жыццё траціць сэнс. Тое, што знаходзіцца на глыбіні і вырашае ў рэшце рэшт ход гісторыі, — гэта «глыбокая плынь» (мяне заўсёды захапляла надзвычай удалая назва першага рамана Івана Шамякіна) — плынь нацыянальнай душы. Як бы ні распарадзілася жыццё, што б ні мянялася, але застаецца гэта глыбокая плынь. Яна акрэслівае шлях развіцця нацыі. Менавіта глыбокая плынь не дазваляе нам кідацца з крайнасці ў крайнасць. Ідэі, якія сёння актуальныя, без яе хутка састарэюць.*

*Ведрыч адчувае, як сённяшняе і ўчарашняе мяняецца месцамі...*

*Дарэчы, цікавы момант. Я б перакінуў сучаснага героя ў пачатак XX стагоддзя, калі ўсё толькі пачыналася. Так, у 20-я гады быў пэўны пералом, але выток сучаснага літаратурнага працэсу мы знаходзім хутчэй на пачатку мінулага стагоддзя.*

*А. Федарэнку больш цікавіць сацыялагічны бок нашай гісторыі. Мінулае ўплывае на ўсё, што сёння адбываецца.*

*Мова А. Федарэнкі традыцыйная. Яе лепш супаставіць з мовай Максіма Гарэцкага. Адчуванне сённяшняга дня вельмі глыбокае — таму раман сучасны. Песімістычны зыход падзей, верагодна, таксама з'яўляецца прыкметай нашага часу. А. Сыс ціха сышоў з арэны, зрабіўшы, што мог.*

*Моладзь шмат эксперыментуе. Інфармацыйны выбух зразумелы. Усё ж мы былі доўгі час адгароджаны ад свету. Тут маладому чалавеку зрабіць выбар могуць дапамагчы выкладчыкі, даследчыкі, прафесіяналы. Але мастацкае мысленне маладых мне падабаецца. Моладзь крытычна пераасэнсоўвае свет. Самі студэнты прыносяць самадрукі, у іх ідзе пошук мовы (іранізмы) — відаць, што чалавек у пошуку. А далей яны добра ўпішуцца ў нашу традыцыю. Адбываецца сутыкненне моўных стыхій — традыцыйнай і больш гарадской, еўрапеізаванай. Але ў гэтым сутыкненні нараджаецца нешта новае.*

Ісці да нечага новага, чаго не было раней, ці рухацца ў рэчышчы традыцыі — гэта асабісты выбар кожнага пісьменніка. Але важна адчуваць мяжу, каб быць сучасным і ў той жа час зразумелым. Прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры **Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў** у сваім выступленні закрануў тэму традыцыі і наватарства ў творах сучасных пісьменнікаў.

*Я заўсёды вельмі ўважліва чытаю літаратурную перыёдыку, таму і хачу звярнуць увагу на тыя творы апошняга часу, якія застаюцца ў памяці і пакідаюць пэўнае ўражанне.*

*Спачатку назаву раман «Літоўскі воўк» Алеся Наварыча. Твор, які сапраўды мяне ўразіў. Ён ужо атрымліваў самыя высокія ацэнкі чытачоў, але тое-сёе ўсё ж засталося па-за ўвагай. У нас ёсць пісьменнікі, традыцыі якіх вельмі плённа працягваюцца ў літаратуры. Гэта Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч. Яны маюць вельмі шырокі розгалас. Асабліва адзначаюцца ў апошні час творы гістарычныя, творы, так бы мовіць, караткевічаўскага накірунку.*

*У А. Наварыча заглыбленасць у гісторыю, гістарычная праўда выходзяць на першы план, тым самым далучаючы яго да традыцыі У. Караткевіча. Мы бачым прамы працяг традыцыі, часам свядомую пераклічку з Караткевічам у канцэптуальным падыходзе, у імкненні раскрываць нашу гісторыю, шанаваць яе.*

*Можна сказаць дакладна: мы не тая нацыя, якая забылася на сваю гісторыю і таму не мае будучыні. Чытач нашага дня жадае дакрануцца да роднай гісторыі, і творы такія запатрабаваныя. «Літоўскі воўк» асабліва ярка вылучаецца сярод іх.*

*Наступны твор, які я хацеў бы назваць, — гэта кніга Людмілы Рублеўскай «Пярсцёнак апошняга імператара». Аўтар з тых пісьменнікаў, якія ў апошні час пачынаюць упэўнена набіраць моц. І «Пярсцёнак апошняга імператара», і «Залата забытых магіл» — творы выдатна напісаныя. Там таксама ёсць апора на караткевічаўскую традыцыю, аднак не на традыцыю раманаў пра Кастуся Каліноўскага, а на дэтэктыўныя творы. Заслуга Рублеўскай у тым, што яна можа адначасова і захаваць усе каноны дэтэктыўнага жанру і ў той жа час застацца арыгінальнай.*

*З прыемнасцю асабіста я чытаю і творы Юрыя Станкевіча — сучасны, цікавы празаік.*

*Яшчэ раз хачу падкрэсліць: у нас ёсць сапраўдная літаратура еўрапейскага ўзроўню. Стварэнне такой літаратуры — адно з нашых галоўных дасягненняў. І добра, што часопіс «Полымя» падтрымлівае традыцыйныя творы, якія арыентуюцца на ўзоры высокай класікі, і ў той жа час не забываецца пра тэмы і праблематыку, якія цікавяць нашых сучаснікаў.*

Што тычыцца «модных жанраў», то, на жаль, часта тое, што падаецца як постмадэрнізм, на самай справе аказваецца звычайным кічам. Прычым падобная карціна назіраецца не толькі ў беларускай літаратуры, а і ў літаратуры сусветнай. Многія беларускія аўтары імкнуцца хутчэй «засвоіць» постмадэрнізм. Але пакуль ніхто з айчынных літаратараў не дасягнуў узроўню Умберта Эка і Міларада Павіча, хоць сустракаюцца цікавыя мастацкія рэчы. Відаць, для стварэння высакаякаснай літаратуры ў мадэрнісцкіх нерэалістычных жанрах трэба мець асаблівы талент — талент спалучаць нязвыклую форму з неардынарным зместам. Акрамя таго, постмадэрнізм — гэта ўсё ж літаратура, створаная ў багатых, запанелых краінах, да якіх Беларусь, натуральна (і дзякуй Богу!), не адносіцца.

**Лада Віктараўна Алейнік**, кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ, вядомы аўтар лімаўскіх аглядаў, сур'ёзна распрацоўвае пытанне сучаснай літаратурнай сітуацыі на Беларусі.

*Сітуацыя, якая склалася сёння ў беларускай літаратуры, — гэта сітуацыя парадокса. На паліцах у кнігарнях — мноства выданняў, прыналежных да самых розных жанраў, формаў, стыляў і г. д. Побач з кнігамі класікаў — Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа і Янкі Брыля — нямала твораў так званых «авангардных» накірункаў Зміцера Вішнёва, Іллі Сіна, Альгерда Бахарэвіча, Вальжыны Морт і інш. Але, відавочна, колькасць выданняў ніяк не павялічвае колькасць чытачоў. У чым жа праблема? Ніяк не магу пагадзіцца, калі чую нараканні на адсутнасць у сучаснай літаратуры твораў з цікавымі сюжэтамі, захапляльнымі перыпетыямі, абвостранай эмацыянальнасцю і «жывым» словам. Бо яны, несумненна, ёсць. Толькі сярод празаічных узораў, якія пабачылі свет у XXI стагоддзі, навідавоку нямала выдатных твораў, якім уласцівы ці ўсе пералічаныя якасці адразу, ці большасць з іх. Гэта аповесці і раманы Людмілы Рублеўскай «Пярсцёнак апошняга імператара», «Сэрца мармуровага анёла», «Золата забытых магіл», «Скокі смерці» і інш.; раман «Рэвізія» і арыгінальнае эсэ «З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці» Андрэя Федарэнкі; кніга Юрыя Станкевіча «Апладненне ёлупа»; раман Алеся Наварыча «Літоўскі воўк»; кніга «Незламаная свечка», раман «Мінск і воран, Парыж і здань» Анатоля Казлова; зборнік апавяданняў і эсэ «Азярод» Сяргея Рублеўскага; раман «Дом» Адама Глобуса; кніга «Камендацкі час для ластавак» Алены Брава і... гэты пералік яшчэ можна доўжыць.*

*Але з упэўненасцю можна сказаць, што нават гэтыя, найбольш выбітныя творы, вядомыя толькі ў даволі вузкіх колах «прафесійных» чытачоў — пісьменнікаў, крытыкаў і літаратуразнаўцаў, студэнтаў філалагічнага профілю.*

*На старонках вядучага беларускага літаратурна-мастацкага выдання, часопіса «Полымя», вядзецца шэраг цікавых рубрык: «На паверцы — імёны»,*



*Роза Станкевіч і Міхась Мушынскі.*

*«Школьны факультатыў», друкуецца шмат крытычных і літаратуразнаўчых матэрыялаў, вельмі патрэбных і карысных у школьнай працы. Але ці ведаюць пра гэта настаўнікі?*

*У сеціве, на сайце litara.net. адбылася дыскусія, якая закранула якраз гэтыя пытанні: якімі шляхамі і сродкамі магчыма папулярызаваць айчынную літаратуру? Адзін з удзельнікаў форуму зрабіў шэраг «канкрэтных» прапаноў, сярод якіх былі такія:*

*— стварыць у рэдакцыях адпаведныя службы, якія будуць вывучаць попыт і водгукі на тыя ці іншыя жанры, на творчасць таго ці іншага аўтара, якія будуць прагназіраваць і адсочваць дынаміку тыражоў;*

*— стварыць аддзел маркетынгу, у якім мусяць працаваць не пісьменнікі, а бізнесоўцы, прафесіяналы сваёй справы. Яны возьмуцца рэкламаваць беларускія творы праз усе магчымыя сродкі масавай інфармацыі, дамагацца самаакупнасці часопісаў;*

*— стварыць інстытут літаратурных агентаў, як ва ўсім цывілізаваным свеце, — для таго, каб пісьменнік не хадзіў кланяцца і прыніжацца перад рэдактарамі, а ўладкоўваў ягоныя творы зноў жа прафесіянал;*

*— і самае складанае: знайсці моцных дзелавітых людзей, здольных за ўсё гэта ўзяцца...*

*Адказ, які адразу быў дадзены на гэтыя прапановы іншым удзельнікам дыскусіі, адназначны: «Праграма настолькі ж цікавая, як і неажыццявімая».*

*І сапраўды, гэтыя радыкальныя дзеянні немагчыма ажыццявіць у адначассе. А вось пэўныя захады, абсалютна рэальныя, па рэкламаванні выдавецкай прадукцыі, магчыма зрабіць ужо сёння. Напрыклад, наладзіць анансаванне літаратурна-мастацкіх часопісаў у перадачы «Добрай раніцы, Беларусь!» Між іншым, даволі часта ў гэтай перадачы выступаюць прадстаўнікі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Праўда, яны вядуць рэй у асноўным пра ўласную «бліскучую» пра-*

*цу — дэманструюць шыкоўныя (падарункавыя) выданні ў прыгожых вокладках, дзеляцца перспектыўнымі планамі і г д.*

*Сёння навідавоку поўная адсутнасць рэкламы нацыянальных літаратурных набыткаў. Адкуль жа шараговаму абывацелю магчыма даведацца пра кніжныя навінкі, пра тое, што «пагартаць»? Між іншым, хаця б у нейкіх пэўных перадачах мажліва было б рабіць спробы своеасаблівай прапаганды. Прыгадваецца нядаўні выпадак з асабістага вопыту, як уздзейнічае на свядомасць рэклама. На беларускім тэлебачанні працяглы час дэманстраваўся рэкламны ролік французскага мастацкага фільма «Імперыя ваўка» (з Жанам Рэно ў галоўнай ролі). Мільгалі яркія, інтрыгуючыя кадры. На іх фоне гучаў тэкст з прыкладна такімі ключавымі словамі: вострасюжэтны, містычны, загадкавы, скандальны, самы «касавы» і г. д. Пад прымусам уласных дзяцей (шчыра сказаць, і сама была заінтрыгавана не ў малой ступені) наведала кінатэатр. Уражанне? Шараговы, абсалютна трывіяльны і распаўсюджаны ў апошні час сурагат «баевіка», містычна-дэтэктыўнага трылера са спецыфічнымі «рэлігійнымі» адгалінаваннямі. Але ж народ у кінатэатры валам валіў на прагляд гэтага «шэдэўра» сучаснага заходняга кінематографа. Для мяне гэта стала яшчэ адным вельмі паказальным прыкладам, як спрацоўваюць механізмы рэкламы і камерцыйнай прапаганды. Пасля прагляду гэтага фільма (відаць, па ідэнтычнасці ключавога слова ў назве) мне прыгадаўся раман Алеся Наварыча «Літоўскі воўк». Нават аддалена падобная рэклама — прадэманстраваць вокладку кнігі ды прывесці вытрымку з тэксту (думаю, самы пачатак, літаральна два першыя абзацы або цудоўна складзеную анатацыю) — і кнігу змялі б з паліцаў у кнігарнях.*

*А якую выдатную экранізацыю магла б займець аповесць Анатоля Казлова «Дзеці ночы»! Гэта на самай справе вострасюжэтны твор з элементамі містыкі, дзе галоўная праблема датычыцца жыцця сучаснай моладзі, разнастайных падлеткавых груповак. Упэўнена, у гэтай аповесці было б многа чытачоў, каб была адпаведная рэклама.*

*На вялікі жаль, беларускае тэлебачанне нібыта наўмысна абыходзіць увагай айчынны «літаратурны прадукт». Як чакаўся мастацкі фільм па кнізе Андрэя Федарэнкі «Шчарбаты талер»! І вось я з прыкрасцю даведалася, што ён ужо прайшоў па тэлебачанні. Фактычна не было анонсаў, не было рэкламы, таму і прапусціла... Вельмі шкада. Аповесць напісана насамрэч таленавіта, па ўласных дзецях ведаю, з якім захапленнем чытаюць яе падлеткі, цікава было б параўнаць экранізацыю з мастацкім тэкстам...*

*Дарэчы, творчасць Андрэя Федарэнкі ўвогуле заслугоўвае асаблівa пільнай увагі. Свае меркаванні пра літаратуру, пра тэмы, праблемы і сэнс літаратурнай творчасці, пісьменнік часта выкладае менавіта ў мастацкіх творах. Гэта заўважылася яшчэ ў яго кнізе «Гісторыя хваробы» (1989) і выразным лейтматывам прайшло ў рамане «Рэвізія» (2004). У апошнім творы аўтар сапраўды наладзіў адменную рэвізію нацыянальнага краснага пісьменства. Шмат у думках мастака супярэчлівага, шмат слушнага і пераканаўчага. Ды ўсё гэта яшчэ і аздобленае ў вельмі арыгінальны сюжэт! Але не выпадае сказаць, што раман шырока вядомы. Ізноў, толькі ў вузкіх літаратурных колах...*

*І пра многія іншыя айчынныя творы прыходзіцца гаварыць ва ўмоўным ладзе, бо яны проста не вядомыя масаваму чытачу.*

*Наколькі б пашырылася кола прыхільнікаў творчасці Людмілы Рублеўскай, калі б прагучалі анонсы яе кніг па тэлебачанні. Гэта ж якраз масавая літаратура — дэтэктыўна-меладраматычныя сюжэты, у цэнтры якіх гісторыі сучасных Папялушак. Праўда, у адрозненне ад расійскіх узораў (напрыклад, твораў Таццяны Усцінавай, у якой Папялушкам шанцуе пераважна на алігархаў), у кнігах беларускай пісьменніцы навідавоку і нацыянальны каларыт, і гістарычныя адгалінаванні, і рознага кшталту ментальная атрыбутыка, і галоўнае — зло, чэр-*

*ствасць, меркантыльнасць, эгаізм заўсёды застаюцца пераможанымі духоўнасцю і дабром, а не ўладай і грашыма. Гэта абнадзейвае.*

*Карацей, выснова вельмі простая. Паспрабаваць найперш наладзіць анансаванне літаратурна-мастацкіх часопісаў і мастацкіх твораў на тэлебачанні. Гэтыя захады павінны быць зроблены «на ўзроўні» не менш як галоўных рэдактараў, бо прапановы «парламентарыяў ніжэйшага рангу», як вядома, часцей за ўсё «павісаюць у паветры».*

*А ўрэшце, і самі пісьменнікі не павінны «спаць у шапку». Паглядзіце, як сёння «піяраць» сябе беларускія музыкі! Якую перадачу ні ўключы (маю на ўвазе забаўляльныя, т. зв. «папулярныя» або «высакарэйтынгавыя») — «Вкусное утро», «Большой завтрак», «Светская хроника», «Дела семейные», — у большасці з іх задзейнічаны менавіта айчынныя музыкі. Тут яны і вараць, і параць, і даюць парады, як трэба выхоўваць дзяцей... Паралельна ідзе нязмушаная гаворка пра іх «творчасць». Каго з беларускіх пісьменнікаў тэлебачанне «рве на часткі» запрашэннямі? Нікога. То, відаць, наспеў час пераадолець сціпласць (якасць, безумоўна, ухвальную, але не заўсёды апраўданую), славутую цярплівасць ды памяркоўнасць і самім крыху парупіцца... калі не пра сябе, то пра будучыню нацыянальнай літаратуры.*

Сітуацыю з прапагандай беларускай літаратуры, як класічнай, так і сучаснай, каменціруе галоўны рэдактар часопіса «Полымя» **Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі**:

*Прапаганда айчыннай літаратуры на сённяшні дзень справа складаная. На жаль, нямала ў нас чыноўнікаў, якія па абавязку службы прывыклі гаварыць высокія словы пра любоў да бацькаўшчыны, пра веліч нашай нацыянальнай культуры, але яны забываюцца пра гэта, як толькі пакідаеш іх кабінет. Небяспечная абстаноўка склалася ў нашым грамадстве — размежаванне: адны пайшлі гуманітарнай дарогай, другія — тэхнакратычнай. Сёння мы павінны вучыць моладзь сапраўды шчыра любіць наша роднае. Нядаўна аналагічны «Круглы стол» мы праводзілі ў БНТУ, гутарка ішла пра выкладанне гісторыі ў тэхнічных ВНУ. Што вельмі засмуціла — студэнты, якія паступаюць туды, пытаюцца часам: а навошта нам зноў вучыць гісторыю, мы вучылі яе ў школе? Адказ быў вельмі просты: бо са сцен ВНУ чалавек ідзе працаваць не толькі на прадпрыемствы. Многія стануць кіраўнікамі, палітыкамі, дыпламатамі. Як яны змогуць кіраваць жыццём свайго народа, не ведаючы культуры і гісторыі?*

*Наш народ творчы, пішучы, але літаратура апошнім часам ператварылася ў нейкую самадзейную справу. Давайце засяродзім увагу на такой праблеме, як дэвальвацыя мастацкага слова. Камерцыйныя друкарні выдаюць кнігі паэзіі, прозы, нават перакладаў, але створаны яны нярэдка на вельмі нізкім мастацкім узроўні. І такія кнігі стаяць на паліцах побач з нашымі класікамі.*

*Мы з гэтым судакранаемся. Не часта сёння сустрэнеш асцярожнае абыходжанне са словам. Чалавек прыходзіць у рэдакцыю і заяўляе : «Я прынёс вам свае тэксты». Менавіта так — тэксты. Мала хто гаворыць пра творы. Пра літаратуру як твор мастацтва. Літаратура зраслася з камп'ютэрам. Яна пішацца, кляпаючы па клавішах. Сродак інфармацыйных зносін умяшаўся ў творчы працэс.*

*І ўсё ж ва ўсім гэтым моры самай разнастайнай друкаванай прадукцыі ёсць выданні, якія адстойваюць літаратуру як від мастацтва. Мы лічым сваім абавязкам захоўваць і падтрымліваць тое высокае, што існуе ці толькі нараджаецца на прасторах Беларусі.*

Член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі **Міхаіл Іосіфавіч Мушынскі** ў сваім выступленні скіраваў увагу перш за ўсё на праблемы сучаснага літаратуразнаўства. Робіцца вялікая справа, але ці запатрабаваныя грамадствам яе вынікі? Тут мы зноў сутыкаемся з адсутнасцю рэкламы, інфармацыі аб новых выданнях, апошніх распрацоўках.

*Папярэднія выступоўцы адзначалі, што пісьменнікам старэйшага пакалення цяжка перайсці на тэмы сённяшняга дня. Перабудаваць сваё светабачанне, светаўспрыманне нялёгка. Моладзь апярэджвае ў гэтым, і добра, бо ў моладзі іншае бачанне. Сучасны малады пісьменнік, калі ён сапраўдны пісьменнік, — чалавек шырока адукаваны, які ведае і сваю спадчыну, і сучасную замежную літаратуру, прычым з першакрыніц. Тое ж самае трэба сказаць пра даследчыкаў. Мяне заўсёды вельмі ўсцешвае, што многія маладыя людзі цяпер ведаюць замежныя мовы, чытаюць на іх і ў працэсе аналізу выкарыстоўваюць новыя метадалагічныя падыходы. Між іншым, я звярнуў увагу на тое, што раней мы не раздзялялі крытыку і літаратуразнаўства. Цяпер такое раздзяленне ёсць. Літаратуразнаўства развіваецца асобна, а літаратурная крытыка існуе не ў яго межах.*

*Аслабла літаратурная работа ў Саюзе пісьменнікаў. Трэба надаваць больш увагі бягучаму літаратурнаму працэсу, мала водгукаў на новыя творы. Нельга не закрануць і пытанне семінараў, якія раней былі частай з'явай, у тым ліку — семінары крытыкаў, куды прыцягвалася моладзь. Існавала асяроддзе, кола, у якім кожны мог знайсці адказы на свае пытанні, выказаць сваю думку. Трэба было б актывізаваць работу секцыі крытыкі.*

*У прапагандзе літаратуры, дарэчы, немалая заслуга сёння належыць беларускаму радыё. Н. Гальпяровіч, Г. Шаблінская, іншыя супрацоўнікі радыё цікава і грунтоўна знаёмяць чытачоў з тым, што варта было б пачытаць, аднак, калі я слухаю штодзённы агляд прэсы, не чую я там узгадак пра лімаўскія артыкулы. У штотыднёвіку ёсць надзённыя, праблемныя артыкулы, але тычацца яны ў большасці мастацтва, літаратуры, мо таму пакідаюцца па-за ўвагай, саступаючы навінам палітычным.*

*Наступнае пытанне, вартае самага сур'ёзнага разгляду, заключаецца ў тым, што створаны міф, нібыта сёння назіраецца перавытворчасць спецыялістаў-гуманітарыяў. Пакуль што гэты міф не развенчаны, бо існуе ён на самых высокіх узроўнях. Але ў рэальнасці ніякай перавытворчасці няма. Наадварот, высокаадукаваных кадраў у галіне літаратуразнаўства ў нас яшчэ вельмі мала. Мне хацелася б, каб і «ЛіМ», і «Полымя» дапамаглі актыўным словам абараніць прэстыж гуманітарнай навукі, яе вялікае грамадскае значэнне, яе ролю як фактара патрыятычнага выхавання. У прыватнасці, такой падтрымкай могуць быць нават водгукі на цікавыя дысертацыйныя працы.*

*Аб тым, што літаратуразнаўства не нейкая адцягненая ад жывога літаратурнага працэсу навука, сведчыць, напрыклад, той факт, што ў нас абаранялася нядаўна дысертацыя і на абароне прысутнічала Р. Баравікова. На іншых абаронах прысутнічалі А. Дудараў, Я. Сіпакоў. Абарона дысертацыі — гэта падзея, падзея не толькі для навукі, але і для літаратуры, калі дысертацыя прысвечана актуальнай гісторыка-літаратурнай тэарэтычнай праблеме або сучаснаму літаратурнаму працэсу. І гэта падзея для пісьменніка, чыя творчасць была глыбока і сур'ёзна даследавана маладым навукоўцам. Мне думаецца, што немалую цікавасць выклікалі б водгукі на такія абароны ў чытачоў штотыднёвіка «ЛіМ».*

*Навукоўцы — не толькі даследчыкі, але і прапагандысты літаратуры. Іх вопыт, іх веды і захапленне літаратурай, якую яны абралі тэмай свайго даследавання, трэба выкарыстоўваць.*

*Існуе ў беларускім друку таксама праблема з рэцэнзаваннем навуковых прац. Наша выданне «Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.» у 4 тамах, на жаль, пакуль не атрымала разгорнутай грунтоўнай ацэнкі. Тое ж і з першым поўным зборам твораў Янкі Купалы ў 9 тамах. Многія з органаў друку не адгукнуліся належным чынам на гэтыя выданні. Я чакаў-чакаў і, нарэшце, вымушаны быў як кіраўнік праекта напісаць разгорнуты справаздачны артыкул. Гэта не тое, чаго мы хочам. Не павінны даследчыкі самі пра сябе пісаць і самі прапагандаваць сваю працу.*

*Цяпер мы рыхтуемся да выдання збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах.*

*Ёсць прапанова: давайце надрукуем план-праспект выданняў. Магчыма, многія зацікавяцца. Дарэчы, нярэдка бывае і такое: калі кніга ўжо выйшла, знаходзіцца многа ахвотнікаў сказаць: «А вось гэта вы не надрукавалі». Дзе ж былі вы раней? У нашым інстытуце праводзіцца вялікая праца ў галіне даследавання гісторыі беларускай літаратуры, і мне б хацелася, каб раздзелы гэтай працы таксама абмяркоўваліся. У нас багата ўнутраных рэзерваў, нямала магчымасцей, але як арганізаваць працу пастаянных секцый? Нам трэба надаваць больш увагі арганізацыйнай працы і, зразумела, вынікі яе павінны асвятляцца, бо яны цікавыя.*

*Трэба, відаць, актыўна ісці ў маладзёжную аўдыторыю. Знаходзіць час, наведваць розныя інстытуты. Гэта і будзе прапагандай нашых набыткаў і лепшых дасягненняў айчыннай літаратуры і навукі.*

Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры рыторыкі і методыкі выкладання мовы і літаратуры БДУ **Ніна Барысаўна Рашэтнікава** прысвяціла сваё выступленне праблеме выкладання беларускай літаратуры ў школе.

*У сваім уступным слове Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі закрануў пытанне пра змест школьнай літаратурнай адукацыі. У сувязі з гэтым я хацела б звярнуць увагу шаноўнага спадарства на наступныя праблемы выкладання беларускай літаратуры ў сярэдняй школе.*

*Сітуацыя складваецца такім чынам, што вучэбны прадмет «беларуская літаратура» паступова становіцца ў школе другасным. Сярод прычын — рэзкае скарачэнне гадзін на выкладанне прадмета (амаль удвая), адмаўленне ад абавязковага экзамена ў выпускным класе.*

*А між тым літаратура ў вялікай ступені садзейнічае фарміраванню асобы, яе светапогляду. У перспектыве развіцця адукацыі цэнтральнае месца будзе належаць «жывым ведам», якія будуюцца як жывы вобраз, жывое слова, жывы рух, а не мёртвае механічнае дзеянне.*

*Жывыя веды будуюцца на сувязі адукацыі, навукі і мастацтва. Навука, як вядома, расчляняе свет на дробныя аскепкі, якія не кампануюцца ў цэласную карціну. Мастацтва ж захоўвае свет цэласным.*

*Цэнтральнае месца сярод відаў мастацтва належыць прыгожаму пісьменству.*

*Мастацкі вобраз невычэрпны, у ім ёсць напружанне і патэнцыял для росту. Менавіта таму ў стратэгіі развіцця школьнай адукацыі айчыннай літаратуры павінна належаць адно з цэнтральных месц. Як, між іншым, гэта адбываецца ў шматлікіх еўрапейскіх краінах.*

*У асноўным мы пагаджаемся з думкай галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», што на ўроках беларускай літаратуры школьнікі павінны знаёміцца з класічнымі творамі айчыннага мастацтва слова.*

*Гэтая думка прасочваецца ў аўтараў — складальнікаў Праграмы па беларускай літаратуры для IX—XII класаў (павышаны і паглыблены ўзровень): В. П. Рагойшы, Т. І. Шамякінай, Т. В. Кабржыцкай, Н. Б. Рашэтнікавай..*

*Трэба ўлічваць, што антагенез ніколі не супадае з філагенезам. Вучням пачатковых класаў, V—VIII класаў пажадана прапанаваць для вывучэння ўзоры айчыннай і замежнай дзіцячай літаратуры. Неабходна стварыць, перакласці на беларускую мову высокамастацкія творы для дзяцей і пра дзяцей. Важна ўлічваць, што яны ўжо жывуць у XXI стагоддзі. Сёння катастрафічна не хапае твораў беларускай літаратуры на школьную тэму (асноўныя падзеі адбываюцца з падлеткамі ў школьных сценах), прыгодніцкіх апавяданняў, аповесцей. Вось і атрымліваецца, што аповесць М. Лынькова «Міколка-паравоз», якая раней вывучалася ў сярэдніх класах, цяпер вывучаецца ў пачатковай школе. А адпаведных твораў для падлеткаў V—VI класаў няма.*

*Сёння мы маем Праграму па беларускай літаратуры для IX—XII класаў сярэдняй школы (павышаны і паглыблены ўзровень), якая ўвабрала лепшыя дасягненні беларускага літаратуразнаўства, вопыт школьнай практыкі выкладання.*

*Фактычна Праграма і вучэбныя дапаможнікі, створаныя згодна з Праграмай названымі аўтарамі, з'яўляюцца мастом паміж школай і філалагічнымі факультэтамі ВНУ Рэспублікі Беларусь.*

*Супастаўленне гістарычных перыядаў развіцця літаратуры ў вышэйназванай Праграме спалучаецца з акцэнтацыяй на нацыянальныя асаблівасці беларускай літаратуры. Асноўная ўвага вучняў засяроджваецца на спецыфіцы развіцця мастацкай культуры еўрапейскай цывілізацыі, але вучням даюцца і пэўныя ўяўленні пра літаратуру паўднёваазіяцкай і ўсходняй цывілізацый. Школьнік атрымлівае сетку каардынацый гістарычнага развіцця літаратуры і тыпалогіі найбольш буйных гістарычных сістэм.*

*Чалавек XXI стагоддзя павінен быць падрыхтаваным да ўспрымання твораў, заснаваных не толькі на еўрапейскіх культурных архетыпах і мастацкіх нормах. Перавага ўсё ж павінна аддавацца нацыянальнаму.*

Літаратура — вобразнае ўвасабленне сацыяльных, філасофскіх і маральна-этычных праблем.

Пагарда да чытача — тое, што аб'ядноўвае літаратуру так званую «элітарную» і масавую. А сапраўднае мастацтва заўсёды народнае. Бо застаецца тое, што захоўвае народ. Па словах Альбера Камю, у тых, хто піша проста, ёсць чытачы, а ў тых, хто піша складана, — толькі каментатары. Складана пісаць, як ні парадаксальна, лягчэй, чым проста. Лягчэй пісаць, каб было незразумела.

Няма ў літаратуры новых тэм, але варыяцыі зместу і формы бясконцыя. Кожная новая эпоха патрабуе новых герояў, новых канфліктаў і новых сродкаў мастацкай выразнасці.

Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ, вядомы пісьменнік **Аляксандр Іванавіч Бельскі** ў сваім грунтоўным дакладзе прааналізаваў сярод іншага і такое пытанне, як тэматычная скіраванасць сучаснай беларускай літаратуры. Праблемы, што клапоцяць пісьменнікаў, кранаюць і чытача.

*Мяжа стагоддзяў, пачатак новага XXI стагоддзя — час пераходны, па-свойму складаны, у чымсьці супярэчлівы. Склалася новая культурная парадыгма, якая*



*Мікола Мятліцкі, Таццяна Шамякіна, Ніна Рашэтнікава.*

*характарызуецца як сітуацыя постмадэрна. Адбыліся істотныя зрухі ў мастацкай свядомасці, яна прыкметна мадэрнізавалася — гэта бясспрэчна. Сведчанне таму — самы шырокі спектр твораў у розных жанрах. Аднак у значнай ступені змяніліся арыенціры і прыярытэты ў грамадстве, якія часам выключаюць цікавасць да мастацкай літаратуры, попыт на беларускую кнігу. Літаратура ва ўмовах аўдыёвізуальнай экспансіі, распаўсюджвання вірусу маскультуры выцясняецца на перыферыю духоўнага жыцця. Мне здаецца, што гэтая акалічнасць відавочная для нашых пісьменнікаў. І не толькі. Гэта бачаць і разумеюць тыя, хто выкладае літаратуру ў школе, бо стварэнне матывацыі да чытання — адна з важных на сёння псіхолага-педагагічных праблем.*

*Асабіста я не маю сумневу наконт перспектыў беларускай літаратуры, прычым яе разнажанравага і шматаспектнага развіцця. Тут, безумоўна, можна пагадзіцца з крытыкам Д. Бугаёвым, які ў «ЛіМе» (3 лютага 2006 г.) піша: «У нас ва ўсе часы пісалася нямала добрых, праўдзівых твораў. Не збяднела беларуская зямля на сапраўдныя таленты і цяпер. Наша сучасная літаратура таксама годна прадстаўляе Беларусь на еўразійскім кантыненце і ў цэлым свеце». Прыкладаў таму нямала. Гэта проза Быкава, паэзія Разанава, драматургія Дударава... Пералік можна доўжыць. Ну хіба прывяду яшчэ даволі красамоўныя факты з рускамоўнай літаратуры Беларусі. «Чарнобыльская малітва» Святланы Алексіевіч, якая ў сцэнічнай версіі ўвасоблена на падмостках Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, перакладзена на 20 моў свету, п'есы Алены Паповай перакладаюць на нямецкую, выдаюць у Лондане... Час ад часу ў славянскіх краінах выходзяць перакладныя зборнікі і анталогіі, сёе-тое друкуецца нават у такіх далёкіх экзатычных краінах, як Індыя, Кітай, Японія. Гэта, безумоўна, сведчыць пра інтэграцыйны працэс нашай літаратуры, якая мусіць быць паўнакроўна ўключанай у сусветную культурную прастору. Зразумела, гэта звышзадача. Яшчэ нямала беларусам трэба прэзентаваць свету і з класікі, і з сучаснай літаратуры, бо ў нас ёсць дыхтоўныя высокамастацкія творы, знакавыя і значныя пісьменніцкія імёны.*

*Перспектыва развіцця нашай літаратуры немагчымая па-за нацыянальным духоўным кантэкстам. І таму вельмі важна, як і ў якіх суадносінах наша прыгожае пісьменства будзе функцыяніраваць у сваёй культурнай этнасферы. Магчыма, яму давядзецца задаволіцца ў будучым вузкаэлітарнымі абсягамі. Нельга не падзяліць усхваляванасць і драматызм, якія прысутнічаюць у дзённіках Івана Шамякіна: «Мая шматпакутная літаратура! Плакаць хочацца, гледзячы на тых, хто па абавязку службы, а не па закліку сэрца мусіць займацца ёю. Дзякуй Богу, што яна, усечаная, знясіленая, яшчэ жыве» («Полымя», 2005, № 12. С. 131). І заклапочанасць Шамякіна, выказаную ў тых жа дзённіках, пра стан роднай мовы падзяляюць многія, бо дзе, як не ў беларускай моўна-культурнай прасторы, функцыяніруе, развіваецца і можа мець перспектыву родная літаратура. А для гэтага неабходна рабіць усё магчымае, чаго вымагаюць час і абставіны ад беларускіх пісьменнікаў. І тут важна мець на ўвазе стратэгічныя мэты, імкнуцца спраўджваць «тэорыю малых спраў». Хіба не мае рацыю пісьменнік Георгій Марчук, які нядаўна са старонак «ЛіМа» сказаў: «Пісьменнікі не павінны пускаць на самацёк і аддаваць на водкуп абыякавым метадыстам цэнтраў укладанне і напісанне падручнікаў па роднай мове і літаратуры. Абыякавасць наша абернецца трагедыяй: не стане ні чытача, ні прыхільніка нашага пісьменства, якое адно з лепшых у свеце» («ЛіМ», 16 снежня 2005). Мне здаецца, што ўсім нам, беларускім пісьменнікам, трэба імкнуцца весці дыялог і абмяркоўваць пытанне, заваставаць яго перад міністэрствамі адукацыі і культуры наконт належнага, нават прыярытэтнага месца літаратуры ў сучаснай адукацыйнай і культурнай прасторы, як гэта было ў савецкі час. Нагадаю адзін з красамоўных аргументаў і добра вядомых фактаў, які, дарэчы, прывяла ў сваім выступленні на нарадзе ў Прэзідэнта нашай краіны аўтар падручнікаў для школы, вядомы метадыст Яўгенія Перавозная: калі падводзіліся вынікі вайны і высвятляліся галоўныя пе-*

*радумовы поспеху ў перамозе над гітлераўскім фашызмам, то адным з галоўных фактараў Вялікай Перамогі была названа літаратура. Так, мелася на ўвазе і руская класічная, і савецкая літаратура. Духатворчая роля мастацкай літаратуры выключная, наўрад ці знойдзецца яшчэ такі прадмет у школе, які гэтак крэатыўна ўплываў бы, пераўвасабляў душу і свядомасць вучня. Хацелася б, каб экзамен па літаратуры як абавязковы вярнуўся ў нашу школу, каб беларускую літаратуру і культуру як мага шырэй вывучалі ў ВНУ. Я ўжо пісаў пра гэта ў «ЛіМе», але факт, які нельга абмінуць і не давесці па магчымасці да зацікаўленых асоб, а такімі ў першую чаргу лічу сваіх калег-пісьменнікаў: на чытанне лекцый па сучаснай літаратуры на IV курсе спецыяльнасці «Беларуская літаратура» засталося ўсяго 20 гадзін (10 лекцый).*

*Наконт канкрэтных спраў. Як вядома, перастала выходзіць серыя «Школьная бібліятэка». Настаўнікі, у першую чаргу з вёскі, на сустрэчах у нашых абласных ІПК неаднойчы мне гаварылі, што забыліся, калі трымалі ў руках новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў. У ідэале добра было б, каб нашы вядучыя літаратурна-мастацкія выданні траплялі ў кожную вёску і кожную школу. На жаль, пра гэта даводзіцца толькі марыць. Тым не менш адраджэнне і фарміраванне серыі «ШБ» магла б узяць на сябе Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва». Зрэшты, часопісы «Полымя», «Маладосць», штотыднёвік «ЛіМ» маглі б стаць ініцыятарамі стварэння кніжнай серыі «Пісьменнікі — школе». Можна было б па жанрава-тэматычным прынцыпе складаць і выдаваць зборнікі сучаснай літаратуры. Скажам, не было б вялікай цяжкасці падрыхтаваць кнігу гістарычных твораў, у якую ўвайшлі б аповесці А. Бутэвіча «Каралева не здраджвала каралю», З. Дудзюк «Славянскія князі», Я. Конева «Глеб Менскі» і інш. Думаю, з не меншай цікавасцю юны чытач разгарнуў бы старонкі калектыўнай кнігі фантастыкі, якую склалі б творы Р. Баравіковай, С. Мінскевіча, А. Бычкоўскага і інш. У гэтай жа серыі варта было б сабраць пад адной вокладкай матэрыялы з палымянскай рубрыкі «Школьны факультатыў». А колькі такіх праектаў пры адпаведных захадах і агульных намаганнях можна здзейсніць!*

*Асабліва трэба вітаць тое, што сёння супрацоўнікі «Полымя», «Маладосці», «ЛіМа» пры кожнай зручнай нагодзе адклікаюцца і ідуць да вучнёўскай і студэнцкай моладзі, прапагандуюць на сустрэчах сучасную літаратуру. І яшчэ вельмі станоўчы вынік дзейнасці літаратурна-мастацкіх выданняў: яны адкрываюць новыя імёны маладых аўтараў. Ухвальна, што на школу прыкметна зарыентаваны часопіс «Маладосць». Наогул, выданне адпавядае сваёй назве і зместам, і формай. Пераважная большасць аўтараў — гэта маладыя паэты, празаікі, крытыкі, да таго ж і дызайн, афармленне часопіса на ўзроўні. Выданне адмысловае: яркае, кідкае, з каляровымі ілюстрацыямі. «Часопіс вылучаецца разнастайнасцю матэрыялаў, мае еўрапейскае аблічча», — такое меркаванне студэнтаў з майго спецсемінара, маладых паэтаў і крытыкаў, якія ўжо друкаваліся ў перыядычных выданнях і, спадзяюся, неўзабаве прапануюць свае творы «Маладосці». Студэнты вылучаюць як адметныя творы В. Куставай, Н. Дзівінай, А. Брава, З. Вішнёва, П. Гаспадыніча, М. Шамякінай і інш. Ёсць пэўная цікавасць у моладзі як да традыцыйнай паэзіі і прозы, так і да наватарскіх відаў і жанраў літаратуры, такіх, як, да прыкладу, фэнтэзі. Тут, вядома, справа ў індывідуальнай чытацкай зацікаўленасці і прыярытэтах.*

*Па магчымасці, я імкнуся знаёміцца з разнастайнымі выданнямі. Не абмінаю чарговыя навінкі, напрыклад, тое, што прапануе выдавец І. Логвінаў. Толькі што ён выдаў зборнікі А. Разанава «Лясная дарога» і «Кніга ўзнаўленняў». Сачу за тым, што пішуць і друкуюць А. Федарэнка (імпануюць яго абразкі, здаецца, шэсць порцый «сечкі» ён нарыхтаваў, вылучаю яго раман «Рэвізія»), Г. Марчук (асабіста я вылучаю як адну з лепшых яго кнігу навел пра каханне «Урсула»), Л. Галубовіч (мініяцюры-«зацемкі», праблемныя артыкулы, крытыка), А. Казлоў (прыкметны ў яго творчым наробку раман «Юргон»). Кранулі асобныя творы*



Вольга Васільеўна Казлова.

*Н. Гілевіча са зборніка «На флейце самоты» і аповесць «Разумная дзевачка» пра жонку паэта Ніну Іванаўну, якая была сапраўдным настаўнікам для многіх філолагаў, яркай натурай і чулым чалавекам. Скажу як на духу: даўно так з нецярплівасцю не чакаў «Полымя» пасля таго, як пачалі друкавацца дзённікі Івана Шамякіна. Відаць, так калісьці раней штогод чакаў вераснёўскі нумар часопіса з вершамі Максіма Танка. Не ўсе публікацыі ў нашых часопісах чытаю адразу, асобныя проста праглядаю, але многае ўсё ж чытаецца і асэнсоўваецца, і гэтага дастаткова, каб мець уяўленне пра сучасны літаратурны працэс, яго асноўныя жанравыя і стылёвыя тэндэнцыі. Пра гэта я і гавару студэнтам на лекцыях. Да прыкладу, пра звужэнне тэкставых рамак эпічнай прозы, дыфузійнасць жанраў, зварот да ўмоўна-мастацкіх форм мыслення і інш.*

*Так, прачытаў абсалютна ўсе творы пра Чарнобыль, надрукаваныя ў «Полымі», «Маладосці» і «ЛіМе» на пачатку гэтага стагоддзя, гэта значыць, на працягу апошніх пяці гадоў.*

*Пісьменнік-гуманіст Алесь Адамовіч адзін з першых глыбока зразумеў, што здарылася 26 красавіка 1986 года на самай справе, таму з трывогай гаварыў аб «самай вялікай трагедыі Чарнобыля — трагедыі Беларусі». А. Адамовіч у сваім выступленні ў Японіі ў красавіку 1990 года зазначыў, што «стварылася новая сітуацыя ў свеце, для ўсіх новая пасля Чарнобыля», сказаў пра трагічны разлом часу: «Да Чарнобыля і пасля Чарнобыля — гэта markoзнае светаадчуванне, гэта па-новаму небяспечныя шляхі чалавецтва ў будучыню». Для Беларусі і чалавецтва пачалося жыццё пасля Чарнобыля. Чарнобыльская катастрофа спарадзіла разбурэнне традыцыйнага ўкладу жыцця, яна перасягнула межы чалавечай свядомасці, разумовага і ўнутранага досведу. І, як рэакцыя, — зварот пісьменнікаў да ўмоўна-мастацкага ўвасаблення рэчаіснасці, прыёмаў міфатворчасці, містыфікацыі, фантасмагорыі, абсурду, гратэску.*

*У «Чарнобыльскім сшытку» пісьменніца Ніна Рыбік піша: «Прайшло няма-ла часу, пра Чарнобыль сталі паціху забываць пад нашэсцем многіх іншых трагедый і катастроф». Мікола Мятліцкі вядзе мастацкі летапіс трагедыі роднага краю, прыкладае актыўныя намаганні, каб пра Чарнобыль помнілі, ведалі праўду пра яго жахлівыя наступствы. Чарнобыльская тэма пастаянна прысутнічае на старонках часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам якога пісьменнік з'яўляецца. М. Мятліцкі склаў зборнік публіцыстыкі «Чарнобыльская рана» (2003), сярод аўтараў якога таксама літаратары і журналісты Васіль Ткачоў, Анатоль Бароўскі, Алена Брава, Ніна Рыбік і інш.*

*Літаратура пра Чарнобыль змяшчае спецыфічную інфармацыю — эмацыйную. Пасля Вялікай Айчыннай вайны наша пісьменства яшчэ не ведала такой канцэнтрацыі болю і трагізму. У друку з'явіліся шчымлівыя элегіі і балады, песні-плачы і малітвы, нарысы і публіцыстычныя паэмы, аўтабіяграфічныя апавяданні і дзённікі, раманы пра Чарнобыль... Літаратура на чарнобыльскую тэму створана разнажанравая. Яна надзённая, востраправлемная, раскрывае з'явы*

*нашай сучаснасці і ўнутранае самаадчуванне чалавека, які зведаў страх радыяцыйнай пошасці. Чарнобыльскае светапазнанне за дваццаць гадоў набыло прыкметнае ідэйна-мастацкае развіццё: беларуская літаратура рухалася да глыбокага філасофска-гуманістычнага асэнсавання трагедыі. У сённяшняй паэзіі і прозе ўзрасла псіхалагічная выяўленчасць і эсхаталагічная значнасць думкі.*

*Беларуская літаратура адлюстравала агульнанародную бяду і трагедыю асобнага чалавека з рэалістычнай праўдзівасцю, бязлітасна-суровай дакументальнасцю. Многія творы пра Чарнобыль можна аднесці да літаратуры нонфікшн, г. зн. непрыдуманай, дакументальнай па сваёй фактуры.*

*У дзённікавым жанры напісаны «Чарнобыльскі сшытак» Ніны Рыбік. Для аўтаркі, як і многіх яе землякоў, «Чарнобыль супраць волі і жадання стаў часцінкай лёсу». Яна нарадзілася ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна, якая пасля аварыі ў 1986 г. была адселена. Н. Рыбік жыла і працавала ў Хойніках, але пагроза чарнобыльскай радыяцыі, страх за здароўе дзяцей, адлучанасць ад прыроды змусілі яе разам з сям'ёй пераехаць на Астравеччыну, дзе, дарэчы, яна працуе рэдактарам раённай газеты. Пісьменніца адчула, што мае права на сваё слова пра зведанае і перажытае. Яе «Чарнобыльскі сшытак» уяўляе сабой самааналіз, самадаследаванне. Хоць запісы рабіліся найперш для сябе, Н. Рыбік вырашыла гэтыя дзённікавыя старонкі даверыць чытачу, каб падзяліцца ўспамінамі, шчырымі развагамі, расказаць, што думалася і адчувалася, калі Чарнобыль адбіраў у яе радзіму. Яна набыла горка-балючы чарнобыльскі вопыт, які вярэдзіць памяць і сэрца: «І ўсё ж шчыміць балючай стрэмкай у сэрцы ўспамін аб Бацькаўшчыне, аб роднай зямлі. І нельга пазбавіцца думкі: за што, за чые і якія грахі нясуць пакаранне тысячы ні ў чым не вінаватых людзей, выгнаннікаў са сваёй радзімы?» Лёс Н.Рыбік тыповы, яна — адна з дзесяткаў тысяч перасяленцаў, якім давялося ехаць «шукаць шчасце ў іншае месца». А шчасцем здаецца ўжо сама магчымасць без страху пайсці ў лес, басанож ступіць на траву: «Якое гэта вялікае шчасце, можна зразумець толькі, страціўшы ўсё гэта».*

*Мастацкае ўвасабленне чарнобыльская трагедыя знайшла ў апавяданнях Н. Рыбік, надрукаваных у «Полымі» і «Маладосці», якія, зразумела, грунтуюцца на ўласна ўбачаным і перажытым, пазначаны аўтабіяграфічным пачаткам. Вось выява псіхалагічнага стану гераіні з апавядання «Пакутніца Лісавета»: «Як выселілі пасля Чарнобыля іх вёску, Лісавета зусім разгубілася, хадзіла — нічога не чула, нічога не разумела». Н. Рыбік паказвае, як Чарнобыль абвастрыў успрыманне навакольнай рэчаіснасці, адбіўся на ўнутраным самаадчуванні чалавека. Ці не тое ж самае перажыла сама аўтарка, што і яе гераіня Надзя з апавядання «Права на адсяленне» — трывогу, хваляванні, страх за жыццё дзіцяці: «А ноччу жудасныя сны не давалі ёй заплюшчыць вочы — адразу ж паўставала: Васілёк на аперацыйным стале, Васілёк у інваліднай калясцы, Васілёк прыкуты да ложка... Ад гэтага не было паратунку — яна баялася ночы, баялася заснуць». Творы Н. Рыбік выразна рэалістычныя, уражваюць псіхалагічным дынамізмам. Праўду пра трагедыю Чарнобыля пісьменніца чэрпае з глыбінь чалавечай душы, бо там — выток пакутніцтва, суму і тугі па страчанай радзіме.*

*«Пракляты Чарнобыль! Адкуль ты зваліўся на нашу галаву?» — разам са сваімі героямі задае пытанне Леанід Левановіч у рамане «Палыновы вецер» (2005). Красамоўная і сімвалічная ў творы назва вёскі Хатынічы, якая пераклікаецца з сумна вядомай Хатынню. Чарнобыльскую падзею аўтар успрымае ў касмічным вымярэнні:*

*«Глыбокая цішыня стаяла над Хатынічамі, засыпанымі смертаноснымі радыенуклідамі. Зямля свяцілася імі, акурат мільёнамі светлякоў. Бліскучае зорнае неба паварочвалася, быццам кола на восі, вакол непарушнай Палярнай зоркі.*

*Вялікая і такая малая планета Зямля імчала ў касмічнай прасторы насустрач новаму дню».*

*Віктар Стрыжак — адзін з тых, чые родныя мясціны пасыпаў атрутны попел. Ён працаваў у райгазеце ў Ветцы, дзе набраў радыяцыйную дозу, небяспечную для жыцця. Пасля паэт пераехаў у Мінск, але сэрца яго не вытрымала. Ён памёр раптоўна ў 1995 годзе, пахаваны ў роднай вёсцы Заспа Рэчыцкага раёна. Паэт Анатоль Шушко прысвяціў памяці сябра верш «Чацвёрты блок у сэрцы Стрыжака». Віктар Стрыжак аднойчы прызнаўся:*

*— Ведаеш, сябрук, відаць, і мёртвым*
*Апынуся ў роднай старане.*
*У мяне не сэрца — блок чацвёрты.*
*Грудзі распірае магма мне...*

*В. Стрыжак маркоціўся, блізка да сэрца прымаў людскую бяду. Чарнобыльская ява палохала чулае сэрца паэта: «Пазіраю на крыжы: // Смерць за намі ходзіць...». Чарнобыль не здолеў вытруціць з яго душы пачуццё радзімы. Заўчасны адыход паэта з жыцця сведчыць пра бязлітасны ўплыў Чарнобыля.*

*Песні-жальбы льюцца з сэрца Міколы Мятліцкага, які жыве «памяццю журлівай». Герой вершаванай аповесці «Замкнёны дом» (2003) прызнаецца: «Пагасла ўсё — душа, як змрочны склеп...». Акім Пятровіч, а разам са сваім героем і аўтар твора, вяртаецца ў родны Бабчын, праходзіць праз зону, дзе «жыцця няма», «смерці пастка». Чарнобыльскі абшар паўстае як мёртвая зямля, аповед нагадвае сучасную страшную казку, якая, на вялікі жаль, не казка, а самая што ні на ёсць жахліва-жудасная ява. Чарнобыль — крыж паэта, які ён нясе са скаргай на свет цэлы. Нясе, выгаворваючы боль народны. Дзеля таго, калі праводзіць паралель з вершам Купалы «А хто там ідзе?» і перафразаваць яго, каб людзьмі застацца. Каб «збудзіцца ад сну», каб родны край «з вечнасцю гаварыў... галасамі людзей».*

*Сустрэчы з радзімай для паэтаў з пацярпелых раёнаў — балюча-шчымлівыя, пра гэта сведчаць вершы Віктара Яраца, Міхася Башлакова, Анатоля Зэкава, Алы Канапелькі і інш. У трыпціху «Адсяленне» Алесь Каско гаворыць пра вынікі чарнобыльскай навалы: «На ўскрайку роднага краю // мала вёсак: адну за адной // хвалі чорныя прыбіваюць // іх да горада, як прыбой».*

*Чарнобыль зацемрыў свет, спарадзіў «маўчанне вялікае», але паэт на тое і паэт, каб пачуць голас роднай зямлі і крык дзіцяці, якія нельга вытруціць з сэрца.*

*Віктар Ярац у надпрыпяцкім краі, дзе «побач... саркафаг», здаецца, вычуў голас самой сівой даўніны: «Каго ж, аб чым гукае голас тура // з мінуўшчыны, // дзе шчодры гул бароў?». Гэтае пытанне з мінулага скіравана да сучаснасці з думкай пра гістарычны час і пагрозу быццю на спрадвечнай зямлі «пад ружаю атручаных вятроў».*

*Чарнобыль мае і іншы аспект — маральны. Невыпадкова свой верш Таіса Мельчанка назвала менавіта так: «Распад душы». Як глыбока вынашанае пачуццё выказвае Т. Мельчанка сваё разуменне галоўнага, сутнаснага ў час, калі «магільная ціша стаіць у чарнобыльскай зоне» і «пачаўся распад чалавечай душы». Трывога яе пра тое, «каб часцінку жывога мы ўсё ж не аддалі на глум».*

*Сёння літаратура, як і, напэўна, кожны з нас, задае пытанне, што нас можа ўратаваць, што дапаможа нам выжыць у паслячарнобыльскім свеце. Нягледзячы на скруху, трагізм быцця, пакрысе, спакваля мацнее жыццёвы аптымізм беларускай літаратуры, якая, здаецца, згадала У. Дубоўку: «О Беларусь, мая шыпшына... // У ветры дзікім не загінеш, // чарнобылем не зарасцеш». Чарнобыль разбурыў адвечныя экалагічныя сувязі, а чалавек пры гэтым страціў гармонію, адчуванне суладнасці свету.*

*Літаратура згадала біблейскі Апакаліпсіс, успомніла пра Бога. Адбываецца пошук ёю духоўнага, маральнага апірышча ў свеце, пазбаўленым трываласці і чысціні. Зорка Палын стала злой зоркай лёсу беларускага народа. Усё гэта яскрава паказала найноўшая беларуская літаратура, якая змяшчае ў сабе унікаль-*

*ны трагічны чарнобыльскі досвед для ўсяго чалавецтва. Яна «ў святле палыновай зоркі» (І. Пракаповіч) убачыла сімвал бяды, прарочы знак, але разам з тым насуперак татальнаму песімізму імкнецца займець надзею на выратаванне і будучыню. Сучасная літаратура вынесла з чарнобыльскай катастрофы важны гуманістычны ўрок: «Назірк палыновае зоркі // Змушае жыць свяцей, чысцей».*

**Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі** падкрэсліў:

*Тэма Чарнобыля — кранальна-сучасная. Мяне гэта тэма вельмі хвалюе. Ёсць шэраг нашых калег, якія мала цікавяцца экалогіяй краіны. У нас выйшла нават анталогія «Краса і сіла», у якой няма ніводнага верша пра Чарнобыль. Але ж Чарнобыль прыйшоў, на жаль, на тысячагоддзі.*

*З наступствамі яго будуць змагацца многія пакаленні. Мы сёння не ўсё ведаем пра гэтыя наступствы, не можам іх прадбачыць. Мы не здагадваемся, з чым судакрануцца нашы нашчадкі, і ўсё, што мы можам зрабіць для іх, — гэта захаваць памяць. Застануцца творы тых, хто бачыў Чарнобыль на свае вочы.*

Менавіта беларусам, якія першымі сутыкнуліся з глабальнай тэхнагеннай катастрофай, належыць стварэнне літаратурнага летапісу жыцця падчас і пасля трагедыі. Гэта здабытак беларускай літаратуры, карысны ўсяму свету. Бо іншыя краіны за апошнія 20 год, што прайшлі з дня Чарнобыльскай трагедыі, таксама ўжо сутыкнуліся з аварыямі на небяспечных аб'ектах. Але менавіта слова «Чарнобыль» стала агульнавядомым, астатнія трагедыі вельмі хутка забываліся сусветнай грамадскасцю, падкай да сенсацый. Мы ж змаглі ўвасобіць свой вопыт, свае перажыванні, надалі ім мастацкую форму і такім чынам захавалі на стагоддзі.

Літаратура адлюстроўвае час. Нават творы гістарычныя прасякнуты настроем аўтара, натхнёнага падзеямі, сведкамі якіх быў ён сам. Таму важна, каб новыя творы хутка знаходзілі сваіх чытачоў. Існуе шмат камерцыйных выдавецтваў, нямала кніг выходзіць і на беларускай мове, аднак першай інстанцыяй, праз якую чытач знаёміцца з новымі творамі, застаюцца часопісы.

Літаратурна-мастацкі часопіс як адлюстраванне сучаснага літаратурнага працэсу, з аднаго боку, сродак захавання духоўнай спадчыны, з другога, — тэма, якую закранула ў сваёй прамове **Вольга Васільеўна Казлова**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ.

*Хачу выказаць агульнае ўражанне пра часопіс «Полымя». Ён займае значнае месца ў нашым сучасным грамадстве. Думаецца, ён выконвае сваю асноўную ролю — прапагандуе айчынную літаратуру і захоўвае традыцыі.*

*Варта заўважыць, што сёння ў часопісе закладаецца нямала новых традыцый, — бо як без гэтага? Жыццё ідзе наперад, многае мяняецца ў грамадстве, у стаўленні грамадства да мовы, да культуры. Каб гэтыя змены былі станоўчымі і ішлі на карысць, нам патрэбны своеасаблівыя маякі, выданні, якія паказваюць шлях для далейшага руху. З цікавасцю перачытваю вашы «Круглыя сталы». Вы пішаце і пра новыя падзеі, і пра людзей. Гэта важна — пісаць сёння пра людзей, якія працуюць на карысць свайго народа. У прыватнасці, матэрыялы з Інстытута мовазнаўства, «Круглы стол» у БНТУ — гэта абмеркаванне надзённых праблем і ў той жа час даніна павагі тым, чыя праца не заўсёды заўважана, не ацэнена належным чынам. Цяжкая, складаная праца навукоўцаў і педагогаў не навідавоку, але мы павінны прыцягваць увагу да яе, бо менавіта выкладчыкі і навукоўцы ствараюць будучыню нашай культуры.*

*Нельга не адзначыць такія новыя рубрыкі, як «Школьны факультатыў» — дапамога для настаўнікаў. Вучням і студэнтам гэтыя звесткі будуць карысныя. «На паверцы — імёны» — глыбокія, цудоўныя творы, якія не павінны сысці ў нябыт, бо гэта наш скарб, наша памяць. «Метрыка» дазваляе нам зноў-такі дакрануцца да падзей былых. Шкада толькі, што мала стала дэбютаў маладых паэтаў і празаікаў, але гэта, я ўпэўнена, з'ява часовая, моладзь будзе больш цікавіцца літаратурнай працай.*

Праблема навізны ў літаратуры, аўтарскай самабытнасці і запазычанняў стала адной з тэм, закранутых супрацоўніцай аддзела сучаснай беларускай літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, кандыдатам філалагічных навук **Дзінай Іосіф-Тадэушаўнай Дудзінскай.**

*Хочацца выказаць думкі, якія наспелі даўно. Зроблена вельмі многа, і навукоўцамі, і пісьменнікамі, і супрацоўнікамі часопісаў. Паўстае нават пытанне, як гэта захаваць, як выкарыстаць накоплены патэнцыял.*

*Для навукі вельмі важна рабіць абсалютна аб'ектыўны аналіз твораў. Напрыклад, «Рэвізія» А. Федарэнкі пераклікаецца з апавяданнем Х.Картасара «Аднойчы ноччу». У плане сюжэта А. Федарэнка адкрыцця не зрабіў. Аповесць Людмілы Шчэрбы «Уладар рыбаў» пераклікаецца з «Майстрам і Маргарытай» М. Булгакава. Як адарвацца ад папярэдняга, сусветнага? Але ж на гэтых фабулах разгортваецца сваё, нацыянальнае.*

*Традыцыі і наватарства — пытанне складанае, калі зірнуць на яго глыбей. Гэта Гегель сказаў, што жыццё ёсць адзінства і барацьба супрацьлегласцей. Але ёсць яшчэ і гармонія. Жыццё ўсё ж — рух да гармоніі. Проста захоўваючы традыцыю, мы адначасна губляем яе. Каб традыцыя захоўвалася, неабходна ствараць у яе рэчышчы, у яе каноне нешта новае.*

*Існуюць дзве крайнасці — абсалютная традыцыйнасць і непрыняцце папярэднікаў. Абедзве яны не вядуць да нечага станоўчага.*

*Наступнае пытанне, на якім варта спыніцца, — гэта прадстаўленне навуковай думкі ў часопісах літаратурных, мастацкіх, грамадскіх. Навукоўцы вымушаны пісаць публіцыстычным стылем, калі яны разлічваюць на шырокае кола чытачоў. Гэта значыць, пісаць проста. Праблему можна вырашыць толькі ў выпадку сур'ёзнага дыялога паміж рэдактарам і аўтарам-навукоўцам. Навуковы стыль і стыль публіцыстычны не стыкуюцца.*

*Не варта камусьці дыктаваць, як пісаць. Іншая справа, што неабходна рабіць заказы ў Інстытут літаратуры і на філфак. Вось тады будзе дыялог, уздым.*

Працаваць на масавага чытача, застаючыся прыкладам класічнага падыходу да творчасці, прыцягваць новыя сілы, шукаць новыя падыходы — такім павінен быць шлях часопісаў, кніжных выдаўцоў, СМІ. Гэты тэзіс лёг у аснову выступлення кандыдата філалагічных навук, дацэнта кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ **Анатоля Леанідавіча Вераб'я.**

*Я даследую творчасць У. Караткевіча і І. Мележа. Для мяне асабліва каштоўная класічная традыцыя. Мы кожны па-свойму робім агульную справу. Эстэтычнае — галоўнае ў літаратуры, у мастацтве, у творчасці. Другі важны момант — адраджэнцкае, месіянскае. Як беларуская мова, літаратура, культура будуць жыць, выжываць?*

*1955 год быў пераломны ў жыцці У. Караткевіча. Публікацыя Аляксея Бруя («Полымя», 2006, № 1) таксама можа быць такой пераломнай падзеяй у яго лёсе. Ва ўзгаданым нумары, як у кроплі вады, адлюстраваны ўвесь часопіс. Добрая традыцыя — друкаваць вершы адышоўшых паэтаў. Звяртае на сябе ўвагу і публікацыя Леаніда Галубовіча: многія заяўленні палемічныя, але цікавыя. Яны падштурхоўваюць да развагі.*

*Часопіс узбагачаецца, з цягам часу робіцца ўсё больш разнастайным. Тут прадстаўнікі самых розных стыляў, жанраў. Цікавыя рубрыкі. У часопіса ёсць аблічча.*

*Праблем у грамадстве хапае. Памяншаецца ўжытак беларускай мовы, беларуская літаратура мае не надта шырокае кола чытачоў. Але хіба гэта праблема толькі літаратуры? Беларускае тэлебачанне неабходна зрабіць беларускім. Пашыраць сферы ўжытку беларускай мовы за кошт СМІ. Захаванне нацыянальнай культуры справа надзвычай важная, але, чым больш сфер прымянення мы знойдзем для яе ў паўсядзённым жыцці, тым лепш яна захаваецца. Гэта справа ўсяго грамадства, не толькі спецыялістаў, пісьменнікаў і настаўнікаў.*



*Анатоль Верабей, Лада Алейнік і Алесь Бельскі.*

Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчыца кафедры сучаснай беларускай літаратуры і культуры **Таццяна Іванаўна Шамякіна** разважала аб формах падтрымкі літаратуры і літаратараў, аб шляхах зацікаўлення моладзі здабыткамі айчыннай літаратуры.

*Працуючы з моладдзю, я, натуральна, занепакоена лёсам беларускай літаратуры і пакутліва разважаю пра яе будучае. Якія шляхі павышэння прэстыжу беларускай літаратуры я бачу?*

*Па-першае, дапамога дзяржавы. Калі дзяржава дае магчымасць розным дзялкам зарабляць шалёныя грошы на выпуску масавай літаратуры, будзе справядлівым браць з прыватных выдавецтваў адпаведны падатак і накіроўваць яго на развіццё айчыннай літаратуры. Гэта самы цывілізаваны шлях.*

*Па-другое. Мы пачалі ажыццяўляць з калектывам аднадумцаў — В. П. Рагойшам, Т. В. Кабржыцкай, Н. Б. Рашэтнікавай — пэўны адукацыйны праект. Я маю на ўвазе ўжо згаданую Н. Б. Рашэтнікавай Праграму па беларускай літаратуры (паглыблены і пашыраны ўзровень). Мы рыхтуем праграмы і падручнікі для школы, дзе беларуская літаратура паўстае ў кантэксце сусветнай літаратуры і ў шырокім кантэксце культуры. Такі накірунак павышае цікавасць вучняў, ды і студэнтаў, да літаратуры.*

*Па-трэцяе. Лічу, што неабходна падрыхтаваць і раскруціць у СМІ праграму вялікай рэкламнай акцыі адносна пісьменнікаў сярэдняга і малодшага пакаленняў — так, як гэта зроблена апошнім часам адносна супрацоўнікаў ТБ і поп-спевакоў. Але стварыць неабходна менавіта праграму, працаваць над ёю вельмі сур'ёзна.*

*Па-чацвёртае. Мы ўвесь час зыходзім з цяперашняй грамадскай парадыгмы. Аднак ясна, што мы жывём у перадапакаліптычны час і, калі здолеем пераадолець кропку біфуркацыі, зможам ужо праз 10 гадоў жыць у зусім іншым грамадстве. У грамадстве, якое перастае паліць нафту і газ, а пераходзіць на зусім іншыя віды энергіі, якія мы сёння і ўявіць не можам, але яны ёсць, вынаходніцкая думка працуе. Напрыклад, здабыванне энергіі з вакууму. Футуролагі гавораць пра нейраграмадства, у якім асноўнай задачай стане ўдасканаленне чалавека. Інакш кажучы, надыходзіць час, калі нарэшце чалавек здолее думаць пра сваю душу. Вось тады запатрабаваныя будуць усе творы нашых пісьменнікаў — як сёння каласальным попытам*

*карыстаюцца артэфакты мінулых эпох, нават савецкай. І як сёння шукаем антыкварныя рэчы, так будзем вышукваць усё новыя метафары ў паэтаў, здавалася б, назаўсёды забытых. Але рукапісы не гараць! Літаратура можа быць запатрабаванай і ў іншых сферах — у якіх, сёння мы і ўявіць не можам.*

*Я веру ў будучую запатрабаванасць мастацкай літаратуры. Чаму гэта непазбежна, скажу ўжо не з пункту гледжання мары, а больш прагматычна:*

*а) таму, што пасля інфармацыйнай рэвалюцыі, якую мы сёння перажываем, абавязкова наступіць творчая рэвалюцыя, галоўнай асаблівасцю якой будзе цэласны светапогляд, характэрны для нашых продкаў-язычнікаў, але ўзбагачаны сур'ёзнымі навуковымі ведамі. Інакш кажучы, непазбежны сінтэз рэлігіі, навукі і мастацтва. Імкненні да гэтага сінтэзу я апошнім часам назіраю і фіксую;*

*б) назіраю я, ды і ўсе мы, іншы прыемны сімптом: вялікую колькасць маладых аўтараў, прагу да творчасці з боку многіх школьнікаў і студэнтаў. Гэта таксама радуе;*

*г) грамадства адчувае неабходнасць у аднаўленні слоўніка. Шмат якія словы як бы стамляюцца і патрабуюць не столькі замены, колькі новых формаў і пастаноўкі іх у новыя камбінацыі, новы кантэкст, чым і займаюцца нашы паэты. Іх пошукі будуць, безумоўна, запатрабаваныя.*

*Нам самім неабходна часцей выступаць у друку з прапагандай твораў беларускай літаратуры. Выступаць не толькі ў якасці навукоўцаў-літаратуразнаўцаў, але і ў якасці вострых публіцыстаў.*

Выступленне пісьменніка **Аляксандра Іванавіча Наварыча** дало магчымасць суаднесці думку навукоўцаў і думку саміх пісьменнікаў пра сённяшні і заўтрашні дзень нацыянальнай літаратуры.

*Усе намаганні нашы зводзяцца да таго, каб Беларусь зрабіць беларускай. Мы жывём у двухмоўі, гэта наша рэальнасць. Межы беларускай мовы звужаюцца да крытычнай сітуацыі.*

*Чым дапамагаць беларускай літаратуры? Мы маем сёння шэраг беларускамоўных аўтараў. Прычым аўтараў прафесійных. Наогул, літаратура наша заўсёды дасягала лепшых узроўняў, не была няякаснай, другараднай. Зразумела, не ўсё, што друкуецца, мае высокую мастацкую каштоўнасць. І ў нас ёсць творы больш моцныя і менш моцныя, і ў «Дзеяслове» друкуецца далёка не ўсё самае лепшае, не кажучы ўжо пра шматлікія камерцыйныя выданні. Але гэта з'ява натуральная, не бывае так, каб у адзін канкрэтны момант у літаратуры працавалі адны класікі. Нейкія кнігі знаходзяць чытача, але забудуцца, іншыя не будуць мець і гэтага. Але многае застанецца.*

*Дык чым жа дапамагаць літаратуры? Сама пастаноўка пытання абсурдная. Як можна дапамагаць узыходу сонца, або цвіценню кветкі? Можна шмат разважаць на гэтую тэму і адно толькі расстроіцца. Трэба радавацца таму, што ёсць. Гэта не загіне, гэта будзе запатрабавана.*

*Не трэба ўзвялічваць тое, што ёсць, але не трэба і прыніжаць.*

Напрыканцы сустрэчы галоўны рэдактар часопіса «Полымя» **Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі** дадаў:

*Філолагі заўсёды былі захавальнікамі нацыянальных традыцый, заўсёды абаранялі айчынную класіку, каб, рухаючыся наперад, нічога не страціць. Хочацца, каб гэтыя традыцыі не парушаліся.*

***Матэрыял падрыхтавала Марыя Шамякіна.***



Серафім АНДРАЮК

# ЭПІЧНАСЦЬ, НАРОДЖАНАЯ ТРАГІЧНЫМ ВОПЫТАМ ЖЫЦЦЯ[1]

У 1917 г. вядомы рускі філосаф М. Бярдзяеў у артыкуле «Сучасная вайна і нацыя» пісаў: «Сённяшняя вайна вельмі глыбока адрозніваецца ад войнаў ранейшых. Зараз у параўнанні з папярэднімі часамі зусім іншыя суадносіны арміі, якая ваюе, да ўсяго жыцця народа. Раней войны былі намнога болей прафесійнаваеннымі, выдзеленымі з усёй сукупнасці народнага жыцця і народных сіл». Ваявалі невялікія арміі. Зыход вайны вырашаўся перамогай адной арміі над другой у якойсьці значнай бітве. Лёс народа, жыццё народа не ставіліся на карту. «Сучасная еўрапейская вайна паказала, што войны таксама дэмакратызуюцца, становяцца грамадскімі і народнымі, як і ўсё жыццё... Вайна ёсць барацьба ўзброеных ва ўсіх адносінах народаў, якія мабілізуюць усе свае сілы. Велізарнае значэнне маюць прамысловасць краіны, яе тэхніка, яе навука, агульны яе дух. Паражма сіла ўсяго народа, магутнасць усёй краіны, як матэрыяльная, так і духоўная».

Пра гэтую ж вайну, па сутнасці, у той жа час (1918 г.) пісаў вялікі сербскі пісьменнік, пазней лаўрэат Нобелеўскай прэміі Іва Андрыч у артыкуле «Наша літаратура і вайна»: «Вайна нават тым, хто раней не хацеў гэтага бачыць, паказала, як моцна звязаны мы са сваёй краінай, якая вялікая наша адказнасць і перад тымі, хто даўно памёр, і перад тымі, хто яшчэ не нарадзіўся. Вайна перасунула акцэнт з індывідуальнага на агульнае. Чым больш аддавала барацьбе асоба, тым больш набывала грамадства».

І ў адным, і ў другім выказванні важна падкрэсліць: войны «становяцца грамадскімі і народнымі, як і ўсё жыццё», войны «перасоўваюць акцэнт з індывідуальнага на агульнае». У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра Першую сусветную вайну і найбольш падкрэсліваецца яе змест грамадска-сацыяльны. У максімальнай ступені гэтымі ўласцівасцямі і якасцямі была надзелена вайна Другая сусветная, для нашай краіны, для нашага народа — Вялікая Айчынная. Гэтая вайна ў гісторыі, у жыцці некалькіх пакаленняў, у свядомасці народа і нацыі стала своеасаблівай усеабдымнай аб'ектыўнай рэальнасцю. Са сваімі ўнутранымі законамі, са сваёй логікай (з пазіцый жыцця мірнага зусім алагічнай), са сваімі крытэрыямі добрага і дрэннага, праўдзівага і непраўдзівага, справядлівага і несправядлівага, урэшце,

---

*Андраюк Серафім Антонавіч* нарадзіўся 10 сакавіка 1933 года ў вёсцы Градзялі Беластоцкага ваяводства.

*Скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры БДУ.*

*Член Саюза пісьменнікаў з 1972 года. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар манаграфіі «Жыццё. Літаратура. Героі» (1973), зборнікаў крытычных артыкулаў «Вывяраючы жыццём» (1976), «Жыць чалавекам» (1983), за якія атрымаў літаратурную прэмію імя Івана Мележа.*

*Адзін з аўтараў «Истории белорусской советской литературы» (1977) і інш.*

---

[1] Артыкул з'яўляецца своеасаблівым працягам публікацыі «Вялікая Айчынная вайна і мастацкі вопыт "філалагічнага пакалення"» («Полымя», 2005, № 10).

прыгожага і непрыгожага. Хаця апошнія катэгорыі ў рэальнасці вайны дзесьці нібы знікаюць. Замест свету мірнага, стваральнага, светлага надыходзіць пара разбурэння і вынішчэння, пара трывогі і страху — свет зла. Гэты свет выключна дынамічны, у высокай ступені падзейна-матэрыяльны, разам з тым свет гэты ў многіх момантах невытлумачальна-містычны, загадкава-злавесны. Ён падпарадкоўвае і ўцягвае ў сваё поле дзеяння ўсё і ўся. Маючы ў сваёй аснове змест грамадска-палітычны і сацыяльна-гістарычны, свет вайны ўбірае ў сябе побыт ва ўсіх праявах, мірную працу, асабістыя адносіны, прыроду. Такім гэты свет застаўся ў памяці, у свядомасці жывых тагачасных пакаленняў, асабліва дзяцей вайны.

Прайшлі гады, дзесяцігоддзі. У 2002 г. ГАБТ «Кніга» выпусціла кнігу споведзяў вядомых людзей Беларусі «Шчыра, як на духу...» Змест кнігі ўяўляў сабою адказы на пастаўленыя пытанні (іх было 35). Было там і такое (22-е) пытанне: «Чым (якімі падзеямі, здарэннямі) засталося ў памяці дзяцінства?» Вось адказы многіх тых, хто нарадзіўся ў 30-я гады.

**Астапчык С. А.,** доктар тэхнічных навук, акадэмік НАН Беларусі: «Галечай, холадам і страхам, як і для ўсіх людзей пасляваеннага ліхалецця. І светлым святам Пасхі».

**Белахвосцік В. С.,** заслужаны артыст Беларусі: «Вайной!».

**Бураўкін Г. М.,** паэт: «Вайною, спаленымі вёскамі і вызваленнем».

**Гарай Л. П.,** майстар спорту СССР: «У памяці пачатак Вялікай Айчыннай вайны, 1941 г., жахі вайны».

**Гілевіч Н. С.,** народны паэт Беларусі: «Тым летнім днём у 1943, калі дзяцінства скончылася, — калі немец, ужо немалады, мардаты, гаркаючы «партызан?», спачатку кідаў мяне вобзем аплявухай, а тады — гахнуў падкаваным ботам па галаве».

**Зуёнак В. В.,** паэт: «Вайна, — тая, што называецца "Вялікая Айчынная"...»

**Кудравец А. П.,** пісьменнік: «Вайной, цікаўнасцю да зброі і смерці».

**Лыч Г. М.,** эканаміст, акадэмік НАН Беларусі: «Найперш пакутамі ваеннага ліхалецця, смерцю бацькі».

**Мядзведзь А. В.,** спартсмен, трохразовы Алімпійскі чэмпіён: «Вайна».

**Парфёнаў В. І.,** доктар біялагічных навук, акадэмік НАН Беларусі: «Тыповыя патрэбы і маленькія радасці апаленага вайной дзяцінства».

**Петрашкевіч А. Л.,** драматург: «Дзяцінства засталося ў памяці жахлівым жыццём і катаржнай працай за калючым дротам нямецкага гарнізона ў маёй Пярэвалачні падчас трохгадовай нямецкай акупацыі».

**Савельева І. М.,** балерына, Народная артыстка БССР: «Вайна».

**Саўчанка А. М.,** спявак, Народны артыст БССР: «Вялікая Айчынная вайна, канцлагер у Віцебску».

**Сіпакоў Я. (І. Д.),** пісьменнік: «Сіроцтвам... Але ж над галавою было высокае блакітнае неба, а пад нагамі — яркая зялёная трава. Як і ва ўсіх дзяцей...». У гэтай самай анкеце на пытанне: «Які ў Вашым жыцці момант быў самы горкі, нешчаслівы?» адказваў: «Іх было два: калі за сувязь з партызанамі паліцаі забралі тату, а праз два тыдні прыехалі і па маму... Мне было тады шэсць гадоў».

**Сумараў В. Ф.,** мастак: «Вайна, асколачныя раненні пры выбуху міны».

**Шаранговіч В. П.,** Народны мастак Беларусі: «З маленства засталіся ў памяці пажарышчы на месцы навакольных вёсак, бацькава кузня і першы ў жыцці аловак зялёнага колеру, падораны партызанам».

**Шыкунова І. С.,** оперная спявачка, Народная артыстка БССР: «Галоднае пасляваеннае дзяцінства».

**Яўменаў Л. Ф.,** паэт, доктар філасофскіх навук: «Нямецкія бамбардзіроўшчыкі на нізкай вышыні сунуцца на ўсход».

Як бачна, ва ўсіх, чыё дзяцінства захапіла вайна, і праз гады, у новым стагоддзі, успамін пра яе застаецца, па сутнасці, самым цяжкім у жыцці, самым драматычным. Зноў жа вайна помніцца не нейкай адной падзеяй, гісторыяй, а як су-

цэльная цёмная паласа ў жыцці, напоўненая болем, голадам, страхам. Памяць пра яе аднолькавая ва ўсіх — пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, спартсменаў. Напэўна, можна сцвярджаць, што гэта памяць народная. Такога негатыўна-трагічнага ўспрымання вайны, такой адзінай памяці пра вайну ў выказваннях старэйшага пакалення няма. Памяць тых, хто быў народжаны ў 30-я гады і чыё дзяцінства прыпала на ваеннае ліхалецце, — гэта памяць пакалення, параненага вайной, і памяць пакалення, ахрышчанага вайной. Такая вайна засталася ў памяці, у свядомасці, у сэрцы назаўсёды — як нейкая вельмі істотная аб'ектыўная дадзенасць, якую заўсёды трэба ўлічваць. Чытаючы ўсе вышэй прыведзеныя адказы, удумваючыся ў іх, бачыш і разумееш, што гэты гістарычны катаклізм, гэты гістарычны зрух у памяці кожнага свой, увайшоў у жыццё кожнага, але ўвайшоў і ў жыццё краіны, народа — жыццё ваеннае, пасляваеннае, сённяшняе, будучае. Вайна — штосьці агромністае, усеахопнае, успрымалася як аб'ектыўна эпічнае, лёсатворнае. Такім увайшло ў гісторыю, такім адлюстравана ў літаратуры. Найперш у творчасці былых дзяцей вайны. І не выпадкова. Дзіцячым розумам, дзіцячай свядомасцю, дзіцячым сэрцам вайна ўспрынялася як усеагульная бяда, усеагульнае няшчасце. Яна як бы паглынула, падпарадкавала сабе асобныя факты, падзеі, жыццёвыя гісторыі. У гэтай сувязі, маючы на ўвазе тую самую кнігу «Шчыра, як на духу...», пры ўважлівым чытанні яе звяртаеш увагу вось на якія моманты. У адказах аўтараў інтэрв'ю, прадстаўнікоў старэйшых і маладзейшых пакаленняў, па-першае, далёка не заўсёды ўспаміны пра дзяцінства звязаны з падзеямі негатыўнымі, па-другое, успаміны, калі яны звязаны з вайною, то засяроджаны на нейкіх асобных яе падзеях, фактах. Зразумела, што ў такой сітуацыі ў асобных фактах, падзеях у большай ступені адчувалася асоба аўтара, яго эмацыянальная ці то сэнсавая прысутнасць.

Вайна як містычнае ўвасабленне зла, цемры, смерці ў яе абагулена-абстрактным увасабленні і вайна ў яе шматлікіх жывых, канкрэтных, часцей за ўсё ўведаных асабіста, праявах — такую вайну ўбачылі і запомнілі дзеці вайны, такая вайна сфарміравала іх, вызначыла іх адносіны да навакольнага жыцця, да акаляючага свету. І ў гэтых узаемаадносінах чалавека і свету вырашальная роля належала рэчаіснасці, аб'ектыўнаму жыццю. То быў вопыт вайны, акупацыі, блакад, першых пасляваенных гадоў аднаўлення. І пазнейшае чалавечае ўспрыманне жыцця, навакольнага свету адбывалася праз прызму таго трагічнага вопыту.

Пісьменнік, маецца на ўвазе найперш той, чыё дзяцінства было здратавана вайною, як бы інстынктыўна прывучаны найбольш глядзець у свет, а не ў сябе. Адсюль эпічны (шырокі, усебаковы) характар мастацкага спасціжэння рэальнасці — у сэнсе аб'ектыўнага свету і чалавека ў ім. Іхнія героі (зноў жа падкрэслім творы пра вайну — у найбольшай ступені) — людзі свайго часу, сваёй зямлі. Іхняя экзістэнцыя гістарычна і прасторава, сацыяльна-этнічна, канкрэтная. Яны, можна сказаць, адэкватныя навакольнаму свету. Іхняя асабістая ўстойлівасць, іхняе «Я» ў гэтым свеце.

Усе, па сутнасці, пісьменнікі гэтага пакалення выйшлі з вёскі. Свет, у якім яны раслі і сталелі, у якім фарміраваўся, спеліўся іх талент, свет, які яны пазней так шырока, багата адлюстравалі ў сваіх творах, гэта ў вельмі значнай ступені свет прыроды. У іх герояў, пераважна жыхароў вёскі, адчуваецца магутная прыродная субстанцыя. Прырода — глеба і асяроддзе чалавечага бытавання і існавання. Вёска — гэта прырода: зямля, лес, паветра, неба, надвор'е, жывёлы, птушыны свет, сонца, месяц, зоркі, дождж, снег... Усё гэта вечнае, жывое, бязмежнае і бясконцае. Усё навакольнае чалавек бачыць, адчувае, у ім жыве; тут і памірае. Пры нармальным жыцці чалавек як бы нічога не заўважае, жыве — і ўсё. Вайна ж парушыла звыкласць. Неба ўвесь час у дыме пажараў, сонца чырвонае і ледзь прабіваецца; зямля стогне пад гусеніцамі танкаў, дробна ўздрыгвае пад падкаванымі ботамі фашысцкіх салдатаў; спеву птушак зусім не чуваць, часта выюць ваўкі; дрэвы паабапал дарог паламаныя, трава пакрытая мазутам і пылам. Трагедыя вайны была і трагедыяй прыроды.

У дзіцячай свядомасці гэта адбілася назаўсёды. Дзіцячае сэрца адчула, дзіцячыя зыркія вочы ўбачылі, як цяжка, балюча прырода адчувала трагедыю вайны, як сусветна-маштабна яе ўспрымала. Такія адносіны да свету прыроды застануцца характэрнымі для ўсёй пазнейшай творчасці гэтых пісьменнікаў.

Пройдуць гады. Пісьменнікамі таго пакалення, пакалення дзяцей вайны, шмат зроблена ў літаратуры, многія ўжо закончылі свой зямны шлях, пакінуўшы багатую творчасць, на якую можна ўжо сёння паглядзець як на з'яву этапную ў нацыянальным літаратурным працэсе, з'яву вызначальную і павучальную ў плане суадносін творцы і рэальнага аб'ектыўнага свету. Можна пэўна сцвярджаць: у творчым выхаванні гэтага пакалення Айчынная вайна адыграла галоўную ролю. Вайна прадвызначыла трагічны характар ваеннага пакалення мастакоўскага светаадчування і светаразумення. Вайна ўспрымалася як з'ява ўсёпаглынальная (яна ахоплівала ўсё жыццё грамадства, увесь навакольны свет), як з'ява ў гэтым сэнсе ўсёвызначальная, з'ява ў сваёй сутнасці, у сваіх параметрах эпічная. У гэтым сэнсе можна зрабіць выснову: вайна абумовіла, вызначыла галоўны (эпічны) прынцып мастацкіх адносін да рэчаіснасці, дзе пануе безумоўны прыярытэт аб'ектыўнай рэчаіснасці, дзе ёсць шырокі погляд на свет, дзе перспектыва грунтуецца на глыбокім гістарызме.

Найперш і асабліва выразна бачыцца і адчуваецца гэты прынцып у творах эпічных жанраў — аповесцях, раманах, цыклах раманаў. Тое жыццё, якое аўтары пражылі і перажылі, тыя падзеі, гісторыі, якія яны бачылі, пра якія чулі, не давалі спакойна жыць, патрабавалі выхаду — спачатку; пазней — асэнсавання, глыбокага спасціжэння, уключэння ў сістэму гістарычных кардынат і сучасных грамадска-сацыяльных і маральных крытэрыяў. Так спачатку з'явіліся апавяданні, аповесці, затым раманы, цыклы раманаў, аб'яднаных агульнай ідэяй-задумай і асноўнымі героямі.

Шмат гадоў і, можа, самы вялікі запал творчай душы аддаў Вячаслаў Адамчык напісанню сваёй самай запаветнай мастацкай задумы — раманаў «Чужая бацькаўшчына» (1977), «Год нулявы» (1982), «І скажа той, хто народзіцца» (1985), «Голас крыві брата твайго» (1990). Талент Івана Пташнікава ўвогуле схільны да шырокага, эпічнага ўзнаўлення рэчаіснасці. У 1967 г. з'яўляецца аповесць «Тартак», у 1970 — раман «Мсціжы», у 1976 — аповесць «Найдорф» і ў 1984 — раман «Алімпіяда». Барыс Сачанка пастаянна спрабаваў свае сілы ў эпічным асэнсаванні жыцця: аповесці «Апошнія і першыя» (1966), «Родны кут» (1985), раманы «Чужое неба» (1975), «Вялікі Лес» (1979—1983). Над цыклам раманаў Іван Чыгрынаў працаваў больш як дваццаць гадоў: «Плач перапёлкі» (1972), «Апраўданне крыві» (1977), «Свае і чужынцы» (1984), «Вяртанне да віны» (1992), «Не ўсе мы згінем» (1996).

Іхнія эпічныя творы народжаны аб'ектыўнымі прычынамі, а не з'явіліся толькі ў выніку асабістых жаданняў творцаў. Іх эпас — гэта эпас жыцця, таго, якім яны ўзгадаваны, якое назаўсёды засталося ў іх памяці, у іх сэрцах. Лад і парадак, глыбінны ўнутраны змест вытрымалі выпрабаванне ў найцяжэйшыя гады мінулай вайны. Гэта быў свет для кожнага з іх (творцаў) родны па духу, па мове, па гарманічнасці і ўзаемаўзгодненасці. Яны, як творцы, былі, можа, апошнімі сведкамі эпічнага жыцця беларускай вёскі, для іх асабіста — сваёй, роднай. Той вёскі, дзе чалавек заўсёды жыў сярод людзей, з людзьмі, дзе чалавек і навакольны свет былі адзіныя, складалі адно арганічнае цэлае, дзе чалавек, стоячы на зямлі, адчуваў дыханне вечнасці, а ўзіраючыся ў бясконцыя высі нябёсаў, думаў пра неабсяжнасць сусвету і жыцця, інтуітыўна адчуваў, пачынаў потым і ўсведамляць сваё месца ў жыцці, у сусвеце. Такую вёску, такога вяскоўца добра ведалі пісьменнікі, чыё дзяцінства было ахоплена вайной, акупацыяй, блакадамі. Яны самі ў сваёй сутнасці, у сваёй прыродзе былі тымі вяскоўцамі. Не варта забываць і на тое, што ў апошняй трэці XX стагоддзя стала досыць заўважна, што старая вёска, вёска традыцыйная знікае. І пісьменнікі паказалі тую вёску, той вя-

сковы свет, які захавала іхняя дзіцячая і юнацкая памяць, — вёску, вясковы свет эпічнага характару і зместу. Тут, не толькі ў цыклах раманаў, але і ў іншых творах гэтых аўтараў (і не толькі гэтых — можна назваць таксама А. Кудраўца, В. Казько) як бы зліліся дзве эпічныя стыхіі — стыхія вёскі і стыхія вайны. Шмат у чым гэта ўдалося зрабіць. Расказваючы пра жыццё вёскі ў часы найсуровейшых выпрабаванняў, паказваючы вёску ўсебакова, ва ўсім багацці яе выяўленняў, гэтым пісьменнікам шмат у чым удалося стварыць яе нацыянальны вобраз, вобраз, адэкватны нацыянальнаму жыццю.

Вось што пісаў В. Каваленка пра раманы В. Адамчыка: «В. Адамчык здолеў дасягнуць такой глыбіні пранікнення ў жыццё, што духоўна зварушыў, ажывіў самыя нізавыя яго пласты, ад чаго часта ўзнікае ілюзія, што, уласна кажучы, аўтар тут ні пры чым, адчуванне прысутнасці яго творчай волі нібы страчваецца, а зачароўвае і вядзе за сабой сам ход жыцця, з яго нечаканымі, але не стыхійнымі паваротамі, якія ўсё ж маюць сваю прычыннасць і прадвызначанасць у нечым, што калісьці адбылося з людзьмі, хоць, можа, пра гэта ўжо ніхто не памятае, і толькі генная памяць даносіць у новы час нябачныя маральныя ці духоўныя імпульсы тых мінулых падзей». Творы гэтыя пра заходнебеларускае жыццё. Але «глыбіня мастацка-аналітычнай культуры дазволіла аўтару дасягнуць такой тонкай эмацыянальна-псіхалагічнай і сацыяльнай пранікліваcці ў становішча чалавека, якая стварыла магчымасць абагульнення самога тыпу беларускай свядомасці на пэўным этапе гістарычнага існавання народа. Праз каларытныя рысы мясцовага побыту выразна праступае сэнсавая значнасць усёй беларускасці, узнікае вобраз краю агульнанацыянальнай пэўнасці і акрэсленасці».

Той эпічны вобраз свету, «вобраз агульнанацыянальнай пэўнасці і акрэсленасці», які чытач убачыў і адчуў ужо ў 1-й кнізе тэтралогіі, пад канец (у апошнім творы) прадстае драматычна паруйнаваны, з вялікімі стратамі, з перспектывай разбурэння яго цэласнасці і адвечнай эпічнасці.

Эпічнай шырынёй, цэласнасцю ўспрымання навакольнага свету, глыбокім адчуваннем драматызму яго руйнавання вылучаюцца раманы пенталогіі І. Чыгрынава. Як і Адамчык, Чыгрынаў у стварэнні раманаў ішоў ад асабістага ведання, пазнання жыцця, ад вопыту, набытага шмат у чым яшчэ на ўзроўні эмацыянальным. Ягоны свет абмяжоўваецца падзеямі вайны. Але і мірнае жыццё, мірны свет паказаны дастаткова пераканаўча: жыццё ў вёсцы ішло як бы па інерцыі ў сваіх знешніх праявах, хоць было наскрозь насычана трывогай вайны. Для І. Чыгрынава самым важным было паказаць вёску, рытм яе жыцця, эмацыянальны лад, духоўны свет, у ненатуральных для яе, больш таго, чужых ёй умовах вайны, даследаваць, як дэфармуецца традыцыйны свет вёскі ў сутыкненні, у трагічным супрацьстаянні з разбуральным светам вайны. Гэта ён зрабіў, зрабіў выдатна.

Вёска, якой яна выйшла з вайны, з акупацыі, ужо зусім не тая, што была раней. Зніклі многія жыхары, якія вызначалі яе аблічча, здратавана, парушана прырода, перарваліся многія духоўныя сувязі, што лучылі з гісторыяй, з мінулым, выразна акрэсліліся шматлікія прыкметы самаразбурэння. З пазіцый сучаснасці, з дыстанцыі чатырох дзесяцігоддзяў бачылася ўсё дастаткова акрэслена.

Уся творчасць І. Пташнікава прысвечана, па сутнасці, вёсцы і вайне. У адрозненне ад В. Адамчыка і І. Чыгрынава, творы яго маюць менш герояў, знешне ў іх меншы ахоп падзей. Але адчуванне эпічнасці ўзноўленага жыцця вёскі, узноўленых падзей ніколькі не меншае. У рэцэнзіі на раман «Алімпіяда» (характэрная назва — «Яго вялікасць жыццё») тонкі крытык і выдатны нарысіст Вера Палтаран пісала: «У рамане «Алімпіяда» ў цэнтры ўвагі... вёска з усімі яе складанымі праблемамі, але пісьменніка цікавіць не столькі вясковае, колькі народнае жыццё...»

Вядомы чэшскі перакладчык і даследчык славянскіх літаратур Вацлаў Жыдліцкі гаварыў, маючы на ўвазе ранейшы раман пісьменніка «Мсціжы», пра тое, што ў яго «ўзнікае жаданне сцвярджаць, што без Пташнікава вобраз вёскі не

толькі ў сучаснай беларускай прозе, але і ў савецкай літаратуры наогул быў бы няпоўны, у нечым важным збеднены».

У Пташнікава свой свет вёскі. Той мастацкі свет, які творыць пісьменнік у сваіх раманах, аповесцях, апавяданнях, адкрыты ў прасторы і часе; ён быццам не мае строгай сюжэтна-кампазіцыйнай ці жанравай абмежаванасці, падпарадкаванасці зададзенай ідэі. Ёсць жыццё, пэўная жыццёвая сітуацыя, якая па-мастацку распрацавана ў яе самых шырокіх і самых істотных часавых сувязях. Не жыццё само па сабе, а жыццё чалавека, не жыццёвая сітуацыя як падзея ці гісторыя (у плане побытавым ці асабістым), а сітуацыя, у якой засяроджаны лёс чалавека, чалавека вёскі, яго вырашэнне. У гэтым свеце, унутрана рухомым, зменлівым у сваёй эмацыянальнай і змястоўнай устойлівасці, свеце, у якім ёсць грунтоўная заглыбленасць у мінулае, найперш ваеннае, заўсёды адчуваецца выхад у будучыню. Асабліва глыбінна відаць гэта ў рамане «Алімпіяда».

І Адамчык, і Чыгрынаў, і Пташнікаў, і Кудравец, і Сачанка, паказваючы, шырока ўзнаўляючы жыццё роднай ім вёскі ў гады вайны ці то ў пасляваенны доўгі час, жадаючы гэтага ці не жадаючы, паказалі, сцвердзілі той свет, які пераадолеў вайну, пераадолеў яе вынікі. Паказаў сваю жывучасць і жыццетворчасць. У такім паказе вёскі адчувалася, бачылася вялікая стыхія адвечнага прыроднага жыцця, узаемаўзгодненасць і ўзаемадапасаванасць, дбайнасць і ўвага прыроды і чалавека, неба і зямлі.

Выказаўшы сваё захапленне, найглыбейшую ўдзячнасць таму свету, які іх гадаваў і песціў, дапамог выжыць, проста выратаваў у найсуровейшыя гады выпрабаванняў, даваў святло і цяпло, захаваў і мацаваў веру ў будучыню, пісьменнікі, былыя дзеці вайны, не маглі не заўважыць праз гады — у канцы 60-х — пачатку 70-х, як гэты свет, адвечны свет вёскі, пачаў імкліва знутры разбурацца, размываючы тым самым духоўныя асновы чалавечага жыцця.

Добра пра ўсё гэта ў свой час (1978) у гутарцы з Н. Цыпісам гаварыў І. Чыгрынаў. На пытанне, што прывяло яго, аўтара выдатных апавяданняў, да раманаў, той адказваў: «Што прывяло? Можа, пачуццё вінаватасці перад тым месцам на зямлі, дзе нарадзіўся, перад спаленым і разбураным маім Вялікім Борам; перад людзьмі, якіх я ведаў у дзяцінстве, перад маці, братамі і сёстрамі, перад аднавяскоўцамі; перад тымі, хто пайшоў у страшныя гады вайны і не вярнуўся... Іншы раз уначы прыгадваю на памяць хаты роднай вёскі: тут гаспадар памёр, тут — забіты на вайне, тут — расстраляны ў часе вайны... Няма хаты, дзе б не страчана было ў вайну два-тры чалавекі... А некаторыя сваяцкія роды ўжо спынілі сваё існаванне... Вёска, як шчарбаты грэбень... Вёска старых, вёска без песень... І ў той жа час — вёска трактароў, пяціпавярховых дамоў... Але ж гэта для розуму ўжо новая. Не тая вёска. А тая, якую я ведаў некалі, тая для сэрца і пачуцця. І не адыходзіць яна. І няхай застанецца ў кнігах».

То была тэндэнцыя характэрная для вёскі не толькі беларускай, і выявілася яна ў літаратуры не толькі беларускай.

Вядомы рускі пісьменнік Ф. Абрамаў, чыя творчасць народжана вёскай і прысвечана вёсцы, у 1982 г. у інтэрв'ю газеце «Книжное обозрение» гаварыў: «Чаму вёска стала маёй пераважнай тэмай? Я хацеў бы, каб гэта разумелі не ў вузкім сэнсе. Вёска — маці наша, гэта ніва, на якой ускаласілася руская культура. Пераканаíны: на прыкладзе жыцця вясковай бабы, якая не выходзіла за ваколіцу, можна даць не толькі гісторыю ўсёй краіны, але гісторыю чалавецтва...»

Зноў жа на адной сустрэчы са студэнтамі гаварыў пра тое самае: «Другі фронт... адкрылі не амерыканцы, а рускія бабы, якія мужна пераносілі цяжар вайны. Трэба было напісаць пра пакутлівы подзвіг рускай бабы. Яна працавала за мужыкоў. Яна галадала, гадавала дзяцей, у якіх вайна забрала бацькоў».

І яшчэ ў той жа гутарцы: «Усе мы выйшлі з вёскі. Вёска — наша мова, наша філасофія, наша маральнасць».

Вось словы выдатнага армянскага пісьменніка Г. Матэвасяна, які сваю творчасць прысвяціў вёсцы: «Землякі лічаць мяне як бы пасрэднікам паміж імі і вялікім

светам. А сам я бачу: маё маленькае сяло — адлюстраванне таго, што адбываецца ў вялікім свеце. Усё добрае і ўсё дрэннае, што адбываецца ў ім, у вялікім свеце, як хвалі, даходзіць да нашага сяла. Я перакананы, што, не пакідаючы сюжэтна Цмакута (вёска, пра якую ўвесь час пісаў Г. Матэвасян. — **С. А.**), можна гаварыць пра самыя вялікія пытанні свету...»

І яны гаварылі — Ф. Абрамаў, В. Астаф'еў, В. Бялоў, Г. Матэвасян, Я. Носаў, В. Распуцін. У нас — А. Кудравец, І. Пташнікаў, пісьменнікі таленавітыя, пісьменнікі асабліва блізкія жыццю — жыццю вёскі, жыццю прыроды, жыццю арганічнаму, — інтуітыўна адчуваюць, пачынаюць усведамляць глабальнае парушэнне гарманічна-натуральнай устойлівасці навакольнага свету, жыцця, бачаць недарэчныя мясцовыя і часовыя праяўленні гэтага парушэння. А яны асабліва адчувальныя, эмацыянальна відавочныя ў жыцці, звязаным з прыродай, дзе натуральнасць з'яўляецца асновай і дзе гэтая натуральнасць рэзка, балюча парушаецца. А гэта рэальнай асновай сваёй жыццё эпічнае — сваімі маштабамі, сваёй агульназначнасцю. І паказваючы размыванне, разбурэнне вясковага жыцця важна было неяк давесці думку, што разам знікае векавая аснова, сіла нацыі, народа, аблічча і сутнасць этнасу.

Думаецца, асабліва глыбока, грунтоўна думка гэтая праведзена ў раманах І. Пташнікава «Алімпіяда» і В. Кудраўца «Сачыненне на вольную тэму». Зразумела, не толькі простым паказам вясковай працы, побыту, маляўнічымі апісаннямі прыроды. Яны змаглі праз усё гэта і дзякуючы гэтаму прыйсці да высновы пра разбурэнне шматвяковай вясковай цывілізацыі. Больш таго, акцэнтаваць увагу на пэўнай духоўнай дэградацыі нацыі, бо якраз ва ўзаемаадносінах з прыродай, з побытам фарміравалася духоўнасць народа. Чалавек і абставіны, чалавек і навакольны свет, чалавек і грамадства — па гэтых вызначальных каардынатах быцця адбываецца ў гэтых творах мастацкае даследаванне чалавека, выяўленне ягонага духоўнага патэнцыялу.

Адтуль, з вёскі, вёскі ваеннай і першых пасляваенных гадоў, з народных глыбіняў, вырастаюць пісьменнікі пакалення дзяцей вайны. Там выток іх этычных і эстэтычных поглядаў і ўяўленняў. З гэтай прычыны і тыя этычныя нормы, тыя прынцыпы агульнажыцця, у адпаведнасці з якімі жывуць іх героі, нарэшце, адсюль і тыя этычныя і эстэтычныя прынцыпы-прыёмы, па якіх будуюцца і жывуць іх творы, маюць такую жыццёвую глыбіню, такую простую мастацкую прыгажосць і ўстойлівасць. Але, пры ўсім пры тым, зарыентаванасць творцаў на народныя этычныя і эстэтычныя вытокі ні ў якім разе не вядзе іх да ідэалізацыі жыцця вёскі, захаплення патрыярхальнасцю. Па-першае, час, які яны адлюстроўвалі ў жыцці вёскі, ваенныя і першыя пасляваенныя гады, быў страшэнна далёкі ад якойсьці ідылічнасці. Па-другое, ва ўсіх іх, цесна звязаных з жыццём, моцна было развіта пачуццё сучаснасці. Яны добра бачылі супярэчнасці сучаснай ім вёскі, выяўленне іх у працы, у сацыяльна-бытавых стасунках. Далучанасць жа да народных духоўных вытокаў дазваляе пісьменнікам у паказе супярэчнасцяў жыцця, яго драматызму, заставацца ідэйна пэўным, эстэтычна цэласным, эпічна ўстойлівым.

Шырокае бачанне жыцця, адчуванне яго глыбіняў, узбагачаныя моцным сучасным эстэтычным пачуццём, забяспечылі, напрыклад, такім сучасным пісьменнікам, як І. Пташнікаў і А. Кудравец, магчымасць стварыць свой мікрасвет, які ў істотных, вызначальных праявах і якасцях раўназначны вялікаму свету жыцця. Гэта мікрасвет драматычнай вясковай штодзённасці і нябачнай духоўнасці, што маюць магутную каранёвую сістэму ў часах ваеннага ліхалецця. Менавіта ў гэтым мікрасвеце характары праходзяць самую суровую і прынцыповую праверку — праверку абставінамі. Абставіны гэтыя рознага характару. Найчасцей гэта абставіны штодзённага вясковага жыцця, якое тоеснае, асабліва ў гады партызанскай вайны і акупацыі, жыццю народнаму. Характары вытрымліваюць выпрабаванне: Лёкса («Раданіца»), Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэтка («Сачыненне на вольную тэму»), Андрэй Вялічка («Мсціжы»), Алімпіяда («Алімпіяда»).

Гэта людзі складанага лёсу і шырокага духоўнага размаху, людзі моцнага грамадскага напаўнення. Лёкса ў вышэйшай ступені ўвасабляе ідэю памяці. Вяртаючыся разам з усімі з могілак, крыху адстае. Чула, што гаварылі астатнія, але «сама жыла сваім. Цяжкім, страшным, але гэта было яе жыццё, хоць і далёкае, мінулае, але цяпер яна яго не баялася. Яна ведала, што без таго жыцця не было б і яе сённяшняга дня». «Пачынае думаць, што вельмі часта ў апошні час жыве ўспамінамі. Разважае: «Памяць — гэта непадкупны і непадуладны суддзя, і ён час ад часу напамінае людзям пра тое, пра што не трэба забываць».

Менавіта памяць жыве ва ўсіх творах пісьменнікаў гэтага пакалення — памяць іхняя, памяць іхніх герояў, памяць, па сутнасці, агульнанародная. І ў гэтым сваім змесце — памяць эпічная. А гэта найперш памяць вайны.

У рамане «Сачыненне на вольную тэму», перадаючы думкі галоўнага героя Ігната Сцяпанавіча Вапшчэткі, Кудравец зазначае: «Ішла вайна...

І праз гады яна працягваецца.

Пра ўсё можна ўспамінаць, але не ўсё застаецца ў памяці. І добра, што не застаецца. Якая памяць зможа ўмясціць *тыя* гады — дзень за днём, гадзіна за гадзінай?.. Тыя дарогі, і невядомасць, і адчай, і голад, і холад, што былі на гэтых дарогах, і самі дарогі, што пралягалі і па Беларусі, і далей, і назад...»

Успаміны вайны пастаянна жывуць у памяці Ігната Сцяпанавіча, не пакідаюць яго. Бо на тых жыццёвых дарогах было напаткана столькі нягодаў і выпрабаванняў. Але не пахіснуўся чалавек, не страціў веры ў жыццё, у людзей, у высокае сваё жыццядзейнае прызначэнне. Духоўна актыўныя адносіны да навакольнага жыцця вызначаюць змест і сутнасць ягоных паводзін, ягонае светаўспрыманне. Гэта характар народны. Жыве ён у атмасферы высокай духоўнасці: сам шмат у чым яе стварае. Свайму малодшаму сябру гаворыць — наказвае: «Я павінен сказаць табе так: на зямлі кожны мусіць церабіць сваю сцежку сам. Адно важна не заблудзіць, ведаць, у які бок ісці. Як ноччу ў лесе...»

Вера ў жыццё, у яго стваральны сэнс, вера ў чалавека, у яго добры пачатак дазваляе пісьменніку «даць» і жыццю, і чалавеку-персанажу ўсе правы для самавыяўлення і самасцвярджэння. Сам ён нібы знікае. Чуецца не проста голас героя, а голас жыцця — голас шчыры, праўдзівы, стрыманы. Гэтым вызначаецца тон твораў, іх інтанацыйны лад, іх жыццёвасць і праўдзівасць: праўда мастацтва — праўда жыцця. Характар Вапшчэткі — характар народны. І не ў сэнсе масавасці, прастаты, а ў сэнсе глыбокай сацыяльнай і духоўнай змястоўнасці: у ім увасоблены лёс народны. Гэты герой, гэты характар нясе ў сабе, увасабляе драматызм і ўзлёт гісторыі, яе вялікі жыццедайны сэнс. У творы заўважана вуснамі яго асноўнага персанажа: «У гісторыю ўсе ідуць пешша, і яна сама выбірае сабе палюбоўнікаў». Ігнат Сцяпанавіч, як і іншыя героі пісьменніка, не трапляюць у «палюбоўнікі» гісторыі. Але для А. Кудраўца, для ягонага героя гэта не мае абсалютна ніякага значэння — не іх клопат. Вапшчэткі і такія, як ён, як Лёкса, — творцы гісторыі, яны самі гісторыя — краю, народа, зямлі.

І ці не тое самае можна сказаць у адносінах раманных герояў І. Пташнікава — Андрэя Вялічкі, Алімпіяды. Гэта характары народныя, па-сапраўднаму эпічныя, гістарычныя. У іх увасоблены час, драматызм і трагізм часу, непаўторнасць чалавечай псіхалогіі і чалавечага духу, які вытрымлівае неймаверны ціск часу, абставін, найперш сацыяльных, і іх перамагае. Для пісьменніка самым важным было сцвердзіць такі характар — народны ў сваім глыбінным змесце, у сваёй сутнасці, у сваіх рэальных жыццёвых маштабах. І ў творах самае істотнае — гэта адчуванне маштабаў, эпічнасці характараў. Для Пташнікава ўвогуле ў пераважнай большасці твораў галоўным становіцца паказ лёсу чалавека — у ягоных учынках, узаемадачыненнях, адносінах да ўсяго, што яго акружае, з чым ён сустракаецца, кантактуе ці канфліктуе. У такім выпадку не мае вырашальнага значэння жанравая прырода твора, ахоп падзей, колькасць персанажаў, колькасць і значнасць рэальных гістарычных экскурсаў. Творчая пазіцыя аўтара, ягонае ра-

зуменне гісторыі, сваёй ролі і свайго месца, як творцы, ва ўзаемаадносінах з навакольным светам — гэта асноўнае. Жыццёвая школа, рэальныя падзеі, этычныя прынцыпы і крытэрыі існавання і выжывання былі такімі, што яны адбіваліся ў душы і свядомасці: ты — толькі маленькая часцінка агромністага навакольнага свету, трагічнага і прыгожага, жорсткага і ласкавага; ты — адзінка ў вялікай чалавечай сям'і, без якой ніхто не можа абысціся і не абыходзіцца. Такі лад і парадак усталяваны вякамі, замацаваны як бы ўзгодненай узаемадзейнасцю з прыродай; стаў ён нормай, звычкай, арганічнай патрэбай, вызначыўся агульным паняццем — вёска. Зазначым яшчэ раз: у тых, хто нарадзіўся і выхоўваўся ў вёсцы, хто разам з вёскай перажыў вайну і пасляваеннае ліхалецце і хто закліканы быў лёсам да мастацкай творчасці, разуменне і сцвярджэнне аб'ектыўнага свету як першаасновы творчасці, першапрычыны ўсяго, што можа адбывацца ў творы, эпічнае адчуванне і ўзнаўленне гэтага свету вызначаюць творчасць іхнюю, яе сутнасць і застаюцца назаўсёды. І не толькі ў творах, прысвечаных, напрыклад, вайне, не толькі ў творах буйных, эпічных жанраў.

У канцы XX стагоддзя, пасля перабудовы і звязаных з ёю складаных і супярэчлівых працэсаў, напісаўшы амаль кожны свае буйныя эпічныя творы, пісьменнікі, былыя дзеці ваенных гадоў, як бы імкнучыся за бурнай ходою падзей, захопленыя паскораным рытмам часу, пішуць пераважна творы малых празаічных форм. Але і тут, нават у эсэ і дзённіках, суб'ектыўнасць аўтарава амаль ніколі не выходзіць на пярэдні план. Аб'ектыўны свет жыцця першынствуе. І зноў жа (зразумела, у сувязі з гэтым — з такімі ўзаемаадносінамі мастака і рэчаіснасці) эпічны пачатак выразна вылучаецца ў творы, нават калі ў аснове яго матэрыял суб'ектыўна блізкі аўтару — можна сказаць, звязаны з ім асабіста.

У 1998 г. І. Пташнікаў надрукаваў апавяданне «Тры пуды жыта». «Апавяданне, вартае рамана» — так называлася рэцэнзія на гэты твор народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Так, значнасцю зместу, глыбінёй распрацоўкі характару, важкасцю ідэйнай напоўненасці, лёсавызначальнасцю адлюстраваных рэальных падзей твор гэты сапраўды адпавядае жанраваму вызначэнню паэта і навукоўца. Змест твора складае не падзея, не эпізод з жыцця чалавека, а, па сутнасці, лёс чалавека. «Тры пуды жыта» — гэта гісторыя аднаго чалавечага жыцця, жыцця, якое прайшло «пад знакам» культу асобы.

У цэнтры гэтага апавядання-рамана лёс Александрыны, звычайнай беларускай жанчыны. Пташнікаў і тут падказвае, дае зразумець, што жыццё, пра якое ён піша, убачана ім зблізку, што гэта жыццё блізкіх яму людзей. Прысвячэнне падказвае: «Памяці Сяльвестры і Александрыны». Але за гэтым жывым канкрэтным лёсам Александрыны выступае з усёй жыццёвай сілай і важкасцю лёс беларускай жанчыны. Трагічны і самаахвярна-гераічны чалавечы лёс.

«Высокая, ценкая, высахлая за сваё праклятае бязмужняе адзінокае жыццё на трэску — адна гадавала трое дзяцей, бегала кожны божы дзень у калгас ад цямна да цямна па нарадзе, насіла кляймо сям'і «ворага народа», памагала ў вайну партызанам, рвала жылы пасля вайны пры бясхлебіцы, пакуль не састарэла і пакуль не перасталі да яе чапіцца калгасныя брыгадзіры, каб ішла араць, баранаваць, жаць, выкідаць з праварын гной, палоць, выбіраць бульбу, даглядаць, малаціць, калаціць...» — такая вось яна, Александрына.

Варта тут адзначыць, што, мабыць, як ніхто ў беларускай літаратуры, І. Пташнікаў змог стварыць глыбока заземлены, гістарычна абумоўлены, надзелены глыбокай прыроднай і сацыяльнай жыццеўстойлівасцю эпічны нацыянальны жаночы характар. Тут можна прыгадаць «Лонву», «Тартак», не кажучы ўжо пра «Алімпіяду»... Жанчыны ў гэтых творах, напэўна, у найбольшай ступені ўвасабляюць лёс беларуса ў XX стагоддзі — еднасць з прыродай, вернасць зямлі, працавітасць, сумленнасць, любоў да дзяцей і адданасць сям'і, вялікую цярплівасць і вынослівасць, веру ў жыццё, у перамогу дабра. Бо без гэтай веры і жыць нельга было б. У часіны бесперапынных амаль трагічных нацыянальных катаклізмаў.

Сяльвестру, мужа Александрыны, першы раз арыштоўвалі пагранатрадам у 1933 годзе. Ні ён, ні яна не ведалі за што. У 1935 адсядзеў тры месяцы за тое, што, трапіўшы пад мароз, згніла ў парніку бульба. У 1937 арыштавалі трэці раз. Арыштавалі і не адпусцілі.

У 1956-м Александрыну выклікаюць на допыт. Кадэбіст пасля допыту паведамляе, што справа яе мужа будзе перагледжана. Прайшло больш за год. Александрына чакала цяпер дзень і ноч вестак. Прыносяць праз нейкі час пісьмо. Ваенны трыбунал Беларускай ваеннай акругі паведамляў, што «дело по обвинению Пташник Сельвестра Лазаревича пересмотрено», «постановление от... 1937 г. ...отменено, и дело за отсутствием состава преступления прекращено.

Пташник Сельвестр Лазаревич реабилитирован посмертно».

Пісьменнік псіхалагічна дакладна перадае душэўнае ўзрушэнне жанчыны. Стрымана, нешматслоўна. Жанчына анямела. І ўсё анямела.

«І ходзікі, і радыё маўчалі...

У вачах то белае, то чорнае... І слёзы з воч... Самі цяклі руччом, самі перасыхалі, пасля зноў цяклі...».

І вось, можа, самыя жахлівыя словы ў вызначэнні ўнутранага стану жанчыны:

«Дваццаць гадоў яна помніла, што Сяльвестры няма, але ўсе дваццаць гадоў думала, што ён жывы. Помніла, але не памінала... А трэба было памінаць... Аж дваццаць гадоў...».

Такое было не з ёю адной, такою была не яна адна. На запытанне кадэбіста ў канцы допыту-гутаркі, ці хацела б яна што дапоўніць да сваіх паказанняў, Александрына ледзь не крычыць: «А каб можна было дапоўніць — дапоўніла б... Што згнаілі ў зямлі маладымі і майго Сяльвестру і Савэрку (ягоны брат. — **С. А.**)... І ў нашай вёсцы па чалавеку лічы праз хату...»

Ёсць у творы такі момант: на допыце ў нейкі момант Александрына не можа стрымацца, пачынае плакаць. Следчы-кадэбіст не супакойвае. Яна падумала: «Калі ён не першую яе дапытвае, то, відаць, ужо наслухаўся і плачу і нагледзеўся бабскіх слёз. А таго плачу — вёскамі, і слёз — рэкамі ён не чуў і не бачыў; маладзён...»

Тут не проста словы, прадыктаваныя пэўным настроем, выказаныя тыя, якія прыйшлі на розум у адпаведным душэўным стане. Яны жыццём яе выпакутаваныя, нажытыя. Яе асабістым жыццём і жыццём вёскі. А за імі — краіна... Пташнікаву з выключнай мастацкай сілай і псіхалагічнай пераканальнасцю ўдалося паказаць, што культаўскія рэпрэсіі значылі для народа — не толькі для саміх рэпрэсаваных. Яны парушалі адвечны лад жыцця, нявечылі людскія душы, разбуралі духоўную атмасферу ў грамадстве, прыніжалі, гнялі чалавека. З дня ў дзень. Пастаянна. Штодзённа. Не ў аднаго пакалення.

Убачана ўсё гэта Пташнікавым пасля вайны. Рабілася такое з людзьмі, якія вынеслі на сваіх плячах вайну. Юначым розумам і сэрцам тое, што рабілася ў гэты, пасляваенны, час супастаўлялася, узаемаацэньвалася з усім тым, што дзеелася ў вайну. Таму, напэўна, арганічнасць і эмацыянальная сіла пратэсту, асуджэння, непрымання. Як бы само жыццё народнае не прымае гвалту, беззаконня, несправядлівасці.

Александрыну ў скрушныя дні і гады ратавалі штодзённыя клопаты пра дзяцей і пастаянная праца — цяжкая, знясільваючая, ад цямна да цямна. Яна прытупляла боль, глушыла думкі. Найбольш ратавалі дзеці. Іх трэба было карміць, апранаць, выхоўваць, вучыць. Жанчына выгадавала дзяцей, вывела ў людзі. Але жыццё з пастаяннай незаслужанай крыўдай у душы, прыхаванай насцярожанасцю і заўсёдным страхам прывяло да таго, што чалавек перастаў радавацца, што ў ягонай душы злосці назбіралася аж праз край: злосці на людскую несправядлівасць, абыякавасць да іншых людзей, жорсткасць.

Глыбокі абагульняльны сэнс нясе ў сабе сцэна касьбы.

Пасля таго, як Александрына атрымала паведамленне пра пасмяротную рэабілітацыю мужа, зайшоў праз нейкі час брыгадзір Петражыцкі і сказаў: «У ве-

дамасці табе выпісана тры пуды жыта. Зарплата Сяльвестры за два апошнія месяцы, калі ён рабіў у калгасе. Такое ўказанне ў кантору старшыні прыслалі... І сенакосу паўгектара выпісана». Столькі каштавала жыццё чалавечае. Пасля рэабілітацыі ўжо, у новых умовах. Цынізм заўсёды побач з бесчалавечнасцю.

Александрына не адразу згадзілася ўзяць усё гэта. Потым рашылася: пакуль будзе атрымліваць жыта, пакуль будзе касіць — будзе разам з Сяльвестрам. І яна атрымлівае хлеб, ідзе касіць. Косіць адна, высільваючыся, да знямогі, губляючы апошнія сілы.

Купіны, бабок, гадзюкі на купінах... Усё ў вачах і свядомасці змяшалася. Усё зразае касец. Дзесьці ў затуманенай свядомасці і памяці ўсплываюць вобразы пагранічнікаў: яны першы раз арыштоўвалі Сяльвестру.

«Шарх... Бліскучая васьміручка зразае адным махам і шэрыя шынялі, і шэрыя галовы ў гадзюк».

Узнікаюць уласаўцы. Яны збіраліся паліць людзей.

«Шарх... Каса рэжа і накрывае іх у пракосе...»

З'яўляецца перад вачыма штосьці падобнае да брыгадзіра Петражыцкага.

«Пасля яны ўсе перамяшаліся: і галоўкі бабка, і галовы гадзюк, і пагранічнікі, і ўласаўцы, і петражыцкія...

«Столькі гадаўя на зямлі... Як ты іх усіх перарэжаш...»

Гэтая думка прамільгнула ў Александрынінай галаве ў апошнюю хвіліну перад тым, як яна, трацячы прытомнасць, без сілы ўпала на пракос.

Пазней прыедуць дзеці. Александрына трохі паправіцца. Гледзячы на дзяцей, пераканана падумае: «Вось без вас, дзеці, нішто на зямлі не вечнае...». Словы гэтыя — як светлы сонечны промнік напрыканцы хмурна-балючага аповеду пра такі драматычны і разам з тым такі народна-эпічны лёс жанчыны.

І ў гэтым творы, і ў іншых, напісаных у апошнія гады: «Француажанкі» (1997), «Пагоня» (1999), «Ненапісаная аповесць» (2001), «Асколак ад зоркі» (2004), адчуваецца шмат болю, бачыцца трагічнае ўспрыманне свету. Выток — у гадах мінулых: ваенных, першых пасляваенных.

«Ненапісаная аповесць» пакідае адчуванне для пісьменніка, можа, самай большай аўтабіяграфічнасці. Але і ў гэтым творы Пташнікава, дарэчы, напісаным у гады панавання ў літаратуры суб'ектывісцкага пачатку, павага да жыцця, да навакольнага свету вызначае яго эстэтычную сутнасць, а не проста падзейную аснову. А падзейная аснова і тут поўная драматызму і болю. І гэты драматызм, і гэты боль не сціхае праз гады. Шматзначныя, поўныя глыбокага сэнсу заключныя абзацы твора. Успомніўшы на радзіме пасляваенныя школьныя гады, сталы, у добрых ужо гадах, герой глядзіць на старасвецкія бярозавыя прысады, пад якімі калісьці, у школьныя гады, любіў, змораны, паляжаць і адпачыць. Бачыць, як яшчэ больш пачарнелі і парудзелі камлі гэтых бяроз, якой каструбаватай стала кара на іх. Думае: «Гэтулькі многа чарнаты на камлях нашых белых беларускіх бяроз...»

Трагічнага зместу развязка ў апошнім па часе Пташнікавым творы-апавяданні «Асколак ад зоркі». Асноўнымі падзеямі твор звязаны з сучаснасцю, але з той сучаснасцю, выток і вынік якой у ваенным мінулым. Ветэран-палкоўнік, былы разведчык, пасля святкавання чарговага юбілею Перамогі, вырашае на наступны дзень наведаць месца брыгаднай разведкі, намеснікам начальніка якой ён быў цэлы год. Спачатку едзе аўтобусам, потым ідзе пешшу. Адзін. Заходзіць на могілкі. Згадвае загінуўшых сяброў і паплечнікаў. Бачыць знаёмую вёску, знаёмыя мясціны. Усё выклікае невясёлыя думкі. Ён разважае пра тое, што вёска вымірае. Вёска Агульніца, якую ён помніць і бачыць цяпер, ужо амаль уся на могілках. «Колькі Агульніц, калі палічыць спрадвеку, ляжыць тут, у гэтай сыпучай зямлі... Адна ля адной... Адна на другой...»

Ад убачанага зноў заныла на душы:

«За што ваявалі? За што пралівалі кроў?..»

Дабіраецца, у роздуме, ва ўспамінах пра ваеннае мінулае, да месца, дзе быў бліндаж іхняй разведкі. Па дарозе да яго прыбіўся чорны сабака. На тым месцы, дзе была брыгадная разведка, сабака выграбае міну (іх пакінулі разведчыкі). Адганяючы сабаку, палкоўнік зачапіў міну, якая ўпала ў яму ад бліндажа, дзе былі яшчэ міны. Узрыў.

Прыехала «хуткая дапамога», прыехалі мінёры. Забралі цела палкоўніка-ветэрана.

Вечарам над месцам узрыву «праляцеў чорны бусел, якога рэдка бачылі ў гэтым баку». Узышла поўня. «Вялікая, круглая, чорна-чырвоная на сутонні смугі, цяжкая і далёкая-далёкая ад зямлі...

А па зямлі, па сыпучай пясчанай дарозе з Агульніцы ў Леснікі бег, кульгаючы і падцягваючы пад сябе пярэднюю правую скрываўленую лапу, вялікі, чорны, як смоль, сабака...

Кантужаны і абпалены, ён астаўся жыць».

Канцоўка сэнсава многааспектная, не адналінейная, эмацыянальна-трагічная. Вайна ёсць вайна. Яна не глядзіць, не разбіраецца, хто свой, хто чужы. Па сутнасці, яна не мае тэрміну сканчэння. Яе экзістэнцыяльны сэнс — смерць.

Так і такім паказаць жыццё можна тады, калі асабіста пабачыш, адчуеш, перажывеш яго. Гэта нашае жыццё — народнае, нацыянальнае. Жыццё XX стагоддзя. Менавіта такое жыццё ўзгадавала і выхавала пакаленне дзяцей вайны. Выхавала ў іх любоў і павагу да навакольнага свету, усведамленне яго вырашальнасці ў чалавечым лёсе, глыбокае ўнутранае трымценне перад яго агромністасцю, неспазнанасцю, непрадказальнасцю.

Таму творцы гэтага пакалення, пакалення, якое перажыло, можа, самыя лёсавызначальныя падзеі як у жыцці народа, так і ў жыцці чалавека, заўсёды імкнуліся, імкнуцца і будуць імкнуцца даследаваць і спасцігнуць навакольны свет, адкрыць яго законы, убачыць, адчуць яго лад і парадак. Больш таго, праз гэты свет, у ім выявіць і пазнаць чалавека, пазнаць самога сябе. Відаць гэтая тэндэнцыя ў творчасці пісьменнікаў розных мастацкіх індывідуальнасцяў, у творах розных жанраў. І тут галоўнае, вырашальнае — змест жыццёвага вопыту.

Пакаленне, выхаванае жыццём эпічна-трагічным, верным жыццю засталося назаўсёды. Сённяшняя рэальнасць яму не прыносіць радасці, не мяняе сутнасць характару іх творчасці.

Эпічна-трагічнае ўзнаўленне жыцця ў творчасці пісьменнікаў філалагічнага пакалення заўсёды грунтуецца на канкрэтнай жыццёвай аснове, выяўленай найперш у багатых апісаннях прыроды. Гэтыя разгорнутыя апісанні ні ў якой ступені не з'яўляюцца фонам. Гэта ўмовы жыцця, само жыццё — сацыяльнае, побытавае, працоўнае, асабістае ў жыцці сусвету. Прычым у творчасці кожнага пісьменніка апісанні прыроды, дакладней, можа, прырода — свая. Не толькі ў сэнсе геаграфіі, але і яе эмацыянальнай насычанасці, яе колераў, яе прасторавых і часавых межаў.

У творчасці І. Пташнікава, у кожным, па сутнасці, творы карціны прыроды, малюнкі — яркія, выразныя, эмацыянальна насычаныя — займаюць асабліва значнае месца, адыгрываюць надзвычай важную, у многіх адносінах вырашальную, ролю. Прычым не пра апісанне можа ісці гаворка, а пра ўзнаўленне. Без разгорнутых, эмацыянальна яркіх карцін прыроды нельга ўявіць сабе ніводнага Пташнікавага твора. Падзеі, канфлікты, абставіны, агульная духоўная атмасфера, нарэшце, ідэйны змест — усё звязана з прыродай. Падзеі, па сутнасці, усіх твораў пісьменніка адбываюцца ў адных і тых самых мясцінах ягонай роднай Лагойшчыны. У гэтым жыцці ўсё да драбніц яму знаёмае, усё сваё, асабістае. Але што характэрна: узноўленае ў творах канкрэтнае жыццё не мае якіхсьці прасторавых межаў. Дарэчы, як і часавых.

І ў Пташнікава, і ў яго герояў нейкае спрадвечнае разуменне, а можа, часцей усвядомленае адчуванне еднасці з навакольным светам. А чалавек і навакольны свет, найперш свет прыроды — гэта адзінае. Свет жа прыроды бясконцы.

Яхрэм Жаваранка, адзін з галоўных герояў аповесці «Найдорф», знаходзіцца ў партызанскім заслоне. Узіраецца на пустую дарогу, у далёкі свет. «Глядзеў — і яму здавалася, што ён ляжыць у акопе вечна, не было ні жыцця ў вёсцы да вайны, ні араў, ні сеяў, ні рваў карчы на пасецы; здавалася, ён вырас у акопе з зямлі, як расце грыб, і яму суджана пакласці галаву тут, у гэтую зямлю...». Як бачым, герой без якога б там ні было «інтэлектуальнага намагання» суадносіць сваё жыццё, сваё рэальнае становішча з бясконцасцю сусвету: сусвет для яго — натуральны працяг усяго, што робіцца навокал.

Міфодзя, сын Алімпіяды з аднаіменнага рамана, вяртаецца з бальніцы ад маці ў родную вёску. Бачыць, як пусцее вёска. Заўважае над вёскаю «вялікае цяжкае жоўтае халоднае воблака». «Сонца, заходзячы за сіні ў дыме лес, падсвечвала воблака, робячы яго чырвона-бурым, і здавалася, што яно старое-старое — вечнае. Вісела тут, калі яшчэ не было зямлі, і застанецца наўсягды. Над воблакам зажаўцеліся палоскі ад далёкіх самалётаў — два доўгенькія каласкі ячменю. Каласкі пасля выцягнуліся ў дзве вузенькія памятыя саломінкі і апусціліся на край зямлі».

Ва ўспрыняцці Міфодзі адвечнае і сучаснае, прыроднае і народжанае тэхнічным часам зліліся ў адно. Але след самалёта ўсё ж — толькі маленькі каласок у параўнанні з воблакам.

Адчуванне бясконцасці свету, адчуванне дыхання вялікіх прастораў жыцця пранізвае апісанні, прысутнічае ў самой фразе, у яе эмацыянальным ладзе. У тым свеце, які творыць-адлюстроўвае І.Пташнікаў, перад тварам вечнасці і бясконцасці, у дачыненні да іх, усё сённяшняе набывае сапраўды рэальныя параметры, выяўляе сваю існасць, сваю неабходнасць жыццю і чалавеку.

В. Адамчык неаднойчы заяўляў, што піша «пра тое, што наймілейшае» яму. Для пісьменніка гэты момант вельмі істотны. «Пісаў і пісацьму сваё жыта, сваю дарогу ў полі, маладую бярэзіну пры хаце, ціш, вечар і сваю маці з дзяружкаю зелля за плячыма». Сапраўды, пісаў Адамчык увесь час толькі пра сваё, пражытае і перажытае, тое, што засталося ў ім, стала ягоным асабістым — у падзеях, асобах, малюнках, колерах. Ужо ў аўтабіяграфіі, пазначанай 1967 годам, па сутнасці, пачаткам творчасці, ёсць важнае прызнанне: «Каб я быў мастаком і меў шчыра-балючы талент Ван-Гога, я нашу вёску, зямлю і людзей маляваў бы не ў сіні, а ў шэра-жоўты колер — колер прывялага лета, спелага жыта і нашае нішчымна пясчанае зямлі. У нас не ткалі, як у Галандыі, сіняе сукно і не насілі на тварах цёмна-сіні пыл ад вугальных капальняў. У нас ткалі і да сённяшняга дня ткуць шарачак. А вяртаючыся з ворыва ці малацьбы, мае вяскоўцы прыносілі ў хату, нават на кончыку носа, шэры пыл.

У нас усё шэрае: хаты, неба (бо край дажджлівы) і нават вечары — шарая гадзіна».

Якраз у такіх танах напісана тэтралогія В. Адамчыка. Ужо ў першым рамане было гэта заўважана і адзначана. У рэцэнзіі на часопісную публікацыю рамана «Чужая бацькаўшчына» Алесь Жук пісаў: «Дзеянне рамана «Чужая бацькаўшчына» пачынаецца позняй восенню, калі стаяць шэрыя хмурныя дні. Ды і асноўны колер, у які быццам усё афарбавана ў рамане, — шэры і рыжаваты, сумны асенні колер лясоў і палёў, падобны да цяжкага і беднага жыцця...» Характэрна, што ні ў адным папярэднім творы, нават ў тых, дзе выразна адчувалася аўтабіяграфічная аснова, фарбы бацькоўскай зямлі, вынесеныя з дзяцінства, не адчуваліся так выразна, у такой канцэнтрацыі. Справа, напэўна ў тым, што раней пісаў В. Адамчык пра асобныя гісторыі, факты, праявы, настрой якіх, фарбы якіх не заўсёды маюць асаблівую выразнасць і пэўнасць. У раманах жа піша пра жыццё. А колер тагачаснага жыцця ў пісьменнікавай памяці застаўся такім — шэрым. Ёсць і момант іншага характару, але цесна звязаны з першым. Жаданне пісаць пра народ найперш выклікала ў памяці самае глыбіннае, асабістае, тое, што жыло ў свядомасці пісьменніка, што стала неад'емнай часткай

ягонага свету. Свет той прадстаў найперш у шэрых фарбах. Гэта як бы суб'ектыўныя прадумовы наяўнасці адпаведных пейзажных фарбаў у рамане. Напэўна, ёсць і аб'ектыўныя якіясьці прадумовы. Сапраўднае мастацтва, апрача ўсяго іншага, і ў тым, што форма ў ім арганічна адпавядае зместу, больш таго, гэты змест у сваёй сутнасці можа быць выяўлены толькі ў такой форме. Адпаведнасць гэтая датычыцца і непасрэдных элементаў формы. У раманах В. Адамчыка агульны колер узноўленага жыцця, эмацыянальны тон самога апавядання маюць глыбокую сацыяльную абумоўленасць. Тое жыццё роднага краю, у якім выразна выяўлены істотныя моманты агульнацыянальнага жыцця, напэўна, найбольш праўдзіва можна было паказаць у такіх колерах і фарбах.

«На Палессі, на самым поўдні Беларусі, ёсць куточак зямлі, асабліва мілы, дарагі майму сэрцу. Дзе б ні быў я, куды б ні закінула мяне доля, не-не дый згадаю яго. У радасці і ў журбе, з блізкіх і далёкіх дарог я'вяртаюся зноў і зноў туды, дзе сярод старых, пракаветных лясоў і вялізных, неабсяжных балот на пясчанай выспе раскінулася вёска, у якой я нарадзіўся, у якой жыве і сёння мая маці, жывуць браты». Так лірычна-ўсхвалявана напісаў пра родныя мясціны, родную вёску Б. Сачанка ў рамане «Чужое неба». У самым пачатку. Тым самым як бы надаўшы твору адпаведную танальнасць і вызначыўшы аўтараў пункт гледжання на падзеі — адкрыта лірычна-суб'ектыўны. Але і тут, у працэсе разгортвання падзей, узнаўлення жыццёвай гісторыі, эпічна-аб'ектыўны фактар становіцца вызначальным.

«Як Антэй, дакрануўшыся маці-зямлі, набіраўся новых сіл, так і я, наведаўшы родныя мясціны, гаюся, на доўгі час пазбываюся сноў...

Сноў свайго трывожнага, абпаленага нягодамі маленства...»

Словы гэтыя, якімі канчаецца раман, досыць выразна перадаюць стан душы пісьменніка, калі ён пісаў твор, а таксама агульнае творчае стаўленне да родных мясцін. Падзеі ў пераважнай большасці твораў Б. Сачанкі разгортваюцца ў ягоных родных мясцінах. Раман «Вялікі Лес», нарыс «Зямля маіх продкаў», палеская быль «Агліцкая сталь», «Дыярыуш Мацея Белановіча», «Дзік-бадзяга», «Апошнія і першыя», творы адной з апошніх кніг «Родны кут», шматлікія апавяданні... У аснове іх — падзеі (рэальныя ці выдуманыя), якія адбываліся на Палессі. Прырода ў іх палеская, героі — людзі, надзеленыя своеасаблівай паляшуцкай псіхалогіяй, насычаны творы паветрам палескіх лясоў і балот, у іх роднае, і чыстае неба бацькоўскай зямлі. З цягам часу адносіны пісьменніка да родных мясцін, сам мастакоўскі характар іх узнаўлення змяніліся. Змяніліся не з прычыны суб'ектыўнага характару. Адбылася чарнобыльская катастрофа. Усяго за якую паўсотню кіламетраў ад роднай вёскі. Для Сачанкі, пісьменніка і чалавека, як бы знікае цэлы свет, свет самы блізкі і дарагі, свет, з якога ён выйшаў, але які ўзяў з сабою і панёс у сабе. Свет, дзе знаходзіліся тыя крыніцы, якія жывілі яго духоўна, жывою вадою загойвалі раны і наталялі пачуцці. Той вялікі свет прыроды, які раней быў свой, стаў для чалавека варожы, тоіць у сабе невытлумачальна вялікую небяспеку.

Выключна важную ролю адыгрываюць апісанні прыроды ў творчасці тых жа І. Чыгрынава і А. Кудраўца. У тым вялікім эпічным свеце беларускага акупацыйна-змагарнага жыцця, які І. Чыгрынаў стварыў у сваёй пенталогіі, прырода, апісанні прыроды ў найбольшай ступені дазваляюць напоўніць свет жывым паветрам, эмацыянальнай роднай атмасферай, урэшце, надаць адпаведны рытм і лад усяму апавяданню, даць адчуць паэтычна-трагічную стыхію народнага жыцця. У творчасці А. Кудраўца апісанні прыроды як бы раствораны ў агульнай аналітычнай плыні ўзнаўлення жыцця, у выяўленні глыбіннай сутнасці характараў, якія падаюцца не на фоне апісанняў прыроды, а якія як бы нясуць прыроду гэтую ў сабе: яна іх узбагачае, паглыбляе, робіць больш непасрэднымі, праўдзівымі.

Калі ж паглядзець шырэй на ролю карцін прыроды ў беларускай літаратуры, то можна пэўна сцвярджаць: прырода ў значнай ступені сілкуе літаратуру нацы-

янальнай энергіяй. Прырода — адна з базавых асноў нацыянальнага свету. Менавіта прырода больш, чым што іншае, вызначае яго настрой, колер, як бы ажыццяўляе духоўна-эмацыянальнае напаўненне. Да таго, прырода была не проста месцам дзеяння пэўных персанажаў, тых ці іншых падзей. Яна была асяроддзем, у якім жылі і дзейнічалі персанажы, асяроддзем, якое іх тварыла.

Другая палова 80-х гадоў — час пераломны для ўсёй беларускай літаратуры. У тым ліку і для пакалення дзяцей вайны. Эпічныя задумы былі завершаны. Час патрабаваў аператыўнасці, падштурхоўваў да стварэння жанраў больш мабільных. Набываюць пашырэнне жанры публіцыстыкі. Але і ў іх пераважае свет жыцця, а не свет мастака. Відаць гэта і ў творчасці В. Адамчыка, Б. Сачанкі, А. Кудраўца.

Завяршыўшы тэтралогію, В. Адамчык пераадольвае, як сам прызнаецца, вялікую стомленасць і ўнутраную спустошанасць, піша аповесці, апавяданні, п'есу, дзённікі. І гэтыя творы, асабліва, можа, дзённікі розных гадоў, засведчылі, як актыўна на працягу ўсяго творчага жыцця ставіўся пісьменнік да ўсяго, што адбывалася ў свеце, асабліва ў тым свеце, у якім ён жыў, якім болем поўнілася ягонае сэрца, як бунтаваў ягоны розум за лёс вёскі, лёс бацькаўшчыны, лёс мовы.

Запіс у дзённіку ад 23 сакавіка 1973 года.

Піша, як гіне прыгарадная вёска. Вывад: «...Яе, як і сотні, і тысячы іншых, праглынуў крыважэрны горад, прынёсшы на тутэйшую зямлю ўсё чужое — звычаі, мову і перамешаную з нянавісцю непавагу да нас, беларусаў, народжаных на гэтай зямлі».

Зноў жа 12 мая 1973 года:

«Я нават забываюся ўжо, як гучыць роднае варакомскае слова. Абрыдла слухаць слуцка-тамбоўскі жаргон, несусветна дзікую моўную трасянку. Горка і балюча-брыдка прызнавацца і паўтараць даўно аплаканае Купалам: як сябе не цэнім і не любім. А ці ўваскрэснеш, душою ўпаўшы?»

3 студзеня 1973 года:

«Мы мусім паказаць свету, што ёсць нацыя, народ, яго слова, яго змучаная, злая і зычлівая душа».

Пройдуць гады. І вось 16 чэрвеня 1992 г. у «Крэсках з аўтабіяграфіі» піша:

«Жыву, як усе, залішне трымаючыся палітыкі, хоць ніколі не быў раўнадушны ці, як кажуць, індыферэнтны і абыякавы да лёсу свайго народа, яго мовы, яго гісторыі, яго дзяржаўнасці.

Жыву даўнім, нерастрачаным спадзяваннем, што Беларусь адродзіць, верне свой былы гонар і веліч і яе будуць называць па-даўнейшаму Вялікім княствам Літоўскім, а нас, сённяшніх беларусаў, — ліцвінамі, як называлася наша дзяржава і яе жыхары ў старажытнай незабыўнай рэчаіснасці.

А пакуль мы жывём за сцяною няверы, збудаванай вакол нас чужынцамі і сваімі ж здрайцамі. Ці не пра нас сказаў Фрыдрых Ніцшэ: «Толькі там мы сябе адчуваем спакойнымі, дзе нам пагражае найбольшая небяспека». Дадам ад сябе: асабліва нам, беларусам, што страцілі гістарычнае пачуццё, а разам з ім і нацыянальны гонар. Вернем яго — вернем усё, — і дзяржаўнасць, і мову, і знявечаныя ці перайначаныя назвы нашых паселішчаў і нашых імёнаў. А перадусім — вернем саміх сябе.

Ведаю і тое, што шлях да адраджэння і ўваскрашэння ляжыць праз Галгофу. Але — памажы, Божа!».

Апошняе напісана ў новых умовах. Але і раней і ў часе перамен клопат у пісьменніка адзін — радзіма, мова, гісторыя, вёска. Ён увесь у гэтым, пра сябе піша ў суаднесенасці з навакольным жыццём, з родным краем. І той боль, тая туга і той сум, якімі пранізана ўсё, напісанае гэтым майстрам слова, асабліва пасля раманаў, яно народжанае ў мінулым, найперш і галоўным чынам у ваенна-акупацыйным мінулым роднага краю. Балючая памяць дазваляла глядзець на жыццё шырока, бачыць выразна навакольны свет, адчуваць рух гісторыі.

Сведчанне сына, пісьменніка Адама Глобуса:

«Яшчэ адна тэма, якую я старанна абмінаю, — вайна. Для таты яна — аснова. Хлапечыя ўражанні ніколі не адпускалі яго душу. Спаленая, расстраляная з германскіх гарматаў вёска Babакомшчына. Галава каровы, якая высунулася ў акенца гумна і таму не згарэла. Аднавяскоўцы, пасечаныя шашкамі казакаў, што перайшлі на бок Гітлера. Усё гэта запаланіла ягоную свядомасць. Можа, таму, калі доктар сказаў, што тата памрэ ў эйфарыі, падумалася, а колькі можна яму пакутаваць. Ён і так адпакутаваў за ўсе здзекі і прыніжэнні беларуса».

Параненая вайною душа і свядомасць пакалення, свет, навакольнае жыццё ўспрымала пакутліва, балюча. Але яго, як пакаленне, якое выйшла з вайны, можа, найбольш душэўна траўміраванае, усё ж турбавалі не пакуты асабістыя, а жыццё, што выклікала гэтыя пакуты. Жыццё ў самых разнастайных праяўленнях, у самых розных яго часавых глыбінях. Ваеннае перажытае прымушала выключна ўважліва ставіцца да ўсяго, што адбывалася навокал, суадносіць з мінулым, вывяраць гісторыяй. Ва ўсіх творах В. Адамчыка гісторыяй роднай зямлі насычаны падзеі, сітуацыі, вобразы, гісторыяй нябачнай, не канкрэтызаванай вялікімі падзеямі і вядомымі персанажамі.

У красавіку 1990 г. на X з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі Б. Сачанка гаварыў пра тое, што «мы, беларусы, шчаслівыя і разам з тым няшчасныя людзі. Шчаслівыя, бо ў нас, як і ў большасці народаў, ёсць: свая зямля, свая мова, свая культура, сваё мінулае і сваё будучае. Няшчасныя, бо маючы, здаецца, усё, што трэба, мы тым не менш не мелі цягам стагоддзяў сваёй дзяржаўнасці». Не мелі, таму што «кожны, хто прыходзіў з агнём і мячом на нашу зямлю, прыносіў сюды і свае парадкі, імкнуўся калі не фізічна знішчыць нас, дык духоўна».

Гэтае разуменне гісторыі Беларусі, драматычнага лёсу народа, разуменне пастаянных яго фізічных і інтэлектуальных высілкаў — каб выжыць, разуменне, набытае, дзякуючы тагачасным грамадска-палітычным зменам, і, можа, у першую чаргу, дзякуючы выключным асабістым намаганням, пісьменнік імкнуўся аддаць, перадаць іншым. Гэтаму была падпарадкавана ягоная творчая энергія. Перабудова, пачатак нацыянальнага адраджэння ў літаратуры, сярод іншага, былі пазначаны ўзмацненнем асобаснага, суб'ектыўнага пачатку, а таксама пашырэннем публіцыстычна-эсэістычнай плыні. Прыкметна і своеасабліва выявілася гэта ў творчасці Б. Сачанкі. Перабудову, усё звязанае з ёю сустрэў з энтузіязмам. Ягоная творчасць і ягоная грамадская дзейнасць становяцца адзіным цэлым і поўнасцю падпарадкоўваюцца сцвярджэнню таго новага, што нараджалася ў жыцці. Успрымаў жыццё шырока, у самых розных яго праявах. Успрымаў усё як сваё асабістае. Асабістае ў тым сэнсе, што ўсё гэта істотна закранала, перарабляла жыццё, якое яго выгадавала, якім жыла краіна, якое было ягоным. Непасрэдна асабісты пачатак у творчасці становіцца ідэйна і стылёва вызначальным. Эсэістыка і публіцыстыка пранізваюць усё, што было напісана з пачаткам перабудовы.

Асаблівую цікавасць Б. Сачанка праяўляе да гісторыі, да ўзнаўлення занядбаных яе старонак, найперш тых, якія звязаны з духоўным жыццём народа. Піша пра невядомыя ці малавядомыя старонкі жыцця і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, пра драматычны лёс беларускай эміграцыі, пра Ф. Скарыну і М. Доўнар-Запольскага, В. Ластоўскага і А. Гаруна, К. Сваяка і Я. Лёсіка, Я. Радзівіла і Л. Геніюш, піша пра цёмныя постаці ў гісторыі нацыі — Мураўёва-вешальніка, Л. Бэндэ...

На новым вітку нацыянальнага гістарычнага развіцця, узбагачаны новымі ведамі, яшчэ раз звяртаецца да мінулага, да вытокаў. Піша пра набыткі духоўныя ў жыцці штодзённым, побыт і звычаі народныя як выяўленне характару і светапогляду яго («Вечны кругазварот», 1986), пра маці («Пад сузор'ем сярпа і молата», 1993), піша пра чарнабыльскую бяду, што абрынулася на ягоныя родныя мясціны («Запіскі аб радыяцыі», 1990; «Паездка ў зону», 1990).

Усё, пра што пісаў у гэтыя гады Сачанка-публіцыст, галоўным чынам сфакусіравана было на лёсе радзімы — яе мінулым, яе гісторыі — далёкай і больш

блізкай, яе дні сённяшнім і будучыні; на лёсе чалавека ва ўмовах тагачаснага (для яго — сучаснага) жыцця, зноў жа лёсе драматычным. На пытанне, чаму многія пісьменнікі пачалі актыўна выступаць у жанры публіцыстыкі, чым гэта выклікана, Б. Сачанка адказваў: «Жыццём, жаданнем дапамагчы людзям. Раней у гэтых жанрах не хацелася выступаць, бо нельга было гаварыць праўды. Цяпер можна калі не ўсё, дык ва ўсякім разе многае сказаць, супаставіць свае погляды з поглядамі іншых людзей, сёе-тое нагадаць, падказаць ці папярэдзіць... Не, публіцыстыка вельмі дзейсны і патрэбны жанр...».

І ён гаварыў з болем, з абурэннем, гаварыў не адзін раз, пра тое, што робіцца і як робіцца ў чарнобыльскай зоне. А гэта ж яго радзіма, там жылі тады яго маці, браты. Неаднойчы наведваўся ў тыя мясціны. Бачыў на ўласныя вочы, што і як там робіцца, чаго не хапае. Нарысы насычаныя канкрэтнымі фактамі, лічбамі, жывымі сведчаннямі людзей. І пачуцці, асабістыя перажыванні, асабісты боль выяўляюцца не проста на фоне няшчасця, агульнага гора, а як іх канкрэтнае, індывідуальнае праяўленне. Народнае, аб'ектыўна-эпічнае падпарадкоўвае суб'ектыўнае, асабістае. Нават эмацыянальны лад твораў як бы выпраменьваецца з аб'ектыўна-жыццёвай агульнай асновы.

Канец 80-х — пачатак 90-х — гады выключна складаныя, драматычныя для творчай свядомасці, для псіхікі пісьменнікаў, мастакоў. Столькі фактаў, ацэнак, меркаванняў нечаканых, неверагодных, парадаксальных, такіх, якія многае перакрэслівалі, адмаўлялі з мінулага, з агульнапрынятага. Як было захаваць раўнавагу, рэальнае адчуванне падзей, сітуацый. Але ў пакалення было галоўнае — рэальнае адчуванне і веданне жыцця, народнага, гістарычнага. Веданне асабістае і веданне народнае.

І калі Б. Сачанка піша: «Для нас, беларусаў, сталіншчына куды страшнейшая, чым для некаторых іншых народаў. У нас жа рэпрэсіраваны былі не толькі людзі, але і мова наша, наша гісторыя і культура, і нават у значнай меры дзяржаўнасць... Колькі скалечана лёсаў, стаптана чалавечых душ, не народжана дзяцей, не напісана кніг, не адкрыта адкрыццяў!.. А рабства, усмоктанае з малаком маці, загнанае ў думкі і помыслы!..

Сталінізм асуджаны. А сталіншчына... Ох, як нялёгка ад яе пазбыцца...», — то гэта не проста словы. За імі і ў іх гады народнага жыцця, пакутаў і здзекаў народа і чалавека, асабіста ўбачанае і перажытае. І, на жаль, не толькі мінулае.

У пераломныя для краіны гады напрыканцы стагоддзя Б. Сачанка жыве асабліва актыўным грамадскім і творчым жыццём. Разам з тым і ягоная творчасць, і ягоная грамадска-культурная дзейнасць, і ягонае жыццё наогул бачацца сёння не самі па сабе, а як выяўленне пэўнай глыбіннай грамадска-літаратурнай, духоўнай тэндэнцыі. А менавіта выяўленне, вельмі характэрнае, адметнае, пастаянных духоўных намаганняў пакалення, якое шмат перажыло, шмат адчула болю, па-сапраўднаму ведае жыццё, пакалення, якое жыло і жыве ў высокім унутраным напружанні, адраджае, мацуе духоўныя асновы нацыі, змагаецца за іх сённяшняе захаванне. Такое служэнне, такое неашчаднае выдаткаванне разумовай энергіі, шчодрага душэўнага цяпла патрабуе адваротнай аддачы — падтрымкі, заахвочвання, разумення, добрага слова, нарэшце.

Некалькі гадоў назад адзін з прадстаўнікоў пакалення дзяцей вайны (Г. Бураўкін) выказаўся ў тым сэнсе, што гэтае пакаленне — «няшчаснае пакаленне». Адразу думка падалася нечаканай, асабліва ў вуснах паэта быццам бы пасляховага ў жыцці і творчасці. Але толькі адразу... Бо дзяцінства ў гэтага пакалення адабрала вайна. Юнацтва было халодным і галодным. Сапраўднай творчай свабоды, па сутнасці, усе гады не было. І вось зноў... На апошнім жыццёвым перагоне і яны, і іхняя творчасць аказваюцца непатрэбнымі.

Такім чынам, творчасць, у дадзеным выпадку маецца на ўвазе проза, пакалення дзяцей вайны з'яўляецца ў нацыянальным гісторыка-літаратурным працэсе вельмі важнай старонкай — і ў плане духоўна-пазнавальным, і ў плане эстэ-

тычным. Думаецца, што гэтае пакаленне найбольш адэкватна ўзнавіла ў сваёй творчасці ўнутраны стан народа, чалавека (беларуса), стан душы яго ва ўмовах акупацыі. Яно змагло перадаць амаль фізічнае адчуванне прысутнасці чужога ладу і парадку, чужога духу ў свеце адвечна родным, блізкім, гарманічным. У адрозненне ад пісьменнікаў старэйшых пакаленняў, пісьменнікаў-удзельнікаў вайны, у творчасці якіх матэрыял вайны, няхай і ўзноўлены праўдзіва, переважна быў падпарадкаваны вырашэнню якіхсьці сацыяльных ці то маральна-этычных праблем, пісьменнікі пакалення дзяцей вайны, кіруючыся імкненнямі часта як бы інстынктыўнымі, найперш і галоўным чынам хацелі, прагнулі да фізічнай адчувальнасці праўдзіва ўзнавіць, паказаць сацыяльны, бытавы, духоўны, псіхічны, нарэшце, фізічны стан чалавека, народа, краю ў вайне, ва ўмовах акупацыі. Такое ўзнаўленне рэчаіснасці патрабавала ад пісьменніка ўсебакова-эпічнага адлюстравання жыцця, выяўлення яго першаснасці, асноватворчасці ў мастацкім свеце. Грунтуючыся на ўласным жыццёвым вопыце, паказваючы так вайну, пісьменнікі змаглі стварыць глыбокія нацыянальныя характары. Тыя ж Вялічка, Алімпіяда, Александрына ў І. Пташнікава, Лёкса, Вапшчэткі ў А. Кудраўца, Зазыба ў І. Чыгрынава, героі апавяданняў Б. Сачанкі «Соль», «Навальніца», «Ваўчыца з Чортавай Ямы», жанчыны з аповесці М. Стральцова «Адзін лапаць, адзін чунь», героі В. Адамчыка паказаны не ў малым гістарычным часе, бо сам гэты час уключаны ў вялікую гісторыю, ён гістарычны сам па сабе, мае перспектыву. Чалавек мае гісторыю — нацыянальную, сацыяльную, духоўную. Таму ў прынцыпе ён роўны народу. Чалавек мае свой лёс. Ягоны лёс неаддзельны ад лёсу вёскі, краю, зямлі. У вельмі значнай ступені, ва ўсякім разе ў момантах найбольш выразных, лёс гэты створаны вайной. І выпрабаваны, сцверджаны вайной.

І яшчэ на адзін істотны момант літаратуры пакалення дзяцей вайны неабходна звярнуць увагу. Узнаўляючы эпічна жыццё ваеннай вёскі, самадастатковае ў сваіх кардынальных момантах бытавання, выпрабоўваючы і выпрабоўваючы яго сітуацыямі і палажэннямі трагедыйнага зместу і характару, літаратура тым самым аб'ектыўна (ды і суб'ектыўна, бо ў жыцці ўзноўленым абавязкова бачыўся лёс самога пісьменніка) выяўляла і сцвярджала тыя крытэрыі і нормы, якія ў тым нялюдскім свеце татальнага зла і разбурэння дазволілі чалавеку застацца чалавекам і ўрэшце выйсці пераможцам у барацьбе з сусветным злом. Можна пэўна сцвярджаць, што менавіта ад часоў вайны ідуць крытэрыі і арыенціры ў духоўнай іерархіі каштоўнасцяў. Нормы гэтыя адвечныя, выверaныя і сцверджаныя шматвяковай гісторыяй народаў, а таксама (а можа, у першую чаргу) гісторыяй нацыянальнай. Яны, апроч іншага, сцверджаны і папярэдняй нацыянальнай літаратурай. У гэтым сэнсе творчасць гэтага пакалення ў аснове сваёй свабодна ўвайшла ў агульнае рэчышча сусветнай і нацыянальнай літаратуры, пазначанай як рэалістычная, гістарычна праўдзівая, гуманістычная сваім зместам.



**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# МЁД І ВОСК СУЧАСНАЙ ПАЭЗІІ

*«Паэт — альбо вялікі змагар думкі, бясстрашны і беззаганны «рыцар духу», як гаворыць Генрых Гейнэ, альбо нікчэмны паразіт, які забаўляе другіх нікчэмных паразітаў дробязнымі фокусамі бясплённага фіглярства. Сярэдзіны няма. Паэт — альбо тытан, які ўзрушвае горы спрадвечнага зла, альбо кузурка, што капошыцца ў кветкавым пылку...»*

Дзмітрый Пісараў




Сённяшняя беларуская паэзія выглядае апатычнай, аслаблай, беззмястоўнай і безыніцыятыўнай. Нават у лепшых сваіх праявах (*афарыстычнай філасафічнасці* А. Разанава, *дынамічнай узрушанасці* У. Някляева, *слоўным слаламе* Р. Барадуліна, *какетлівай метафарычнасці* Л. Дранько-Майсюка ды *іранічным аптымізме* А. Хадановіча) яна выяўляецца не на ўсю сваю патэнцыйную моц. Адназначна, што на сучасным сваім этапе яна не пашырае, а паступова (магчыма, што й змушана?) звужае прастору сваёй *бытнасці* ў грамадстве і змяншае *ціск* свайго духоўнага ўздзеяння на чалавека. (А яшчэ ж зусім нядаўна апалагеты прыгожага ў мастацтве крыкліва заяўлялі паўсюль, што зместу ў нашай літаратуры цэлыя бібліятэкі і пара ўжо надаць яму (зместу) прыўкраснасць і новыя формы, як — раптам! — нічога істотнага не знайшоўшы за выштукаванай фармальнай аздобаю сучасных літаратурных твораў, апроч *пустэчы*, сталі апалагетамі імі ж скрытыкаванага зместу. Пра гэта пісаў у часопісе *Д. Жукоўскі, «Arche», № 4, 2005.*). Нешта падобнае адбываецца цяпер і з рэлігійным вызнаннем: паўсюль узносяцца ў неба прыгожыя малітоўныя храмы, а парафіян між тым не большае і сама вера ў людзях паступова трансфармуецца, і міжволі слабне (наймацней за яе трымаюцца грэшнікі, што раскайваюцца дзеля магчымага ўласнага бяссмерця)... Інтэлектуальны чалавечы досвед, як тое ні прыкра, стаў абцяжарваць духоўныя запатрабаванні цяперашняга людства. Ды і самі паэты ўсё менш *трацяцца* на паэзію. Яны сталі занадта заспакоенымі, прагматычнымі і абстрагаванымі ад *векавечнага*, зрабіліся доўгажыхарамі глабальнага тэхналагічнага дабрабыту. Вось як сказана пра гэта ў П. Вераб'ёва:

*Ах, як гулка праносіцца поезд,*
*Пасажырскі, пасля таварняк.*
*Я, бывала, жыў творчым запоем,*
*А цяпер не жыву аніяк.*

Узгадайма, колькі бескарыснай духоўнай і душэўнай энергіі штодня вылучаў з сябе малады і таленавіты Анатоль Сыс — і дзе ён цяпер?! Мабыць, у вечна паўзмрочным і тужлівым горадзе *Ліме*, у Пекле для нявінных, куды пасяліў няхрышчаных немаўлят і вялікіх старажытных паэтаў аўтар «Боскай камедыі» Дантэ Аліг'еры. Заўважце, *немаўлят* і **паэтаў** зраўняўшы ў граху і ў святасці...

Сутнасць паэзіі, як вядома, не матэрыяльная, але да слоўная (а не *даслоўная*). Бо, калі яна *ўцялесніваецца* словамі і *выяўляецца* вершамі, — то гэта ўжо толькі напамін пра яе лёткае зніклае з'яўленне (своеасаблівая абалонка былога ўзвышанага духу — гэтак званага натхнення ). Не навіна і тое, што паэзія, перадусім, падсвядомасны стан чалавека. І каму яна сёння ў такім **бескарысным стане** патрэбная? Найперш самім паэтам, паколькі з'яўляецца крыніцай іх жыцця. Без яе яны ўсыхаюць, мярцвеюць (перастаюць быць паэтамі насамрэч) і, каб не сканаць фізічна, ператвараюцца ў звычайных вершаскладальнікаў (чытай графаманаў). А ці патрэбная паэзія чытачам, якія самі не вычуваюць падобнага творчага стану, як паэты? Відаць, толькі тым з іх, хто здольны ўзвысіцца альбо прынізіцца — парадавацца ці паспачуваць — праявам чужога жыцця, прасцей кажучы, здольным дзеля *паднебнага* на ахвяру ўласных пачуццяў альбо прагных дзеля *зямнога* насілкавацца чужой энергіяй... Такіх, на жаль, у сённяшнім беларускім (а тым больш у любым іншым) грамадстве няшмат. Рэдкае сёння (можна нават сказаць, *выключнае*) паэтычнае *брацтва* (паэта і чытача) — як вечназялёны аазіс духоўнага жыцця сярод будзённай матэрыяльнай пустэльні. Адсюль само па сабе паўстае пытанне: а ці будзе запатрабаванай паэзія пры падобным раскладзе *рэчаў* у будучым чалавечым жыцці (маецца на ўвазе занатаваная версіфікацыя, выдрукаваная і выдадзеная кніжкай)? На маю думку, паэзія будзе запатрабавай заўсёды (незалежна ад таго, якую форму набывацьме яе сутнасць). Больш таго, яна будзе неабходнай, як паветра (паколькі, па вялікім рахунку, яна і ёсць *эфірам*). Без яе, няхай і зрэдчасных, праяўленняў чалавецтва задыхнецца і абрушыцца ў сваіх ганарліва ўзвышаных хмарачосах-вавілонах, у вокны якіх будуць залятаць не міралюбныя *сысавы ластаўкі з-пад Моталя*, а тэрарыстычныя самалёты... Пакуль жа высокая паэзія дзейнічае на нас, як разавая ін'екцыя, што паніжае альбо павышае артэрыяльны (духоўны і душэўны) ціск канкрэтнага чалавека. Заўважце, нават нешматслоўныя перадсмяротныя запіскі далёкіх ад літаратуры людзей змяшчаюць у сабе высокую канцэнтрацыю паэзіі. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што сапраўдная паэзія патрабуе ўсяго чалавека даастатку...

На гэтым цьмяна абмаляваным фоне зборнік вершаў Паўла Вераб'ёва «Не трэба вас...» падаўся мне адметным і даволі істотным. А бадай, і мужным. Гэта яго трэцяя кніжка. Першая — «Крытычная маса» (1990) — займела, хоць і стрыманыя, але станоўчыя водгукі ў перыёдыцы. Неўзабаве пасля яе выхаду сам Рыгор Барадулін даў тады яшчэ маладому паэту рэкамендацыю для паступлення ў Саюз пісьменнікаў, праўда, не так даўно адклікаўшы яе (цікава, што даваў яе Рыгор Іванавіч — між іншым стаўшы на старасці вялікім арыгіналам — з творчых прычынаў, а забраў з палітычных, таму вельмі карціць знайсці адказ на пытанне: ці мела хоць аднойчы месца такая практыка на працягу ўсёй дзейнасці Саюза беларускіх пісьменнікаў?). Другі зборнік П. Вераб'ёва «Чырвонае віно» таксама не зазнаў шырокага розгаласу, бо якраз па тым часе розгалас мелі рэчы супрацьлеглага паэзіі кшталту (дэтэктывы, мыльныя жаночыя раманы ды піярныя жыццяпісанні). Пачынаючы з той пары, наш няпэўны суверэнны час духоўна дэфармаваў шмат творчых асобаў. Мараль, этыка і эстэтыка былі адсунуты на самы край чалавечага жыцця. Высокамастацкія творы калі і з'яўляліся, то ўжо не мелі (*нямелі?*) шырокага чытацкага попыту. А сама творчая асоба аганізавала ў безвыходных варунках духоўнай стагнацыі постсавецкага грамадства. Адных гэта загартоўвала, другіх — перастройвала (і прыстройвала), трэціх — натуральна выштурхоўвала за межы самой мастацкай прасторы...

Павел Вераб'ёў па сацыяльна і ідэйна *закладзеным* фармаце сваёй душы на першым часе шчасліва апынуўся пасярэдзіне, а пасля — выпхнуты на край *прахадзім-*

*цамі* за лепшай доляй — пачаў паступова загартоўвацца ў складаных варунках карыкатурна абноўленага жыцця, асталёўвацца і паціху наладжваць і рабіць сваю справу. Такой (найперш для душы) сталася прыватнае пчалярства. Павел завёў сваю пасеку і нават адкрыў *«пчаліную»* газету, чым на пэўны час і ўлагодзіў *няўдобіцу* душы ў хатычных праявах дэградуючага грамадства (між іншым, у зборніку няма аніводнага верша, дзе хоць бы мімалётна ўпаміналіся пчолы). Пакуль непрадказальны людскі рой пералётваў з месца на месца, чакаючы, калі яго нарэшце «зловяць» ды перанясуць на сталае жыхарства ў закрыты цёмны вулей (усіх разам — і рабочых пчол, і матак, і трутняў), П. Вераб'ёў раздумваў над прынцыповым пытаннем жыцця: творчасць ці наменклатурная падзёншчына? Абраў першае не пакідаючы другога. Некаму ж трэба засцерагаць сучаснае беларускае жыццё і на дзяржаўнай службе.

Як чалавек унутрана мужны (а нашай паэзіі апошняга часу, як я ўжо зазначаў вышэй, якраз не стае мастацкай мускулістасці, бо ёсць толькі культурысцкае выпружванне *накачаных* інтэлектуальных біцэпсаў на публіку тымі, хто займаецца ў багемных *фітнес-клубах* версіфікацыйнай *аэробікай*), Павел Вераб'ёў намерыўся адстойваць у паэзіі прынцыпы, закладзеныя Аляксеем Пысіным і Сцяпанам Гаўрусёвым, дзе — *мужнае* — грамадзянскае супадае з — *адказным* — асабістым.

*Мяне няма у вашым вымярэнні,*
*Адзін мой цень туды-сюды снуе.*
*Я толькі недарэчнае здарэнне,*
*Якога больш для вас не існуе.*
*Але, калі папраўдзе, я не знік.*
*І пры любым раскладзе і рэжыме*
*Я проста непрыкметны караннік,*
*З усіх бакоў зацёрты прыпражнымі.*

Падчас стыль пісьма паэта падаецца сухаватым і не надта пераборлівым, асабліва тады, калі ён высільваецца для самаабароны альбо ўзрушана абрушваецца на апанента ці нейкую грамадска-сацыяльную праяву, заганяючы яе ў кут. Аднак такія зрывы паэта нярэдка апраўданыя і зразумелыя, паколькі самі падобныя пасылы шчырыя і эмацыйныя ў сваіх прыхаваных, а то і ў адкрытых падтэкстах. Хоць адразу зазначу, што ў пераважнай большасці вершаў Паўлу Вераб'ёву не здраджваюць ні халодны розум, ні гарачае сэрца. Гарманічнасць і ўраўнаважанасць — характэрныя рысы не толькі яго чалавечай, але і паэтычнай сутнасці. Менавіта з гэтага душэўнага ладу з'явілася і прысвячэнне Рыгору Барадуліну — цёплае, наперакор усяму злому, чалавекалюбнае.

*З тых дзён другі мы сплочваем аброк,*
*Святы аброк адданасці і дружбы.*
*І як бы ў абцугі ні сціскваў змрок,*
*Не пойдзем мы ў яго святла выслужваць.*

Безумоўна, што шырокай паэтычнай натуры ў сённяшнім складаным часе не проста выжываць у грамадстве, ці то сярод ворагаў, ці хай сабе ў атачэнні сяброў, якія падчас змены палітычнай *квадры* няўзнак мяняюцца месцамі. Аднак і ў гэтым выпадку паэт не панікуе і не расчароўваецца ў пераменлівасці свету і людзей, бо добра разумее законы біблейскай мудрасці.

*Аніколі вы не падманулі —*
*Ворагі, вы лепшыя сябры.*
*Не прасвішчуць міма вашы кулі,*
*Не абыдуць шчырыя дары.*
*Гожа мне на хісткім парапеце*
*Выкрасаць вам ненавісны верш.*
*І датуль, пакуль жыву на свеце,*
*Вы мае памочнікі найперш.*

І ўсё ж паэт вызначаецца ў сваёй прынцыповай пазіцыі да тых, хто ператвараецца ў дробных кіраўнічых сошак і лізаблюдаў, калі хоча прыўлашчыцца да ўладаў дзеля ўласнай карысці.

*Вам толькі каб шаманнічаць ля трона,*
*Пакуль, як дуб, стаіць трывала трон.*
*Вы трону аніяк не абарона*
*Ці самая з найгоршых абарон.*

Вядома, што такія маральныя ўчынкі не праходзяць яму дарма. Яны змушаюць паэта асэнсоўваць уласныя магчымасці падчас непрадказальных паваротаў творчага шляху і свайго зямнога лёсу ўвогуле. Паэзія па сутнасці — тая ж Прырода. Не думаю, што адкрыю вялікі сакрэт, калі скажу, што ў паэзіі, як і ў прыродзе, выжываюць здаровыя і мацнейшыя. Тут адным набытым інтэлектам і вышкаленым выхаваннем не возьмеш. Трэба яшчэ мець у сабе спрадвечны ген *светатварэння,* дадзены Звыш, які называецца талентам. Што гэта такое і з чым яго ядуць, сказаць цяжка. Як на мой розум, то гэта *невыказны* стан чалавечай натуры на мяжы жыцця і смерці. Па вялікім рахунку, гэта стан выбару паміж нябытам і вечнасцю... І менавіта ў такім стане складваюцца непрадказальныя ўзаемаадносіны паэта як са светам, так і з людзьмі.

*А ўжо даўно ў самоце маці: «Сын,*
*Спыніся, хай навучыць бацькаў вопыт...»*
*Упаў, упаў на рызыкантаў попыт,*
*На тых, хто бачыць вышай вершалін.*
*...Душа ў мяне, матуля, — не пратэз,*
*Пад колам гістарычнага працэсу.*
*Я знаю, я не здольны быць Дантэсам,*
*А значыць — на мяне расце Дантэс.*

І хоць Павел Вераб'ёў чалавек не надта сентыментальны, ва ўсякім выпадку абыходзіцца ў любой, нават самай драматычнай сітуацыі, без слёз і *«сопляў»*, без падрабленняў, прыкідванняў і штучных пранікнёных прызнанняў у *«любові да родных бяроз і крынічак»*, усё ж, на мой погляд, — як аўтар і герой сваіх твораў, — часам бывае залішне аддаленым ад чытача, свядома адстароненым, вядзе з ім зазвычай халодны і прынцыповы *гамлетаўскі* дыялог тыпу *«быць альбо не быць»*...

*На стрэлках часу*
*Я калесаваны.*
*Да стогну закружыў замкнёны круг.*
*Трымайся, госць раптоўны, госць нязваны,*
*Не трэба ў д'ябла пазычаць паслуг.*

Нават візуальна заўважна, што паэт амаль не выкарыстоўвае *новых* формаў выказвання, не займаецца іх пошукам альбо метадамі іх кустарнага вынаходніцтва, як бы й не прэтэндуючы на значныя паэтычныя адкрыцці, аднак пры гэтым смела абнаўляе і ўзмацняе *старыя* традыцыйныя формы, тыя, няхай і рэдкія, адкрыцці міжволі выяўляючы.

*І вось ён ідзе і шукае святыню,*
*Ў слязах прыпадае да цела Айчыны:*
*Айчына, скажы, дзе святыню падзела?!*
*Маўчыць, не гаворыць халоднае цела.*

Як для мяне, то гэтыя чатыры радкі — маленькі паэтычны шэдэўр Паўла Вераб'ёва. Апісваючы (на мяжы прозы і паэзіі) свае надзённыя грамадска-палітычныя вычуванні, раздумваючы пра месца і паводзіны абранага чалавека на пасадзе ў сучасным соцыуме, паэт намагаецца бачыць шырэй уласнага вока і далей надзённага часу.

*Ідзе забег на прадапошні круг,*
*А выпадае зноўку нараджацца.*
*Я не памёр, мне б трэба тут застацца,*
*Ды скошаны і звезены мой луг.*
*І без мяне гарцуюць табуны*
*На пажаўцелай восеньскай атаве.*
*І некаму паплакаць па дзяржаве*
*Маёй блакітнавокай стараны.*

Але Павел Вераб'ёў умее быць рэзкім і бескампрамісным, калі гаворка (учынак, дзея) тычацца служэння паэзіі, Айчыне, народу. І справа тут не ў пустаслоўным патрыятызме, а ва ўнутранай набытай культуры і ў духоўным спадчынным пасвячэнні (пра што, дарэчы, вядзецца гаворка ў раздзеле «Людзі» — чатырох кароткіх, але па-мастацку ёмкіх, інтрыгуючых эсэ пра свой радавод напрыканцы кніжкі).

Павел — чалавек магілёўскі, адтуль, дзе, можна сказаць, беларуская мова пачынае выблытвацца з засілля рускай, а можа, і наадварот — пачынае абрастаць русізмамі. Цікава, што гэтая *памежная* зямля спарадзіла такіх адметных нацыянальных паэтаў, як А. Куляшоў, М. Стральцоў, А. Пысін, С. Гаўрусёў, А. Пісьмянкоў (непадалёк жа нарадзіліся М. Ісакоўскі, А. Твардоўскі, Я. Смелякоў, М. Рыленкаў)... Прысвячэнні вершаў у зборніку Ю. Кузняцову, М. Цвятаевай, А. Блоку і М. Рубцову гавораць пра пашанотнае стаўленне паэта да братняй рускай паэзіі, да яе адметна вызначанага трагічнага (і патрыятычнага) *славянскага* накірунку.

Агулам трэба адзначыць, што *зацененай* тэмай адчужанасці, пакінутасці, здрады і адзіноты прасякнута большая частка вершаў новага зборніка Паўла Вераб'ёва, паэта, на маю думку, недаацэненага з тых ці іншых меркантыльных прычын, але толькі не з мастацкіх. Ці не таму вобразы ваўкоў і сабак, нібы ў бязлюддзі забытай чарнобыльскай зоны, разбрыліся па халодна-выбеленых старонках яго кніжкі. Сабакі, што з цягам часу зрабіліся воўкасабакамі.

*Ты глядзіш на карту задыяка*
*І не возьмеш аніяк у толк:*
*Ну чаму па карце я сабака,*
*А калі ў душу заглянеш — воўк.*
.................................................
*Мы не знаем, што такое здрада,*
*Што такое сучы кавардак.*
*Каб у нас быў гэтакі парадак,*
*То і мы зваліся б да сабак.*

Што ж, як піша паэт у яшчэ адным сваім вершы, *«за дубовымі засоўкамі ісціне не вечна быць»*. Бо ўсё высокамастацкае і праўдзіва напісанае з цягам часу выявіцца на нятленным пергаменце вечнасці. А ўсё іншае сатрэцца. Я думаю, мы прыкладна здагадваемся, *што* застанецца. Не зважаючы на тое, *хто* гэта напіша...

*У зацятым чаканні*
*Застыла гара Арарат;*
*Ажываюць варункі,*
*Што змыла Сусветным патопам.*
*Новы лад,*
*Асвячоны анёльскай крывёй немаўлят,*
*Пабрыдзе па пякельных*
*Дарогах асветнай Еўропы.*



Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ПАМІЖ З'ЯВАЙ І ЗНАКАМ: АДКРЫЦЦІ НОВЫХ МАГЧЫМАСЦЕЙ ПАЭЗІІ




Чытаючы кнігу Аксаны Спрынчан «Вершы ад А.», яе першы зборнік вершаў (выдадзены ў серыі «Дэбют»), міжволі задумваешся над няпростым пытаннем: чым жа істотным адрозніваецца творчасць сучаснай маладой паэтэсы ад таго, чым жылі, што па-свойму імкнуліся ўвасобіць у мастацка-вобразнай форме паэты папярэдніх пакаленняў?

Пытанне гэтае атрымлівае дадатковую інтрыгуючую матывацыю, калі згадаць, што аўтар «Вершаў ад А.» належыць да вядомага паэтычнага роду, яе дзед і бацька — прыкметныя постаці ў беларускай рускамоўнай паэзіі. І справа, вядома, не толькі ў тым, што Аксана Спрынчан сваю паэтычную існасць раскрывае праз беларускае слова (хоць такая «здрада» сямейным традыцыям — факт надзвычай красамоўны). Зрэшты, не такім важным уяўляецца і вызначэнне-канстатацыя несупадзення вобразнага ладу яе вершаў з «сямейнай паэтыкай».

Важней іншае — вызначэнне таго, што ў творчасці Аксаны Спрынчан дае падставы для далучэння яе да новай паэтычнай генерацыі, выяўлення тых агульных эстэтычных пазіцый, што з'яўляюцца асноватворнымі для выпрацоўкі новых напрамкаў сучаснага паэтычнага развіцця.

Здаецца, нічога ў паэзіі наогул не можа змяніцца кардынальна, нішто не можа прывесці да рэзкага разлому, змяшчэння яе «тэктанічнай платформы» — анталагічна-спрадвечных светапоглядных арыентацый. Ад веку да веку адны і тыя ж матывы адзіноты, пошуку ўзаемапаразумення, кахання, шчасця.

Сказаць, што тэма кахання ў зборніку Аксаны Спрынчан з'яўляецца галоўнай, — гэта, мабыць, у дадзеным выпадку азначала б сказаць вельмі мала. Гэтая тэма з'яўляецца ўнутраным змястоўным напаўненнем, выяўленнем інтэнцыйнай накіраванасці ўсёй кнігі. Стрыжнем і падмуркам. Гэтая тэма дае магчымасці для разгортвання лірычнага перажывання, яго ўвасаблення ў разнастайнасці экзістэнцыйных момантаў.

Наогул жа трэба заўважыць, што падзел на асобныя тэмы ў гэтай кнізе мае характар умоўны. Таму што каханне — гэта само жыццё, а жыццё — каханне. Таксама як і мастацтва, паэзія, творчасць — гэта пэўныя спосабы жыцця, духоўнай самарэалізацыі чалавека. Кожнае імгненне жыцця паэтэса імкнецца ўзвысіць да таго ўзроўню, з якога адкрываецца духоўная перспектыва. Мабыць, гэта задача па самім вызначэнні не заўсёды вырашальная. Не кожны міг жыцця аднолькава значны, гэтаксама не кожнае яго ўвасабленне ў мастацкім свеце можа быць паўнаважкім і вычарпальным.

Ва ўсякім разе можна канстатаваць устойлівую тэндэнцыю, што характарызуе сабой адметнасць паэтычнага стылю Спрынчан: уважлівае стаўленне да падрабязнасцей быцця, самых дробных праяў навакольнага свету, якія ўспрымаюцца як падстава для сцвярджэння права на сваё ўласнае бачанне.

Зрэшты, гэтая ўласцівасць якраз і спалучае творчыя шуканні маладой паэтэсы з мастацкай традыцыяй, паказвае, што рэзкага разрыву паміж усталяванымі спосабамі паэтычнага спасціжэння свету і новымі спробамі авалодання матэрыялам няма.

Яшчэ адна, і, мабыць, самая характэрная рыса паэтэсы Аксаны Спрынчан — здольнасць натуральна сумяшчаць процілеглыя, разнапалюсныя прыкметы і тэндэнцыі. Даводзячы нейкую адну якасць да пэўнай крытычнай мяжы, за якою яна можа ператварыцца ў дамінуючую, аўтар умее ўраўнаважыць яе чымсьці, калі і не супрацьлеглым, дык раўназначным. Гэтым абумоўліваецца тэматычная цэльнасць кнігі, у якой матывы валодаюць узаемапераходнасцю і замяшчальнасцю.

Светаадчуванне сучаснага паэта найбольш выразна выяўляецца ў наш час, мабыць, не столькі ў танальнасці непасрэднага пачуццёвага выражэння, як у сферы паэтыкі.

Для паэтэсы ўласціва постмадэрнісцкае ўспрыманне інварыянтнасці мовы, разуменне, што слова з'яўляецца ўсяго толькі *знакам*, але і ўсведамленне ў той жа час важнасці гэтай знакавай прыроды слова для самаідэнтыфікацыі чалавека як асобы.

Сёння наогул адбываецца даволі прыкметны працэс своеасаблівага *арэчаўлівання паэтычнага знака*, увядзення яго нароўні з вобразамі і рэаліямі ў асяроддзе духоўнага бытавання паэта. Пашыраецца арэал прысутнасці ў сучасным літаратурным жыцці *візуальнай паэзіі*, у якой апрача лексічных сэнсаў выяўляюцца яшчэ і сэнсы дадатковыя, звязаныя з магчымасцямі самой графічнай формы тэксту.

Сучасны верш у большай ступені скіраваны на ўспрыманне *зрокавае*, чым на традыцыйнае ўздзеянне сваёй гукавой формай, што заўсёды раней складала сутнасць лірычнага выражэння. Некаторых даследчыкаў насцярожвае гэты працэс змяншэння ролі ў сучаснай паэзіі жывога гучання, інтанацыі. Так, напрыклад, Сяргей Аверынцаў (якога, на жаль, нядаўна не стала) выказваў несумненную трывогу з прычыны таго, што ў рускай паэзіі паступова страчваецца заўсёды ўласцівая ёй паўнагучнасць, інтанацыйная шматстайнасць. І гэта пры тым, што верлібр у ёй да апошняга часу ўяўляў сабой з'яву сапраўды маргінальную. Аднак па ўсім бачна, што агульная для сусветнага літаратурнага працэсу тэндэнцыя становіцца актуальнай і для сучаснай рускай паэзіі. Па падліках вершазнаўцаў (Міхаіла Гаспарава і інш.), сёння няўхільна ўзрастае доля нетрадыцыйных вершаваных формаў.

У беларускай паэзіі сітуацыя, у адрозненне ад рускай, была на працягу мінулага стагоддзя крыху іншай. Верлібр і іншыя формы нерэгулярнага верша займалі ў ёй значна большае месца і ў большай ступені аказвалі ўплыў на фармаванне агульнай карціны паэтычнага развіцця. Таму творчасць Аксаны Спрынчан, у якой актыўна ўзаемадзейнічаюць традыцыйныя і наватарскія пачаткі, уяўляе пэўную цікавасць як з'ява «памежнага» характару.

Трэба заўважыць, што пошукі ў галіне *візуальнай паэзіі* ўсё ж такі ў большасці выпадкаў самым непасрэдным чынам звязаныя з выяўленнем другога боку паэтычнага феномена — яго гукавой арганізацыі. Сэнсавая, музычна-інтанацыйная, сімваліка-вобразная напоўненасць паэтычнага слова як пэўнага *знака* залежыць ад яго канфігурацыі, пазіцыі ў творы. Гук, сэнс, літара, вобраз, падтэкст — усё гэта і многае іншае ў сучаснай паэтычнай творчасці становіцца, як ніколі раней, узаемапранікальным, сінкрэтычна-цэласным. Да агульнага паэтычнага працэсу падключаюцца тыя аспекты, якія раней былі не такімі выяўнымі і актыўнымі. Многія сучасныя майстры эксперыментуюць сёння як з гучаннем паэтычнага слова, так і з яго графічнай формай. Да прыкладу, пра Дзмітрыя Аваліяні, аднаго з найбольш няўтомных эксперыментатараў у рускай паэзіі, крытыкай сказана, што ён «узняў літарна-слоўную гульню (фанетычную і візуальную) да ўзроўню высокай паэзіі» *(Герман Лукомнікаў).*

У нашай паэзіі сёння таксама досыць часта можна сустрэць спробы знайсці дадатковыя сродкі выразнасці пры звароце да графічна-знакавай прыроды вершаванага рада, слова, літары. Творчасць Аксаны Спрынчан — характэрны прыклад выкарыстання такіх магчымасцей паэтычнага дыскурсу. І якраз у яе паэзіі *візуальнасць* і *фанічнасць* суіснуюць, дапаўняючы адна адну.

Увага чытача заўсёды, хай сабе мімаволі, трохі даўжэй прыпыняецца на пачатковым, *загалоўным* вершы паэтычнага зборніка. Першы твор у кнізе Аксаны Спрынчан цікавы тым, што дае нагляднае ўяўленне аб тым, як новае паэтычнае бачанне, яго індывідуальны ракурс *упісваюцца* ў нацыянальную мастацкую традыцыю.

Камень, валун — гэта трывалыя архетыповыя сімвалы ў вобразнай сістэме беларускай паэзіі. Нават пры гранічным абагульненні гэтых вобразаў амаль заўсёды застаецца ў іх штосьці важкае, рэчыўнае, дарэшты не знікальнае. У вершы Спрынчан захоўваецца ў пэўнай ступені гэтая повязь з матэрыяльным увасабленнем свету нацыянальнага быцця, *камяні* прачытваюцца як знакі-сімвалы гістарычнага вопыту. Аднак у той жа самы час адбываюцца і некаторыя метамарфозы з традыцыйнымі вобразамі — закладзеныя ў іх рэчыўнасць і прадметнасць адыходзяць як бы на задні план. На паверхню ўсплывае матыў, па сутнасці ніякім чынам не звязаны з матэрыяльна ўспрымаемымі аб'ектамі. Адбываецца зняцце важкасці прадметнага, уздым на вышыню, дзе найбольш значымым уяўляецца духоўна-сутнаснае і эстэтычна пераўтворанае.

Сфера рэальнага судакранаецца ў вершы *«А я чытаю камяні...»* з іншай, хоць і роднаснай ёй, вытворнай ад яе, сістэмай. У ёй больш істотнымі аказваюцца не лагічна-паняццевыя, сінтаксічныя сувязі, а тыя, якія заснаваныя на асацыятыўна-гукавой суадноснасці. Параўнанне ***камень — амінь***, змешчанае ў найбольш прыкметнай у кампазіцыйных адносінах пазіцыі ў вершы, вылучаецца аўтарам яшчэ і графічна. Відавочна, што менавіта на яго пераносіцца асноўная сэнсавая нагрузка. Гукавое падабенства становіцца асновай для разгортвання дадатковых паэтычных сэнсаў, надання вершу глыбіннай падтэкставасці. Адбываецца рух, які не аддаляе ***ад*** сэнсавага боку верша, а, наадварот, набліжае ***да*** тых магчымасцей, што дазваляюць выявіць *шматузроўневасць* паэтычнай свядомасці.

Суадносяцца два планы рэалізацыі паэтычнага зместу (на ўзроўні сімвалаў і рэалій экзістэнцыйнага свету і на ўзроўні *пісьма*, творчага пераасэнсавання гэтага свету) у яшчэ адным вершы Спрынчан, дзе гэтаксама прысутнічаюць вобразы архетыповага для беларускай мастацкай традыцыі характару *(дуб, камень)*. У вершы *«Пад дубам камень...»* філасофска-экзістэнцыйная тэма вырашаецца праз успрыманне быццёвай рэальнасці як пэўнага *тэксту*. Камень, што размешчаны пад дубам, уяўляецца своеасаблівым надмагіллем, на якім замест слоў «жалуды // ляжаць сузор'ем // літары апошняй...» Дуб — сімвал жыццёвасці, арганікі; камень — увасабленне матэрыяльнай прыроды, рэчыўнага свету. Тэкст, які ствараецца самой прыродай, адрасаваны таму, хто можа асэнсаваць яго значэнні, таму, хто адначасова належыць і да матэрыяльнай, і да духоўнай сфер быцця. Жыццё чалавека, яго місія ў свеце таксама складаецца ў адметны тэкст, «прачытанне» якога можа ажыццявіцца толькі пры ўмове яго суаднясення з усёй паўнатой існавання.

У мове закладзены не толькі камунікатыўны і экспрэсіўны патэнцыял, яна заключае ў сабе адбітак гісторыі свайго існавання ў цеснай паяднанасці з пазамоўнай рэчаіснасцю. Таму любая, нават, на першы погляд, цалкам фармальная моўная канструкцыя, як лічыць Спрынчан, можа і павінна мець сваё ўласнае, абумоўленае ўласнай прыродай, вытлумачэнне. Асабліва калі гэта паэтычнае пасланне.

Свае экзістэнцыйныя адчуванні, дачыненні са светам рэальнасцей паэтэса часта трансфармуе ў пошукі адэкватных ім зрухаў у мастацкай форме, у самой структуры лірычнага дыскурсу. Важна падкрэсліць якраз наступны момант: фармальныя навацыі Аксаны Спрынчан не самамэтныя, яны звязаныя не толькі з пошукам свайго творчага «я», але і з мэтаімкнёнай скіраванасцю да асабовай самаідэнтыфікацыі.

У вершы *«Сня*ынка...»* аўтарам замяняецца ў тэксце ўсяго адна літара ***ж*** на знак *. Што ад гэтага змяняецца? Прамы сэнс твора застаецца як быццам нязменны. Мы прымаем умоўнасць абазначэння і чытаем твор з улікам нowaўвядзення:

Сня*ынка
падае на кры*,
і кры*
кры*уе неба крыкам...

Калі б мы не чыталі вачыма гэты тэкст, а слухалі яго, то, вядома, не заўважылі б ніякіх зменаў. І, пагадзіцеся, у дадзеным выпадку перш за ўсё на нас аказала б уздзеянне рытміка-інтанацыйная выразнасць верша, якая з'яўляецца несумненна адной з найбольш яскравых яго характарыстык. Яна захоўваецца і пры чытанні зрокавым, але разам з тым узнікае тут і штосьці іншае, што вызначае сабой адметнасць успрымання гэтага верша. Такім чынам тэкст пачынае ўспрымацца зусім па-іншаму, з пэўнай доляй здзіўлення (згадаем тэрмін рускіх фармалістаў: *остранение*). Як быццам той жа самы тэкст і не той. Тое значэнне, якое замацавана за словам *сняжынка* і прадстаўляе непарушную сувязь: *слова — яго значэнне*, раптам адасабляецца ад яго, набывае самастойнасць, увасобленую ў графічнай форме. Быццам на старонку кнігі падаюць, пакрываючы яе, насамрэч сняжынкі. А калі яны растаюць, застаюцца ад іх *знакі* — «поласці» ў словах («а тут памі*» — так заканчваецца, быццам на абарванай ноце, верш; і тут адбываецца сумяшчэнне некалькіх тэмаў — тэма *жаночага* разам з тэмай *няпэўнасці, памежнага стану* сыходзяцца з тэмай *смерці*).

Здаецца, што цалкам ад выпадковасці залежыць, які «пучок» сэнсаў (па семіятычнай тэрміналогіі) высвеціцца ў слове. Асацыяцыя, заснаваная на фармальнай аналогіі, на першы погляд здаецца амаль не звязанай з фабульнай асновай верша. Калі не ўлічваць містычнага ўмяшальніцтва *лёсу*, які ўносіць у любое выпадковае спалучэнне абставін упарадкаванасць прадвызначанасці. Тэма *лёсу*, як бы абавязковая тэма ў жаночай лірыцы, мабыць, не магла не выявіць сябе так або інакш у зборніку Аксаны Спрынчан. Аднак асаблівасць яе праяўлення заключаецца ў тым, што яна таксама, як і многія іншыя тэмы зборніка, узнікае па сутнасці з гульні са словам. Слова *лёс* паўстае ў такой зрошчанасці з матэрыяй аўтарскага тэксту, што аказваецца цалкам неаддзельным ад яго. Яно вырастае нібы з самога тэксту, змяшчаючыся ва ўлонні іншага слова. «ПяЛЁСтак» — назва аднаго з вершаў Спрынчан, дзе гэты працэс раскрыцця слова ў слове не толькі падкрэсліваецца графічна, але і мадэлюецца ва ўсёй структуры твора.

У сучаснай паэзіі (як беларускай, так і сусветнай) узрастае роля асэнсавання суб'ектам самога працэсу творчасці. Мастацкая самарэфлексія часцей, чым у папярэднія культурна-гістарычныя эпохі, становіцца цэнтральнай тэмай літаратурнага твора. Творчасць Аксаны Спрынчан развіваецца менавіта ў гэтым кірунку. У яе вершах знойдзеш багата матываў, звязаных з перажываннем творчасці як важнейшага экзістэнцыйнага адчування.

Складваецца ўражанне, што верш ствараецца на тваіх вачах, *цяпер*. Зрэшты, гэта і ёсць неадменная ўласцівасць сапраўднай лірыкі — яе прывязанасць да цяперашняга моманту, адсутнасць адчувальнай дыстанцыі паміж актам тварэння і актам рэцэпцыі. У дадзеным выпадку знітаванасць экзістэнцыйнага і крэатыўнага ўяўляецца наогул адной з самых характэрных рыс мастацкага свету паэтэсы. Гэтая повязь выяўляецца праз метафару: «адчуваю // крокі слоў у Вечнасць»; «сэрца рвецца верлібрам» *(«ЛіМ», пятніца і ты»)*. Яна рэалізуецца ў спецыфічным спалучэнні прастора-часавых каардынат, дзе апынаецца побач з жыццёва паўнаважкім успрынятае праз культуру. Здаецца, працягні руку і кранешся яго — вось яно, побач! — тое, што здабыло надчасавае значэнне, аб'ядноўваючы чалавецтва сваімі эстэтычнымі каштоўнасцямі. Свет мастацтва на ўспрыманне такі ж лёгкі і плынны, як воблакі над намі. Ды ў гэтай легкавейнай плыннасці

ўвасабляецца якраз непрамінальнае, тое, што застаецца назаўсёды. Углядаючыся ў нябёсы, лірычная гераіня паэтэсы бачыць у змене абрысаў воблакаў пэўную адпаведнасць таму, як трансфармуецца, відазмяняецца на працягу свайго гістарычнага існавання мастацтва.

Уся гісторыя мастацтва —
ад наскальных малюнкаў
да постмадэрнізму —
у змене аблокаў
на празрыста-блакітным
палатне неба.

Сказаць *так* пра сваё разуменне працэсу мастацкага развіцця можа, вядома, толькі *сучасны* паэт, не абмежаваны неабходнасцю абавязковай даніны сацыякультурнай і культурна-гістарычнай прадвызначанасці. Аўтар, які сапраўды жыве і дыхае паветрам эпохі постмадэрну. Але які, дадамо, выбірае тую мастацкую мадэль, што выяўляе ўсё-такі ў сабе моцную повязь з культурнай традыцыяй. «Сённяшняе неба — // неба імпрэсіянізму» — у выбары менавіта такога ракурсу гледжання выяўляюцца індывідуальныя эстэтычныя прыхільнасці паэтэсы, якія адпавядаюць і яе агульным мастакоўскім устаноўкам, і, вядома, канкрэтнай сітуацыі верша, яго «фабульнаму» аспекту.

Яшчэ ў адным вершы тэма пераадолення ў эстэтычным успрыманні часавай няўстойлівасці вырашаецца з дапамогай падключэння да аналагічнага метафарычнага рада. У вершы *«Гляджу на цябе...»* адбываецца пераасэнсаванне аднаго з караткевічаўскіх вобразаў у дачыненні да абставін асабістага свету аўтара, а вобраз самога пісьменніка з'яўляецца ў тых жа самых каардынатах *плыннага — трывалага*: «А над намі воблака // з усмешкай Караткевіча».

Акт тварэння заўсёды пачынаецца з сузірання, а бачанне, уласцівае паэту, паяднана з аналітычным вылучэннем істотнага і сінтэтычным успрыманнем цэласнага. Лірыка Аксаны Спрынчан вызначаецца істотнасцю вынашанай і ў той жа час лёгкай, у пэўным сэнсе летуценнай думкі. Закранае яе часам і экзістэнцыйная туга, адчуваецца ў ёй драматызм жыцця. Таму, калі гавараць пра філасафічнасць вершаў паэтэсы, то трэба найперш адзначыць, што для іх не характэрны натужлівыя сіла-разумовыя практыкаванні. У вершах Спрынчан, асабліва ў тых, якія вызначаюцца мінімалізмам сродкаў выказвання, думка не абцяжарана ні дыдактычнасцю, ні прэтэнзіямі на глабальныя абагульненні. Аднак якраз і закранаюць такія вершы найбольш, прыцягваюць да сябе ўвагу.

Імгненні жыцця, пераўтвораныя лірычным пачуццём, цяжка, амаль немагчыма нейкім чынам каменціраваць, інтэрпрэтаваць. Можна адно прасачыць, як з іх, такіх напаўпрывідных і лёткіх, фармуецца ўрэшце пэўная цэласнасць дыялектычнага, напружана антанімічнага, плыннага свету. На белым снезе белай фарбай малюецца сняжынка (адзін з улюбёных вобразаў паэтэсы) — «зімы стала болей». «Мільён крывавых ружачак» — ад падоранага замест кветак кактуса. Спраўджаны сон дажджу — «мокры лён // маіх валасоў»...

Свет, які нараджаецца, паўстае са старонак першай кнігі Аксаны Спрынчан, не мае і не можа мець прадвызначаных межаў, бо ён у станаўленні і развіцці — паміж праявамі быцця і іх магчымымі паэтычнымі адпаведнікамі.





# *МЕТРЫКА*

### *літаратурная*

## 355

гадоў таму нарадзіўся **Капіевіч** (Капіеўскі) Ілья Фёдаравіч (1651?), асветнік, перакладчык, кнігавыдавец, паэт.

Скончыў Слуцкую кальвініскую школу. З-за ганенняў на езуітаў выехаў у Галандыю і працаваў там у друкарні. У 1700 годзе заснаваў у Амстэрдаме ўласную друкарню. Апошнія свае гады жыў у Маскве і працаваў у Пасольскім прыказе. Удзельнічаў у падрыхтоўцы рэформы Пятром I грамадзянскага шрыфту. Прапагандаваў свецкія навукі і садзейнічаў развіццю культуры і асветы ў Расіі. Перапісваўся з Г. Лейбніцам. Да 1706 года склаў і выдаў каля 20 кніг, у тым ліку «Введеніе краткое во всякую исторію», «Номенклятор (лексикон) на русском, латинском и немецком языках», «Грамматика латинская», «Прытчи Езоповы...», «Святцы, или календарь», «Руководение в грамматику словено-российскую» ды іншыя.

Памёр у 1714 годзе.

## 185

гадоў таму ў вёсцы Багон Свіслацкага раёна нарадзіўся **Малышэвіч** Павел Паўлавіч (1821), публіцыст і паэт.

Вучыўся ў Слонімскім павятовым вучылішчы. На пачатку 50-х гадоў жыў у фальварку Падгор'е пад Мінскам. Працаваў у Мінскім губернскім праўленні, а з 1860 года — рэдактар «Губернских ведомостей». З 1863 года — міравы пасрэднік па Навагрудскім павеце. Быў звольнены з пасады і па няпэўных звестках сасланы ў Арэнбург.

Пісаў на польскай і рускай мовах, аўтар рамантычнай паэмы «Спеў зорцы», шматлікіх артыкулаў і карэспандэнцый аб грамадска-культурным жыцці Мінска. Адзін з першых выступіў у друку ў абарону беларускай мовы, даў водгукі на «Гапона» і «Вечарніцы» В. Дуніна-Марцінкевіча, а таксама заклікаў інтэлігенцыю Міншчыны да актыўнага вывучэння роднага краю. Сябраваў і ліставаўся з У. Сыракомлем.

Дакладная дата смерці невядома.

## 155

гадоў таму ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна нарадзіўся **Азёмша** Іван Паўлавіч, беларускі казачнік.

У яго рэпертуары былі легенды, паданні, казкі, апавяданні на фантастычныя і касмаганічныя сюжэты. Яркай гутарковай мовай распавядаў ён бытавыя і сатырычныя казкі пра зайздросных папоў і спрытных мужыкоў. У кніжцы А. К. Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў» (1911) з 80 твораў 32 запісаны ад І. П. Азёмшы.

Памёр у 1916 годзе.

## 110

гадоў таму нарадзіўся **Бужан** Хведар Сілавіч (1896 ?), беларускі пісьменнік.

Сын селяніна. Бацькі выязджалі ў Сібір у пошуках свабодных зямель, але вярнуліся адтуль ні з чым. Х. Бужан працаваў на лесапілцы. Быў на вайсковай службе

спачатку ў царскай арміі, а пасля ў чырвонай. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне. У 1919 годзе з-за хваробы дэмабілізаваўся. Стаў членам камуністычнай партыі. Працаваў леснікам і аб'ездчыкам у Буда-Кашалёўскім раёне, а па часе і ляснічым у Парыцкім раёне. Скончыў Беларускі лесатэхнічны інстытут у Гомелі (1932). Пасля гэтага працаваў намеснікам дырэктара Уздзенскага леспрамгаса. Падчас вайны быў эвакуіраваны ў Новасібірскую вобласць, дзе таксама працаваў у леспрамгасе. Пасля вайны жыў у Чарнаўцах, загадваў канторай на чыгунцы.

Пачынаў Х. Бужан з селькораўскіх допісаў. Першы верш надрукаваў у 1926 годзе. Быў членам Бабруйскай філіі «Маладняка», пасля — БелАППа. Сябраваў з М. Лыньковым. У 1932 годзе выйшла яго аповесць «Леснікі», прысвечаная, дарэчы, М. Лынькову, але не вельмі ўдалая ў мастацкіх адносінах. Былі звесткі, быццам бы Х. Бужан працаваў над другой аповесцю, якая тэматычна працягвала першую, аднак...

Звестак аб даце і месцы смерці Х. Бужана няма.

**85**

гадоў таму была заснавана **Нацыянальная бібліятэка Беларусі**.

**35**

гадоў з часу адкрыцця (1971) **бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны** ў Лондане.

## КРАСАВІК

**4**

**— 110** гадоў таму на Смаленшчыне нарадзіўся **Шчаглоў-Куліковіч** Мікалай Мікалаевіч, беларускі кампазітар. Жыў у ЗША.

Скончыў Маскоўскае сінадальнае вучылішча царкоўных спеваў. З 1936 года — у Мінску. Працаваў рэдактарам на Беларускім радыё. Адзін з арганізатараў Мінскага опернага тэатра, дырыжор яго сімфанічнага аркестра. З 1944 года — у Германіі. Кіраваў Беларускім тэатрам эстрады. З 1950 года жыў у ЗША. Аўтар опер «Кацярына», «Лясное возера», «Усяслаў Чарадзей», аперэты «У вырай», кантаты, сімфоній, сімфанічных сюіт, канцэртаў, песень і рамансаў на словы Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Дубоўкі, Н. Арсенневай, М. Кавыля, У. Жылкі ды іншых, музыкі да драм, спектакляў, твораў царкоўнай музыкі, апрацовак беларускіх народных песень... Быў таксама ўкладальнікам «Беларускага песеннага зборніка», зборнікаў «Калядоўшчыкі», «Родныя матывы». Напісаў нарысы па гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Архіў кампазітара захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане.

Памёр М. Шчаглоў-Куліковіч у 1969 годзе.

**4**

**— 70** гадоў таму ў пасёлку Мір у сям'і рамесніка нарадзіўся **Тармола** (Тармола-Мірскі) Раман Якубавіч, беларускі паэт.

Скончыў у 1955 годзе Мірскую сярэднюю школу. А ў 1960 годзе скончыў вучобуна гісторыка-філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута. Ад таго часу працаваў (старшым рэдактарам, загадчыкам літаратурна-мастацкага аддзела, галоўным рэдактарам літаратурна-драматычных праграм, каментатарам па літаратуры і мастацтве) на Беларускім тэлебачанні. Быў членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі мастацкіх фільмаў кінастудыі «Беларусьфільм» (1977—1980), а пасля членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі тэлевізійных фільмаў Беларускага тэлебачання.

Упершыню выступіў з вершамі ў 1957 годзе ў газеце «Чырвоная змена». Аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў: «Асколкі і росы», «Поўня», «Абнаўленне», «Міран-

ка», «Побач», «Павага», «Вобразы вечара», «Толькі б дагаварыць...», аўтар зборнікаў выбраных вершаў і паэм «Зямное — зямному», «Спрадвечнасць», «Зярняты з каласоў»... Для дзяцей напісаў дзве кніжкі казак: «Каго баяцца ў лесе» і «Казкі-падказкі». Аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў «Людзям сябе пакажы», «Я не самотны... Максім Багдановіч», дакументальна-мастацкага фільма «А мае міране добрыя людзі», тэлеспектакля «Зачараваны Валерка».

Лаўрэат літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя А. Куляшова.

**6**

**— 70** гадоў таму ў вёсцы Падбярэззе Маладзечанскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Шупенька** Генадзь Серафімавіч, беларускі крытык і літаратуразнаўца.

Бацька яго двойчы быў зняволены ў турмах даваеннай Польшчы, падчас вайны ваяваў у партызанскіх атрадах, а ў пасляваенны час працаваў у розных савецкіх установах і ў 1954 годзе загінуў пры выкананні службовых абавязкаў. На руках маці засталося сямёра дзяцей.

Летам 1941 года нямецкі салдат моцна ўдарыў малога Генадзя па спіне, так што той на ўсё жыццё захварэў на туберкулёз хрыбетніка. З залатым медалём скончыў Куранецкую сярэднюю школу ў 1955 годзе. Паступіў на філалагічны факультэт БДУ, але на другім курсе змушаны быў пакінуць вучобу з-за хваробы. Перанёс некалькі цяжкіх аперацый, нанова вучыўся хадзіць. І ўсё ж у 1965 годзе з дыпломам выдатніка скончыў універсітэт. Здаў кандыдацкі мінімум, але хвароба не адпускала. У Маскве зрабілі шостую аперацыю, пасля чаго змог скончыць аспірантуру і быў накіраваны ў Навукова-даследчы інстытут педагогікі Міністэрства асветы Беларусі. З 1982 года — загадчык рэдакцыі серыйных выданняў выдавецтва «Мастацкая літаратура». З артыкуламі і рэцэнзіямі пачаў выступаць у друку з 1969 года. Даследуе творчасць беларускіх пісьменнікаў І. Мележа, Я. Скрыгана, А. Васілевіч і іншых. Займаецца праблемамі мастацкага майстэрства і творчай індывідуальнасці пісьменніка. Выдаў зборнікі артыкулаў «Майстэрства сучаснай беларускай прозы», «Цеплыня чалавечнасці», «Галоўнае — талент». Пераклаў на беларускую мову аповесць венгерскага пісьменніка Ц. Дзеры «Мілы ба-пэр!..»

Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны.

**6**

**— 60** гадоў таму ў вёсцы Дземяхі Рэчыцкага раёна ў сям'і настаўніка нарадзілася **Коўтун** Валянціна Міхайлаўна, беларуская паэтэса і празаік.

Скончыла Малоткавіцкую сярэднюю школу. Працавала піянерважатай. Вучылася на філалагічным факультэце Львоўскага універсітэта. З чацвёртага курса — у БДУ. Пасля атрымання дыплома працавала настаўніцай у школах Астравецкага раёна на Гродзеншчыне. З 1970 года — літкансультант «Сельскай газеты», а з 1976 года — у часопісе «Полымя». Працавала таксама загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Юнацтва», а з 1990 года — зноў у «Полымі». Завочна скончыла аспірантуру пры БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1979).

Першыя вершы надрукавала ў 1966 годзе ў львоўскай газеце «Ленінська молодь» у перакладзе на ўкраінскую мову. Выдала кніжкі вершаў «Каляровыя вёслы», «На ўзлёце дня», «На зломе маланкі», «Метраном». Актыўна распрацоўвае гістарычныя тэмы нацыянальнага жыцця беларускага народа. Адным з цэнтральных вобразаў з'яўляецца асоба вядомай беларускай пісьменніцы Цёткі (Алаізы Пашкевіч), якой прысвечаны паэмы В. Коўтун «На зломе маланкі» і «Суд Алаізы», а таксама празаічны раман «Крыж міласэрнасці». Цяпер пераважна працуе ў жанры прозы. Працягвае публікавацца ў перыёдыцы яе раман «Пакліканыя». З'яўляецца яна і аўтарам кніжак для дзяцей. Перакладае на беларускую мову творы рускіх і ўкраінскіх паэтаў (асобнай кніжкай выйшла ў яе перакладзе паэма Ліны Кастэнкі «Маруся Чурай»).

Лаўрэат літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя А. Куляшова (1988). Узначальвае фонд Еўфрасінні Полацкай.

**7**

— **130** гадоў з дня нараджэння **Свянціцкага** Іларыёна Сямёнавіча, украінскага філолага-славіста, даследчыка беларускай культуры.

Скончыў Львоўскі універсітэт і Пецярбургскі археалагічны інстытут. Доктар філалагічных навук. Арганізатар і дырэктар (1905—1952) Львоўскага Нацыянальнага музея (Музей украінскага мастацтва). Для беларускага аддзела сабраў 23 слуцкія паясы, 12 кніг «Біблії» Ф. Скарыны, беларускія старадрукі, рукапісныя кнігі, граматы, акты, абразы ды іншае. Побач з украінскай культурай даследаваў і беларускую. Супрацоўнічаў з «Нашай Нівай». Дапамог Цётцы эміграваць у Галіцыю (Львоў, 1905), паступіць ва універсітэт і выдаць у Жоўкве яе творы. У кніжцы «Адраджэнне беларускага пісьменства» (1908) даў высокую ацэнку развіццю новай беларускай літаратуры, у дадатку змясціўшы забароненыя ў Расіі вершы Я. Купалы «Там», «Што ты спіш?». Гісторыя беларускай культуры і літаратуры таксама адлюстравана ў яго працы «Асновы адраджэння беларускага пісьменства» (1914). Часта наведваў Беларусь. Прымаў удзел у рабоце Інбелкульта.

Памёр у 1956 годзе.

**10**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Чыгрын** Іван Пятровіч, беларускі крытык, літаратуразнаўца і паэт.

Вучыцца пачынаў у польскай школе. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Слоніме ў 1950 годзе. У тым жа годзе паступіў на філалагічнае аддзяленне БДУ. У 1955 годзе, пасля сканчэння вучобы, працаваў настаўнікам у школах на Гродзеншчыне. Вучыўся ў аспірантуры Інстытута мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі па спецыяльнасці фалькларыстыка. З 1961 па 1991 год працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы. Кандыдат філалагічных навук (1968).

Першыя публікацыі адносяцца да 1959 года. Удзельнічаў у фальклорных экспедыцыях, даследаваў узаемадзеянне фальклору і літаратуры. Склаў хроніку літаратурнага жыцця Беларусі, якая ўвайшла ў «Гісторыю беларускай літаратуры». Падрыхтаваў і выдаў «Выбраныя творы» Ядвігіна Ш., зборнік апавяданняў пісьменнікаў «Маладняка» «Веснаход», а таксама манаграфіі «Проза «Маладняка», «Крокі». Проза «Узвышша»...

Выйшлі ў свет і некалькі зборнікаў уласных вершаў І. Чыгрына: «Капеж», «Трыба» і іншыя.

**15**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Воўкаўка Мсціслаўскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Гутараў** Іван Васільевіч, беларускі літаратуразнаўца і фалькларыст.

Бацькі памерлі рана. Выхоўваўся ў дзіцячых дамах. З 1920 да 1924 года — у Леменскай вопытна-паказальнай школе-камуне, створанай П. Лепяшынскім. Там і атрымаў сярэднюю адукацыю. Пасля скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Выкладаў у Магілёўскім палітасветным і педагагічным інстытутах, загадваў кафедрай, а пасля быў дэканам філалагічнага факультэта (1928—1938). У трыццатых гадах выбіраўся адказным сакратаром СП Магілёўшчыны і рэдактарам літаратурнай старонкі ў газеце «Камунар Магілёўшчыны». У 1939 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю ў маскоўскім інстытуце філасофіі, літаратуры і гісторыі па тэме: «Паэтычнае майстэрства Маякоўскага». Працаваў загадчыкам кафедры рускай літаратуры БДУ. Быў вучоным сакратаром Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. Падчас вайны ваяваў у тыле ворага, быў камісарам партызанскіх атрадаў. З 1943 да 1947 — дактарант Інстытута сусветнай литаратуры імя А. М. Горкага АН СССР. З 1947 года

быў на прапагандысцкай рабоце ў апараце ЦК КП(б) Беларусі і да восені 1951 года працаваў там загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва. З 1951 года — зноў у БДУ, загадчык кафедры рускай літаратуры. Апошнія дзесяць гадоў працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1930 годзе. У асноўным займаўся праблемамі марксісцка-ленінскай эстэтыкі, тэорыяй рускай і беларускай літаратур, вусна-паэтычнай творчасцю. Склаў разам з Я. Васілёнкам хрэстаматыю «Вусна-паэтычная творчасць беларускага народа», зборнік «Сучасны беларускі фальклор» і «Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны».

Доктар філалагічных навук, прафесар (1949). Член-карэспандэнт АН Беларусі (1953).

Памёр у 1967 годзе.

**15**

— **90** гадоў таму ў вёсцы Наркавічы Верхнедзвінскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзілася **Барсток** Марыя Мікітаўна, беларускі крытык і літаратуразнаўца.

Пасля школы працавала на гаспадарцы, а пасля — ільнаводам у саўгасе «Боркавічы». Скончыла Полацкі педагагічны тэхнікум у 1935 годзе. Настаўнічала на Віцебшчыне і завочна вучылася ў педагагічным інстытуце. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі працавала ў абласной газеце «Зара» ў Брэсце. У 1941—43 гадах жыла ў Горкаўскай вобласці і працавала на заводзе. Скончыла філфак БДУ ў 1945 годзе. Вучылася ў аспірантуры, а з 1953 па 1956 год выкладала літаратуру ў ВПШ пры ЦК КПБ. Працавала ў Міністэрстве асветы і старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

Памерла ў 1994 годзе.

Першая публікацыя М. Барсток з'явілася ў 1934 годзе. Яна аўтар даследаванняў пра жыццё і творчасць вядомых беларускіх пісьменнікаў Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Чорнага, П. Броўкі, Я. Маўра, М. Танка, Г. Бураўкіна… З'яўляецца адным з аўтараў «Гісторыі шматнацыянальнай савецкай літаратуры» (т. 3), «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (т. 2) ды іншых.

Выступала таксама з вершамі на старонках перыядычных выданняў.

**16**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Купічаў Турыйскага раёна Валынскай вобласці нарадзіўся **Жыдліцкі** Вацлаў, чэшскі літаратуразнаўца і перакладчык.

Даследаваў гісторыю беларускіх і украінскіх літаратур, іх сувязі з чэшскай літаратурай. Чытаў па гэтай тэме курс лекцый ва універсітэце. Доктар філалогіі (1967). Аўтар навуковых літаратуразнаўчых прац «Украінская і беларуская літаратура ў чэшскіх перакладах», «Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры», «Даследаванні па гісторыі чэшска-беларускай супольнасці». Пераклаў на чэшскую мову кнігі «Я з вогненнай вёскі» Я. Брыля, А. Адамовіча і У. Калесніка, «Птушкі і гнёзды», «Ніжнія Байдуны», «Апошняя сустрэча» Я. Брыля, «Абеліск», «Дажыць да світання» В. Быкава, «Дзікае паляванне караля Стаха», «Нельга забыць», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі» У. Караткевіча, асобныя творы А. Карпюка, І. Пташнікава, І. Шамякіна...

Памёр у 2002 годзе.

**17**

— **115** гадоў з дня нараджэння **Варонкі** Язэпа Якаўлевіча, дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння.

Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. З 1917 года ў БСГ, член яе ЦК. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з'езда 1917 года. У лютым-ліпені 1918 года — старшыня народнага сакратарыята Беларусі і народны сакратар замежных спраў. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай народнай

рэспублікі (БНР). У снежні 1918 — красавіку 1920 года — міністр беларускіх спраў і член кабінета міністраў Літвы. Лідэр Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. З лістапада 1922 года старшыня таварыства «Беларуская грамада ў Каўнасе». У 1923 годзе выехаў у Чыкага (ЗША), браў удзел у дзейнасці беларускіх эміграцкіх арганізацый. Аўтар гісторыка-публіцыстычных твораў.

Памёр у 1952 годзе.

**17**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Рудкоўскі** Міхась, беларускі паэт, перакладчык.

Скончыўшы васьмігодку, паступіў у Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Пасля вучылішча працаваў педагогам, а з 1960 года перайшоў на журналісцкую працу, працаваў у ганцавіцкай раённай газеце «Сялянская праўда». Вучыўся на завочным аддзяленні філалагічнага факультэта Брэсцкага педагагічнага інстытута (1956—1961). У 1962 годзе пераехаў на жыхарства ў Брэст. Працаваў у рэдакцыі літаратурна-драматычных і музычных перадач Брэсцкай студыі тэлебачання.

Вершы пачаў пісаць яшчэ ў чацвёртым класе. Выступіў упершыню ў друку ў 1958 годзе (публікацыя ў ганцавіцкай раённай газеце). Аўтар зборнікаў вершаў «Першыя вёрсты», «Сінія брады», «Позвы», «У краі тым», «Векавечная бацькаўшчына», «Трыгор'е», «Засцярога», аднатомніка выбраных вершаў «Залатазвон», пасмяротнага зборніка «Гарынь». Паэт быў пошукавы, рознастылёвы, спрабаваў пісаць у жанрах балады, санета, трыялета, элегіі... Выступаў у друку з рэцэнзіямі і артыкуламі па пытаннях сучаснай беларускай паэзіі. Перакладаў вершы ўкраінскіх паэтаў. Вершы М. Рудкоўскага таксама перакладаліся на англійскую, грузінскую, рускую і ўкраінскую мовы. Ёсць некалькі песень, напісаных на яго вершы.

Памёр у 1991годзе.

**18**

— **115** гадоў таму ў былым фальварку Пархвенава (Параф'янава?) у сям'і ляснічага нарадзіўся **Гмырак** Лявон (сапр. Бабровіч Мечыслаў), беларускі крытык, публіцыст, празаік. Скончыў Віленскую гімназію ў 1908 годзе. Вучыўся ў Варшаве ў прыватнай тэхнічна-прамысловай школе. Працаваў на бацькавым фальварку, а пасля ў Вільні. Захапіўся ідэямі нацыянальна-вызваленчага руху яшчэ ў гімназіі, за што адсядзеў шэсць месяцаў у турме. З 1913 года актыўна выступаў у «Нашай Ніве». Падтрымліваў, як мяркуецца па фотакартках, блізкія сувязі з М. Гарэцкім і Х. Чарнышэвічам. Максім Гарэцкі ў свой час характарызаваў Лявона Гмырака як «маладога і надта здольнага нашаніўскага публіцыста». Друкаваўся ён і ў зборніку «Велікодная пісанка» і ў часопісе «Лучынка». На пачатку сусветнай вайны быў мабілізаваны ў армію. Даслужыўся да прапаршчыка, быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам. Удзел Л. Гмырака ў беларускім літаратурна-грамадскім руху не працягваўся і двух гадоў, аднак і за гэты кароткі час ён паспеў набыць трывалае літаратурнае імя. Быў чалавекам яркім, неўтаймоўным, запальным і схільным да спрэчак і палемікі па шмат якіх пытаннях бягучага часу. Янка Купала высока цаніў Л. Гмырака як крытыка і публіцыста. У часопісе «Рунь», які выходзіў пад рэдакцыяй Я. Купалы, пра Л. Гмырака гаварылася так: «Ён быў вельмі шчыры беларус і вялікі ідэаліст у жыцці». А З. Бядуля ў вершы-эпітафіі «Задушкі» напісаў пра яго такія радкі: «Лявон Гмырак, з душой магутнай, любіў без мер свой край пакутны».

Загінуў на фронце ў 1915 годзе.

**20**

— **60** гадоў таму ў горадзе Слуцку ў сям'і чыгуначнікаў нарадзіўся **Кошаль** Пётр Агеевіч, беларускі паэт.

У 1952 годзе сям'я пераехала на Сахалін, дзе будучы паэт і скончыў сярэднюю школу ў пасёлку Смірных. Два курсы філалагічнага факультэта педагагічнага інсты-

тута скончыў у Южна-Сахалінску. Трэці курс — у Беліцкім інстытуце ў Малдавіі. Пасля сканчэння інстытута пацягнула на Радзіму. Настаўнічаў на Магілёўшчыне, у васьмігадовай школе ў вёсцы Крынка Асіповіцкага раёна. У 1973 годзе паступіў у Літаратурны інстытут імя М. Горкага, які скончыў завочна ў 1979 годзе. З 1975 года жыве і працуе ў Маскве: рабочым аўтамабільнага завода, старшым рэдактарам «Тэлепрэсгандальрэкламы», рэдактарам і старшым рэдактарам выдавецтва «Советский писатель». Апошні час супрацоўнічае з прыватнымі выдаўцамі.

Пачаў друкавацца з 1963 года. Першыя вершы былі апублікаваныя ў сахалінскіх газетах. Прызнанне крытыкі да яго прыйшло з вершам «Дзверы адчыняюцца, уваходзіць бацька...». Аўтар вядомых зборнікаў паэзіі «Листва», «Городская звезда», «Река Жизнь», «Такой, как есть»... Шмат перакладаў з сучаснай беларускай паэзіі, а працуючы рэдактарам у галоўным пісьменніцкім выдавецтве ў Маскве, актыўна спрыяў выхаду ў свет перакладных кніжак многіх нашых паэтаў. Яго паэтычную творчасць вельмі высока ацанілі такія вядомыя мэтры расійскай славеснасці, як паэт У. Сакалоў і крытык В. Кожынаў...

**22**

— **80** гадоў таму ў вёсцы Бор Жлобінскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Федасеенка** Уладзімір Канстанцінавіч, беларускі празаік.

Падчас вайны ваяваў у шэрагах народных мсціўцаў. Быў паранены. У 1946 годзе скончыў Гомельскі рачны тэхнікум, а ў 1950 годзе Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП Беларусі. Працаваў у раённых і абласных камітэтах камсамола. Працаваў на розных пасадах у розных рэдакцыях — ад газеты «Піянер Беларусі» да выдавецтва «Беларусь». Дзесяць гадоў быў інспектарам кніжнага гандлю Дзяржdruку БССР. Быў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі тыднёвіка «ЛіМ» і старшым рэдактарам у часопісе «Беларусь».

Першая публікацыя адносіцца да 1951 года. Вядомасць па тым часе яму прынеслі ў нечым біяграфічныя раманы пра барацьбу з фашызмам «Дубовая града», «Віры на скрыжаваннях» і «Пасля смерчу». На жаль, у яго творах, як пісала крытыка (І. Кудраўцаў), адчувалася «недастатковая паглыбленасць ва ўнутраны свет герояў». І ўсё ж сваё слова ў «партызанскай» літаратурнай тэматыцы У. Федасеенка сказаў, як мог, дастаткова шчыра і пранікнёна.

**23**

— **120** гадоў таму ў вёсцы Пасадзец Лагойскага раёна ў сям'і яўрэя-арандатара (пасля дробнага лесапрамыслоўца) нарадзіўся **Бядуля** Змітрок (Плаўнік Самуіл Яфімавіч), беларускі празаік, паэт.

Вучыўся ў яўрэйскай школе хедар, а пасля ў духоўнай семінарыі ешыбоце (школа рабінаў), але не скончыў яе з-за расчараванняў у метадах вучобы. Пэўны час працаваў хатнім настаўнікам, пасля дапамагаў бацьку ў якасці канторшчыка.

Яшчэ ў ешыбоце трынаццацігадовым падлеткам ён пачаў пісаць вершы на старажытнай яўрэйскай мове. Першы ж мастацкі твор (на беларускай мове) — лірычны абразок «Пяюць начлежнікі...» апублікаваны ў газеце «Наша Ніва» ў 1910 годзе. Пісаў таксама вершы на рускай мове. Некаторыя з іх друкаваліся на старонках рускіх часопісаў.У канцы 1912 года малады З.Бядуля пераехаў у Вільню, дзе працаваў у выдавецкім таварыстве, а пасля — сакратаром у газеце «Наша Ніва», якую тады рэдагаваў Янка Купала. І ўжо ў 1913 годзе ў Пецярбургу ў выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца» выйшла першая кніжачка З. Бядулі «Абразкі».

Пасля спынення выхаду «Нашай Нівы» ў 1915 годзе вярнуўся ў Пасадзец, а неўзабаве пасяліўся ў Мінску, дзе браў актыўны ўдзел у нацыянальна-культурным жыцці Мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Тут пазнаёміўся з Максімам Багдановічам, жыў з ім на адной кватэры. Кастрычніцкую рэвалюцыю адразу не ўспрыняў, але пасля выгнання акупантаў з тэрыторыі Беларусі трывала стаў на пазіцыі Савецкай улады. Працаваў у газеце «Савец-

кая Беларусь», рэдагаваў першы беларускі часопіс для дзяцей «Зоркі», пазней — краязнаўчы часопіс «Наш край». На смерць У. І. Леніна адгукнуўся глыбока эмацыянальнай паэмай «Чырвона-чорная жалоба», у якой выказаў смутак па вялікім правадыру і настаўніку. Быў членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», але ў 1926 годзе перайшоў ва «Узвышша». Найбольш значнага поспеху ён дасягнуў у жанрах апавядання, аповесці і рамана. Найбольш вядомы яго твор — аповесць «Салавей», якая вызначаецца рамантычным каларытам і яркімі вобразамі ў паказах эпохі прыгоннага права на Беларусі. Па матывах гэтай аповесці М. Крошнерам была напісана музыка да аднайменнага балета. Апрача мастацкіх твораў, пісаў нарысы, даследчыцкія працы, перакладаў на беларускую мову творы Т. Шаўчэнкі, Шалома-Алейхема, Ю. Будзяка. І творы самога З.Бядулі перакладаліся на многія мовы народаў СССР і на некаторыя замежныя мовы. На яго словы напісана шмат песень.

Памёр у 1941 годзе.

У 1991 годзе ў мінскім доме пісьменніка, перанесеным на Рабкораўскі завулак, створана музейная экспазіцыя. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Маладзечне, Жабінцы, а таксама школа ў Пасадцы, устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

**24**

— **70** гадоў таму нарадзілася **Рыч** Вера, англійская паэтэса, перакладчыца з беларускай мовы.

**28**

— **50** гадоў таму ў вёсцы Зенькаўцы Зэльвенскага раёна ў сям'і настаўніка нарадзілася **Хатэнка** Антаніна Яўгенаўна, беларуская паэтэса.

У 1973 годзе скончыла Пружанскую школу-інтэрнат і паступіла на філалагічны факультэт БДУ. Пасля заканчэння універсітэта працавала настаўніцай у Лагойскім раёне, пасля ў кнігарні «Палітычная кніга» ў Мінску, а пазней — у выдавецтве «Народная асвета», рэдактарам абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і старшым экспертам па фальклоры ў Беларускім фондзе культуры.

Літаратурнай працай займаецца з 1978 года. Аўтар зборнікаў «Зніч крыжовых дарог», «Чалавек на далоні Сусвету» і «Птушыны шлях» у калектыўным зборніку «Тры грацыі».

**29**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Пепелеўка на Смаленшчыне (раней Магілёўскай губерні) у сям'і настаўніка нарадзіўся **Фамін** Сяргей Уладзіміравіч, беларускі паэт.

Скончыў Мсціслаўскую сямігодку і Магілёўскі педагагічны тэхнікум. Працаваў настаўнікам, а пасля вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ. Скончыўшы універсітэт, выкладаў беларускую і рускую літаратуру ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Адразу яго арыштавалі і засудзілі на дзесяць гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Ухтпячлагу НКУС Комі АССР, але ў 1941 годзе быў асуджаны паўторна і прыгавораны да страты. Быў расстраляны 4 снежня 1941 года.

Літаратурай пачаў займацца даволі рана, у школьныя гады. Першыя публікацыі на роднай мове выяўлены за 1925 год.Тады ж быў прыняты ў «Маладняк» і заўважаны крытыкай. Станоўчую характарыстыку яго творчасці далі М. Аляхновіч і М. Гарэцкі. У 1927 годзе асобным выданнем выйшла паэма «Балота», напісаная ў духу «сацыялістычнага рамантызму». Пасля расколу «Маладняка» уваходзіў у суполку «Пробліск». У 1929 годзе падрыхтаваў і здаў у выдавецтва кніжку вершаў «Дымнае жыта», але яна так і не пабачыла свету. З 1930 года творчая актыўнасць паэта знізілася і паступова амаль перапынілася. У друку з'явілася некалькі разгромных публікацый пра яго паэзію. Ёсць звесткі, што ён пісаў у няволі і некаторыя творы пасля вайны ўсё-ткі патрапілі да яго сястры... С. Фамін перакладаў на родную мову вершы некаторых украінскіх паэтаў. Асобныя яго вершы таксама перакладаліся на рускую і ўкраінскую мовы.

## 29

— **85** гадоў таму ў вёсцы Малыя Навасёлкі ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Ермаловіч** Мікалай Іванавіч, беларускі гісторык, крытык, літаратуразнаўца.

Бацька Міколы Іванавіча быў рэпрэсіраваны ў 1937 годзе. Рэабілітаваны ў 1956 годзе. М.Ермаловіч скончыў Дзяржынскую сярэднюю школу ў 1938 годзе. Да вайны паспеў скончыць тры курсы Мінскага педагагічнага інстытута. З-за дрэннага зроку ад вайсковай службы быў вызвалены. Быў эвакуіраваны і працаваў настаўнікам у Мардовіі. З 1943 года па накіраванні настаўнічаў у вызваленых раёнах Беларусі. З 1946 года аднавіў вучобу ў педагагічным інстытуце. Пасля заканчэння выкладаў у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце беларускую літаратуру. Працаваў кароткі тэрмін таксама загадчыкам метадкабінета абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. У 1957 годзе выйшаў на пенсію ў сувязі са значнай стратай зроку.

Пачаткам творчай дзейнасці М. Ермаловіча быў вершаваны водгук на смерць М. Горкага, змешчаны ў раённай газеце. Сталай літаратурнай працай займаецца з 1948 года. Друкаваўся ў шмат якіх перыядычных выданнях. Першую кніжку, прысвечаную сувязям У. І. Леніна з Беларуссю («Дарагое беларусам імя»), выдаў у 1970 годзе (у 1980 годзе была перакладзена на англійскую мову). Пяру М. Ермаловіча належаць артыкулы пра Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я. Лучыну, Я. Коласа, А. Гурыновіча, К. Каліноўскага ды інш. Шмат працы аддаў гістарычнай тэме. Шырока вядомая яго кніга «Старажытная Беларусь».Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992).

Загінуў пад коламі аўтамашыны ў 2000 годзе.

## 30

— **50** гадоў таму ў горадзе Ліда Гродзенскай вобласці ў сям'і інжынераў нарадзілася **Багдановіч** Ірына Эрнестаўна, беларуская паэтэса, літаратуразнаўца, крытык і педагог.

Паэтэса рана засталася без маці. Яна памерла, калі Ірыне было 14 гадоў. З двухгадовага ўзросту жыла ў Гомелі, выхоўвалася ў дзеда і бабулі (бацькавых бацькоў). У 1973 годзе яна скончыла сярэднюю школу і паступіла на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага універсітэта (скончыла ў 1978 годзе). Пасля вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры АН БССР, дзе працавала навуковым супрацоўнікам. У 1985 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю.

Цяпер выкладае на філфаку БДУ.

Першая публікацыя вершам «Лялька» адбылася ў газеце «Гомельская праўда» ў 1973 годзе. У студэнцкія гады пачала пісаць па-беларуску. Друкавалася ў шмат якіх рэспубліканскіх перыядычных літаратурна-мастацкіх выданнях. Першая кніжка вершаў «Чаравічкі маленства» пабачыла свет у 1985 годзе. Пасля выходзілі зборнікі паэзіі «Фрэскі», «Сармацкі альбом». Выступае таксама з артыкуламі і рэцэнзіямі па пытаннях сучаснага літаратурнага працэсу, а таксама па праблемах жыцця і творчасці нашых вялікіх класікаў М. Багдановіча і Я. Купалы. Да трохтомнага збору твораў М. Багдановіча напісала адзін з лепшых артыкулаў па творчасці нашага першага «паэта чыстай красы».

У красавіку спаўняецца **80** гадоў з дня ўтварэння (1926) **Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**.



## *Паважаныя чытачы!*

*Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», якая выпускае часопіс «Полымя», з-за аб'ектыўных прычын не пастаўляе свае выданні ў кіёскі і магазіны УП «Белсаюздрук» у абласцях. Таму раім чытачам і аўтарам афармляць падпіску ў паштовых аддзяленнях сувязі. А падпісныя цэны на «Полымя» наступныя:*

***індывідуальная (індэкс — 74985) на 1 месяц — 3500 руб., на 3 месяцы — 10500 руб.; ведамасная (індэкс — 749852) на 1 месяц — 4500 руб., на 3 месяцы – 13500 руб.; льготная (індэкс – 00727) на 1 месяц – 3700, на 6 месяцаў — 22200 руб.***

*У Мінску часопіс «Полымя» можна купіць як у кіёсках, так і ў магазінах УП «Мінгарсаюздрук». Нерэалізаваныя праз кіёскі і магазіны горада выданні пасля двух месяцаў з даты выхаду перадаюцца ў магазіны па наступных адрасах:*
*№ 3 — пр. Незалежнасці, 76, тэл. 232-46-23;*
*№ 8 — вул. Сурганава, 40, тэл. 232-45-10;*
*№ 15 — вул. М.Танка, 16, тэл. 284-31-06;*
*№ 18 — падземны пераход на пл. Перамогі, тэл.284-31-06*

*Нагадаем, што ў выпадку неабходнасці ўдакладніць наяўнасць патрэбных вам нумароў часопіса ў гандлёвых прадпрыемствах УП «Мінгарсаюздрук» або заказаць іх можна зноў жа праз магазін № 18 (тэл. 284-31-06) ці праз дыспетчара «Мінгарсаюздруку».*

**Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.**

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 27.03.06 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 19,26. Тыраж 3367 экз. Зак. 860.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.



# Партрэт Беларусі



## На абсягах роднага краю



Браслаўшчына. Возера Струста.





Налібоцкая пушча. Возера Кромань.





Бярэзіна.





Прыпяць.



Хата ў Чарнобыльскай зоне.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны — 00727

# Чытайце ў наступным нумары:

**Генрых Далідовіч**
Апавяданні

**Васіль Жуковіч**
**Хведар Жычка**
Вершы

**Андрэй Федарэнка**
**«Повесць»**

**Іван Шамякін**
**З Дзённікаў**

**Зіновій Прыгодзіч**
**Успаміны пра Васіля Быкава**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068